# МАЛАДОСЦЬ 11

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(744) ЛІСТАПАД, 2015**

**Выдаецца з 1953 года**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

Змест



Фрагмент. Цалкам фотапаштоўка дадзена на 2-й старонца вокладкі.

**Вера Міцкевіч**

# Загадкі віленскай фотапаштоўкі песняра:

## з новых паступленняў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі з'яўляецца скарбніцай духоўнай спадчыны краіны, тут захоўваюцца мільёны друкаваных дакументаў, сабрана багатая калекцыя стадрукаў, зберагаюцца архіўныя матэрыялы. На сучасным этапе фонды бібліятэкі актыўна папаўняюцца электроннымі рэсурсамі. Сёлета ў НББ паступіў унікальны дакумент — фотапаштоўка з выявай і аўтографам Якуба Коласа. Дакумент знаходзіўся ў асабістым архіве першага дырэктара бібліятэкі Іосіфа Бенцыянавіча Сіманоўскага.**

У чым жа адметнасць дакумента? Па-першае, яму больш за 100 гадоў — паходжанне дакладна з 1907-га, і захаванасць добрая. Па-другое, дакумент нібы складаецца з дзвюх каштоўных частак — фотаздымка і рукапіснага тэксту Якуба Коласа. Для коласазнаўства гэта падвойная знаходка. Дагэтуль нам былі вядомыя пагрудныя фотапартрэты Коласа-семінарыста 1901 года і Якуба Коласа 1908 года. На віленскай фотапаштоўцы Якуб Колас зняты ў поўны рост з адным са сваіх сяброў. Маладыя людзі выглядаюць вясёлымі і спрабуюць танцаваць. Якуб Колас апрануты ў белую кашулю з каўнерам-«стойкай» пад гальштук, камізэльку і пінжак колеру, цямнейшага за штаны, абуты ў туфлі. Унізе, пад фота, аўтограф: «Огарки [н]акануне роковых событий. Вильня 1907 г. ЯК».

На адвароце фота змешчаны тэкст ліста Якуба Коласа. Прыгадаем, што дагэтуль вядомае даследчыкам ліставанне Якуба Коласа адкрываў ліст паэта ад 2 ліпеня 1908 года, што яшчэ раз падкрэслівае значнасць знаходкі.

Се.-Са.

Милый друг-старокъ!
Прими на память сие изображение.

Вот как реагирую я на наше горькое будущее, на всю дрено человеческую. Ты спрашиваешь, запасся ли я достаточно противоядными снастями, дабы не-блазно воспріять благодать конституціонную. И вот я предлагаю всего сира танцую. Хоть и не умею, а танцую, нарочно танцую. Твой [illegible] в кв.

Carte postale – **Postkarte** – Correspondenzkarte
Cartolina postale – Dopisnice – Leveiezö-Lap – Karta korespondencyjna
Briefkaart – Union postale universelle – Unione postale universale – Post Card
Tarjeta postal – **Weltpostverein** – Brefkort – Brevkort
**ОТКРЫТОЕ-ПИСЬМО**

Прыводзім тэкст паштоўкі на мове арыгінала, звяртаючы ўвагу на пэўную зашыфраванасць тэксту: «Се.-Са. Милый друг-огарок! Прими на память сие изображение. Вот как реагирую я на наше горькое будущее, на всю долю человеческую. Ты спрашиваешь, запасся ли я достаточно нравственными силами, дабы поблазно восприять благодать конституционную. И вот я пред очами всего мира танцую. Хоть и не умею, а танцую, нарочно танцую, Твой Якуб ¼ [неразборліва чатыры літары]».

Каб зразумець, пра што ідзе размова ў пасланні, які падтэкст, каму адрасавана, зробім невялікае падарожжа ў коласаўскую Вільню пачатку XX стагоддзя. Як вядома, за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з’ездзе Канстанцін Міцкевіч у ліку 14 настаўнікаў быў звольнены з працы, знаходзіўся больш двух гадоў пад следствам, да суда. 1 верасня 1906 года ўпершыню выступіў у друку. У беларускай газеце «Наша доля», што выйшла ў Вільні, быў надрукаваны верш «Наш родны край» пад псеўданімам «Якуб Колас». Напрыканцы таго ж года малады паэт наведаў Вільню, пазнаёміўся з супрацоўнікамі газеты «Наша ніва», якая стала выходзіць пасля закрыцця «Нашай долі». Зімою 1906—1907 гадоў ён нелегальна арганізаваў школку для дзяцей беларусаў у леснічоўцы Смалярня (Цёмныя Ляды), дзе леснікам служыў старэйшы брат Уладзя. Свае вершы і карэспандэнцыі дасылаў у «Нашу ніву». Нягледзячы на тое, што вясной 1907 года за Канстанцінам Міцкевічам паліцыя ўстанавіла асобы нагляд, паэт з сярэдзіны мая пераехаў у Вільню. Працаваў у «Нашай ніве» загадчыкам літаратурнага аддзела, жыў у памяшканні рэдакцыі. Работы хапала. Як пазней пісаў пісьменнік у трылогіі «На ростанях», падчас выхаду чарговага нумара газеты прыходзіла дапамагаць вучнёўская моладзь — гімназісты, студэнты; было шумна, весела, работа з жартамі-перасмехамі зацягвалася за поўнач. У час побыту ў Вільні ў маі-чэрвені 1907 года Якуб Колас пабываў на з’ездзе настаўнікаў-беларусаў.

3 чэрвеня 1907 года быў апублікаваны царскі маніфест аб роспуску II Дзяржаўнай думы, якую хутка разагналі, а частку сацыял-дэмакратычных дэпутатаў прыгаварылі да катаржных работ і высылцы на пасяленне. Якуб Колас з гэтай нагоды напісаў верш «Мікалаю II»: «Пасядзелі тыдняў з восем, / Узлаваўся Мікалай — / Дэпутатам даў па карку, / Ўзяў ды Думу разагнаў». Новы выбарчы закон рэзка змяніў суадносіны паміж выбаршчыкамі на карысць памешчыкаў і крупнай буржуазіі; колькасць сялянскіх выбаршчыкаў скарацілася напалову, былі ўнесены і іншыя змены ў парадак выбараў, якія істотна пагоршылі становішча чалавека з народа. Недзе ў 20-х чыслах чэрвеня ў рэдакцыю «Нашай нівы» наскочыла паліцыя з вобыскам. Высветлілася, што ў рэдакцыі нелегальна жыве Якуб Колас. Па загадзе паліцыі паэту давялося пакінуць Вільню. Але перад ад’ездам ён напісаў апавяданне («Неожиданность: картинка с натуры»), якое пад псеўданімам Іван Торба змясціла газета «Виленский вестник», там жа атрымаў пасведчанне карэспандэнта газеты. Гэта пасведчанне і вынаходлівая размова Коласа ў чарнасоценнай газеце «Минское слово» зрабілі пэўнае ўражанне на рэдактара, які міжвольна дапамог звольненым з працы настаўнікам. Па прапанове рэдактара Якуб Колас напісаў пра з’езд у «Минское слово» пад псеўданімам Кудзеснік артыкул, у якім змякчалася віна настаўнікаў. У выніку Якуб Колас атрымаў афіцыйны дазвол паліцыі на паездку ў Вільню.

З 1 верасня 1907 года да пачатку 1908 года паэт працаваў у рэдакцыі «Нашай нівы». Падчас свайго побыту ў Вільні на працягу 1906—1907 гадоў ён часта сустракаўся з сябрамі — студэнтамі Віленскага настаўніцкага інстытута — Лукой Гарбацэвічам (разам вучыліся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі), Канстанцінам Саўчуком, Сямёнам Анішчыкам. У 1959 годзе Канстанцін Вікенцьевіч Саўчук пісаў у сваіх успамінах, што ўтварылася згуртаваная чацвёрка [падкрэслена аўт.]: Якуб, Лука, Сямён, Канстанцін; што Колас заахвоціў іх да працы ў рэдакцыі, называў «агаркамі», «гэта значыць людзьмі, выкінутымі за парог жыцця» [2].

Вясной 1949 года 66-гадовы пісьменнік атрымаў ліст ад К. Саўчука з Польшчы, які стаў для яго «прыемнай нечаканасцю». У сваім ад-

казе К. Саўчуку ад 13 мая 1949 года Канстанцін Міхайлавіч падрабязна напісаў пра сябе, сваіх сыноў, коратка паведаміў, што рэдактар газеты «Наша ніва» А. Уласаў памёр. Ёсць у лісце такое выказванне: (цытую на мове арыгінала) «Нет того Якуба, который танцевал когда[-то] на Замковой горе в Вильно» [3]. На нашу думку, чатыры літары напрыканцы тэксту паштоўкі можна паспрабаваць прачытаць наступным чынам: С К К Л, а расшыфраваць як першыя літары імёнаў «згуртаванай чацвёркі»: Сямён, Канстанцін, Канстанцін, Лука. Магчыма, гэтыя літары расчытваюцца інакш: в Л К П. Фантазія аўтаркі дазволіла ўявіць і такі запіс: «Якуб Колас один из четырёх в Лидеры Крамольной Партии». Але гэта толькі здагадкі. Застаецца загадкай, хто на фотаздымку побач з Якубам Коласам? Найбольш верагодным уяўляецца адзін з трох віленскіх сяброў-студэнтаў, але не выключана, што мог быць хтосьці з настаўнікаў-«агаркаў», звольненых з працы.

Адрасат віленскай фотапаштоўкі «милый друг-огарок» «Се.-Са.» — гэта Сымон Самахвал, блізкі сябар Якуба Коласа, родам з вёскі Нейгартава, што насупраць коласаўскай Мікалаеўшчыны праз раку Нёман, разам яны вучыліся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Прататып Янкі Тукалы ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». Герой рамана Андрэй Лабановіч не раз пісаў лісты свайму сябру Янку Тукалу. Сымон Фёдаравіч Самахвал (1883—1938) у 1906 годзе працаваў настаўнікам Ячэнскага народнага вучылішча Менскага павета. У 1930-х гадах — настаўнік СШ № 4 Мінска. Быў рэпрэсіраваны, беспадстаўна прыгавораны «тройкай» да вышэйшай меры пакарання за супрацоўніцтва з польскай разведкай, удзел у тэрактах эсэраў, барацьбу з савецкай уладай. Расстраляны 10.11.1938 года ў Менску. Рэабілітаваны ў 1962 годзе Ваенным трыбуналам БВА [4].

У 1908 годзе віленскія сябры Якуба Коласа скончылі інстытут і раз’ехаліся. Па рознаму склаліся іх лёсы. Лука Савіч Гарбацэвіч, родам з Пухавіччыны, настаўнічаў на радзіме. Канстанцін Вікенцьевіч Саўчук паходзіў з Беласточчыны, праездам у Маскву на вучобу ў 1911 годзе праведаў сябра Якуба ў турме. Падчас Другой сусветнай вайны, у 1944—1945 гадах, партызаніў, нават узяў у атрадзе мянушку «Колас». Жыў у Польшчы [1]. Сямён Сцяпанавіч Анішчык у 1921 годзе скончыў Маскоўскі камерцыйны інстытут; эмігрыраваў у Чэхаславакію, у 1922—1926 гадах быў сябрам Саюза рускіх педагогаў у Чэхаславакіі [5].

З правага боку ад тэксту паштоўкі вертыкальна зроблены надпіс: «получ[ено] 3 октября», які сведчыць, што паштоўка была адпраўлена з Вільні напрыканцы верасня 1907 года. Увосень таго ж года Якуб Колас сустракаўся з вядомым віленскім адвакатам Ф. Урублеўскім і прасіў яго аб абароне ўдзельнікаў нелегальнага сходу на судзе. Словы з паштоўкі «танцую, нарочно танцую», магчыма, маюць іншасказальны кантэкст: кручуся як магу, прымаю захады, каб выжыць і абараніць сябе ды сяброў ад навалы. Праз год, у верасні 1908 года, Якуб Колас быў асуджаны на тры гады крэпасці, пакаранне адбываў у менскай турме — Пішчалаўскім замку. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

Загадкай, відаць, застанецца, як патрапіла паштоўка ў архіў І. Сіманоўскага. Важна тое, што яе зберагглі. І таму вялікая падзяка сыну першага дырэктара «Ленінкі» Генрыху Іосіфавічу Сіманоўскаму, які актыўна супрацоўнічае з навукова-даследчым аддзелам кнігазнаўства НББ і перадае такія бясцэнныя дары.

**Літаратура:**


1. З жыццяпісу Якуба Коласа: дакументы і матэрыялы / укл. Г. В. Кісялёў. — Мінск, 1982. — С. 251—253.

2. Колас, Я. Збор твораў: у 20 т. — Мінск, 2011. — Т. 14. Трылогія «На ростанях». Кн. 3. — С. 183.

3. Колас, Я. Збор твораў: у 20 т. — Мінск, 2012. — Т. 19. Лісты 1943—1953. — С. 405—406.

4. lists.memo.ru>d29/f201.htm — электронны рэсурс на 25.09.2015 г.

5. Swolkov.org>2_baza_beloe_dvizhenie/pdf/Uchastniki… — электронны рэсурс на 25.09.2015 г.



# У творчасці жаночае абліччa

**Восьмага кастрычніка на Беларусь абрынулася неверагодная навіна: наша суайчынніца Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію! У сузязі з гэтым узяць бы ды папытаць у сяброў «Маладосці», якім чынам яны б павіншавалі спадарыню Святлану. Ну, і папыталі… Падрыхтавала Тамара Мінютка.**



Кася Глухоўская, паэтэса, медыцынскі псіхолаг, арт-тэрапеўт:

— Мне здаецца, што найлепшым віншаваннем для Святланы Алексіевіч можа быць увага да яе творчасці, а таксама да праблем нашага грамадства. Алексіевіч у сваіх кнігах, апавяданнях па-журналісцку трапна збірала сведчанні людзей, іх перажыванні, і ў асноўным на першы план выступала псіхалогія людзей, на чыю долю выпадалі ненарматыўныя, страшныя крызісы. Каб павішнаваць Святлану Алексіевіч, трэба проста зрабіць тое, на што накіраваны яе творы, — расплюшчыць вочы і прыгледзецца да наваколля. Звяглівая бабулька з суседняй кватэры, вечна п'яная жанчына паверхам вышэй, якая пахавала сына і мужа, паралізаваны дзед, якога выкатваюць на двор палюбавацца парой года, вельмі суровы мужчына з хаты насупраць, які страціў усе каштоўнасці з распадам СССР і больш не верыць у нейкія высокія агульначалавечыя мроі. Героі кніг Алексіевіч жывуць у кожным двары, у кожным з нас. І мне падаецца, што найбольшая ўдзячнасць для пісьменніка-гуманіста, які звяртае ўвагу чалавека на чалавека, — гэта ўрэшце зразумець бліжняга.



Алёна Беланожка, пісьменніца:

— О! Я б купіла многа-многа балончыкаў з залатой фарбай і намалявала б на вуліцы вялікі партрэт Святланы Алексіевіч, каб усе бачылі, што яна — наша золата і наш скарб. Напісала б: «Віншуем і ганарымся!» Потым надзьмула б вялікі паветраны шар, на купале якога была б выява Святланы, і калі б ён ляцеў над межамі ды краінамі, усе б бачылі, як высока яна ўзняла нашу беларускую літаратуру. Потым назвала б вуліцу ў яе гонар, лепш не вуліцу, а сквер, куды можна было б прыйсці і пасядзець з кніжкай. З любой! І напісала б у яе гонар песню.



**Галіна Багданава**, выкладчыца кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ:

— Шаноўная Святлана! Мы ўсе сапраўды шчаслівыя, што свет разам з Вамі заўважыў: «У вайны не жаночае аблічча»... Але затое, як усіх натхняе, калі ў творчасці жаночае аблічча... У той дзень, калі абвясцілі, што Вы абранніца Нобеля, у Палацы мастацтва адчынілася выстаўка «Восеньскі салон». Таксама еўрапейская з'ява. Аўтар самых дарагіх жывапісных твораў — выпускніца і выкладчыца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Алеся Скарабагатая. Яе напоўнены містычным святлом жывапісны дыптых «Ноч» і «Дзень» — філасофская споведзь пра ролю мужчыны і жанчыны ў гэтым жыцці. Вашыя творы набліжаюць Дзень, нават нягледзячы на тое, што, чытаючы іх, раздзіраеш душу роспаччу. Вялікі дзякуй за тое! Натхнення. Шчасця. Удачы.



**Ірына Часнок**, аспірантка філалагічнага факультэта БДУ, выкладчыца:

— Ніякая мастацкая фантазія не заменіць балючай сапраўднасці. Нішто так не адчуеш, ні ў што так не паверыш, як у гэта. Шчыра віншую з заслужаным атрыманнем Нобелеўскай прэміі. За адны толькі назвы раздзелаў-маналогаў «Чарнобыльскай малітвы» яе ўжо можна было смела прысуджаць. Жадаю, каб людзі адказвалі на Вашу любоў і чалавечнасць узаемнасцю. З удзячнасцю за такую розную, складаную і не чорна-белую праўду. За ўменне слухаць, чуць, разумець і даносіць да іншых.



**Настасся Галкоўская**, рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць»:

— Самае важнае для пісьменніка — ведаць, што яго творы знаходзяць свайго адрасата. Таму галоўнае, што можа зрабіць кожны з нас, — гэта напісаць спадарыні Святлане Алексіевіч ліст ці запрасіць на творчую сустрэчу і асабіста падзякаваць за кнігі і за тое, што, дзякуючы ёй, пра беларускую літаратуру пачуў увесь свет. Прачытаць альбо перачытаць яе творы, расказаць пра іх тым, хто з імі яшчэ не знаёмы. Таксама вялікім падарункам як для самой пісьменніцы, так і для яе чытачоў магла б стаць кніга альбо фільм пра яе жыццё і творчасць.



**Андрэй Калавур**, гісторык:

— Мяне бярэ сумнеў ці зразумеў я, ці спасціг мір каштоўнасцей аўтара «Чужаніцы» або «Смерці паэта». Ці магу сабе ўявіць, што ёсць «панаванне гука над сутнасцю» і «эра абуджанага агню». Магчыма, ад мяне схаваліся існыя радкі. Магчыма, крокі гуманізму застануцца недатыкальнымі.

У нобелеўскі тыдзень primus inter pares прамовіць за сябе і за «Луі Жэрмэна і Восіпа Мандэльштама, Марыну Цвятаеву і Роберта Фроста», досвед стане бліжэй, і чалавецтва (як вульгарнае абагульненне) адчуе словы-падсумаванне. Аўтар «сказаў», але што ён скажа ў вялікі час прызнання?



**Яна Мусвідас**

# А хто там ідзе?

У сучасным інфармацыйным грамадстве нішто так добра не тлумачыць нам некаторыя з’явы, як… асацыяцыі.

Дык вось, чалавек — гэта карціна.

Калі мастак працуе над сваім тварэннем, ён здзяйсняе шэраг характэрных дзеянняў.

Першае. Творца бярэ палатно. Палатно — Радзіма. Так, тая самая радзіма: зямля, на якой нарадзіліся, а калі не на ёй нарадзіліся, то тая зямля, да якой мы сябе прызначаем.

Штодня па вулках і дарогах Беларусі праходзяць тысячы людзей, і мы не задумваемся над тым, што менш чым у 84 працэнтаў з іх ёсць беларускія палотны.

Другое — гэта фарбы. Фарбы ёсць наш лад. Гэта тыя самыя дробязі, з якіх мы ўтвараем адзіны пазл. Нашы знешнасць, манеры, паводзіны etc.

Трэцяе, самае важнае: змест. Менавіта напаўненне робіць нас індывідуальнымі. Змест — гэта тое, над чым першапачаткова працуюць нашы бацькі, і тое, што на працягу ўсяго жыцця мы дапаўняем.

Гэтых трох базавых элементаў дастаткова для таго, каб атрымаўся шэдэўр, але недастаткова, каб пра гэты шэдэўр даведаліся іншыя.

Людзі, як і карціны, аб’ядноўваюцца: у іх свае галерэі.

На тэрыторыі Беларусі пражываюць людзі больш чым чатырох дзясяткаў розных нацыянальнасцей. І, каб кожная карціна з арыгінальным палатном не згубілася на паліцах, неабходна аб’ядноўваць іх у асаблівыя музейныя арганізмы, дзе будуць захоўвацца свае традыцыі, гісторыя і мова. Але гэта не значыць, што гэтыя галерэі трэба ствараць на пустым месцы, — многія з іх ужо існуюць. Так, напрыклад, найбуйнейшая армянская дыяспара ў Беларусі налічвае 30 тысяч чалавек. Каля 70 філіялаў па ўсёй краіне мае «Саюз палякаў на Беларусі». У нашай дзяржаве функцыянуе больш за 23 яўрэйскія абшчыны.

Пра работу аднаго такога аб’яднання я ведаю не па чутках: мая сям’я ўваходзіць у літоўскі Vytis, і хоць я самавызначаюся як беларуска, паважаць далёкія карані стараюся.

У верасні Міністэрства замежных спраў Літвы праводзіла ў Вільні свой семінар, прысвечаны аб’яднанню літоўцаў на Усходзе (Беларусь, Расія, Украіна, Арменія, Грузія). Асноўным пытаннем, паднятым на семінары, з’явілася аб’яднанне літоўскай моладзі ў іншых краінах. Сапраўды, моладзі ў арганізацыях этнічных меншасцей не хапае, а ўжо арганізацый самой моладзі ўвогуле практычна няма. Магчыма, гэта звязана з высокай мабільнасцю сучаснага чалавека, але ўсё ж не трэба забываць пра галоўнае: Творца стварае нас індывідуальнымі і незалежнымі, але без дапамогі іншага, павагі сваіх традыцый, гісторыі, культуры і мовы чалавек наўрад ці зможа спасцігнуць вяршыні Алімпа.



**Дзень беларускага пісьменства — цудоўная нагода ўспомніць пра сувязь айчыннай літаратуры з сусветнай. Сёлета на гэта кніжнае свята зноў завітаў паэт з Чарнагорыі Слабадан Вуканавіч, які нядаўна выдаў у сваёй краіне анталогію беларускай паэзіі ў перакладзе прафесара Чароты. «Маладосці» замежны госць распавёў пра гэты зборнік, апісаў уплыў камп'ютарызацыі на літаратуру і згадаў свае першыя крокі ў паэзіі. Інтэрв'ю запісала Хрысціна Чарнушэвіч, пераклад на беларускую з сербскай зрабіла Ганна Навумава.**

## Слабадан Вуканавіч:

# «Малыя народы павінны супрацоўнічаць, каб пазбавіцца ананімнасці»

**— Спадар Вуканавіч, вы не ўпершыню наведваеце Беларусь…**

— Я шмат гадоў звязаны з вашай краінай — і сам прыязджаю, і ў часопісах прадстаўляюся. Я знайшоў тут мноства сяброў. Ведаю вашыя гарады, слаўную гісторыю. Беларусь — мой другі дом.

**— Які перыяд адлюстраваны ў выдадзенай вамі анталогіі беларускай паэзіі? Чым вы кіраваліся пры падборы аўтараў?**

— Калі папярэдняя анталогія Івана Чароты, якая выйшла ў бялградскім выдавецтве СКЗ, ахоплівала перыяд ад XV да XX стагоддзя, то анталогія «Пад крыламі буслоў», выдадзеная ў

Чарнагорыі, ахапіла XX і XXI стагоддзі. Ад Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча праз сярэдняе пакаленне — Міхася Пазнякова, Раісу Баравікову, Алеся Разанава, Алеся Бадака, Віктара Шніпа — да маладзейшай Аксаны Спрынчан.

Аўтараў выбіраў Іван Чарота, і ён прытрымліваўся сваіх крытэрыяў. Веру, што выбраў лепшае. Я толькі хацеў, каб падборка была рознабаковай па стылі і тэматыцы. Каб не было аднастайнасці.

**— Як успрынялі анталогію беларускай паэзіі чарнагорскія чытачы?**

— У Чарнагорыі зборнік прынялі з цікавасцю і сімпатыяй. Раней у нас ведалі асобных беларускіх паэтаў, цяпер ваша літаратура прадстаўлена «калектыўна». Анталогія — гэта як зборная ў спорце. Калектыўнае «выступленне» нацыянальнай літаратуры.

**— А хто з беларускіх паэтаў блізкі асабіста вам па духу, па стылі?**

— Мне, праз маю мадэрновасць, блізкая творчасць Башлакова, Пазнякова, Разанава, Шэлехава. Я б хацеў прачытаць больш перакладаў Аксаны Спрынчан — яна сапраўды авангардная паэтэса XXI стагоддзя. Напэўна, ёсць тыя, каму такая паэзія не падабаецца. Але гэта справа густу.

**— Што, на вашу думку, яднае беларускую і чарнагорскую літаратуры?**

— Іх яднае штодзённасць і ўсё, што побач з ёю: мараль, пасыл з XIX і XX стагоддзяў. Літаратурнае супрацоўніцтва Беларусі і Чарнагорыі працягваецца. Яно пачалося дзесяць гадоў таму, калі ў часопісе Slovenski glasnik была надрукавана панарама беларускай паэзіі, пазней выйшлі падборкі ў Ars і Naši susreti. А Іван Чарота цяпер перакладае чарнагорскіх пісьменнікаў для анталогіі, якая выйдзе ў Мінску. Малыя народы павінны актыўней супрацоўнічаць, гэта адзіны шанец пазбавіцца ананімнасці. І ў нас, і ў вас ёсць пісьменнікі, якімі маглі б пахваліцца і большыя народы.

**— Як вы думаеце, ці трэба захоўваць нацыянальную спецыфіку ў літаратуры? Магчыма, культурная глабалізацыя ўсё ж мае станоўчыя бакі.**

— Мы павінны захоўваць сваю нацыянальную адметнасць. Асабліва таму, што мы былі ў складзе вялікіх утварэнняў — Савецкага Саюза і Югаславіі. Вялікіх ведалі, а на нас, маленькіх, глядзелі рэдка, з намі не лічыліся. Цяпер інакш. Калі раней пра нас гаварылі, то згадвалі аднаго-двух пісьменнікаў, а пра астатніх ніхто не ведаў. Цяпер у анталогіях прадстаўлена па тры дзясяткі аўтараў і больш.

Што датычыцца глабалізацыі, гэта добра, калі мы з'яўляемся часткай свету. Але дрэнна, калі глабалізацыя нераўнапраўная.

**— У адным са сваіх выступленняў вы адзначалі, што надыход камп'ютарнай эры ўплывае на сучасны літаратурны працэс. Як гэта праяўляецца?**

— Мы не можам супрацьстаяць панаванню інфармацыйных тэхналогій. Мы частка гэтай цывілізацыі. Калі б мы і адважыліся, то спыніўся б час. Мы не пішам гусіным пяром, мы друкуем на камп'ютары. Мы не ездзім у брычцы, мы лятаем на самалёце. У брычцы мы б ехалі днямі і гадамі, а цяпер дабіраемся за дзве гадзіны. Вядома, гэтая тэма бліжэйшая маладым. Сорак гадоў таму, тады малады пісьменнік, я пісаў пра камп'ютары, хоць іх яшчэ не бачыў. Тады я напісаў адзін радок: «Паэты хварэюць на электроніку, а лечацца вар'яцтвам». Многія не зразумелі гэты радок, а ў ім — частка сённяшняй цывілізацыі.

Раней у нас ведалі асобных беларускіх паэтаў, цяпер ваша літаратура прадстаўлена «калектыўна». Анталогія — гэта як зборная ў спорце. «Выступленне» нацыянальнай літаратуры

**— А які сёння статус у папяровай кнігі ў Чарнагорыі?**

— Пакуль «пануе» папяровая кніга, аднак прыйдзе час «акупацыі» электроннай. Тыражы ў нас, у асноўным, ад 500 да 1000 экзэмпляраў. А кошт для добрай кнігі ніколі не бывае занадта вялікім!

Не трэба спяшацца з выданнем кніг. Тут як з садавінай: зрываць трэба спелы яблык, а не зялёны. Зялёны — нясмачны

**— Акрамя глыбокай і складанай паэзіі вы пішаце творы для дзяцей. Які падыход маеце да маленькіх?**

— Мая паэзія абстрактная, яна наводзіць на роздум. Каму падабаецца — калі ласка. Што датычыцца літаратуры для дзяцей, то ў ёй я сам ператвараюся ў дзіця. Здаецца, я нават гуляю, як яны. Нашы пісьменнікі дапускаюць сур'ёзную памылку, калі пішуць дзецям: яны вучаць, што трэба рабіць, а чаго нельга. А не трэба дзецям навязваць, чым займацца і якія кнігі чытаць. Дзеці гэтага не любяць, яны свабодныя асобы. А я іх сябра са школы. Тут пачынаецца і завяршаецца наша размова, гісторыя ці верш.



**— Калі да вас прыйшло разуменне, што вы станеце пісьменнікам?**

— Яшчэ вучнем пачаў пісаць і публікавацца. Тады ўжо марыў стаць пісьменнікам. Пісьменнікаў я лічыў багамі! Пра гэта я мару і сёння, і марыць буду да апошняга дня. Мая маці вельмі любіла чытаць, яна мяне падтрымлівала. Купляла мне дзіцячыя кнігі і часопісы. Пазней мы разам чыталі французскіх, рускіх і айчынных аўтараў.

Сорак гадоў таму я пісаў пра камп'ютары, хоць іх яшчэ не бачыў. Тады я напісаў: «Паэты хварэюць на электроніку, а лечацца вар'яцтвам». Многія не зразумелі, а гэта — частка сённяшняй цывілізацыі

**— Што б вы параілі літаратарам-пачаткоўцам?**

— Парада маладым пісьменнікам такая — чытаць, чытаць, чытаць… А як — залежыць ад іх саміх, ад таго, як яны разумеюць жыццё і творчасць. Не трэба спяшацца з выданнем кніг. Тут як з садавінай: зрываць трэба спелы яблык, а не зялёны. Зялёны — нясмачны. Кніга для мяне — лекавая трава, летапіс гуманнасці і справядлівасці.

## Андрэй Лугін:
# «Калі працуеш, заўсёды нялёгка, але гэта класная нялёгкасць»

**Хрысціянскі гурт Laudans — гэта два чалавекі: творчы і захоплены вакаліст/гітарыст Андрэй Лугін ды сур'ёзная клавішніца Алёна Палачанская. Ну, плюс сябры-музыкі, якія пры магчымасці дапамагаюць на выступленнях. «Мы робім музыку, якая выходзіць з нашай душы», — кажуць яны пра сябе. Музыка гэтая незвычайная, бо… Зрэшты, няхай Андрэй, лідар гурта, сам пра ўсё распавядзе. У інтэрв'ю Тамары Мінютка.**





## Гісторыя стварэння

— Калісьці я напісаў песню на словы польскага паэта і святара Яна Твардоўскага «Калі кажаш» (Kiedy mówisz). Потым з'явілася «Тая вера». Маючы дзве песні, я падумаў: чаму б не зрабіць цыкл? У выніку выйшла сем песень, якія былі запісаны з гітарай і флейтай. Вельмі захацелася прадставіць іх людзям у жывым выкананні. Нас сабралася ажно пяць чалавек — я і не спадзяваўся на такі вялікі склад: барабаны, бас-гітара, сінтэзатар, электрагітара. І на філфаку БДУ адбыўся наш дэбютны канцэрт.

**— І як уражанні? Драйвова было?**

— Зараз, калі праглядаю запіс, драйву ніякага не бачу. Толькі касякі! А тады мне вельмі спадабалася, бо гэта быў мой першы канцэрт. Тое, што мы ва ўніверы называлі сольным канцэртам (я вучыўся на спецыяльнасці вакал), — і побач не стаяла. Зусім іншая атмасфера, іншы падыход. Выкладчыкі праяўлялі фармальнасць — патрабавалі звяртаць увагу на тэхнічныя моманты, а не на раскрыццё душы.

## Пра лёсавызначальнае

— Мы існуем два гады. Пачатак адлічваем ад таго філфакаўскага канцэрта. Маем каля 120 выступленняў, вялікіх і маленькіх. Важнай падзеяй было выступленне на фестывалі «Дастукацца да нябёсаў» у Баранавічах. Тэхнічны бок — абсталяванне, святло, гук — там вельмі якасныя. На крутых фестывалях у Польшчы амаль такі ж узровень. Атрымалі кайф ад ігры на добрай сцэне. Музыкам-пачаткоўцам не хочацца ўпусціць ніводнай такой магчымасці, бо вельмі важна выразна перадаць тое, што граеш. Сусветна вядомыя гурты



тыпу Nightwish граюць на ўласных крутых апаратах ад пачатку, а мы сабе такога дазволіць не можам. Зрэшты, мы найчасцей граем у касцёлах, для якіх і нашых калоначак хапае. Яшчэ адзін важны крок — запіс альбома «Завысока заблізка». Я адчуваю, што пасля запісу альбома стаў па-іншаму спяваць. Мне пакуль не надакучыла яго праслухоўваць, хоць і заўважаю касякі. Наступны альбом будзе ўжо іншым — па якасці і па сэнсе.

## Пра польскія фестывалі

— Мы ўдзельнічалі ў некалькіх польскіх фестывалях рэлігійнай песні. Трапіць туды нескладана: трэба проста падаць заяўку. Дзесьці ўмовы прасцейшыя, дзесьці больш сур'ёзны ўзровень... На адным фестывалі мы нават Гран-пры атрымалі, але я не лічу гэта надта вялікім дасягненнем. А вось другое месца на фестывалі ў Тшэбніцы — гэта дасягненне, бо ўзровень удзельнікаў там быў высачэзны.

Мы з Алёнай заўсёды перажываем, што граем толькі ўдваіх, але там мы ўспрымаліся як паўнавартасны гурт. Фестываль навучыў нас думаць па-іншаму.

**— Як вас прынялі палякі?**

— Сур'ёзна. Калі мы гралі ў Варшаве на пратэстанцкім фестывалі, адзін польскі бас-гітарыст, які сядзеў у журы, сказаў: «Вы вельмі крута граеце, я хачу вас запісаць». Запрашаў нас да сябе, абяцаў падарыць два запісы на сваёй студыі. Але прыехаць вялікім складам не атрымалася, таму дамовіліся, што мы прышлём яму запісы, а ён дапаможа іх апрацаваць.

**— Ці спявалі вы ў Польшчы па-беларуску?**

— На апошнім фестывалі мы давалі канцэрт, у якім палову песень спявалі па-беларуску. Адну выканалі па-англійску. Калі ўсё па-беларуску спяваць, палякам будзе нецікава. Маем намер больш песень перакласці на англійскую, тады мы зможам падаваць заяўкі на фестывалі не толькі ў Польшчы.

## Пра крыніцы творчасці

— Уся музыка ў нас аўтарская. І тэксты мы з Алёнай таксама пішам самі. У новым альбоме толькі адзін твор не аўтарскі — песня на верш Ірыны Багдановіч. У нас ужо ёсць песні на яе тэксты, якія вельмі падабаюцца і нам, і слухачам. Цяпер граем вельмі крутую тэму пад назвай «Той самы госць». Створана яна даўно, але мы пра яе забыліся, а цяпер, успомніўшы, зрабілі па-новаму. Атрымалася даволі цікава. Абавязкова ўключым яе ў новы альбом.

**— Як камфортней ствараць: самому ці ў тандэме?**

— Прасцей паасобку. Я сачыняю асобна, у сваёй спецыфічнай атмасферы, потым дасылаю Алёне праз інтэрнэт, а яна прыдумляе аранжыроўку. Пасля збіраемся, складваем мазаіку і рэпетуем.

**— Як звычайна нараджаецца песня: праз музыку да тэксту ці праз тэкст да музыкі?**

— Я раней быў перакананы, што спачатку павінны пісацца словы, а потым ужо музыка. Цяпер ведаю, што гэта не абавязкова. Колькі разоў было: песня гатова, засталося толькі сло-





вы сачыніць. І на словы музыку напісаць вельмі проста: трэба толькі ўявіць, як бы ты эмацыйна, выразна гэта прачытаў.

**— Ці ёсць у цябе песні, якія ты ўспрымаеш як любімых дзетак, народжаных у муках?**

— Калі працуеш, заўсёды нялёгка, але гэта класная нялёгкасць. Такая песня — з апошніх — «Адзінства». Я ўжо даўно казаў жонцы Веранiцы, што напішу песню, якая будзе называцца менавіта так, ведаў, што хачу сказаць: трэба было проста прыдумаць словы. Калі сачыняў тэкст, думаў, што гэта яшчэ не тая песня, якую я хацеў напісаць. Але ў выніку пагадзіўся, што гэта менавіта тая песня, бо ў ёй я сказаў вельмі шмат. Яна энергічная, і, думаю, спадабаецца людзям. Яшчэ адна песня-дзіця — «Калі кажаш», існуе ў чатырох варыянтах. А выконваць мне падабаецца «Воблака». Часам спяваеш песню — і хочаш хутчэй скончыць, бо яна надакучыла і табе, і людзям. А «Воблака» я граю спакойна ад пачатку да канца. Тое самае можна сказаць пра песню «Той самы госць».

## Пра сэнс існавання

— На пачатку гэта была самарэалізацыя, бо я заўсёды хацеў спяваць. Зараз — нешта іншае. Напрыклад, у гурта Nuteki лозунг — «Змяніць свет». У нас лозунга няма. Ідэя нашага існавання выяўляецца ў песнях. Песні мы аб’ядноўваем у канцэрты, якія атрымліваюцца ідэйнымі.

**— Вы называеце сябе хрысціянскім гуртом. Але гэта паняцце шырокае...**

— У хрысціянскай музыцы ёсць розныя напрамкі. Мы хрысцянскі гурт, бо спяваем пра Бога, адносіны з Ім, але маем адметны стыль — інтэрпрэтацыю веры і спосаб яе выражэння. Большасць нашых песень — пра чалавека, адмысловае Божае стварэнне. Я пазбягаю маралізатарскага тону, асуджэння: вы ўсе, маўляў, жывяце няправільна. Я распавядаю пра ўласны вопыт. Раблю гэта не з-за таго, што я эгаіст, а таму, што хачу падзяліцца сваімі думкамі, не вучачы іншага жыць.

**— Якім павінен быць хрысціянскі гурт?**

— Крытэрыем хрысціянскага гурта павінны быць стасункі з Богам: імкненне пераадолець мяжу, якая ад Яго аддзяляе. Пераадольванне гэтай мяжы здзяйсняецца найперш малітвай. Неабавязкова гнуць філасофію ў тэкстах. Калі мы будзем маліцца, Святы Дух накіруе: што сказаць, як сказаць. Зразумела, у песнях адназначна не павінна быць нічога амаральнага.

**— Ці прытрымліваецеся вы прынцыпу расказваць пра Бога, не называючы Яго?**

— Калі мы граем на нерэлігійных мерапрыемствах, то не крычым пра тое, што мы хрысціяне. Бо дзе-нідзе нават могуць і не пусціць. Большасць людзей яшчэ не гатова спяваць са мной песні праслаўлення, бо спачатку трэба спазнаць ласку і любоў Хрыста, а потым праслаўляць Яго. Самі нашы песні кажуць пра Бога, пра евангельскія праўды. І паміж песнямі я кажу наўпрост пра нашую веру, але падрыхтаваным людзям. У школах, напрыклад, мы так не робім, бо гэта будзе не да месца. Калі размаўляю з чалавекам,






Я непакоюся, каб імкненне да папулярнасці не пераўзышло нашу веру

я хачу, каб ён зразумеў мяне. Як мой разумны дзядзька кажа: «Размаўляючы з чалавекам, я бяру пэўны запас інтэлектуальнай магутнасці, які адпавядае субяседніку. Калі бачу, што мы не на роўных, трошкі апускаюся ці, наадварот, узнімаюся». Калі еду ў Польшчу, то стараюся размаўляць па-польску, і ў Германіі я не магу чакаць, пакуль са мной загавораць па-беларуску. Так і тут: трэба размаўляць з чалавекам на ягонай мове, не навязваючы нічога. Мы імкнёмся да бесканфліктных зносін.

## Пра папулярнасць і памідоры

— Папулярнасць. Трэба зразумець, што тут маецца на ўвазе. Вядома, мы імкнёмся, каб нас ведалі. Калі цябе ведаюць, то цябе слухаюць. Калі ты дастаткова вядомы ў сваёй краіне, цябе запрашаюць у іншыя. Папулярнасць дае магчымасць выбіраць, на якой мове спяваць. Іншая справа — імкненне да славы. Не хачу казаць за сваю падсвядомасць, можа, яна і хацела б яе. Але гэтыя жаданні трэба выкараняць, а славу аддаваць толькі Богу. Не хачу, каб імкнене да славы было сэнсам жыцця. Калі аддаешся творчасці, працы, сачыненню песень, іх шліфоўцы, рэпетыцыям, запісам, то забываешся пра славу. А калі ты шукаеш яе, творчасць чахне — бо замала ўвагі ёй прысвячаеш…

**— Ці не перашкаджае імкненне да папулярнасці быць хрысціянінам?**

— Калі б мы былі першыя ў гэтай сферы, то варта было б задумацца. Але паколькі ёсць шмат прыкладаў сапраўдных зорак хрысціянскай музыкі, у якіх безліч прыхільнікаў, частыя гастролі і канцэрты (Майкл Сміт, Newsboys, польскі гурт TGD), то ясна, што хрысціянства і папулярнасць можна сумяшчаць. Але, вядома, я непакоюся, каб імкненне да папулярнасці не пераўзышло нашу веру.

**— Ці сустракаўся ты з непрыхільнасцю да тваёй творчасці?**

— Так, і гэта было крута! Нядаўна мы давалі канцэрт у Навагрудскім прафтэхкаледжы. Нас запрасілі туды з просьбай спяваць адкрыта хрысціянскі рэпертуар. Слухачоў настройвалі, што прыедзе менавіта хрысціянскі гурт. Мы сыгралі выразна хрысціянскую песню і чуем: «Фууу!» Я сказаў: «Класна! Калі вы так рэагуеце, то вы, прынамсі, не мёртвыя». Я вельмі люблю такую рэакцыю. Мы не павінны імкнуцца ўсім падабацца. А той канцэрт працягнуўся, хоць можна было чакаць памідораў…

**— Як сыны рэагуюць на татаву творчасць?**

— Пеця, старэйшы, заўсёды падпявае. Алёна нядаўна напісала песню «Скарб сусвету». Там ёсць радок: «Увечары будзеш шукаць сэнсы мінулых падзей // Па нотах ціха збіраць спеў учарашніх дней». У першапачатковым варыянце было «сціпла збіраць». Я разы два толькі праспяваў са «сціпла», а потым прапанаваў Алёне замяніць гэтае слова на «ціха». І цяпер, колькі б я ні спяваў, Пеця падбягае і крычыць: «Тата, там сціпла павінна быць!» Песню «Воблака» ён ужо ведае на памяць, спрабуе спяваць нават па-англійску. Нядаўна з'явілася песня з вельмі дынамічным рытмам з папярэдняй назвай «Межы велічы». Калі Пеця яе чуе, то адразу кідае алоўкі і бяжыць на сярэдзіну пакоя танчыць і кружыцца. Гэта стопрацэнтны крытэрый, што песня «зойдзе» народу. Калі адзін рытм выклікае такую рэакцыю дзіцяці, то песня класная.

**— На кім ты звычайна апрабіруеш нованапісаныя песні?**

— Спачатку паказваю жонцы Вераніцы. Нават калі песня яшчэ недапісаная, мне ўжо не церпіцца з ёй падзяліцца. Найперш гэта падтрымка, разуменне і ацэнка. Раней мне цяжка было зразумець, падабаецца ёй песня ці не. Цяпер я адразу бачу, калі штосьці не так. І патрабую тлумачэнняў. Калі яна скажа, што песня класная, то так і ёсць...

Але адназначнае «класна» яна кажа рэдка: ацэньвае аб'ектыўна, не шкадуючы…



Зміцер Крэс

**нарадзіўся 23 ліпеня 1988 года ў Мінску. Працуе ўрачом-хірургам. Любімы напрамак у паэзіі — футурызм, любімы паэт — Велімір Хлебнікаў. З беларускіх найбольш упадабаныя Багдановіч і Барадулін. Цікавіцца цвёрдымі паэтычнымі формамі. Эксперыментуючы з трыялетам, вынайшаў форму з дзевяці радкоў, якую і папулярызуе.**

# Мы ўскладаем надзею, анёле

## Лес

Прастуючы сцежкай у лесе, задумайся,
Ці не тваё гэта жыццё,
Узаранае чыімісьці нагамі
На жыватворнай Глебе Сусвету —
І не змарнее твой шлях у слядах тых.

## Бэз

Бэз, счырванеўшы, набрыняў
І пах дажджу разліў ў паветры.
Самотны янгал, ветрам ўздзеты,
Галлё грувастае крыламі,
Ўстрывожаны, папаламаў.
Бэз, счырванеўшы, набрыняў,
Узрушана загаманіў лістамі —
Запозна!
Гойсае у далі
Самотны янгал, ветрам ўздзеты.

***

Я бачу: ўспушаныя хмары
Чыёйсьці моцнаю рукой —
Ды неба кублам нада мной.
Святло вячэрняе зяхае,
Лье промняў прывідных атары...
Я бачу ўспушаныя хмары,
І знічка ў іхні змрок сягае...
Святло вячэрняе зяхае —
Ды неба кублам нада мной.

***

Мне сонца скуру абсмактала,
Калі я промнямі жывіўся,
І ў вечар тварам я зарыўся.
Не ўцяміць пысе вышыні,
З якое велічна й ласкава
Мне сонца скуру абсмактала...
І горы, голаў ў дол, брылі —
Не ўцяміць пысе вышыні —
І ў вечар тварам я зарыўся…



***

Звон з лесу злез, вячор палае
Віллястым рухам калясніц,
Адбіткі млявых бліскавіц
Пануры злізвае пазем.
Няўмольна час святла мінае,
Звон з лесу злез, вячор палае,
І я паўцень вачыма ем...
Пануры злізвае пазем
Адбіткі млявых бліскавіц.

**Тапельніца**

Нябогу хвалі ўзнеслі тройчы:
Як невідушчая рука
Навобмацак шукае дна,
Тапельніца, не знаўшы броду,
Прастуе ў пацерах да Ойчы.
Не Богу хвалі ўзнеслі тройчы
Душы самотнай горку ўроду...
Тапельніца, не знаўшы броду,
Навобмацак шукае дна.

***

Зацямненне ценем летуценняў
У Космас росны зор пашле,
За Млечным Шляхам бегацьме
Адвечна лёкай Паляўнічы.
Заманай менее найменняў.
Зацямненне. Ценем летуценняў
Зазвычай рохкае здабыча.
Адвечна лёкай Паляўнічы
За Млечным Шляхам бегацьме.

***

Незвычайна ўначы быць цвяроза-бадзёрым.
Яскравае ззянне спадае ракой
На аперацыйны пакой.
І вадкае мыла з пахам парфумы,
І дотык пальчатак да мокрае скуры —
Незвычайна ўначы быць цвяроза-бадзёрым...
Спрабую сабраць заблукаўшыя думы,
Ўтаропіўшы позірк і сонны, і сумны
На аперацыйны пакой.



***

Цень вакзала
плошчу
вошчыць,
Гоніць вецер
вецце
смеццем.
Скрухі костак
не
пагрэць нам
Ў цьмяным
восені
сяйве.
З пыс
здарожаных
дарожыц
Цень вакзала
плошчу
вошчыць.
Хібіць свет
ў святла
акне...
Ў цьмяным
восені
сяйве
Скрухі костак
не
пагрэць нам.

**Малітва за хворых**

Хворым ўваж за іх немач, анёле,
Акрыяць дай на крылах тваіх,
Іхніх душаў дыханне важкое
Твой учуе спагадлівы слых.

Покрыў трызны вярэдзіць іх ночы,
Сэрца кволае б'ецца ў грудзях,
Пацалунак твой пекны, дзявочы
Дай спазнаць на здранцвелых губах.

Узнясуцца тады над прасторай,
Промнем сонца развеюць тугу...
Мы ўскладаем надзею, анёле,
На бязмежную ласку тваю.





Кася Глухоўская

**нарадзілася 2 чэрвеня 1995 года ў Мінску. Вучыцца на медыцынскага псіхолага ў БДУ, на арт-тэрапеўта і на гештальт-тэрапеўта. Працуе. Любіць назіраць за раслінамі, жывёламі, людзьмі, удыхаць насычанае водарамі паветра, катацца па начах на ровары, спяваць і танчыць, біцца, уяўляць сябе гераіняй кніг і коміксаў, марыць.**

## Апавяданні

# Пра дом, змей і працяг

Бачыш, туманы пайшлі па вадзе? Давай не будзем пачынаць здалёк. Давай працягнем.

У адной даліне — назавём яе далінай сланечнікаў, — дзе вось так жа блукаюць туманы, стаяла маленькая хатка (накшталт тых, што будуюць бабры, толькі больш утульная). У гэтай хатцы жыла дзяўчынка і называла яе сваім домам. А яшчэ там жыў Чалавек. Ён быў вельмі разумны і прыгожы — прынамсі, так лічыла дзяўчынка. І мы мусім пагадзіцца з ёй, бо гэта праўда. Апроч таго, Чалавек быў яшчэ добры. Ён вучыў дзяўчынку, як жыць правільна — меў на гэта права, бо сапраўды ведаў, як. Але ён ніколі не прымушаў сябе слухацца. І дзяўчынка не слухалася, бо была вельмі капрызная, злая і ўпартая. Шчыра кажучы, варта было б даць Чалавеку ордэн за тое, што Ён любіў такую істоту, але ў даліне сланечнікаў ордэнаў не існавала.

Затое там у высокай траве вадзіліся змеі. Чалавек добра ведаў, якія яны небяспечныя, і таму загадваў дзяўчынцы заўсёды шчыльна зачыняць дзверы. Ці трэба казаць, што іхні дом стаяў наросхрыст?

Аднойчы Чалавек увайшоў і аслупянеў: дзяўчынка сядзела на падлозе, трымаючы ў руках вужыка, і смяялася.

— Адпусці яго, — сказаў Чалавек. Але ёй было весела і хацелася пагуляцца яшчэ. — Адпусці яго, гэта не цацка! — першы раз Ён падвысіў голас. Чаго-чаго, а каб на яе крычалі, дзяўчынка не трывала:

— Сыходзь адсюль, ты благі! — сказала яна. Чалавек збялеў тварам, але застаўся.

— Калі ты не адпусціш змяю, яна ўджаліць цябе.

— Дурненькі, гэта ж вужык! Ён неатрутны! Ён ужо джаліў мяне не раз, — яна паказала рукі з маленькімі пухлінкамі на месцы ўкусаў. Чалавек спахмурнеў, але прамаўчаў. Ён ведаў, што нават вужыкі атрутныя, проста менш за іншых змей. Але і малая гэта ведала.

— Ты што, баішся? Ладна, я прабачаю цябе. Можаш застацца. Толькі падыдзі і абдымі мяне.

— Баюся, не атрымаецца.

— Ты не можаш мяне абняць?!

— Ты не можаш, пакуль трымаеш змяю абедзвюма рукамі.

Так дзяўчынка і Чалавек першы раз пасварыліся. Зрэшты, дзяўчынка так раззлавалася, што выгнала Чалавека. І калі Ён сышоў, дом у даліне сланечнікаў адразу стаў проста хаткай, таму што дом гэты быў Ягоным і толькі з Ім мог быць.

Чалавек жа не мог знікнуць назаўсёды. Ён жыў у даліне і ўся даліна была Яго домам. Кожны дзень Чалавек падыходзіў да хаткі і бачыў, як у расчыненыя дзверы запаўзаюць новыя змеі: вялікія і маленькія, атрутныя і не вельмі.

Дзяўчынка пакідала на парозе місачкі з малаком для кацянят, але з той пары, як Чалавек сышоў, ніводнага кацяняці не з'явілася на ганку — і змеі пілі яе малако. Дзяўчынка раскідвала хлеб і зерне для птушак, але птушкі баяліся цяпер прылятаць на падворак — і змеі елі яе хлеб.

Чалавеку балюча было бачыць усё гэта, але Ён не заходзіў, бо ніводнага разу яна не паклікала Яго — ні моўчкі, ні ўслых. І Чалавек мусіў чакаць…

Аднойчы дачакаўся: Ён прачнуўся пасярод ночы і пабег да яе хаткі так хутка, як толькі мог, бо пачуў, як слабым голасам роспачна кліча Яго дзяўчынка. А калі прыйшоў, не мог увайсці, бо ўся падлога была ў змеях, якія варушыліся, звіваліся і груваcціліся адна на адной. Дзяўчынка ж ляжала на лавачцы ля акна, уся збялелая, апухлая ад укусаў. Рукі і ногі яе былі спавітыя змеямі. І на грудзях, каля сэрца, таксама ляжала змяя. Дзяўчынка была ў непрытомнасці, але яна клікала Чалавека — Ён ведаў гэта, чуў яе голас.

— А ну прэч! — крыкнуў Ён змеям. Тыя засыкалі, але спаўзлі з маленькага цела і пакінулі дзяўчынку ў спакоі.

— Узнімайся. Узнімайся і гані іх.

— Я не магу, — прастагнала дзяўчынка.

— Узнімайся, бо яны тут роўна столькі, колькі ты дазваляеш ім быць.

Тады дзяўчынка ўзнялася. Кволая, яна ледзь трымалася на нагах. Змеі засыкалі грамчэй, злыя, сталі раздзьмувацца — і малая пацягнулася за палкай.

— Не. Ты што, не бачыш: ім гэтага і трэба, яны гэтага і чакаюць! Як толькі ты пачнеш біць іх, яны накінуцца на цябе і заджаляць да смерці.

— Тады як? — дзяўчынка заплакала, не разумеючы, што рабіць.

— Проста гані іх. Бяры і выкідай.

— Але ж яны будуць джаліць мяне!

— Будуць, але менш і не ўсе разам. Павер. Так яны не заб'юць цябе, бо ты мацнейшая.

І дзяўчынка паверыла. Яна брала змей ды адпускала іх: каго праз акно, назад да высокай травы, каго зноў на падлогу, бо яны выкручваліся, кусаліся і не даваліся ў рукі.

Некалькі разоў яна губляла прытомнасць, але ўзнімалася і працягвала выкідаць змей. Рукі зусім распухлі і страшна балелі, а гадаў было яшчэ шмат. І дзяўчынка хацела спытаць з папрокам у Чалавека, чаму Ён толькі кажа, што рабіць, але сам нічога не робіць. Яна выпрасталася і ўбачыла, што Ён стаіць побач, і рукі Яго таксама распухлыя ад атруты. Ёй стала сорамна за свае думкі і шкада Яго рук. І тады яна працавала, не ўзнімаючы галавы, не азіраючыся, бо ведала, што Ён побач.

Змеі то паўзлі вонкі, то вярталіся, то забіваліся ў куты, то кідаліся назад. Але дзяўчынка не здавалася, бо іначай і сэнсу пачынаць не было б. І ў пакусаных руках Чалавека, якія не пус-

каў гэтых змей і ні ў чым не быў вінаваты, але заставаўся побач, у гэтых збалелых пакусаных руках таксама не было б сэнсу.

А гэтага сабе дазволіць дзяўчынка не магла, бо яна не пераносіла хлусні і добра ведала: сэнс ёсць.

І ў нейкі момант яна раптам убачыла, што змей больш няма ў доме, а хвост апошняй з іх бліснуў у высокай траве…

Нарэшце Чалавек і дзяўчынка выйшлі на ганак. Яна агледзелася, уздыхнула з палёгкай:

— Наш дом цяпер свабодны і чысты, праўда?

Але Чалавек сумна ўсміхнуўся і паматляў галавой:

— Не зусім. Наша хатка — так, быць можа, калі ты цяпер будзеш зачыняць дзверы…

— Я буду! — горача заверыла Яго дзяўчынка.

— …ад змей. Але наш дом… Наш дом значна большы. У ім безліч такіх хатак, непаслухмяных дзяцей і высокіх траў. Вось наш дом, — і Ён абвёў рукой усю даліну і, здавалася, увесь свет.

Займаўся ранак, над высокай травой паляцелі стракозы, першая птушка цвіркнула ў небе і апусцілася на падворак, падбіраючы накрышаны хлеб. Сланечнікі ўзнімалі галовы насустрач сонцу. Аблокі апусціліся ніжэй, да самага возера. Дзяўчынка глядзела на гэта ўсё і думала пра дом, пра тысячы хатак, дзяцей, змей… пра збалелыя чалавечыя рукі.

Нехта піскнуў ля ног. Яна азірнулася і ўзняла ад спусцелай місачкі кацянятка — яно замурчала сыта і задаволена. Чалавек пяшчотна ўсміхнуўся:

— Бачыш, туманы пайшлі па вадзе…

## Страха ад страхаў

Вуліца, дзеці, «квач». Бесклапотная, віскліваая і крыклівая гульня. А як даганяюць цябе і ўжо цягнецца рука даганятага, захінаешся: «Я ў доміку!» — і спакойны: ніхто не кране.

***

Маруся жыве не адна, Маруся жыве не наводшыбе. Яна не герой працы і нават не гераіня, не партызаніць, не змагаецца з калектывізацыяй, за сялян не выступае, за панічаў таксама, не закохвалася ні разу, не вучыла дзяцей, не сядзела ў астрозе, не гандлявала ў горадзе, не займалася творчасцю ў апале. Марусі чатыры гады і яна наогул не ведае, што такое стэрэатыпны герой беларускай прозы. Для Марусі ўсё вельмі проста.

Вось хата, на ёй страха, пад страхой жыве мама і мноства дзяцей. Хата называецца «дом». Шчэ хата мае тату: ён у ёй не жыве, але там заўсёды вісіць партрэт, зроблены мамай па фотаздымку.

У Марусі сям'я — тры сястры, чатыры браты, маці і партрэт. Так і жывуць.

Пад страхой дома Марусі селяцца птушкі. Розныя: шпакі, вераб'і, ластаўкі. А яшчэ там, у зацемках, маці падвешвае боб і фасолю з калгаснага поля, зёлкі сабраныя.

Дзеці любяць лазіць туды, «на гару», — зрэшты, як і паўсюль яны любяць лазіць. Асабліва ж Маруська, драбнюткая.

Скрозь рассохлыя дошкі прабіваецца сонейка, на гарышчы ўтульна, прыціхлыя вераб'і то піскнуць, то зварухнуцца, то шаснуць крыламі. А дзеці гутараць, мараць, смяюцца. Пасынаюць ад смеху і голаду.

***

Сніцца Марусі бацька, якога ніколі не бачыла. Кожны раз сніцца, што ён ратуе яе ад вады: то ў рацэ перад ёю будуе мост, ледзь не пад ногі падсоўвае кладку, а то ў паводку на голай спіне пераносіць на другі бераг.

Маруся верыць у сны. І прачынаецца ў сполаху, бяжыць да мамы, бо страшна бачыць нябожчыка. І лезці на гарышча цяпер адна Маруська баіцца: раптам там тата сядзіць?

***

Ледзь пабуджаныя, усё такія ж галодныя, ідуць збіраць перамерзлую бульбу — маці добра гатуе з яе праснакі. Ведае, што, з чым і да чаго.

Раптам Маруська згадвае, што на гарышчы пакінула сваю хустачку, шэрую ў васільку. Нервуецца, пачынае тузаць братоў, каб збегалі.

— Потым возьмеш! — акрыквае сястра, як старэйшая. — Нікуды яна не дзенецца. Паабедаем — забяром, — кажа ўжо мякчэй. Мар'я нібы супакойваецца, ды пазірае адно ўстрывожана, і да бульбы ёй справы няма.

***

Па абедзе, паеўшы, як птушка (а колькі ёй трэба?), ды з сабой прыхапіўшы паўпрасначка, ірвецца сама пад страху. І боязна, а трэба і — што ўжо там! — цікава. А ці праўда стаіўся хто ў ценю?

Парыпваюць пад ступнямі дошкі, шасціць пясок, шамаціць трошку сена — рукі дрыжаць, ногі ўжо падгінаюцца, але вось бачыць, як пад пяшчотнымі промнямі грэецца знаёмая хустачка — і непакой пакідае. Ну і прыйшоў бы тата. Ну і сядзеў бы тут! Яна б яго коржыкам пачаставала...

***

Так, Маруська амаль не баіцца больш прывідаў. Але навокал яшчэ шмат страшных рэчаў, зданяў і з'яў. І першы з іх — даўгашыі суседскі гусак, што з'яўляецца на падворку, уладны і непераможны, нібы мае права.

Гусака Маруська баіцца дужа, таму заўсёды кліча братоў на дапамогу. Але калі Шура моцны і пераканаўча на ворага ўплывае, то кволага Віцьку самога трэба ратаваць.

***

Калі ідзе цёплы дождж, поле за падворкам нібы раскрываецца. І тады дзеці выбягаюць басанож і скачуць па мяккай траве. З-пад пятак у іх разлятаюцца пырскі, запрэжаныя конікамі.

Маруська таксама скача, танчыць і смяецца, запракінуўшы галаву. І здаецца, што ў кожнай кропельцы гэтаксама рагоча і скача маленькае дзяўчанятка, кроплевая мятлушка.

Чаму б і не?

***

Як Маруська моліцца Богу — справа асобная. Ні свае, ні чужыя гэтага не бачаць, ды і «Ойча наш» яна на памяць пакуль не ведае. Але спытайцеся ў Яго самога, і зведаеце, што лепш за Маруську Богу ніхто не моліцца!

***

Неўзабаве прыходзіць час, калі Маруська сама ўжо можа выйсці з трысціначкай супраць гусака. Але тут высвятляецца, што і гэты магутны вораг не самы страшны з усіх.

Сустрэўшы ваўка ля ўзлеска ці змей у полі, Маруська адно хаваецца на гарышчы і, вяртаючы супакой, слухае ластаўчына цёхканне ды папіскванне, частыя, перасыпчатыя, як крупка, прымаўкі вераб'ёў. Камеча худзенькімі ручкамі пасмы саломы… Усе гэтыя моманты спавіваюцца сонцам, як ніцямі, між якіх танчыць лёгкі пылок. І Марусі думаецца тады, што гэты чароўны пыл нездарма залаты, не толькі ад сонца, і што не птушкі ўжо селяцца тут, а сапраўдныя феі, мятлушкі, нават анёлы. І што хутка-хутка яна навучыцца разумець іх і гутарыць з імі, як мама, калі сушыць тут свае зёлкі.

А залаты пылок асядае на рукі ды вусны. Ціха спяваюць анёлы.

***

Рыпяць пад нагамі прыступкі, караскаецца па іх ужо не дзяўчынка з тоненькімі ручкамі ды маленькімі жахамі, а каржакаватая, замазоленая бабуля — бабуся Мар'я. Ужо даўно няма ў яе нікога з той сям'і — ні братоў, ні сясцёр, ні мамы. І нават партрэт дзесь згубіўся. Але іншае ёсць ды іншыя...

Трэці раз вось за тры апошнія гады ўваскрашае бабуля мужа, цалуючы яго, нібы ў казцы, калі спыняецца хворае, прапаленае сэрца. Безліч разоў ратуе яна кожнага са сваіх дзяцей ды ўнукаў, сніць у прарочых снах. І не можа сысці, бо куды ж яны без яе рук, вуснаў, сноў?..

Застаецца ж і нешта нязменнае. Маруся ці Мар'я — адно баіцца ўсё змей, ваўкоў ды глыбокай вады. І таксама спыняецца на гарышчы, услухваецца ў ветлівы гоман. Пасля кладзецца на сена, раскідаючы рукі з вялізнымі, спрацаванымі ў чырвань ды бель далонямі. Ціха смяецца ў адказ:

— Дзякуй, дзякуй! — а на скурчаныя пальцы ды вусны кладзецца залацісты пылок.

Лепш за ўсіх Богу моліцца бабуся Мар'я, вышэй за ўсіх забіраецца — на падстрэшша, да самага неба, дзе страхаў няма.

***

Спіць у куточку, згарнуўшыся з кнігай, бабчына ўнучаня. Такое ж малое, стомленае, зморанае скокамі ды смешкамі…

Страха чубатая і дамашняя дужа: саламяныя пасмы вытыркваюцца з-над хаты — і смешна стаяць, паглядаючы на яе. Таму лезеш, па дошках караскаешся наверх. Страха нястрашная — усміхаецца сціпла шчарбатым сонцам.

А пад ёй заўсёды жывуць вераб'і, шпакі, ластаўкі ды дзіцячыя сны.

# Зламаныя ружы

Белыя ружы пахлі вясковым дымам. Гэта былі добрыя познія ружы — іх збіралі тады, калі перад зімой спальвалі смецце, назапашанае за год.

На лаўцы ля пуні сядзеў чалавек: сівы, схуднелы, з задымленымі вачыма. Падрапаныя жорсткія пальцы, чорныя, як ад тытуню, круцілі і камячылі травінку, з якой гуляюцца дзеці: «Пеўнік ці курачка? Кураня!» — толькі вельмі сухую, зусім-зусім.

Побач з плотам раптоўна з'явіўся іншы, руды, невысокі, у паліто з забруджаным каўнерам:

— Дваццаць год не бачыліся.

— Заўважыў, — ён, сівы, нат не падняў галавы. Адно вочы ўзняў паволі ды пальцамі круціць перастаў. Сказаў грудным голасам: — Заходзь, свалота.

Руды пераваліўся цераз плот, зачапіўся рукавом, раздаўся трэск.

— От, зараза!

— Ну што, нагойдаўся? — стары стаяў побач. Ён быў за рудога на галаву вышэйшы, але ўнураны, і ў вочы адзін аднаму яны паглядалі як роўныя.

— Парваў вось! — прыўзняў руку. — Весніцы не знайшоў. Не зайсці да цябе, Сымоныч.

— А што ж ты заходзіў? — стары адвярнуўся і патупаў у бок хаты. На парозе азірнуўся ды цыкнуў праз зубы:

— Так і будзеш стаяць? Давай, рухайся.

— Сымоныч, мне з табой гэта… паразмаўляць трэба.

Стары зыркнуў цьмянымі вачыма, развярнуўся шырокай спінаю ды сышоў у хату. Давялося крочыць за ім.

У хаце парог быў высокі, а столь — нізкая. І святла мала, не пранікала яно скрозь вокны. Стары спыніўся каля стала. Вось стол быў чысты, засланы абрусам, хоць і не вельмі свежым, працёртым да дзірачак, з жоўтымі плямкамі сям-там, якія калісьці хавалі пад талеркамі.

Руды ўвайшоў у хату, ударыўшыся галавой. Бокам наляцеў на стол. Войкнуў, развёў рукамі, не ведаючы, за што хапацца: за пабітую галаву ці за бок.

— Сымон Сымоныч, мне б…

— Праходзь, сядай. Што ёсць, тым прывітаю. Вось, бачыш, сыр у мяне, вось узвар. Анупрэеўна выдала. Чарніцы ды яблыкі. Смаката. Яблык бэзавы еў калі? Давай, еш. А сыр свой. Я карову завёў.

Руды маўчаў — адно твар яго рухаўся, асабліва бровы.

Стары замёр. Абапёрся аб стол. Зірнуў на падаконне: там ледзь варушыла нагамі сонная муха ды стаялі ў пустым памутнелым слоіку сухія кветкі. На іх хоць рэдка, але траплялі промні — і кветкі свяціліся.

— Сымоныч…

— Дык чаго не ясі? — вялікай чорнай рукой стары пагладзіў талерачку, якой накрываў сыр. Размаўляць яму не хацелася. Не пра гэта. Не зараз. Не тут. Ніколі. А не размаўляць не мог. І ведаў сам, што трэба. І варта паразмаўляць.

— Сымоныч, ты… прабач мяне, дурня.

— Сволач ты. Сволач ты п'яная. Што было, таго больш няма.

— Ну прабач ты мне, Сымоныч!

— Даўно прабачыў, — у вочы ён не глядзеў.

Селі.

— Сказалі, што я памёр?

— Вось табе крыж…

— Не бажыся! Не хлусі, вар'ят. Той усё бачыць, — стары паказаў пальцам наверх, а потым сціснуў руку ў кулак. — Я ж вам лісты слаў. Мне Анупрэеўна даўно адрас дала.

— Мы тады зноў пераехалі…

— А я чакаў.

— Прабач, Сымон. Мы не маглі. Усе ўсё ведалі. То бок, памяталі…

— Правільна, правільна. Памяталі. Ведалі. Толькі ведалі ды памяталі тое, што ім сказалі. Так?

— Так, Сымоныч.

Стары ўскудлаціў сабе валасы, завёў мутныя вочы. Руды аблакаціўся аб стол, хацеў запаліць.

— Не трэба. У хаце не паляць. Лепш на, пакаштуй, — чорнай далонню пасунуў талерку з сырам госцю. Руды сціснуў зубы, запхнуў цыгарэту назад. Яшчэ памаўчалі крыху, ды стары не вытрываў:

— Галіна мая як сябе пачувае?

— Не ведаю… Нармальна. Жыве. На працы ў кулінарыі, здаецца.

— Уся ў маці. Тая таксама гатавала, што пальцы б з'еў.

— Гэта так, — працягнуў руды.

Сымон прымружыўся:

— Яна памерла ж тады. Не вытрывала.

— Я ведаю.

— Усе ведаюць. А ты ведаеш лепш.

— Сымон…

— Ты яе забіў. І мяне забіў — для яе, для Галачкі, для Косціка… І Марудзку, сволач, ты забіў! — стары раптам закашляўся. Нават шчокі жоўтыя зачырваneліся. Але ён хутка апусціў галаву і сівыя патлы завесілі твар. Толькі плечы ўздрыгвалі.

— Сымон, паслухай, я вось табе што сказаць хацеў, — руды заспяшаўся, узняўся, навіс над дзедам, спалоханы, шэры, як здань. — Мы ж зноўку пераязджаем. Цяпер зусім. Косця запрашэнне выслаў. Цябе не запрашаў. Мы ж яму яшчэ тады сказалі, што ты памёр. Ён зараз у Швецыі жыве. Адвучыўся ў Чэхіі. Бізнесменам стаў. Мы цяпер зажывём… Сымон, ты прабач. Я нічога ім не распавядаў. Ніякай праўды. Ты зразумей мяне, не магу я. Не магу. То ж не я быў, а бес нейкі, чуеш? Я ж таксама, я ж… Слухай, Сымон, я ўсё ведаю. Але ты прабач. Ты ж сам тады гэтак вырашыў. А я жыць хачу. Я Галіну кахаў. Я Косціка нашага люблю — вунь, як выгадаваў. Хто ж ведаў, што так здарыцца!

Стары маўчаў, унурыўшы плечы. Глухі, нізкі раздаўся голас — як з-пад зямлі:

— Чаго ты прыйшоў?

— Спаць не магу. Ты снішся. Дзяўбаны гэты трактар. І Маруся. Жыць не магу… — руды глынаў словы.

— Сабака брэша, сумленне ёсць…

Руды стаў круціць галавой спрытна-спрытна, нібы, спалоханы, адмаўляўся ад нечага. Паля развярнуўся, пабег з хаты.

Шмат год таму — дваццаць з нечым — у гэтай хаце было ўсё інакш. Тут жылі шчаслівай сям'ёй Сымон і Раіса, іх дачка Галачка, яе муж Толік, руды, ды ўнукі, Марыська з Косцікам. Праўда, і хата стаяла іншая, не тая, што цяпер. У той хаце столь была высокая, вокны — вялікія, чыстыя, быццам вочы. Марусі тады год шэсць было. А Косціку мала — годзік. Дзед з бабай абодвух песцілі: апроч Галіны дзяцей у іх не было, пра ўнукаў марылі і любілі іх бязмерна. Дзе дзеці ёсць, там і дзяцінства, а дзяцінства кожнаму жыцця надае.

Толік на вёсцы працаваў трактарыстам. І трактар ва ўласнасці меў. Марыську на ім катаў, што яна вельмі любіла. І яшчэ ён ніколі не піў. Ніколі. Але неяк увечары — што там здарылася, невядома — ён вярнуўся дахаты п'яны. А дзіцё тату сустрэла першым — і ў кабіну адразу: «Пакатай мяне!» Толік хацеў адхрысціцца, але куды там. Малая не разумее, што тата п'яны, яна такога яшчэ не бачыла. Ну і павёз яе зрабіць кола. За вёску вывез — а іх хата крайняя, — у поле хацеў. Далей, кажа, хтось на дарогу выскачыў — чалавек ці звер, а то і прымроілася, — ды толькі зляцела машына ў кювет. Перавярнулася. І малую ў машыне неяк штурхнула, прыціснула — яна прытомнасць згубіла. Толік выкараскаўся — адразу працверазеў. Дачку хацеў выцягнуць — не здолеў. Хацеў крычаць — не здолеў таксама. Пабег дахаты. А на парозе цесць сядзеў. Ён Толіка як убачыў — у хату не пусціў. Схапіў за плечы, збялелага, кажа: «Вядзі». Пайшлі ў поле, а да машыны і не дабраліся: выбухнула яна, згарэла ўся.

Выбух уся вёска чула — цікаўныя адразу выпаўзлі. А Раіса з Галяй ды Косцікам — яны ў той вечар у гасцях былі ў Анупрэеўны, дык нічога не бачылі: ні як Толік прыехаў, ні як Марыську катаў, ні як дахаты бег, ні як Сымон з ім да машыны вяртаўся. Ніхто не бачыў. А ў Толіка мову тады адняло. Сымон зірнуў на дачку з маленькім Косцікам ды сказаў, што гэта ён вінаваты, што ён, кляты дзед, сеў за руль. Маўляў, Толік выпіў крыху ды катаць Марысю адмовіўся, а той як лепей хацеў, але занесла ў кювет.

Усё навыварат сказаў. І людзі паверылі.

Галіна ад бацькі свайго адразу адмовілася. Сабрала рэчы ды ў той самы вечар да сяброў падалася ў бліжэйшы райцэнтар. Смерць дачкі за няшчасны выпадак зарэгістравалі. Але дзеда мала хто шкадаваў. Душагубам празвалі.

У жонкі Сымона, Раі, удар здарыўся. Яна памерла.

На пахаванні жончыным Сымон, як і на Марысьчыным, не плакаў. Там жа апошні раз бачыў дачку з унукам. Спытаў адрас у Анупрэеўны, чыя дачка сябравала з Галяй. Тая сказала, але на лісты ніхто не адказваў.

А пасля і хата згарэла ў дзеда. Ці сама па сабе, ці хто падпаліў. Адбудоўваў нанова, без дапамогі, сам.

Жыў адзін. Грошы адкладваў доўга. Думаў спачатку, што ўнук прыедзе, што дачка вернецца. А пасля карову завёў, калі зразумеў, што родных чакае марна. Ружы вырошчваць стаў. Не на гандаль, для душы.

Горш за ўсё было даведацца, што Толік, якога ён выратаваў, каб Галіна з ім не рассталася, каб ва ўнука бацька быў, піць стаў. Галіну біў. Яна год, два, трывала ды на развод падала. А ўсё адно ён, Толік, ім праўды не расказаў. Так і застаўся дзед «вінаватым». Нават у тым, што муж співацца стаў, Галіна бацьку абвінаваціла.

Даведваўся пра ўсё гэта дзед ад Анупрэеўны. Яе дачка ўсё жыццё з Галінай сябравала. І пра Косціка дзед ведаў, што той у Чэхію вучыцца паехаў, і пра тое, што ў Швецыю перабраўся, і пра тое, як выклікаў абодвух бацькоў да сябе. Хаця, які з таго Толіка бацька? Чужы

зусім. Піць хоць кінуў, але ж позна было. А ружы праз Анупрэеўну дзед у горад перадаваў. Дачцэ. Слаў ды слаў, як пара, познія белыя ружы.

Сымон выйшаў на вуліцу. Пабачыў, як Толік перавальваецца назад праз плот, як зноў чапляецца за яго, лаецца, шыбуе па вуліцы прэч… Стары падышоў да плота — ружы былі затаптаныя. Ён заплакаў.

## Пад дажджом цвіці, папараць!

***

Ідзе дождж. Моцны, залева. З вялікага шэрага неба, як з нітак, мокрых наскрозь. Пад гэтым дажджом — дзяўчынка-наросхрыст: валасы па плячах, раскіданыя рукі, расшпіленае паліто, адкрыты позірк і рот у крыку:

— Я марыянетка! Я марыянетка! Глядзі, гэтыя ніткі, вось яны, вось, на маіх руках, нагах, плячах, нават на веях, каб ведалі, калі ім хлопаць!

— Мг, мг… — мармыча нехта побач, потым шчоўкае над яе галавой парасонам:

— Цяпер не.

***

Пасля дажджу растуць грыбы. Растуць, растуць, растуць… Стоп, выраслі. Пасярод грыбоў у зямлю ўбіты цвік. На ім — на самай шляпцы — сядзіць чалавечак. Маленечкі такі. Сядзіць і чакае.

Падыдзе да яго яшчэ адзін, спытаецца:

— Ты чаго? — а той маўчыць. Зыркне толькі сур’ёзна, учэпіста, аж спапяляючы — і маўчыць. А потым убачыць, што шчыра спыталіся — памякчэе адразу, раздобрыцца, твар лагодным-лагодным стане. Маўляў:

— Рашчу. Кветку-папараць.

***

Я таксама рашчу папараць-кветку. І штогод дасылаю яе сяброўцы на Манмартр . Сяброўка жыве ў Лондане, але з дзяцінства марыць пабываць у Парыжы.

Так мае кветкі даходзяць да яе пазней, але затое пахнуць чароўным горадам і на каробках у іх французскія маркі.

Сяброўка вельмі радая, хоць і не ведае, што гэта папараць-кветкі і тым больш не ведае, што яны ад мяне. Яна лічыць, што гэта эдэльвейсы, а вырошчвае і дасылае іх той французік з нашай гімназіі, што ў дзявятым класе вярнуўся назад, дадому. Ён бы і праўда вырошчваў, але разбіўся на самалёце сем год таму, калі ляцеў да яе на спатканне. Яна ведае. Але глядзіць на кветкі — і верыць у нешта сваё. Хай верыць. Ён жа праўда з дзяцінства марыў вырошчваць эдэльвейсы.

***

З-за кветак на акне відаць суседні дом. Там бабулька жыве — з коткай і грамафонам. А ў кватэры насупраць — конь. Ну, конь такі, з капытамі. Артыст на пенсіі. У яго пасля цырка

склероз і блізазоркасць. Носіць акуляры, штовечар здымае іх, пакідае на тумбачцы з кнігамі. Шукае штораніцы. Ідзе да суседкі пытацца.

Котка ў бабулі белая і пухнатая, грамафон стары, як яна сама, і хрыпаты, як дзед-нябожчык. Бабуля трэці год у самоце. Грамафон заводзіць — плача. А раней яны з дзедам заводзілі — танчылі.

У дзверы грукаюць.

— Іларыён Ісакавіч, не дурыце, яны на тумбачцы з кнігамі злева ад ложка.

— Мам, гэта я…

Уздымаецца, белая, ідзе адчыняць. Спыняецца:

— Не, сынок, не. Не ты. Ты ў нас даўно, даўно ўжо з Афгана… пакуль не вярнуўся.

А ўсё ж адчыняе. На парозе мужчына, замест ног — кульці.

— Ты прабач, мам. Ішоў доўга.

Грае, сіпіць грамафон. Трэцца аб падагнутыя ногі котка.

***

Спыталі тут, чаму котка ў мяне такая худая. Заходжу на кухню — ляжыць.

— Котка, а, котка, ты чаму такая худая? — выцягнулася чорнай стрункай, ліжа мне рукі. Так і не даведаюся сёння, відаць. Рот у яе заняты. Вось бы так малако лізала.

***

Сябра-малочнік жыве на Кардоннай вуліцы. Яму да васьмі трэба ўвесь раён малаком забяспечыць, бутэлькамі. То ў тры сядае на ровар, едзе… Вяртаецца а палове на восьмую стомлены, сонны. Спіць да вечара. А там мы з ім лезем на дах: глядзім на зоры, п’ём малако. Да трох гадзін. Ці гарбатку, калі ад малака яго ўжо ванітуе. П’ём і маўчым. Мы маўчым, а зоры лапочуць. Хораша — любата!

***

Памятаеш, мінулай восенню вецер зусім азвярэў і крыў на нас макрэчай? Благой. Нават блажэннай.

Сядзець на вярбе было троху нязручна, але толькі на ёй так блізка да зор — бліжэй, чым з гмахаў! — і толькі на ёй растуць апошнія грушы.

Мы трымаліся побач, на адным вузле, як на далоні, усе трое: я, ты і варона. Варону кармілі сухарыкамі, прычашчалі, а яна маўчала з холаду ды ўдзячнасці і толькі міргала сваімі блакітна-шэрымі вочкамі.

І ты маўчаў. А я распавядала, як збегла ад цябе на дванаццаць год. Але справа не ў іх. Справа ў тым, чаму я вярнулася. І трошачку ў тым, як баялася вяртацца назад.

— А чаго баялася?

— Што цябе не знайду. Я ж наўмысна жыла ўсе дванаццаць год на суседняй вуліцы, за рогам. Так блізка, што мы ніяк не маглі б сустрэцца.

— А, ну тады… — пачынаеш смяяцца.

— Не, пачакай!.. Яшчэ баялася, што я прыйду, а ты без мяне залез на вярбу, упаў і разбіўся. Ці яшчэ горш — знайшоў сабе іншую, з кім сядзець на вярбе.

— А то як жа! — ківаеш на варону. Але я ведаю, што ты жартуеш. Не было тут, апроч мяне, нікога. Варона не ў лік. Не на вярбе — вярба ладна. Галоўнае, што ў душы не было. Таму што ведаеш, ведаеш, мая душа.

— Але больш за ўсё я баялася, што ты вырас…

***

— Але больш за ўсё я баялася, што ты вырас. А я ведаю: табе нельга! Гэта ў Піцеры жыў такі чалавек. Жыў, жыў, пісаў песенькі. А потым як вырас, так адразу памёр. Прыходжу да жонкі яго — сядзіць. А яна фарфоравая была. Як памёр ён, чалавек яе, так пылам пакрылася, і бачна стала, што ўся разбітая… Кажа мне: «Яны ў моргу цела ўскрылі, а там замест сэрца — скарбонка музычная, і ў ёй — сшытак з нотамі. Спалохаліся тады, думалі, як замяць гісторыю. Ішэмія, кажуць. Вось ёлупы. Тут кожны ведае, што памёр ён ад фальшу! Усе старонкі апошнія перакрэслены: і схлусіць не мог, і шчырасці не знайшоў — вырас».

***

Мне так страшна стала — сядаю бліжэй, тулюся да плеч. Як добра, што ты такі — дзіцё дзіцём. Гэта лепшае, што я магла падумаць, а Бог прыдумаць. Як добра, што ты такі!

— Можна, можна я пабуду з табой заўсёды?

Варона раптам адчувае сябе залішняй і з крыкам: «Прывет!» злятае ад нас. Ты абдымаеш мяне і пытаеш, гледзячы на распрастаныя крылы:

— Лётаць умееш?

— Не-а, — адказваю я.

— Вучыцца будзем?

— А давай заўтра? Сёння надвор’е нялётнае.

— Ай, ды ну, лухта, забабоны. Свабоднае надвор’е: куды хочаш, туды і ляці. Як заўсёды.

— Тады добра. Толькі я хачу спаць. Я дванаццаць год не спала, каб ты не сніўся. Давай ужо заўтра, га?

— Што, такі ўсе дванаццаць?

— Ага, — і засынаю, згарнуўшыся, як кацяня, у цябе на руках. Хочаш вер, хочаш не — упершыню за тузін гадоў спакойна і свабодна.

— Ага…

***

Ідзе дождж. Моцны, залева. З вялікага шэрага неба, як з нітак, мокрых наскрозь. Пад гэтым дажджом столькі народу! І старая з усёй сям’ёй і нават коткай, і чалавечак, і цвік, і яшчэ адзін чалавечак, і сяброўка з Англіі, і сябар з Парыжа, і конь з акулярамі, і мая котка, і сябар-малочнік, і фарфоравая цёця (ой, цэлая, а дождж з яе пыл змывае!), і дзядзя з музычным сэрцам (а, ну зразумела, чаму яна такая цэлая… ды я і не супраць, хай будзе тут хоць заўсёды, песні ў яго харошыя, толькі сталець не трэба), і дактары, пра якіх ніхто нічога не казаў, і мокрая варона, і ўсе! Ну і яшчэ — дзяўчынка-наросхрыст: валасы па плячах, раскіданыя рукі, расшпіленае паліто, адкрыты позірк і рот у крыку:

— Мы марыянеткі! Мы марыянеткі! Глядзі, гэтыя ніткі, вось яны, вось, на нашых руках, нагах, плячах, нават на веях, каб ведалі, калі ім хлопаць!

— Мг, мг… — мармыча нехта побач, потым закідвае яе на плячо і нясе дадому, бо там забыў парасон. Дома не ліе, не так ліе. Дома ніткі толькі свае — шыць, вязаць. Ніякіх марыянетак.

Ну і дома, там… папараць-кветка на гаўбцы.





Андрэй Сідарэйка

**нарадзіўся 16 студзеня 1985 года ў вёсцы Каравацічы Рэчыцкага раёна. Завочна скончыў Інстытут журналістыкі БДУ. Выступаў з прозай у дзяржаўных выданнях. Цікавіцца філасофскім напрамкам, а таксама магічным рэалізмам у літаратуры.**

# Адзін дзень восені

На дварэ кастрычнік. Грыбная пара.

Час збіраць ураджай.

З раніцы я збіраюся ў лес, які цяпер поле цудаў. Хто раней прыехаў, таму і галоўны куш.

Каля пад'езда стаіць веласіпед. На лаўцы — вядро. У ім — сцізорык.

Падыходзіць сусед Ванька. У яго руцэ — бутэлька гарэлкі. Яшчэ ўчора Ванька аббег акругу. Сабраў пустую тару. А сёння з раніцы здаў яе ў прыёмны пункт. Схадзіў у краму па алкаголь, які так любіць яго жонка Любка. На гэтым немудрагелістым захапленні і трымаецца іх сямейны саюз.

Я ведаю: бліжэй да вечара з сіняком пад вокам Ванька з пад'езда выбяжыць зноў. Сіняк праз недахоп алкаголю яму паставіць Любка. Ён зноў будзе думаць, дзе знайсці пустую тару.

Ля пад'езда спыняецца іншамарка. З яе выходзіць другі сусед па лесвічнай пляцоўцы — Ягор. Кожныя тры дні з кветкавага магазіна ён прывозіць букет белых руж жонцы Волечцы.

Два гады таму ён ажаніўся з ёй па вялікім каханні. Воля выйшла замуж за Ягора па разліку. Жыве цяпер у яго залатой клетцы. А пачуццяў няма. І дзяцей таксама няма. Калі Ягор уручыць ёй кветкі, яна абыякава пацалуе яго ў шчаку, паставіць букет у вазу на кухонны стол і будзе далей працягваць сядзець на зэдліку каля акна.

Калі б Воля па натуры была кошкай, ёй усё роўна было б, дзе жыць і каму вуркатаць на вушка. Абы клапаціліся і гладзілі шэрстку. Але Воля — горды паўлін. І жыць за грошы не прывыкла, хоць, як усе, любіць іх колькасць у кашальку. Яна чакае, што ў яе жыцці з'явіцца іншы. І калі б яна яго пакахала, то, магчыма, жыла б з ім нават у будане. Толькі б не бачыць больш белыя ружы і погляд мужа. Але іншага няма. І Воля працягвае жыць з Ягорам па разліку.

Час не чакае. Калі я саджуся на веласіпед, з пад'езда выходзіць дзед Толік. Яму 85 гадоў. У маладосці быў на фронце. Мае ўзнагароды. Герой.

Раней дзеда Толіка (так яго клічуць у двары) часта запрашалі ў школу. Там ён распавядаў падрастаючаму пакаленню пра свае гераічныя подзвігі. Цяпер дзед Толік не той. Яму не да стамляльных гутарак. Галоўнае — выпіць раніцай таблетку ад высокага ціску, а пасля выйсці ў двор і падыхаць свежым паветрам.

Я вітаюся з дзедам Толікам і ад'язджаю ад пад'езда.

У лесе па-восеньску прыгожа.

Белыя бярозы губляюць лістоту. Пахне хвояй.

Восеньскія грыбы — апенькі. Можна знайсці чырвонагаловікі і забытую летам лісічку.

Вогнішчам гарыць лясная рабіна. З кожным днём яе гронкі набіраюць сілу. Яна становіцца больш прыгожай і сакавітай.

Збіраючы грыбы, паглыбляюся ў думкі. Восень — пара пераасэнсавання шляху, пройдзенага за год. Да надыходу зімы яшчэ ёсць час, каб паспець увасобіць у жыццё задуманае. Але менавіта восенню пачынаеш падводзіць першыя вынікі. Нездарма кажуць: куранят па восені лічаць.

Адзін за другім у вядро кладуцца дары прыроды. У лесе — ні душы. Восеньскі вецер пранізвае лясную цішыню, абсыпае з дрэў лістоту. Яна сцелецца пад ногі. Пакрывае сабой халодную зямлю.

На дварэ — цудоўны кастрычніцкі дзень.

Свеціць сонца.

На душы — светла і святочна.

У сваіх думках я паглыбляюся ў свет мар. Уяўляю розныя сітуацыі, гісторыі.

Успамінаю ўбачаных раніцай суседзей, іх жонак. На сваім жыццёвым шляху я хацеў бы сустрэць іншую, не падобную на Любку і Волю дзяўчыну. Чаму не такую, як Алесю з аднайменнай аповесці Аляксандра Купрына?

Для гэтага трэба няўзнак выйсці на лясную паляну, убачыць старую (казачную) хатку на курыных ножках, націснуць на клямку, увайсці ўнутр.

Там мяне сустрэне юная чараўніца. Спачатку яна ўспыхне чырванню. Пасля запросіць пакаштаваць гарбату з лясных траў.

Мы будзем сядзець за сталом, гутарыць. Побач будзе хадзіць яе маўклівая, вечна злосная бабуля Мануйліха.

Пасля прыгажуня дастане карты і паварожыць на лёс. Абавязкова выпадзе жалудовая дама. Алеся раскажа, што ўжо літаральна ў гэтым месяцы пакахае мяне адна цёмнавалосая (як і яна) дзяўчына.

Далей яна выйдзе праводзіць мяне. Падчас прагулкі прадэманструе свае чараўніцкія здольнасці.

З гэтай хвіліны наведванне лесу напоўніцца для мяне іншым сэнсам. У хатку на палянцы я стану заходзіць усё часцей. Як звычайна, старая бабка Мануйліха будзе бурчаць, а цукар і гарбата змякчаць яе непрыязнасць. Затое майму візіту заўсёды будзе рада Алеся.

У стасунках з лясной прыгажуняй мне трэба будзе не паўтарыць памылак галоўнага героя аповесці. На шчасце, палясоўшчыка Ярмолы ў мяне ў паслужніках няма. Ды і народ цяпер іншы. Не стане кідаць камяні ў безабаронную дзяўчыну.

І тады, магчыма, аповесць пра каханне завершыцца іншым, чым у аўтара, фіналам. І на памяць пра гэта знаёмства з лясной чараўніцай мне застанецца не толькі нітка чырвоных караляў.

За палётам фантазіі я не заўважыў, як вядро напоўнілася грыбамі. Час вяртацца назад.

Веласіпед няспешна бяжыць па асфальце. Машыны абганяюць мой транспарт.

Іх уладальнікі спяшаюцца па сваіх справах.

Так, у спешцы, праходзяць дні, гады, ляціць у выхлапную трубу жыццё.

Нам здаецца, што жыццё доўгае, вялікае. І ўсё мы яшчэ паспеем. На самай справе жыццё — гэта энная колькасць зім, вёснаў, летаў і восеняў.

Зараз на дварэ — мая трыццатая восень. Колькі іх наканавана яшчэ?

Тым не менш, кожная наступная не будзе падобнай да папярэдніх. І кожную з іх я буду сустракаць з іншым светапоглядам, разуменнем сэнсу жыцця, сябе ў ім.

Таму не варта ціснуць на педалі. Лепш тэмп запаволіць, азірнуцца па баках. Убачыць тое, што можна ўбачыць толькі сёння, цяпер.

Заўтра гэты лес і дрэвы ўздоўж дарогі будуць іншымі. Іх лістота стане крыху больш залатой. А іншае лісце і зусім высцеле сабой зямлю.

Я ўглядаюся ў дрэвы, неба, сонца. Сёння мне хочацца запомніць іх такімі. Таму што заўтра яны будуць іншымі. На дзень старэйшымі.

Веласіпед коціць да роднай хаты.

Разам з ім да свайго заходу коціцца і дзень.

Каля пад’езда бачу хуткую дапамогу: стала дрэнна дзеду Толіку. У чарговы раз падняўся ціск. Я назіраю за тым, як яго выносяць на насілках санітары, укладваюць у машыну. Кіроўца заводзіць яе. Машына ад’язджае. Узвывае сірэна.

З пад’езда выходзіць Ванька. Пад яго вокам (як я і меркаваў) красуецца сіняк.

— Усё ёй мала. Паслала знайсці яшчэ, — у які раз паўтарае ён мне адну і тую ж фразу.

— А навошта яна табе такая? — пытаюся ў сваю чаргу я.

— Кахаю яе, халеру. Усё дзеля яе зраблю.

Ванька сыходзіць у пошуках пустой тары. Я падымаюся да сябе ў кватэру.

Чышчу грыбы. Пасля іх можна будзе адварыць, пасмажыць. Грыбы да ўсякай стравы добрыя.

Праз адчыненую фортку чую размову на вуліцы. Кажуць, што дзед Толік памёр. Яго сваякі да апошняга верылі, што выкараскаецца. Колькі разоў гэта было. А сёння — не. Ён сышоў назаўжды. Гэты восеньскі дзень стаў для яго апошнім.

Наша з’яўленне на свеце пачынаецца з нараджэння. Заканчваецца смерцю. Паміж нараджэннем і смерцю — жыццё. Мы не ўсведамляем, як і калі прыходзім у гэты свет. На той момант наша свядомасць яшчэ не падключана да разеткі сусвету. Ці ўсведамляем у апошні момант, што электрычнасць, якая сілкуе разетку, адключаецца назаўжды?

У рондалі кіпіць вада. Варацца грыбы. Яшчэ адзін дзень жыцця падышоў да завяршэння. Як у Ясеніна: «День ушел, убавилась черта, я опять подвинулся к уходу. Лёгким взмахом белого перста тайны лет я разрезаю воду».

Гэта быў восеньскі дзень кастрычніка. Яго я запомню менавіта такім: сыход дзеда Толіка, поўнае вядро грыбоў, сіняк пад вокам Ванькі, сумны погляд Волі з акна, белыя ружы...

Будзе іншы восеньскі дзень. І зусім іншая лістота ў лесе будзе падаць пад ногі. У тыдні гэта будзе аўторкам. У месяцы — толькі днём. У жыцці — усяго імгненнем.

Якім яно застанецца ў памяці?





## Стася Кацюргіна

**нарадзілася 8 красавіка 1992 года ў Гомелі. Выпускніца філалагічнага факультэта УА «ГДУ імя Ф. Скарыны». Мае два паэтычныя зборнікі — «Пад ветразем ранку» (2011) і «Парасон» (2011). Верыць, што вершы, як малітвы, могуць спраўдзіцца.**

# Ісці і бачыць снег…

***

Нашто я табе хворая
Ва ўсмешцы сваёй, збалелая?
Так рука мая белая
Снегам тваю далонь накрыла.
Мы здабылі стомленасць крылаў,
Зморанасць подыху навальнічнага.
А калісьці была крынічнаю
Свежасць вуснаў тваіх сонных,
Цеплыня і пакорлівасць,
бездакорнасць,
запаветнасць,
бяздоннасць?
Вучаніцай старанную
Выдумляю найменні самоце.
Ты ёй станеш.
Разлажэнне,
распад на імгненні,
што
у нас
на сыходзе.
І пытанні,
І вечнае спасціжэнне
ненароджаных страт.
Значыць, кожнаму кат
Выдумляе сваю адзіноту!..
Ты прыходзіш у слоту
Маю і здымаеш боты
на парозе. І мне сорамна:
Я стаю дакорамі стомленая.
Зморaная па дарозе
на шыбеніцу кахання,
(«забіць, але не параніць!»).
Так наступае ранне
сабе на горла.
Сорамна!
Спяшаемся,
пакуль прачынаецца горад.
Ды я ўжо хворая!
На тое, што дорыць
дарослacць,
разумнасць,
сталенне:
Адчайнае гэта гора,
Салёнае самае мора —
Цярпенне...

***

Ісці і бачыць снег.
Быць смелай за плячыма.
І праз гады прысніць,
і зноў крычаць у сне.
Быць Еваю не грэх,
а з яблыкам дзяўчынай
смяротна. Не даплыць
і да світанку мне.
Прашу тваёй рукі!
Дазволь безабароннасць.
Я дотыкам адным

ўсе белыя сцягі!
Ды не бяруць палонных
за пачуццё віны!
Тры кропкі.
І прабел
стамляецца ў журбе
па словах:
друкаваных,
сказаных ды й забытых
назаўжды,
нястомных і жывых,
прамоўленых старанна
не для мяне.
Бязмоўныя дажджы
ідуць, як сувязныя па маўчанню.
І подзвігам здаецца мне жыццё.
І працякае дзень,
нібыта ў кране,
з апошняй кропляй знікла пачуццё
нязнанае, як пацалункаў выйсце,
салёнае — па вуснах і грудзях,
як адчуванне новага жыцця,
што праз мяне адкрыецца калісьці...
І стане домам мне дзіцячы смех.
Ну а пакуль — ісці і бачыць снег.
І за плячыма быць нямілай, можа...
І толькі прамаўляць: «Магутны Божа,
і з гэтай небяспечнай вышыні
І ад мяне яго абарані!»
Бо столькі гора ў вобліку святым,
Бо гэта мора шчасця не па ім,
Што ўсё мінула — зноўку не пачаць!
Я гэты дзень выношу на плячах.
Ды і журбы падманлівы прысуд
Яшчэ непакаханаму нясу.

***

Мілы Мой Дзеда,
дай Божа Табе
ніколі не ўбачыць —
як гэта жыццё пражываю:
як жудасным следам
цячэ па ілбе,
крывавіць «удзячнасць»,
Што я за яе паміраю!
І як мяне б’юць
па грудзях, па расколах і ранах.
Завуць да сябе,
каб адпомсціць камусьці, забыць...
І слёзы я п’ю,
і мяне берагуць за стараннасць
быць вернай
журбе.
Божа,
як я магу папрасіць
застацца дзяўчынкай любімай
у памяці Дзеда?
Вы вочы, Анёлы, закрыйце Яму
ад нявернасці свету такога!
Я ўсё ўспамінаю, Мой Мілы, Цябе!
Гэта сэрца не хоча
пакінуць балець!
Так жыву... Ты даруй, дзеля Бога!..

***

**Ул.**

Зморaны дворык.
Шматпавярховік
з табой на калені
ўпадзе.

Здаецца —
так вернешся з гора
і гэта гісторыя
у шчасця
хвіліны скрадзе…

Смяецца
уся «акваторыя»
(тут — лаўкі-дамы-і-вокны):
пад кропкай
ліхтарнай
мокне:
прышэлец, двару падораны.
…Нікому цяпер не верце!
З вачыма —

бы на паперці —
зноў штосьці святое здохне,
што проста магло
— памерці…

***

**У. С.**

Кастрычнік. Таксі з'едзе.
Плакаць яшчэ не ўмею
(але вучуся!)
Над смерцю,
вішня квітнее
ружовая па прымусе
вечнага красавіка.
Тата, а Ты надзьмуўся
што я пайшла па руках
горкіх тых думак?
Не! Толькі любоў жывая!
(вішня квітнее і тым ужо
памірае).
Так я баюся кожнага дотыку,
кожнага ветрыку!
Чуеш? Усё гэта здрада.
Такая вось дыялектыка,
Гада...

***

Як моташна ў сабе!
Там, унутры, змяшаю
Аскепкі цеплыні,
Што грэюць «на бяду»
Ўсяго цябе звяду
і закатую Раем.
Пабітым шклом надзей
у садзік прывяду.

Што Ева? Быў Адам!
І ён рабру не здрадзіў.
Не выбіраў.
Яму хапала драм!
Ён ўсё яшчэ Адам
І у маёй «баладзе».
Бязладдзе ў галаве,
А ён яшчэ Адам.

Не зразумееш ты!
Мой мілы,
Бог з табою!
Ды ўсё збылося зноў
І цягнецца, не спіць
Душа...
Ты, добры кат,
не зразумееш болей,
як моташна ў сабе!
Як унутры баліць...





# Галіна Пярун

**нарадзілася 21 жніўня 1975 года ў Заслаўі. Жыве ў Магілёве. Вучыцца на трэцім курсе МДУ імя Куляшова і працуе медсястрой у паліклініцы. Выхоўвае траіх дзяцей. Піша па начах, калі ўсе спяць. Марыць знайсці вольны час і ўвасобіць у рэальнасць напісаныя ў думках творы.**

## Апавяданні

## «Заяц»

Ох, і няўдалая выдалася раніца! Ужо чацвёрты рэйс аўтобуса, а яны ніводнага «зайца» не злавілі.

— Як быццам усе грамадзяне раптам змовіліся і сталі паслухмянымі, добрапрыстойнымі пасажырамі! — уздыхнула кантралёр Ірына Міхайлаўна. — Не шанцуе дык не шанцуе!

— І не кажыце, — падтрымала яе калега, жанчына невысокага росту і хударлявага складу. — Праезд падаражаў, вось і набылі ўсе праязныя, каб хоць трохі эканоміць.

— Нічога, зараз прыедзе яшчэ адзін маршрут, можа, на гэты раз пашчасціць! — узрадавалася Ірына Міхайлаўна.

Як толькі аўтобус спыніўся, яна паспяшалася ў салон, спрытна распіхваючы перад сабой натоўп. Неўзабаве яны ўжо стаялі поруч з дзвярыма, назіраючы краем вока за пасажырамі і прагна прыслухоўваючыся да таго, што наогул рабілася побач…

Аляксей Іванавіч у апошні момант ускочыў у аўтобус і дзверы адразу зачыніліся. Хуткім поглядам ён акінуў салон: некалькі месцаў наперадзе ля вадзіцеля пуставалі. «Якраз для мяне», — мільганула думка. Тут нават таблічка ёсць: для інвалідаў, маці з маленькімі дзецьмі і сталых людзей. Мужчына ўсміхнуўся сам сабе ў вусы і прысеў ля акна, апусціўшы цяжкую торбу на падлогу. Вось ужо некалькі гадоў ён, яшчэ малады чалавек, якому толькі нядаўна споўнілася сорак, хварэе на цукровы дыябет і мае другую группу інваліднасці. Нават сорамна каму прызнацца! Адкуль толькі ўзялася гэтая паганая хвароба. Кожны раз ён адчувае нейкую няёмкасць і хваляванне, паказваючы сваё пасведчанне. Таму імкнецца рабіць гэта хутка і не прыцягваючы лішнюю ўвагу да сябе. Бо чалавек ён вельмі сціплы і сарамлівы. Ніколі не стане зганяць моладзь з месцаў, каб сесці, хоць і адчувае сябе часам вельмі дрэнна. Лепей самому саступіць якой-небудзь старой бабулі, бо ён паважае ўзрост.

Кандуктар прабіралася з канца салона наперад. Яе грузнае цела з зайздросный лёгкасцю слізгала ў вузкім праходзе аўтобуса, бітком набітага сварлівымі пасажырамі. З усіх бакоў чуліся незадаволеныя і раздражнёныя галасы. А яна толькі моўчкі пералічвала грошы і ад-

рывала квіткі. Здавалася, гэтая жанчына са счырванелым ад напружання тварам нічога не бачыць і не чуе, акрамя сваёй працы. Аляксей Іванавіч заўсёды здзіўляўся, як такія мажныя кабеты могуць так спрытна і хутка снаваць па салоне туды-сюды цэлы дзень. Ды не толькі снаваць, а трываць крыўдныя рэплікі ад нахабных пасажыраў. Народ жа зусім не думае, якая цяжкая праца ў кандуктара. Кожны дзень у спякоту і холад праціскацца паміж раздражнёных і абураных людзей. А тым так і карціць сказаць у плечы што-небудзь недарэчнае ці гучна абазваць усім вядомай жывёлінай, якая дае малако, і нават не падазраюць, што яе імем можна балюча крыўдзіць не ў меру тоўстых маладзіц. Якія і без таго вельмі камплексуюць з-за сваёй фігуры…

— Што ў вас за праезд? — кандуктар адарвала яго ад разважання.

— У мяне пасведчанне, — сказаў Аляксей Іванавіч і раптам змоўк, бо толькі цяпер успомніў, што раніцай апрануў новую куртку і зусім забыўся дастаць з кішэні свой дакумент. — Пачакайце, я, мусіць, пакінуў яго дома ў старой вопратцы. Зараз, зараз я вам заплачу, — ён спешна дастаў кашалёк і працягнуў стотысячную купюру, бо іншых не было.

— Мужчына, вы жартуеце? Дзе я вам гэтулькі рэшты назбіраю? Ці вы думаеце, што ў мяне тут банк?!

— Вунь які стос грошай у вас — можа, хопіць? — вінавата адказаў Аляксей Іванавіч.

— А чым я буду даваць людзям рэшту? Ды і няма ў мяне столькі, мы ж нядаўна выйшлі на маршрут. Шукайце іншыя купюры ці разменьвайце! Пасажыры, дапамажыце мужчыну, хто багаты на грошы! — звярнулася яна з прапановай у салон. Але ўсе маўчалі, лянуючыся зазірнуць у свае кашалькі. — Няма часу мне вамі займацца. На другім прыпынку будзе шмат народу. Папытайцеся, можа, хто-небудзь разменяе. Я пазней падыду. Вам далёка ехаць?

— Да лякарні.

— Яшчэ доўга. Не турбуйцеся, пасля дам квіток! — яна няспешна пасунулася далей.

— Што ў вас за праезд? — вырасла як з-пад зямлі шыракаплечая мужчынападобная жанчына-кантралёр. Яна махала перад носам Аляксея Іванавіча сваім дакументам у чырвонай вокладцы.

Ад нечаканасці яму нават стала млосна і пацямнела ў вачах, вусны перасохлі, язык з цяжкасцю варочаўся ў роце. Аляксей Іванавіч спрабаваў апраўдацца перад гэтай жанчынай з суровым арліным позіркам. Гаварыў нешта пра тое, што ў яго другая група інваліднасці. Ён едзе цяпер на лячэнне, а сваё пасведчанне забыўся дома, потым хацеў купіць білет, ды толькі рэшты не было ў кандуктара. Зараз ён разменяе купюру і аплаціць. Для большай пільнасці нават паказаў грошы, але кантралёр ужо яго не слухала. Яна як заварожаная глядзела на купюру і ганьбіла мужчыну, абвінавачваючы яго ў падмане.

— Плаціце штраф! Як не сорамна хлусіць! Вось зараз выклічам міліцыю, даведаемся, дзе працуеце — будуць непрыемнасці ад начальства! Тады паскачаце!

— Запытайцеся ў пасажыраў, я гавару праўду! — хваляваўся Аляксей Іванавіч. Ён павярнуўся да кандуктара, якая ўвесь час стаяла моўчкі побач і толькі хутка лыпала вачыма.

— Скажыце, што гэта так і вы абяцалі мне даць білет.

— Ён хацеў заплаціць, але ў мяне не было столькі рэшты, — ціха прамовіла яна і нечакана памкнулася назад, быццам была вельмі заклапочана сваёй справай.

— Грошы ёсць — плаціце штраф. Вы праехалі ўжо болей за адзін прыпынак. Будзеце ведаць, як «зайцам» катацца! — наступала на яго Ірына Міхайлаўна, яе вочы так і свідравалі наскрозь сваім злосным позіркам.

— Прынцыпова не буду! — працягваў настойваць на сваім Аляксей Іванавіч. — Я не адчуваю сябе вінаватым, а за білет вось, вазьміце! — махаў ён купюрай.

Але грошы падзейнічалі на кантралёра, як чырвоная ануча на быка. Мужчынападобная жанчына схапіла безбілетніка за каўнер і павалакла да выхада. Ад нечаканасці той нават не паспеў вывернуцца і ў адзін момант апынуўся на вуліцы. У галаве зашумела, зямля закруцілася пад нагамі. Ён хацеў нешта запярэчыць, але язык чамусьці стаў дрэнна слухацца, вусны сасмяглі. Аляксей Іванавіч прытуліўся да дарожнага знака, каб не паваліцца, бо ў вачах пацямнела, а ў скронях гучна чулася тахканне сэрца.

— Чаго стаў? Можа, камедыю тут будзеш ламаць, што табе зараз дрэнна стала? — катурхала яго за рукаў Ірына Міхайлаўна.

Ён толькі заківаў галавой і ледзьве чутна прамовіў:

— У мяне цукровы дыябет, патэлефануйце ў хуткую! Мне дрэнна!

— Не, ты так ад нас не выкруцішся! Мы і не такіх камедыянтаў бачылі, — крычала ў запале кантралёр.

— Вось грошы — бярыце, колькі трэба, — прашаптаў знясілена Аляксей Іванавіч і працягнуў скамечаную купюру. Перад вачыма ўсё паплыло і зямля стала чамусьці блізка да яго, ён спрабаваў адштурхнуцца, але цела было ўжо непадуладна яму.

— Ну і людзі пайшлі скнарлівыя, за некалькі тысяч гатовы нават памерці, абы не плаціць, — уздыхнула Ірына Міхайлаўна, гледзячы ўслед хуткай дапамозе.

# Непатрэбная

Галіна Іванаўна размяняла ўжо восьмы дзясятак, але, нягледзячы на свой узрост, яшчэ старалася трымацца: прыгатаваць ежу, схадзіць у краму, прыбрацца ў кватэры, нават памыць бялізну рукамі. Хоць і ёсць пральная машына, але ж па старой звычцы рукамі неяк спрытней, ды і колькі тых рэчаў, каб карыстацца дарагім аўтаматам.

Ужо пяты год пайшоў, як хвароба забрала гаспадара. Дрэнна і самотна Галіне Іванаўне ў іх двухпакаёвай кватэрцы, нават пагаварыць няма з кім. Усё адна ды адна. Часам сэрца прыхопіць, а паклікаць няма каго, каб тую ж таблетку нітрагліцэрыну падаць, пакуль хуткая прыедзе.

Але ж кажуць, што ёсць Бог на свеце! Аднойчы раніцай зазваніў тэлефон, і дачка Ірына паведаміла вельмі радасную навіну. Дваццацігадовы ўнук Віктар разам са сваёй жонкай і маленькім сынам прыязджаюць на днях. Жанчына не магла паверыць, што ў хуткім часе яе кватэра зноў напоўніцца галасамі і дзіцячым смехам. Гадоў дзесяць таму дачка пераехала ў Магадан да другога мужа. З таго часу больш і не бачыла Галіна Іванаўна свайго маленькага Віцю. Вядома, цяпер ён стаў зусім дарослым. Ці пазнае хоць сваю бабулю?

Апошнія дні Галіна Іванаўна правяла ў прыемных клопатах: навяла чысціню ў кватэры, павесіла новыя фіранкі і прыкупіла ўсім невялічкія падарункі. Паціху схадзіла на кірмаш і набыла спелай садавіны, бо якія ж там вітаміны ў Магадане — амаль поўнач, толькі холад і снег.

У хуткім часе кватэра кабеты сапраўды ажыла: ляскалі дзверы, званілі дзівосны музы-

кай мабільныя тэлефоны, рыпелі масніцы пад нагамі жвавага праўнучка Пеці, бесперапынна працавала пральная машына. А старая радавалася, што цяпер і паміраць нястрашна, бо яна не адна ў гэтых сценах, побач самыя дарагія і блізкія, яна ім патрэбна. Нават адкрылася другое дыханне. Ноччу, калі заплача малое, бабуля тут як тут, падхопліваецца і бярэ дзіця на рукі. Прыхінае беражліва да сябе і калыша, з вуснаў злятаюць даўно забытыя матывы, якія калісьці напявала дачцэ. А маладыя няхай крыху адпачнуць, хопіць яшчэ і на іх долю клопатаў. Глядзіць старая ў блакітныя вочкі праўнука, гладзіць шурпатай далонню па льняных валасах, і здаецца ёй, што гэта Віця, унук. Быццам учора такі малы быў — хутка і зусім не прыкметна праляцеў час.

Але гады бяруць сваё, падрастае праўнучак і ўсё цяжэй з ім справіцца. Не так лёгка паспець за дзіцём падчас гульні на вуліцы. Уцякае малое, смеючыся, каб бабуля дагнала, а ў старой аж сэрца з грудзей выскоквае, дыхання не хапае. Галіна Іванаўна толькі ўсміхаецца і нават не думае скардзіцца, бо праўнучак — гэта і ёсць сэнс яе жыцця. Нагуляўшыся, малы прыхінаецца бялявай галоўкай да маршчыністага твару бабулі і, абяссілены, засынае. Жанчына толькі радуецца кожнаму такому моманту, нават баіцца зварухнуцца, каб не парушыць сон хлопчыка.

Непрыкметна праляцеў год, і ў сям'і ўнука з'явілася яшчэ адно дзіця. Цесна стала маладым у адным пакоі, і Галіна Іванаўна саступіла сваю спальню, перайшла ў калідор на канапу. Цяпер Пеця можа спакойна свавольнічаць у сваім пакоі і не будзе перашкаджаць шумнымі гульнямі маці з немаўляткам. Аднак Галіна Іванаўна ўсё часцей стала трапляць пад руку маладым: то на кухні рана зазвініць посудам, то забудзецца пра ўключаны імбрычак. А на днях Віктар зрабіў заўвагу, каб ногі вышэй падымала ды не шорхала па падлозе. Жанчына маўчала, а сама пачала прыкмячаць, што дзяўчына крывіцца кожны раз, калі яна бярэ на рукі малое. Разглядае Галіна Іванаўна свае шурпатыя, агрубелыя ад цяжкай працы далоні і ўздыхае — некалі гэтыя рукі былі самымі пяшчотнымі і ласкавымі, а цяпер сталі такімі нязграбнымі і бяссільнымі, што маладыя нават гідзяцца дакрануцца. Вось яна, старасць — нямоглая і адзінокая. Тут нічога не зробіш, адна радасць застаецца — маленькія праўнукі. Толькі клопаты пра іх і даюць моцы жыць.

І вось неяк вярнулася з крамы Галіна Іванаўна, а яе ўжо з нецярпеннем чакаюць. Запрасілі прысесці на зэдлік. Бачыць жанчына, гутарка сур'ёзная наспявае. Хвалююцца маладыя, вочы апусцілі, не ведаюць, з чаго пачаць. Мерае крокамі пакой Віктар, далоні пацірае, аж змакрэў бедны. Потым набраў паветра і выдаў навіну: збірацца трэба бабулі ў дом састарэлых, бо ўжо даўно яе там чакаюць. У прытулку для старых будзе лепей хворай і зусім нямоглай кабеце.

Дрыготкімі рукамі набірае Галіна Іванаўна доўгі шэраг лічбаў на дыскавым тэлефоне. Прыслухоўваецца да гудкоў. Адна надзея — атрымаць падтрымку ў дачкі. На тым канцы знялі, моўчкі выслухалі. А потым праз тысячу кіламетраў даляцелі да слыху жанчыны словы:

— Матуля, мілая, навошта скардзіцца, яны ж маладыя, ім жыць трэба, а ты хворая, калі ж ім цябе даглядаць? Праца, дзеці… Ты ж сама зразумей! — гаварыў голас.

Галіна Іванаўна паклала трубку. Слёзы каціліся па маршчыністым твары, засцілалі вочы. Маленькі Пеця стаяў побач і ласкава гладзіў па плячы бабулю.

— Не плач, я вельмі цябе люблю, а калі вырасту, то ты абавязкова будзеш жыць са мной.

Галіна Іванаўна глядзела ў светлыя вочы хлопчыка і ўспаміназа, як некалі яго бацька казаў такія ж словы…

# Як дзед на Купалле рыбу вудзіў

Мой дзед вельмі любіў рыбалку. Няважна, спёка на вуліцы ці мароз са сцюжаю, ён усё адно — за вуду ды з хаты на возера бяжыць. Цішком, вядома, каб бабуля не бачыла, бо яна гэту справу не вітала і рыбалову вельмі даставалася. У двары заўсёды работа знойдзецца, а гаспадара няма, быццам карова языком злізала. І сядзіць ён, як заўсёды, на сваім месцы, лункі свідруе. Бровы, барада і нават каўнер у кажусе збялелі, а дзед і ў вус не дзьме, ніякі мароз яму ні па чым. Толькі і ведае, што глядзіць пільна ў палонку ды лёску моцна трымае — і так амаль кожны дзень. І вось аднойчы здарыўся з дзедам выпадак, пасля якога ён назаўжды забыўся пра сваё захапленне і ніколі ў той бок нават не глядзеў.

А было гэта так. Выдалася лета вельмі гарачае і засушлівае. Вядома, працы ў вёсцы хапае, а тут яшчэ травы на лузе перастойваюць. Самая што ні на ёсць пара сена нарыхтоўваць. Два дні дзед завіхаўся, надзел касіў, а пасля разам з сям'ёй пакосы разбілі ды сушыць пачалі. Бабуля ж пільна сачыла за гаспадаром, ні на хвіліну не адыходзіла, бо ведала: як толькі момант зручны падвернецца — дзед адразу ж рыбачыць пабяжыць.

Горача, сонца ў зеніце прыпякае, смага адольвае, купацца ахвота ды вуду некалькі разоў закінуць. Але жонка побач стаіць і цікуе кожны крок. Дзед толькі нудзіцца па любай справе ды ўздыхае, нават у той бок зірнуць баіцца. Дружна павярнулі кожны па пакосе, адпачылі трохі, зноў варушыць трэба — і так цэлы дзень. Сена, кажуць, на граблях сохне. Ну, а калі сонца спускаецца на верхавіны старога лесу, дык і ў копы час класці. Бліжэй да вечара сілы ўжо на зыходзе. Здаецца, толькі гаспадарку дагледзець ды як-небудзь да ложка дабрацца. А ў дзядулі адно на розуме — як на возера неўзаметку ўцячы. А тут акурат выдалася свята, і бабулю паклікалі песні спяваць, бо голас у яе быў незвычайны, адзіны такі прыгожы і мілагучны на ўсю ваколіцу. Апранула яна лепшую спадніцу, хустачку белую павязала і пайшла на гулянне. Дзеду строга загадала ў хаце сядзець, бо прыкмета нядобрая ёсць, што ў Купальскую ноч усякая нячыстая сіла з лесу ды з вады выпаўзае, каб пажывіцца душой чалавечай. Вядома, наш дзед у гэта не верыў, а быліцы ўсялякія пра нячысцікаў лічыў бабскімі забабонамі. Схапіў ён вуду ды напрасткі цераз агароды да возера падаўся.

Месца выбраў прыгожае, на пагорку, пад кустом алешніку. Расклаў свае прыстасаванні, пачапіў чарвяка ды закінуў далей ад берага. Сядзіць і любуецца наваколлем. Душа нарадавацца не можа, аж сэрца мацней біцца стала. На другім беразе поўня над лесам павісла, круглая, вялікая, нават большая за сонца, і свеціць ясна, відаць як днём. А ў небе зорачкі зіхацяць і ў воднай гладзі адлюстроўваюцца, быццам хто лямпачак маленькіх накруціў. Усю ноч бы тут сядзеў ды любаваўся! Ветрык хвалі гоніць павольна, а яны плёскаюцца ў цёмнай вадзе, нібы купаюцца! З боку вёскі адгалоскі песень, гармоніка ды дзявочага смеху даносяцца — любата. І вось зусім побач, дзесьці ў чароце, жабы свае спевы пачалі. Спачатку адна — гучна, доўга, на розны манер, а потым і сяброўкі далучыліся. І так у іх добра атрымліваецца, быццам па нотах! Для дзеда гэта кваканне лепшым за пошчакі салаўя было. Нічога больш прыемнага для сваёй душы і жадаць не трэба! Паслухаеш некалькі хвілін — і па сэрцы разліваецца цудоўная асалода, нервы адразу супакойваюцца, нават ціск у норму прыходзіць і адразу прага да жыцця з'яўляецца. Вось і цяпер сядзіць дзед ды пад спевы гэтыя пра жыццё разважае, вушы чароўнымі песнямі цешыць. А кваканне ўсё гучнейшае і гучнейшае ды такое неверагоднае і асаблівае, што, здаецца, гэткага ніколі і не чуў раней.

На душы ад яго спакой і адчуванне нейкага дзіўнага шчасця, быццам крылы за плячыма выраслі і вось-вось узляцець можна, калі паднатужыцца. Як у казцы якой, нават дрэвы і кусты ажылі і загайдалі сваімі галінкамі ў знак прывітання, а поўня на дзявочы твар падобная стала і лагодна ўсміхнулася. Спеў жа працягваецца і ўсё мілейшым сэрцу робіцца. І тут дзед зразумеў, што не кваканне гэта зусім, а музыка нейкая вельмі цудоўная, такая лагодная, што адарвацца нельга, здаецца, слухаў бы яе цэлае жыццё. Наваколле як зачараванае стала, ніводная травінка ад ветру не гайдаецца, ні адзін ліст не шамаціць — знямела даліна і напоўнілася цішынёй. Нават паветра цягучае, як мёд, пакратаць можна, а калі меў бы нож, то, мусіць, і адрэзаць кавалачак. Быццам не на сушы цяпер дзед, а ў падводным царстве, толькі што адзежа не мокрая. А самае галоўнае — няма страху ад гэтага дзіва, толькі спакой і задавальненне. Хоча дзед спужацца, закрычаць і ўцячы, а не можа. Цела быццам акамянела, ногі да зямлі прыраслі, рукі наогул, як не яго зрабіліся — нейкія чужыя і спруцянелыя. І раптам бязгучна, без адзінага ўсплёску з вады паказалася дзяўчына. Вельмі прыгожая тварам, з доўгімі валасамі, а на галаве — вянок з белых лілей. Ідзе яна па воднай гладзі насустрач, ціха, быццам лебедзь плыве. Сукенка на ёй белая, празрыстая, дзявочы стан бачны. Сама ўсміхаецца, а ў вачах нібы крыўда нейкая і боль. Вабіць яго да сябе рукой, а сама не спяшаецца, быццам падумаць дае. А потым, калі да берага не больш за метр засталося, з вуснаў яе дзіўны спеў пачуўся, ажно на душы так добра і святочна зрабілася, што нават самому спяваць хацелася. Голас гэты на звон срэбнага званочка падобны, такі ж меладычны і цудоўны. Глядзіць дзед, як красуня да яго набліжаецца, і разумее, што трэба драпака даваць, а сам нават зварухнуцца не можа. Тады сабраў ён усю сваю моц і волю ды як кіне вудай у прывід! Ад нечаканасці дзяўчына спынілася і змоўкла, а дзед хрысціцца пачаў ды словы з малітвы ўзгадваць. І раптам сіла ў яго невядома адкуль узялася, кінуўся ён бегчы ад вады далей, потым спыніўся і назад паглядзеў. Дзяўчына так і стаяла на тым месцы, дзе прыпынілася, і пазірала дакорліва на ўцекача. Было ў яе вачах штосьці сумнае і загадкавае, зусім не зразумелае яму, чалавеку. А праз хвіліну яе постаць знікла, растварылася, як і не было яе наогул, толькі кругі па вадзе ў розныя бакі пабеглі.

Вярнуўся дзед дахаты і спаць лёг хуценька ў ложак, быццам і не быў нідзе. Толькі праз некалькі гадоў прызнаўся і расказаў гэтую прыгоду. На рыбалку з таго дня хадзіць перастаў — як адрэзала.





# Васіль Макарэвіч

**нарадзіўся 15 ліпеня 1939 у вёсцы Купленка Крупскага раёна. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі, паэм, нарысаў, артыкулаў, зборніка сатыры і гумару «Даміно» (2005) і кнігі выбранага «Неба ў руках» (2012). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994) і Літаратурнай прэміі «Залаты купідон» (2012).**

## Аўтабіяграфічны дыптых

### 1. Ліпень 1944

Навокал ні хат, ні смалістых адрын.
Адно абсмылелае дымнае голле.
Ледзь помню, як фронт мяне з прыску адрыў
І ўстаў я па забарскі ў дымным вуголлі.

Не бачыў бяроз, ні зямлі навакол,
Хоць ранак цадзіўся з нябёс Ніягарай.
Тырчаў на пажарышчы я, бытта кол,
І вейкі звісалі брыжамі нагару.

Аблокі ці дым светла-летняга дня
Абклалі мяне не для нейкай забавы.
Чарнеў сярод іх я, нібы галаўня,
Заціснуўшы белую ўсмешку зубамі.

Туман акрываў папялішча, як флёр,
І поўз, русачубы, паволі пад танкі.
Ля гулкіх гармат мінамёт, як суфлёр,
Галёкаў, стараўся ім мінай падтакнуць.

Святую хвіліну ў душы зберагу
З кашуляю першай сваёй саматканай,
Калі з папялішча я вырваў нагу,
Якую вайна на той свет засмактала.

Рычаў, нібы звер, на прылессі пажар.
Зямлю абдавала спякотай і жарам.
Лам'ё галавешак з высокіх стажар
Злятала на дол і былое стажар'е.

Хаця і вайна перастала дыміць,
І раны старыя, здаецца, аднылі, —
Як лазня не прагла ад дыму адмыць,
Ніяк ад густой чарнаты не адмыла.

Я дзякую шчыра густому дажджу,
Што, рагі з аблічча змываючы поту,
Студзіў абвугленую ў прыску душу,
Ствалы скіраваўшы захмарных брандспойтаў.

Паветра плыло, бы гарэў плексіглас.
І, пэўна, мне нейкі зявака зайздросціў,
Што ў ліўня на дне я, нібы вадалаз,
Хадзіў ля кустоў, як сярод водаросцяў.

Фартуна нідзе не ляжыць на віду —
Яе ведзьмакі на той свет закапалі.
Калі я заходзіў знячэўку ў ваду,
Яна ад спякоты вакол закіпала.

Я шчасце, скажу, не лавіў на жыўца.
Прасіў дол адно: пад нагою пружыньця!
І, дзякаваць Богу, на дрэве жыцця
Малым чаранком і прырос, і прыжыўся!

## 2. Ліпень 2014

Стаяць лясы у дымным парыку.
Дня калдыбае фура параконная.
Дол парыцца, нібыта ў парніку.
Ледзь дыхае задуха парніковая.

Няўжо ў сусвеце мы жывём адны
І трызнім толькі боксам і карыдаю?
Таму і сталі падкрадацца дні
Спякоты парніковага перыяду.

Хоць далячыні насцеж расчыні,
Каб ахалодаў нават корч, як выкапень,
І ў летняй, нібы вар, гарачыні
Паўдзён сто раз перакіпеў і выкіпеў.

Зірні — наўкруг лясны архіпелаг
З пажарнай вышкай, вычасанай занава,
Ад звяг і браканьерства скрозь сасмаг
І, нібы звер, шырока пашчай зявае.

Скідаюць хвалі бліскавак луску.
Трымцяць стракозы ў пойме дырыжаблямі.
Рака нагрэбла пад сябе пяску,
Ляжыць на ім і ледзь варушыць жабрамі.

Асвер над студняй нізка звіс наўздзіў
З вядром кляновым, быццам бы з падойнікам.
І ў зруб, як глюгу, вочап усадзіў
Ды студзіць там, нібыта у лядоўніку.

А ў сажалках б'е вадзяны набат:
Са стогнам жабы ў бросневыя рэзгіны
З гразі малых зграбаюць жабянят
І пад уласны гвалт спраўляюць хрэсьбіны.

Па грудзі ў твані і сівы, як лунь,
Ды з пісягамі на спіне і знакамі,
Вось-вось на лапы ўзнімецца валун
І ўголас разам з жабамі заквакае.

Ступае дзень у чаўнаках бахіл.
Пад вокрыкі драздовы і пад сойчыны
Не сосны, а распяты небасхіл
Разцом маланкі наўскасы падсочаны.

А ў звонкім небе ветрыкі-вятры
Не знаюцца з трывогамі і стрэсамі.
Як сена, хмаркі сушаць угары,
Што рагатухай-раніцай растрэсены.

Нібыта балахон манашкі, пень
Чарнее, разасланы гожай ліпаю.
Ля небакраю, бы ярлык ад цэн,
Заранка вокам зіркае ды лыпае.

Магчыма, дзесь і ў бліскаўцы слязы,
Паверце, повязь маецца прычынная,
Што нават да нязначнай драбязы
Душой і сэрцам ты навек прычынены!





## Настасся Нарэйка

**нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў раённай газеце ў Маладзечне. Імкнецца пісаць так, каб чалавек, прачытаўшы твор, задумаўся: «А што б я зрабіў на месцы героя гэтага апавядання?» Асабліва шмат новых сюжэтаў узнікае пад грукат колаў цягніка, які вязе дадому.**

# Ні ўчора, ні сёння… ніколі

### 1

Іх не было…

Яўгенія Іванаўна адступіла назад, не паверыўшы вачам. І ў галаве праплылі, нібыта ў запаволенай здымцы, усе яе папярэднія дзеянні. Вось апускае ручку чамадана на калёсіках, вось вымае з сумкі ключ, вось уваходзіць у кватэру, машынальна кідае позірк на свой твар у люстэрку, вось уцягвае чамадан і замыкае дзверы. Пачынаючы з таго моманту, калі яна ўвайшла ў вялікі пакой, кінастужка ўспамінаў паляцела з хуткасцю святла. Раскіданыя рэчы… Перакуленае крэсла… Расчыненая насцеж шафа… І рэчы, рэчы паўсюдна…

Сэрца прапусціла ўдар. Яўгенія Іванаўна ўжо ведала, што ўбачыць на верхняй паліцы. Пустэчу…

Пяшчотнае вясновае сонца залівала разруху ў пакоі і маленькую пажылую жанчыну сваім неміласэрным святлом, ад якога карціна здавалася асабліва нерэальнай.

Пахаладнелі рукі. Нягледзячы на цеплыню яблыневага маю, Яўгенія Іванаўна адчувала зноў той забыты і незабыты адначасова пякельны мароз. Яна павярнула галаву і замест шпалераў у ружах і карункавых фіранак зноў убачыла чорныя ў трэшчынах сцены і правал замест акна. Усё вярнулася. Усё пачалося зноў.

Немаведама нашто яна вярнулася ў прыхожую і цяжка села на чамадан. Рукі дрыжалі. Вусны дрыжалі. І сэрца, да якога цяпер, у сямідзесяцігадовым узросце, яна пачала прыслухоўвацца асабліва ўважліва, зацята маўчала.

Трэба было заплакаць. Гэта лепшы паратунак. А яна не магла. Застыла.

Грукат у дзверы быў такім рэзкім і нечаканым, што Яўгенія Іванаўна здрыганулася, і ў той жа момант яе прарвала. Ці на палёгку ж?

Суседка ўвайшла без дазволу, гэта было з'явай звычайнай, і змоўкла на паўслове.

— Іванаўна?

Слёзы ліліся ракой. І не было сіл гаварыць нешта, не было сіл адказваць на безліч пытанняў, што сыпаліся, нібыта з рога, не было сіл працягнуць руку за шклянкай з сардэчнымі кроплямі.

— Што здарылася?

Яўгенія Іванаўна ўчапілася ў руку Валянціны Ігараўны і пацягнула ў пакой, дзе яны ўжо разам спыніліся перад вывернутай шафай.

— Іх… Іх… скралі! — голас зрываўся, нібыта яна доўга бегла насустрач ветру.

— Грошы?!

Пальцы Яўгеніі Іванаўны, што сціскалі локаць суседкі, імгненна выпусцілі яго.

— Не… — яна не ведала, што пасля гэтага гаварыць. — Медалі. За абарону Ленінграда ды іншыя. І скрыпку.

— Знайшла праз што бедаваць! — Валянціна Ігараўна зарагатала. — Якая з іх карысць? Асабліва з тваёй скрыпкі? Ты ж іграць не ўмееш!

— Я іграла… — ледзь чутна прамовіла Яўгенія Іванаўна, але суседка яе ўжо не слухала, кіруючы да дзвярэй.

— Потым зайду, калі супакоішся. Раскажаш, як там у санаторыі. Мо і кавалера прыдбала, — падміргнула і заспявала: — Мелі дзеўкі два талера дый купілі кавалера!

Смех. Стук дзвярэй.

— Як? — у Яўгеніі Іванаўны апусціліся рукі.

У пакоі стаяў пах сардэчных кропель.

## 2

Наступнай раніцай прыехаў Косця. Перад тым, як адчыніць яму дзверы, Яўгенія Іванаўна азірнулася на старанна прыбраны пакой, а потым паглядзела на сваё адлюстраванне. Твар бледны. Але яна заўсёды была бледнай. З маладых гадоў.

— Бабулечка! — Косця абняў яе, мусіўшы нахіліцца. — Папрыгажэла!

Ён паглядзеў у родныя блакітныя вочы і нечакана змоўк на паўслове.

«Здагадаўся!» — мільганула думка ў Яўгеніі Іванаўны, але ўнук хутка загаварыў ізноў.

— Ты даруй, што не сустрэў цябе.

— І думаць кінь! — яна засмяялася амаль шчыра. — Хадзем гарбату піць.

Ён сачыў за кожным яе рухам, як заўсёды. Як насыпае ў імбрык чорную гарбату, як ірве туды ж некалькі лісцікаў мяты, як залівае вадой… Глядзеў, як звычайна, але Яўгенія Іванаўна ўсё адно непакоілася. І не дарма.

— Распавядай.

Ён ведаў яе занадта добра. Не дзіва, калі ўлічыць, што яна вырасціла яго, пакуль бацькі-хірургі «жылі» на рабоце.

— У кватэры пабывалі злодзеі.

Ад нечаканасці Косця перавярнуў кубак з толькі што налітай гарбатай, не заўважыў, як гарачая вадкасць апаліла руку.

— Што вынеслі?

Ён абвёў позіркам маленькую ўтульную кухню.

— Медалі і скрыпку.

Новая хваля здзіўлення.

— Ваенныя медалі?

— За абарону Леніграда і ў памяць яго 250-годдзя.

— Га́ды! — слова вырвалася раней, чым ён паспеў яго злавіць. — Даруй, бабуля.

Яна машынальна кіўнула.

— Але… — ён задумліва паглядзеў ёй у вочы. — Скрыпка?

Яўгенія Іванаўна ўздыхнула:

— Відаць, давядзецца расказаць. Ты ведаеш, што я родам з Ленінграда. Ведаеш, што мяне не было ў ім падчас блакады — працавала медсястрой у шпіталі.

Косця нічога не гаварыў, і гэта было правільна.

— Ты ведаеш, хаця б з урокаў гісторыі, што ў жніўні 42-га ў горадзе вялікі сімфанічны аркестр Леніградскага камітэта выконваў Сёмую сімфонію Шастаковіча. І я таксама... Была адной з другіх скрыпак.

— Ты?

Ён не верыў, і яна не магла яго вінаваціць.

— Я ніколі не расказвала. Нават больш, я ніколі з таго жніўня не іграла. Але скрыпку берагла.

**3**

— Калі па мяне прыйшлі, я ляжала ў сваім жа шпіталі з прастрэленай нагой, якая амаль зажыла. «Воранава?» Я кіўнула. «Іграеце на скрыпцы?» — «Іграла…» — «Вы камандзіруецеся ў Ленінград для работы ў аркестры».

Я ехала дадому. І мне здавалася чамусьці, што вайна скончылася. Што мы перамаглі.

Уяўленне малявала самыя розныя карціны. Напэўна, таму рэальная сустрэча з Ленінградам пакінула ўва мне нешта сярэдняе паміж радасцю і віной. Горад быў той жа, горад жыў, помніў і вучыўся суіснаваць з мінулым, горад проста быў. А мяне для яго не было, я адчувала сябе тут бясконца чужой. Чула, што гаварылі яго голыя сцены, бачыла, як прарастала на клумбах капуста, удыхала пах жывой зямлі з прысмакам крыві. Ён перажыў усё, мой горад. А мяне ў цяжкую гадзіну з ім не было. Гэта разуменне збівала з ног. І я хавала твар, калі сутыкалася з людзьмі на вуліцах.

Мяне сустрэлі, некуды вялі, распытвалі пра раненне (прыпадала на левую нагу). Потым з'явілася яна. Арфістка з вытанчаным імем Ія, у яе я павінна была часова спыніцца. Мы ішлі ўдзвюх. І я баялася глядзець на яе тонкую, амаль празрыстую фігурку, асабліва ў твар, які складаўся, здавалася, з адных вялізных, такіх жа празрыстых вачэй.

Ія маўчала ўсю дарогу, а потым, калі мы спыніліся на парозе амаль напалову разбуранага дома, яна зірнула мне ў твар і прамовіла:

— Яшчэ невядома, каму з нас было лягчэй. Табе на фронце ці нам тут.

Ад удзячнасці з вачэй маіх бобам пасыпаліся слёзы.

— Ідзі.

І толькі нашмат пазней я ўспомніла, што яна сказала не «мне», а «нам»…

**4**

Наступнай раніцай мяне чакала новае выпрабаванне — трэба было схадзіць дадому, паглядзець, ці не засталася там нейкім цудам мая старая скрыпка. Пра тое, што і дома майго магло не быць, старалася не думаць.

Дзякуй Богу, будынак на чатыры паверхі захаваўся. На нягнуткіх нагах я паднялася на другі той самай лесвіцай, па якой некалі хутка збягала, спазняючыся на заняткі ў музычную школу. Цяпер я паднімалася павольна. І віною таму была зусім не хворая нага.

Дзверы. Дакрануцца да ручкі было так цяжка, нібыта прабегчы марафонскую дыстанцыю.

Я ведала, што ніхто не сустрэне мяне. І памылілася.

Дзверы зарыпелі. Я ўбачыла прадаўгаваты твар і пазнала: Ліза. Некалі яна апекавалася мною, нібыта старэйшая сястра. Колькі гадоў раздзяляюць нас? Пяць… Цяпер здавалася, што ўсе пяцьдзясят. Мы з Лізай часта гулялі «ў бальніцу». І потым на курсах медсясцёр я неаднаразова ўзгадвала яе.

— Жэня? Воранава? Ты?

Мы гаварылі і не маглі нагаварыцца, а потым Ліза адвяла мяне ў пакой — той самы, дзе прайшло маё дзяцінства, дзе я стала сіратой яшчэ да вайны.

Тут засталіся толькі сцены, падлога і столь. Ды пустая вачніца акна.

— Мы жылі побач ушасцёх. Каб цяплей, — яна нібыта саромелася таго, што гаварыла. — Прабач, але мы спалілі ўсё, што магло гарэць.

Усё ўнутры мяне заледзянела.

— Вось толькі…

Праз імгненне мне на рукі лягла мая скрыпка.

— Ты любіла яе.

Не хаваючы слёз, я загарнула анучу, у якую Ліза пяшчотна схавала мой шматпакутны інструмент. Каб не змерз… Гэта нагадвала чароўны сон.

Мы з сяброўкай абняліся.

**5**

Потым былі рэпетыцыі. Я нанова вучылася іграць, вярталася да смыка ад хірургічных інструментаў, якія падавала падчас аперацый, з якімі потым упраўлялася і сама.

Людзі, што ігралі побач, мала гаварылі. Магчыма, у іх проста было яшчэ недастаткова сіл. І я маўчала таксама, слухаючы толькі музыку, якая гаварыла іх галасамі. І шчасцю майму не было межаў, і страху майму не было назвы — я перажывала раз за разам тое, што перажылі яны, і разумела, што ніколі мне да канца не спазнаць…

У дзень прэм'еры Ія немаведама адкуль прынесла мне белую (як снег!) сукенку, нібыта падарунак з мінулага. Мы выйшлі на вуліцу разам. Ні пра што не гаварылі. Мы баяліся дыхаць, бо неслі ў сабе музыку, якой няма цаны.

Сваю партыю я ведала на памяць, Ія таксама.

— Ведаеш, я хвалююся! — нечакана з радасцю шапнула мне яна, калі я ўжо сядзела за пюпітрам.

І я зразумела, што любое пачуццё, асабліва мажорнае, было святам для людзей, бо яны думалі, што ніколі ўжо не здолеюць нешта адчуваць.

Мы ігралі. Я не зводзіла вачэй з дырыжора, апусціўшы іх толькі адзін раз, калі ў «тэме нашэсця» чырвонай ніткай праступіла трывога. Музыка нарадзіла слёзы…

Калі мы скончылі, у Вялікай зале філармоніі стала настолькі ціха, што, мне падалося, там не засталося ніводнай жывой душы. А потым выбух апладысментаў. Я літаральна аглухла ад іх, і ў сэрцы нарадзілася невымоўнае захапленне тымі людзьмі, што былі побач, змяшанае з пачуццём невыноснай віны.

## 6

Яўгенія Іванаўна скончыла і апусціла вочы.

Косця ўздыхнуў:

— Тваёй скрыпцы нямала гадоў...

— Як і мне. Мы выжылі разам.

Унук задумліва круціў у руках пусты кубак.

— Ведаю! — нечакана выпаліў ён і ўсміхнуўся. — Мы раскажам тваю гісторыю ў газеце, дзе я працую. Я запішу яе сам. Людзі прачытаюць, і скрыпка абавязкова вернецца, калі ў людзей, што ўкралі яе, яшчэ засталося сумленне.

— Не, — Яўгенія Іванаўна рашуча ўстала. — Даруй… Дзякуй, але не. Твая задумка цудоўная, але… мая гісторыя застанецца са мной.

— Бабуля…

— Ніякіх бабуль. Прабач, — яна пацалавала ўнука ў лоб. — Ужо позна. Пайду пасцялю табе.

Косця застаўся за сталом. Прыглушанае святло лямпы зрабіла яго твар зусім бледным.

Калі Яўгенія Іванаўна зноў з'явілася на кухні, ён здрыгануўся, нібыта прачнуўся.

— Прабач, Косцік.

— Чаму? — ён падняў стомленыя вочы з іскрынкамі слёз.

Замест адказу жанчына паклала перад унукам сшытак:

— Гэта мой дзённік. Больш нідзе і ніхто не прачытае маёй гісторыі. Бо яна не пра мяне, а пра іх. Хто ведае. Ці захацелі б яны расказваць самі. Мой смык не стаў мячом, Косцік…

## 7

*«Я з дзяцінства не хацела вучыцца іграць на скрыпцы, гэта было сумна, цяжка і нецікава.*

*Цяпер са страхам думаю пра тое, што было б, калі б мама не прымушала мяне хадзіць на заняткі.*

*Тады б мая скрыпка ляжала ў футляры, смык марыў бы аб тым, каб цалаваць яе струны, і яго мары засталіся б марамі.*

*Тады мая скрыпка не спарадзіла б нічога больш значнага за просценькую мелодыю.*

*Тады б мая скрыпка дарэмна мерзла разам з усімі ў Ленінградзе, якія прадзімалі наскрозь усе вятры свету, а, магчыма (страшна думаць!), яна магла б згарэць, каб на некалькі дзясяткаў хвілін сагрэць пустыя целы і ніколі не сагрэць душы. А душы ў іх былі. І быў Дух, які не зламаць ні ўчора, ні сёння… ніколі».*





Казімір Камейша

**нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна. Працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова. У адной з мініяцюр пісьменнік згадвае вясёлы выпадак з таго часу, калі ён працаваў у рэдакцыі часопіса «Маладосць».**

# Паміж кубкам і вуснамі

## У рытме электрычкі

У гады старэйшыя, калі я пабудаваў свой дачны домік паблізу Рудзенска, жыццё маё быццам весялейшым стала. З першымі веснавымі пеўнямі пакідаў горад, а на працу і з працы ездзіў толькі электрычкай. Гэта мне так спадабалася, што я нават забыўся пра ўласную машыну. Яна спакойна адпачывала пад вінаградавым дахам на лецішчы, эканомячы пры гэтым не толькі бензін, але і мае нервы. Прыйшоў такі час, што ва ўсім патрабавалася нейкая эканомія. А патрабаванні часу, як пераканаў сам час, трэба выконваць без пярэчанняў. Сэрца маё вельмі хутка прызвычаілася да новых умоў і нават пачало біцца ў рытме электрычкі. А які ж у яе рытм? Нейкі аднастайны жалезны ляскат, на які кладуцца любыя паэтавы радкі. Вось я прымружваю вочы, і колы мне пацешна выбіваюць:

Многа снегу — і хлеба многа, —
Так здавён наша мудрасць казала.
А снягі недзе спалі доўга.
Ды, здаецца, хлеба хапала.

А пасля — не было паратунку —
Снег завейны так пытлявала.
А стаіш ты з нялёгкай думкай:
Многа снегу, а хлеба мала.

Да гэтай жалезнай мелодыі ранішняй электрычкі ёсць зусім цёплы лірычны прыпеў. А гэта азначае, што табе трэба добрыя два кіламетры прайсціся лясістай сцяжынай уздоўж чыгуначнага палатна, калі гэта вясна ці лета, паслухаць птушыныя спевы, галасы рудзенскіх пеўняў ды будаўнічы грукат тутэйшых дачнікаў. У лясных палосах пры чыгунцы багата старых дубоў, бяроз, шмат грабу, трапляюцца сасна ды елка і дужа многа — цэлыя калючыя зараснікі — шыпшыны, якая цвіце ўсё лета і ледзь не да самага снегу лагодзіць

вочы сваімі ружовымі разлівамі. Улегцы, калі на плячы толькі паходная сумка з рукапісам ці часопісам для чытання ў вагоне, ідзецца і сапраўды, як спяваецца. А вось калі дачнік валачэ на сабе цяжкі заплечнік ды яшчэ рукі адцягваюць торбы, дык уся навакольная прыгажосць застаецца па-за ўвагай. І тут нічога не паправіш.

Ранішняя электрычка крыху не падобная на тую, вячэрнюю. У ёй больш свежасці, скразнякоў, яшчэ з учарашнім налётам гаманы, нават гумару. Тут абавязкова патрывожаць цябе нядрэмныя кантралёры. І абавязкова будуць кампаніі карцёжнікаў з пацёртымі картамі на такіх жа пацёртых валізках. Будзе і хамства з лузганнем семак на падлогу і клубамі цыгарэтнага дыму ў тамбуры. Не абыдзецца і без хуткаплынных заляцанняў, нейкіх дамашніх сварак ды разборак. У ранішніх электрычках і не думай што-небудзь, засяродзіўшыся, пачытаць — не дадуць. На ўсе галасы будуць тут спяваць і крычаць мабільнікі, трашчаць і шыпець вагонныя дынамікі. Скрозь будуць падсаджвацца, мітусіцца, забягаць і выбягаць…

У ранішніх летніх электрычках выгадваюць тыя, хто паспее прысесці злева, бо за першым жа ад Рудзенска прыпынкам, а гэта будзе Раўнаполле, сонца адразу пераскоквае на правы бок і пачынае няшчадна смаліць ды сляпіць вочы. А чытанню будуць перашкаджаць і дрэвы з прыдарожнай паласы, бо стракацяць яны ў вокнах так надакучліва, што, здаецца, нехта сее перад тваімі вачыма нейкую дзіўную сечку.

Я ўжо наперад ведаю, што мне падсунуць вагонныя забягайлы. Вось гэты высокі кожны раз прапаноўвае нейкія незвычайныя пластыры, якія хутка гояць раны і нават на целе непрыкметныя, ды і каштуюць зусім нямнога. А той, ніжэйшы, так разрэкламуе свой шкларэз, што адразу захочацца яго купіць. Штуковіна гэта лёгка кроіць шкло, нават керамічную плітку, што падмацоўваецца прыкладам. І нідзе больш, акрамя як у яго, такой рэчы не купіш.

Недзе каля Міханавіч забяжыць у вагон яшчэ адзін спрытнюга. Ён без ніякіх слоў раскідае на кожнай лавачцы нейкія брашуркі, самай рознай прыдумкі цацкі: глядзіце, выбірайце і купляйце! Потым ужо бяжыць з другога канца вагона і збірае сваё багацце. Нехта, глядзіш, разгавеецца і купіць. Ужо бліжэй да Мінска атакай на вагоны ідуць разносчыкі марозіва, тыя, хто можа прапанаваць вам самыя розныя смачныя «лёды», як кажуць мае вяскоўцы. «Лёды нікому не робяць шкоды» не толькі ў спёку — тады яны наогул нарасхоп, — а і ў холад, і ў мароз. Большасць чалавецтва любіць усё салодкае. А найбольш шумлівыя ў ранішніх электрычках людзі-кіёскі. Вось ідзе па вагоне, абцяжараная газетамі і часопісамі, ужо добра знаёмая жанчына і на ўсе лады расхвальвае «Камсамолку». Сама ўжо прабегла вачыма тое, што рэкламуе. Цікава прайсці за ёю і прасачыць, як набірае моц голас жанчыны. У кожным вагоне, здаецца, тое самае, але само сабой набягае і нешта новае. Далёка нашай прэсе да такога незвычайнага каментару! Галоўнае, што слухаюць і купляюць. А мне больш даспадобы мужчына ў сталым узросце, але ж які здольны на гумар. Ён ведае, чым можна ўразіць ранішняга, яшчэ заспанага чытача, і падкідвае ў аднастайную газетную страву сваёй мужыцкай солі. То жанчыну нейкую зачэпіць, то маладуху падколінкай раскатурхае, а то перавядзе размову на капрызы надвор'я. Нават ведае, чаму ўсё так адбываецца ў прыродзе. Тут адразу знойдзецца мноства нязгодных з ім. Мужчына пабяжыць у іншы вагон, а ў нашым, ужо разварушаным вуллі, да самага канцавога прыпынку будзе шумець дыспут. Кожны ж думае, што ён ведае больш за іншага і гэтым хочацца пахваліцца. Ну хто б дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос?!

У ранішняй электрычцы пацешаць вас яшчэ і музыкі. Забягуць у вагон з гармонікамі, гітарамі, з адной добра заспяванай мелодыяй. А як для раніцы, дык яна гучыць і надта све-

жа. Хлопцы ведаюць, як можна ў чалавека выціснуць чуллівую слязу, націскаюць часцей за ўсё на родную беларускую песню. А сціплы «ганарар» кідаюць у шапку, гэта ж так па-нашаму. Усё гэта мне чамусьці нагадвае нашых даўніх вясковых валачобнікаў. Тыя ў велікодную ноч спявалі пад кожным вясковым акном, кожнаму жыхару дома асабіста. А «ганарар» у выглядзе натуральнага прадукту — каўбасы, сала, яек, гарэлкі — складвалі ў мяшок. Яго насіў за плячыма казначэй — самы дужы хлопец у гурце. Абышоўшы дабравата вёсак, спыняліся валачобнікі ў адной пушчанскай хаце і гудзелі ды весяліліся, бывала, па тыдні. Думаю, і ў сённяшніх вагонных валачобнікаў пасляслоўе тое ж самае. Што тут лепшае прыдумаеш?!

Нагледзеўся, як узнікаюць у электрычках сутычкі і непаразуменні, як сустракаюць адных з кветкамі, а іншых праводзяць з міліцыяй. А гэтай раніцай камусьці з жанчын стала дрэнна: страціла прытомнасць. Як хутка прыціх занепакоены вагон! Тут жа загаманіў дынамік, пыталіся, ці ёсць сярод пасажыраў урач. Адразу з розных бакоў прыбеглі некалькі эскулапаў. І кожны пачаў шукаць у сваіх кішэнях ці сумках нейкія пігулкі. Яшчэ раз пераканаўся, як зблізвае і мірыць людзей нейкая бяда ці выпадак. А ў Мінску на вакзале электрычку чакала ўжо машына хуткай дапамогі.

Вячэрнія электрычкі бягуць заўсёды хутчэй за ранішнія. Думаю, што гэта мне толькі здавалася. І ранішнюю, і вячэрнюю могуць прыпыніць ці ў Мачулішчах, ці ў Міханавічах, і тут пачнецца праверка ўласных нерваў на цярплівасць. «Чаго стаім?», «Каго чакаем?», «І доўга будзем стаяць?» Ну хто, акрамя нас саміх, будзе слухаць і адказваць на гэтыя наіўныя пытанні? Стаім, бо прапускаем хуткі цягнік. А ён такі хуткі, што забірае добрыя паўгадзіны нашага часу. У вячэрніх электрычках шмат люду стомленага, злоснага, захмялелага. У вячэрніх ужо больш тых, хто падбівае да некага тыя самыя «кліны», спрабуе завязаць знаёмства ці «закадрыць». Гэта ўжо слоўца з маёй маладосці. У вячэрніх электрычках трэба трымацца далей ад вясёленькіх кампаній. Пры мне было і такое. Тая самая вясёленькая адчула раптам, што ў вагоне ёй занадта сумна. Пачаліся звычайныя прыставанні да дзяўчат. Тыя паціху пакідалі свае лаўкі, а то і збягалі ў іншыя вагоны. У руках хлопцаў раптам з'явілася вялікая пляшка з барматушным напоем, які яны пацягвалі па чарзе з рыльца. Прапанавалі пацягнуць незнаёмаму хлопцу. А той пачаў аднеквацца, замахаў рукамі. І тут прагучала даўно знаёмае: «Ты што, не паважаеш нас? Пі!.. Бачу, што можаш выпіць…» Хлопцу сорамна было ўцякаць на іншую лаўку, і ён пачаў успамінаць пра свой гонар. Яны не адступалі. Адзін узяў нават за грудкі: «А ты ведаеш, што ён купіў сёння мадэрновую куртку? — паказаў на сябра. — А ты ведаеш, што яе трэба замачыць, а то насіцца не будзе?» Во якія аргументы ў кампаніі!.. Хлопец, да якога прыстаюць, у вялікай разгубленасці. Можа, пацягнуць кроплю, каб не гнявіць кампанію? Пэўна, думаецца і такое. У вагоне вось-вось нешта выбухне. А як жа паводзіць сябе аўтар гэтай самай прыгадкі? У чытача абавязкова ўзнікне такое пытанне. І адказваць трэба сумленна. Сяджу, гляджу на ўсё, нейкая сіла падштурхоўвае: «Устань! Заступіся!» А другая стрымлівае: «Не лезь, бо і табе дадуць па носе. А можа, тут нейкі розыгрыш, лавушка?» Баязлівец заўсёды знойдзе аргумент, каб апраўдацца. Але калі нас многа і мы разам, тады мы смелыя. Зашумеў вагон, асабліва жаночая частка, сароміць пачалі. І бачу, вясёленькія пацішэлі. І пляшку нават схавалі. Па вагоне ішлі двое міліцыянтаў. Пачаў я часцей заўважаць іх у вячэрніх электрычках. А што рабіць? Вунь нядаўна футбольныя фанаты ўчынілі бойку. А ці мала самых розных фанатаў сёння ў свеце?! А мы ж часціна свету.

На доўгі час развіталіся мы з рудзенскай электрычкай у верасні 2011 года. Тады я вяртаўся з Мінска дзённым рэйсам. Вагоны былі амаль пустымі. Калі я выйшаў з вагона, вялізная чорная хмара зацягнула неба, набліжаўся дождж. Я прыбавіў кроку, амаль бег. І тут заспяваў сваю мелодыю мабільнік. Я прыклаў яго да вуха, жаночы голас яшчэ з першага слова насцярожыў. Адбылося тое, што мусіла адбыцца — памерла мама. З адной дарогі я адправіўся адразу ў іншую. Дождж, які неўзабаве пачаўся, ліў да самай раніцы. Мне здавалася, што ён бязлітасна змывае ўсё тое, што было дагэтуль пражыта і перадумана, пакідаючы на душы толькі адно — непапраўны і горкі смутак.

***

Зноў ні з таго ні з сяго вяртаюся да старых назваў маіх блізкіх пушчанскіх мясцін. «Ці мала ты пісаў пра гэта?» — скажа прыдзірлівы чытач. Пісаў, а як жа. А што рабіць, калі баліць? Мяняючы бязглузда назвы, мы адмяўляліся ад самой паэзіі. Як хораша гучала назва хутара маці Купалы — Няшота. І рыфмуецца з «пяшчотай», і гучыць нават пяшчотна. Мае аднагодкі прывыкалі да пазнейшай назвы — Ручын.

А вось славутае Дзяржынава, дзе меў шчасце нарадзіцца «жалезны» Фелікс Дзяржынскі, у далёкачассі называлася хутарам Аземблава. Для мяне асабіста ў гэтай назве чуецца музыка касцельных званоў. Самае лагоднае «л» папрасілася і ў імя Фелікс. Ах, як недаравальна памыліліся ў Першай мужчынскай Віленскай гімназіі, пакінуўшы на другі год першакласніка Фэльку! І мелі б мы ў яго асобе не гнеўнага рэвалюцыянера, а геніяльнага паэта. Усе задаткі на тое былі.

Сёння ў нашай літаратуры не хапае сама менш трох паэм пра «жалезнага Фелікса». Іх збіраліся напісаць Анатоль Вялюгін, Аркадзь Куляшоў і я, грэшны. Не напісалі. Так нам і трэба. Мяне асабіста адгаварыў Вялюгін, бо збіраўся пісаць сам. Старэйшых абодвух адгаварыў час.

## Бомба

Страшнымі былі цацкі нашага пасляваеннага дзяцінства. Амаль за кожнай хавалася калецтва ці смерць. Усе мы, пасляваенныя, шукалі сваіх прыгод. Адзін выпадак згадваецца мне даволі часта. Узнаўлю яго ў памяці — і аж скалане ад жаху. Ах, як хацелася нам, малечы, «пастраляць». І было з чаго. Вайна пагубляла па тутэйшых лясах нямала зброі. Мы смела ішлі на яе пошукі. А то і прыдумвалі сваю. Неяк я ды яшчэ двое маіх вясковых аднагодкаў адшукалі недзе ля плота з дзясятак вінтовачных патронаў. Былі яны яшчэ не зусім іржавыя, некаторыя нават добра паблісквалі. Захацелася пастраляць. Неабавязкова мець для гэтага вінтоўку. Пастраляць як звычайна, кінуўшы тыя патроны ў агонь і чакаць, калі яны на тваіх вачах пачнуць «пукаць», раскідваючы чырвоным дажджом гарачае вуголле, было ўжо нецікава. Хацелася нечага большага. І мы прыдумалі бомбу. Адшукалі дзесьці даўгаватую трубку ад веласіпеднай старой помпы. Глухі яе канец, дзе мелася дзірачка для паветра, засыпалі пяском. Потым ссыпалі туды з усіх гільз порах, добра заканапацілі яго паперай, астатнюю прастору запоўнілі густой сырой смалой з глінянага кубачка ад падсочкі. Другі канец трубкі нават закляпалі. Ужо добра разгарэлася вогнішча, месца якому выбралі ў амшары за выганам. З апошнім бярэмцам сушняку шпурнулі

ў агонь і «бомбу». А самі адбегліся, схаваліся за кусты, нават дыханне затаілі. Ужо і агонь даўно дагарэў, а выбуху ўсё няма. Калі чакаеш нечага незвычайнага, час замаруджваецца ўдвая, а то і ўтрая. Ужо і дымок, здаецца, перастаў выводзіць свае п'яныя выкрутасы. Пачынаем злавацца, дакараць адзін аднаго: «Не так трэба было рабіць. Толькі порах папсавалі…» Чакалі-чакалі ды і падскочылі на ногі, расчараваныя. Пайшлі да вогнішча — я наперадзе, а сябры — за мною. І калі да яго заставалася толькі паўкроку — бабахнула. Не так, каб і моцна. Нібы нехта сцебануў дубцом па галаве. Я схапіўся рукой за старую бацькаву шапку — апёкся аб нешта гарачае. Шпурнуў яе спалохана на зямлю. Толькі тады і ўбачыў, што яе разам з брылём напалову рассек гарачы струмень смалы. І тады я добра зразумеў, што мяне чакала, калі б не той брыль у шапцы. Шапка выратавала мае вочы. Як добра, што нашы пасляваенныя шапкі мелі такія брылі. Лоб мой усё ж крыху падсмаліла, але не так, каб надта балела. Страшнавата было прызнавацца бацьку, але трэба, бо вярнуўся дамоў без шапкі. «Добра, што з галавой!» — сумна казаў бацька, доўга вагаючыся, даставаць са штаноў папружку ці не.

## Дзве казкі

Пушчу я спазнаваў праз дзве казкі, якія напісала сама прырода, — летнюю і зімовую. Летняя грымела коламі старога воза па доўгай, падобнай на бясконцы шэры патранташ грэблі, якую праклалі яшчэ салдаты Першай сусветнай. Слабейшыя бёрны грэблі (а ў нас яе яшчэ называлі маставою) падгнілі, і на іх месцы ўтварыліся глыбокія выбоіны. І колы пустога воза на іх вытваралі такія скокі, што ажно шарэла ў вачах; калі ж воз быў добра нагружаны сенам, яго хістала, амаль куляла да самай зямлі, часта і куляўся ён разам з канём долу. А здарыцца такое — паўдня патраціш, каб выбрацца з той бяды. Такога ні сабе, ні каму іншаму не пажадаеш.

На ўскраінах маставой было аж чырвона ад малін, хапала суніц і чарніц. Урочышча Дрывезна, дзе сенавалі нашы навікоўцы, у летнія гарачыя дні аж гуло ад вос, чмялёў, ад самага living.

Гарачай сенакоснай працы хапала і днём, а часта недаробленае даводзілі да ладу ноччу. Я ўсёй душой палюбіў светлыя, месяцам і зорамі аззяныя пушчанскія ночы — з рассыпістай стракатлівай музыкай начных конікаў, з расянымі сцяжынамі, узбоч якіх пераміргваліся неонавымі агнямі светлячкі. Колькі разоў я спрабаваў схапіць рукамі тыя незвычайныя агеньчыкі, а яны ўсё выслізгвалі, тут жа гаслі, так ні разу і не даліся мне ў рукі. Толькі потым я зразумеў: светлячкі — гэта святое і няўлоўнае святло. Вачыма, калі хочаш, дзівіся, а рукамі не чапай!

Неяк бацька адправіўся праведаць свайго добрага знаёмага лесніка Грыгарцэвіча. Узяў з сабою і мяне. Хата лесніка стаяла пры самым беразе возера Кромань. Уразіла мяне тое, што тут вельмі па-свойску паводзілі сябе вужы, якіх я дужа баяўся. Яны спакойна смакталі малако з нейкіх гліняных чарапкоў разам з катамі і сабакам. Леснікова хата вокнамі глядзелася ў люстэрка Кромані. У возеры плюхаліся, выблісквалі жывымі дугамі, секлі блакіт шчупакі і ляшчы. Але рыбы кроманьскай я так і не пакаштаваў. Мы лавілі яе ў канавістай рачулцы Кроманцы, што паўнаводным ручаём выцякала з возера. Па цячэнні, у вузейшых месцах, ставілі брэдзень, а потым лёгкімі жардзінамі-колатамі абстуквалі ўсе карчы і карэнні, заганялі рыбу ў куль. Доўга пахадзіўшы, можна было злавіць добрае вядзерца жывога срэбра. Меншую рыбу выкідалі адразу ў рэчку. Вяскоўцы мае любілі толькі смажаную рыбу. Сваю першую юшку я пакаштаваў значна пазней і зусім не ў пушчы.

У другой, зімовай, казцы былі свае звабы і ўжо зусім іншыя фарбы. Зімой пушча нагадвае белы казачны храм, і ўсё ў ёй нібы ахутана самотным і дзіўным сном. Некалі гэту цішу маглі патрывожыць толькі сякера дрывасека ды санкі-роскіды, якія цягне заінелы конь з воблачкам пары над белай грывай. Сёння пушчу ўдоўж і ўпоперак прарэзалі гуллівыя дарогі, па якіх і днём і ноччу снуюць мігатлівыя легкавушкі. Зімовую казку можна чытаць на любой заснежанай паляне. Тысячы самых розных слядоў пішуцца за дзень на чыстым белым аркушы пушчанскай зімы. Азбука слядоў — самая загадкавая азбука ў свеце. Малыя пушчанцы, сыны паляўнічых і леснікоў, вучацца чытаць па ёй змалку. Яны ніколі не пераблытаюць след зайца і куніцы, лісы і казулі. Звяры часцей за ўсё і брыдуць да палян, там павінен быць абавязкова той стажок, дзе можна паласавацца і ласю, і казулі. Добра, калі чалавек сустракае ляснога госця не стрэльбай, а спагадлівым пачастункам. У зімовай пушчанскай казцы так і ёсць. Хоць бывае і інакш.

Я люблю снежныя зімы з гурбамі, з густой белай сцяной елак і сосен. Люблю зацяжныя і віхурыстыя завеі, калі чалавек не ідзе, а плыве ў белай снежнай прасторы. Усё гэта некалі было ў маім далёкім дзяцінстве, усяго гэтага не хапае мне сёння. Ужо даўно не зімаваў я ў вёсцы. На зіму штогод уцякаю ў цёплы горад. Там мае абедзве казкі пачуваюць сябе самотна. Я сам у гэтым і вінаваты.

***

З-пад кучаравістай зялёнай сцяны лесу дождж наступаў сівымі, туманна-густымі хвалямі, якія каціліся па зямлі і недзе перад самым акном, з якога я і назіраў за ім, рассыпаўся, святлеў. Дождж нібыта прасіўся ў хату, але я адчыніў дзверы і пайшоў яму насустрач. Нельга ж глядзець на ўсе зямныя цуды толькі праз шкліну акна.

***

А гэта ўжо з дамашніх цудаў. Гадзіннік, які не падаваў прыкмет жыцця больш як год, раніцой нечакана зацікаў, чым і здзівіў мой слых. Я доўга шукаў вачыма, хто гэта са мной дражніцца. А калі знайшоў, то зразумеў: тут, здаецца, са мной не жартуюць.

***

Беларусаў у свеце звыкліся бачыць блакітнавокімі. Часам і ў мяне пытаюцца, чаму гэта мне Бог пашкадаваў блакіту на вочы. Даводзіцца тлумачыць, што край наш не толькі азёр-

ны, але і лясны. Я з людзей лясных, таму і вочы ў мяне цёмныя з зелянкавым адлівам. І валасы такія ж. А душа, як мяркую сам, светлая.

***

Прыйшоў у мой пушчанскі амшарок ліпень-залатасей. Ён падняў угору мінулагоднае лісце і шчодра сыпануў на сонечных сугрэвах золатам лісічак. Хутка трэба чакаць і золатаздабытчыкаў. Гэтыя свайго не праспяць.

***

У адной з нататак Янкі Брыля прачытаў згадку з ужо даўнаватай юбілейнай вечарыны Міколы Аўрамчыка ў музеі Янкі Купалы: «Дзяўчына іграла на флейце… Сціпла адзетая, у клетчатай сукеначцы, відаць, з небагатай сям'і…» Быў і я на той вечарыне, чытаў свой верш, прысвечаны юбіляру. Усіх нас павяла тады за сабой цёплая мелодыя таленавітай дзяўчыны. А я згадаў іншае, непрыемнае для сябе. Гэта ўжо з пазнейшай, неафіцыйнай часткі. Адкаркоўваючы бутэльку з нейкім не надта моцным напоем, я няўзнак парэзаў палец. І так заструменіла з яго кроў, што і насоўка, скручаная ў некалькі столак, не спыняла крывацёку. Саромеючыся, хаваючы руку, падымаў за юбіляра чарку. Не ведаю, ці заўважыў хто маю збянтэжанасць. Але няёмкасць адчуваю яшчэ і сёння. Ды я зусім не пра гэта.

Шкада, што не памятаю імя той дзяўчыны і нічога не ведаю пра яе лёс.

***

Многія скардзяцца, што свет наш занадта цесны. Ну, калі ўжо ён цесны, то, што казаць тады пра нейкую маленечкую вёску?! Не ўлічыў я, малады, гэтага некалі. Таму сённяшнія маладыя вуснамі сваіх бабуль пацяшаюцца з маёй колішняй закаханасці ў пушчанскую красуню. Калі тое было, а вось сядзіць пад белым налівам гэткае сучаснае «мабільнае» дзяўчанё ды цілінькае: «Казала Альфрыда, як вы да гэтай Данусі на "Жыгулях" заскоквалі…»

Што зробіш, дзяўчынка, калі ў тыя гады скакалі не толькі мае ногі, але і колы.

***

Шмат у свеце ёсць невытлумачальнага. Але самыя невытлумачальныя — шчасце, душа, паэзія. Гэтых ніхто яшчэ не памацаў сваімі рукамі.

Але гавораць, крычаць, спяваюць усюды толькі пра іх.

***

Здзіўляцца толькі самому, сам-насам, для паэта надта мала, амаль — нічога. А вось прымусіць здзівіцца іншых — тут ужо ягоны абавязак.

У гэтай невялічкай — усяго чатыры чалавекі — кампаніі, што тоўпілася ў чаканні аўталаўкі, адзін трапіўся надта гаваркі. Траскатаў, як той кулямёт. Адразу згадаў і палітыку, і эканоміку, і нават нечую цешчу. Як ні дзіўна, але сказаў больш за ўсіх той, хто маўчаў.

***

Ля вясковай лавачкі бабуля маіх гадоў усё не можа супакоіць малечу-ўнука. Той што толькі не вырабляе, носіцца, нешта ломіць, а то і крычыць прарэзлівым голасам.

— Ціха, Стасік, а то паэт тут, ён усё бачыць!.. — і паказвае на мяне.

— Ну вось, — жартую я, — некалі міліцыянтамі палохалі малых, а цяпер і да паэтаў дайшлі. Не, дарагая бабуля, не будзем палохаць дзяцей паэтамі. Як жа яны чытаць тады будуць нас?..

***

Часам хочацца вядомага паэта перафразаваць наступным чынам: «Даже если звезды зажигают — это не всегда и нужно». Але іх запальваюць, бо гэта трэба самім зоркам. Сёння кожная слабавольтавая лямпачка ўяўляе сябе зоркай. Іх запальваюць, а яны не свецяць.

***

Калі заходзіла гаворка пра п’янства, гэты вясковы жартаўнік казаў так:

— Дурнею я па-рознаму. Калі п’ю нашу самагонку — дык дурны па-вясковаму. Калі добра вазьму «маскоўскай» — дык ужо дурны па-гарадскому.

Потым, крыху падумаўшы, рабіў выснову:

— Але ж як добра праз гарэлку відаць і дурноту чалавечую!..

Добра, калі толькі відаць, а нічога не вытварае.

## Асіннік

Не заўважыў, калі ён вырас, гэты няпрошаны асіннік, у якім ужо добра пачуваюць сябе і некалькі бяроз, і рабіна, і ядловец. Нейкі ўжо свой лясок-кудзерка вырастае за маім вясковым склепам. Кудзерка — для малодшых чытачоў, магчыма, слова незразумелае. Гэта кавалачак лесу ў полі. Усе кудзеркі — самасейкі. Мая таксама насеялася сама. Кудзерку адпіхнула ўбок сучасная шаша, але не намнога. На самым ускрайку, пры дарозе, сам па сабе з’явіўся куст белага бэзу, і мінулай вясной ужо хораша зацвіў, пайшлі ў рост некалькі дзічак-грушынак.

Самая галоўная мая бяроза пацягнулася двума стваламі з аднаго пня. Вымахалі ствалы пад неба. Вясной з яе цячэ самы салодкі ў пушчы сок. Але нядоўга — адразу пасля добрага сонечнага прыгрэву пачынаюць свае атакі мурашы-рудзікі. Гэтых не пераможаш, перамагаюць заўсёды яны. Самі ж асіны пачалі на вачах сохнуць. Далікатным і хваравітым убачылася мне гэтае не такое ўжо і частае ў пушчы дрэва. Магчыма, і шаша тут нейк вінавата — паддае сваёй свінцовай гары далікатнаму дрэву. Асіну я заўсёды любіў за настойлівы бляшаны пошум яе лісця. А як тут не будзеш шумець, калі на галлі тваім павесіўся сам Юда?!

У грыбныя гады пачалі пракідвацца ў маім асінніку чырвонагаловыя падасінавікі. Я заводзіў свой стары будзільнік, прачынаўся раней за суседчыных пеўняў і бег у той асіннік, каб ухапіць чырвонагаловы неруш, бо вяскоўцы ўжо пранюхалі пра маю грыбную дзялянку і не праміналі. Можа, хто зайздрослівым вокам і ўрок мой асіннік, бо грыбы некалькі гадоў запар у ім не з’яўляліся. Не спадзяваўся я знайсці іх і мінулым летам. Але неяк вярнуўся з лесу, а ў двары маім на лавачцы сядзіць наш вясковы хлопец Дзімка ды загадкава пасміхаецца: «Колькі, Вікенцьевіч, падасінавікаў падняў?» Паказваю яму кошык — а там адны лісічкі. І тады ён расхінае сваю поліэтыленавую торбачку, а ў ёй так хораша адсвечваюць маладзенькія чырвонагаловікі. «Во гэта, — кажа, — я падняў толькі што ў вас за склепам». І яшчэ прысароміў: «Ці варта было хадзіць за свет, каб сабраць жменю лісічак?» А ў яго доб-

ры дзясятак маладзенькіх падасінавікаў. Не адбярэш жа іх у хлопца. Гэта не маё, а ягонае грыбное шчасце.

Калі дарога была яшчэ малаезджаная, ды і машын у краіне было мала, асіннік аблюбавала тутэйшая моладзь. Летнія вечары былі напоўнены сакавітай гаманой, песнямі ды цыгарэтным дымам. Наязджалі з горада ўнукі і ўнучкі, збіраліся тут, у асінніку, з песнямі ды пляшкамі. Любіў і я пасядзець пад сваёй двухстволай бярозай, падсмажыць шашлык, паклікаць да агню некага з вяскоўцаў. А вясковыя ўсёведы казалі мне, што адна з гарадскіх красунь нават прыдбала ў тым асіннічку дачушку. Яны да таго ж ведаюць і бацьку той дачушкі. Але веры ў мяне няма, бо кожны раз называецца новае імя. Саміх усёведаў аднойчы напужалі стаўбцоўскія міліцыянты, калі тыя сярод белага дня разаслалі ў асінніку самы сімвалічны абрус ды пад пошум бляшанай лістоты падымалі чарку. А па дарозе якраз ехала тая самая міліцыя. Для іх гэта — як знаходка. Прыпыніліся. Не для таго, вядома, каб павітацца. А кожнаму адразу выпісалі штраф. Дакумент тут жа з'явіўся ў калгаснай канторы. І з палучак хлопцаў вылічылі за той грэх пэўную суму.

— Мы ж не на дарозе пілі, а пры дарозе! — скардзіўся мне потым адзін з іх.

— Побач жа лес, трэба было туды схавацца, — кажу яму.

— Ды хіба ты, Вікенцьевіч, свой асіннік за лес не лічыш? — жартаваў ён.

— Я ж вас не штрафаваў, — казаў я. — А ў міліцыянтаў, бачыш, разуменне лесу крыху іншае, чым у мяне ды ў вас.

Мінулым летам я выбраў час і паспрабаваў прыбраць падсохлыя асінкі.

Набраўся добры воз дроў. Вечарамі ў дварышчы весела патрэскваў агонь — на асінавым сушняку добра варыцца летняя вячэра.

Зімовым часам у гарадской кватэры часта скардзішся сам сабе на маруднасць часу. Гэта праз тое, што сумую па вёсцы, ды не магу ўсё без таго асінніку. Хай сабе ён там недзе і засыхае, а вось жа расце ў маіх вачах. А ў вачах ён заўсёды зялёны ды шумлівы.

***

Бязногі інвалід у кампаніі п'янаватых гарадскіх вісусаў. Яны, відаць, і пілі за ягоныя грошы. А потым паднялі яго ды пасадзілі ля прыдарожнай бярозы, а самі з крыкамі ды смехам давай ганяць па асфальце на яго самаробнай ролікавай калясцы. А ён сядзіць, малады яшчэ мужчына, пад той бярозай ды плача. Плачацца і мне, нават сёння, праз колькі ўжо гадоў, як тое ўбачылася.

***

Вялікі ды неабсяжны свет, што не можа ўмясціцца нават у чалавечых вачах, часта ўмяшчаецца на кончыку пісьменніцкага пяра.

***

Увесь жыццёвы сэнс у дакрананні ды трэнні:
кола аб дарогу — рух;
дрэва аб дрэва — агонь;
метал аб метал — звон;
лыжка аб пустую міску — голад і г.д.

***

Многія старыя прымаўкі гучаць добра і з новай папраўкай. Як, скажам, гэта:
«З мілым рай і ў гаражы».

***

Бурштын — гэта вочы майго продка-балта. Такімі яснымі вугалькамі глядзіць ён на мяне здалёку.

***

Згодна са сваёй пахвальбой, мужчына гэты выглядаў надта казановістым і апладніў сама меней паўсвету. А калі без пахвальбы, дык… Спадзяюся, маё «дык» вам зразумелае.

***

Апошнім часам шмат перакладаю, у тым ліку і таленавітага Ганада Чарказяна. «Ты што, і курдскую ведаеш?» — жартам падколваюць сябры. Адказваю так: «Канешне, ведаю. Дзякуючы рускаму падрадкоўніку я даўно стаўся паліглотам». А калі наконт самога перакладчыка з Баўтэрвека, то пераклалася такое:

Ён — перакладу майстра несумненна.
Перакладае з ходу ўсё, імгненна.
І жонку, найпрыгожанькую крошку,
Ён пераклаў сабе з чужога ложка.

***

У маладосці я часта вёў «нездаровы лад жыцця» і не скардзіўся на здароўе. У старасці я памяняў у лепшы бок свой лад жыцця — і ўсё часцей скарджуся на здароўе.

***

Смяецца той, хто смяецца апошнім? А хто тады ў нас плача? Той, хто смяецца першым? Як ні круці — падсцерагаюць адны пытальнікі.

***

Брат мой з вайсковай службы вярнуўся Іванам, хоць быў Янушам. І мне ад гэтага добра жартавалася:

— Прыехаў Іван — будзем гуляць на ўсю Іванаўскую. І яшчэ вершаванае:

Быў гэта той яшчэ Іван:
Як возьме сам, дык дасць і вам.

***

Фанабэрыя заўсёды патрабуе фанфарнасці, а тая ў сваю чаргу патрабуе заткнуць вушы.

***

Самыя самаахвярныя чытачы — гэта рэдактары. Службовы доўг змушае іх не захапляцца, а прыдзірацца, часам нават шукаць блох у чыстай бялізне. Праца рэдактара заўсёды

застаецца таямніцай, яна вядомая толькі самому аўтару. Пра яе мала дзе згадваюць. Яна спрадвеку няўдзячная. Яна…

Што такое яна, ведае толькі той, хто сам меў шчасце ці няшчасце працаваць на гэтай найадказнейшай пасадзе. Я працаваў, таму ведаю і разумею, што самым галоўным рэдактарам твора павінен быць сам аўтар. Але самы галоўны заўсёды бездапаможны перад сваімі памылкамі.

***

Хто ведае сапраўдную цану сяброўству? Няўжо той, хто часта прадае сяброў? Магчыма, у век рынкавых адносін гэта звычайная рэч.

***

Відаць, гэта кепска, калі для дзяцей пісьменннік піша паміж іншым. А такіх грэшнікаў у нас шмат. Некалі класік сказаў: «Для дзяцей трэба пісаць так, як і для дарослых, толькі крыху лепш». У нас і пішуць так, як для дарослых, але значна горш.

***

Пестуны ад літаратуры амаль заўсёды бываюць надта далёкімі ад жыцця, але дужа блізкімі да незаслужанай славы.

***

Моцны ў жаданні сваім часам перамагае таго, хто даўно звыкся купацца ў славе сваёй, хай і заслужанай. У зайздрасці арсеналы неабмежаваныя.

***

Сляпы ніколі не пойдзе туды, «куды вочы глядзяць», хоць яго часта туды з настойлівасцю адсылаюць відушчыя.

***

Падтрымкі свайму сумневу кожны схільны шукаць у вялікіх класікаў. А трэба смялей спасылацца на свой вопыт. Вядома, калі ён у цябе ёсць. А калі няма, дык яго не пазычыш і ў класікаў.

***

Калі чалавек у добрым настроі, з ім можа пажартаваць нават родная яблыня. Яблык з яе падае проста ў пусты бот, які адпачывае на траве разам з гаспадаром. Ну трэба ж так дакладна і — у халяву. Праўда, харошым нашым скураным словам «халява» сёння даймаюць тых, хто прагне дарэмніцы. Калі ўсё добра — і выпадковасці слугуюць настрою. І ў сумным, і ў радасным ёсць свой ланцуг падтрымкі.

***

Пасляваенныя зімы… Рана, з цёмрай, мы подбегам, але мітусліва кіруемся да школы ў залесную вёску Русакі. Маладыя хваінкі і елкі, кусты ядлоўцу ля дарогі, прыгнутыя цяжкім снегам, палохаюць выявай нейкіх звяроў, усё ў лесе нібы ахінулася адной белай суцэльнай коўдрай. Дарога не бойкая — добра, калі за тыдзень праслізнуць па ёй хоць адны

сані; бойкія мы самі, два разы на дзень топчам сваімі нагамі гэты ціхмяны бальшачок, балюча зайздросцячы тым, хто мае лыжы. Ах, як хораша бяжыць у вачах роўны блішчасты лыжны след з тонкім пасачкам пасярэдзіне! Халаднавата і цягуча паскрыпваюць на снезе гумовікі — снягуўцы, у якіх, каб не застудзіліся ногі, на тоўстыя ваўняныя шкарпэткі накручана яшчэ нейкай паперы. Ражончыкам ці пальцам пішуцца на снезе першыя закаханыя імёны: «Болесь плюс Марыся раўняецца любоў». З гэтай наіўнай арыфметыкі потым пачнецца і тое, больш сур'ёзнае. На ўроку з парты на парту таемна перадаецца ўдала сфастрыгаваная фотка-эратычка з выявай Яго і Яе ў ложку. Ах, як яно спакусліва глядзіцца яшчэ юнымі вачыма пад сарамлівыя смешыкі ды гарачую ружовінку на далікатных шчоках!

Пры самым лесе вялізнымі разгоністымі літарамі на снезе выведзена: «Казік, не пазніся!» А я зноў спазняюся. Я — Спазняльскі. Мне і тэпаць больш за астатніх, аж з Малых Навікоў. Гэтага чамусьці ніхто не разумее. Спазняльскім называе мяне наша матэматычка. Не зусім ладна ў маім дзённіку, каетах (сшытках). Іх старонкі прасквярваліся, аплывалі плямікамі тлушчу ад лусты, якую для падмацунку бралі з сабою ў школу, бо ні пра якія сталоўкі, тым больш школьныя, ніхто і не марыў у пасляваенныя гады. У школе былі два будынкі. Адзін сабралі з нейкай хаціны, што перавезлі з-пад Рубяжэвіч. Толькі нядаўна даведаўся, што гэта была хата маці Янкі Купалы Бянігны Іванаўны з хутара Няшота. Калі б тады мы ведалі, у якіх сценах вучымся! Пра тое не здагадваліся нават самі настаўнікі. У школе было столькі загадкавага, што дзіву даешся і сёння, праз дзясяткі гадоў пасля таго вучнёўства. Вунь і пра пісьменніка Івана Шамякіна я даведваюся не ад настаўніцы літаратуры, як таго патрабуе логіка, а чамусьці ад нашай круглатварай фізічкі. Яна з такім захапленнем расхвальвала нам «Глыбокую плынь», што ўсе адразу кінуліся на пошукі гэтай займальнай кнігі. Я апярэдзіў усіх — цётка мая Ванда працавала бібліятэкарам. Эх, каб і сёння ў нас палявалі за кнігай, як тады!.. Гэта вам не задачка, якую за пару цукерачак-падушачак можна спісаць у стараннай Ядвіські з Вялікіх Навікоў — кнігу не спішаш. Кнігу можна толькі прачытаць ды напісаць. Мoжа, упершыню я тады пазайздросціў тым, хто піша кнігі. А ў нас быў свой вялікі зямляк Якуб Колас. Пра яго ў пушчы хадзілі легенды. На тое яны і вялікія, што іх любяць легенды. Пакуль што ніхто з нашых, пушчанскіх, не адважваецца ўзяцца за пяро. Я неўзабаве адважуся.

Мне сумна сёння пісаць пра тое, як мы тады былі апрануты. Надта ж бедна: сціплае, картовае, з нечага старога пераніцаванае. Камусьці бацька прывёз з мінскай таўкучкі неданошаны кіцель афіцэра з малінавымі пятліцамі на каўняры і такою ж акантоўкаю на рукавах. Цяпер ён сярод нас самы важнецкі франт. А ў мяне для суцехі ў кішэні вельветавай футболкі ёсць губны гармонік, на якім яшчэ нядаўна граў немец-заваёўнік. Выводзіў, відаць, калісьці нейкія чужыя факстроты, а цяпер грае амаль тое ж самае, што і восеньскі вецер у пустым коміне. Але ж грае наша, а не чужое.

Пачынаецца нясмелае знаёмства з тытунем: спачатку праз стары мох у сцяне, а потым і праз недарагія папяросы «Бокс», якія можна купіць у краме за некалькі курыных яек, скрадзеных дома. Прадавец, дзядзька Антось, мой вясковы сусед, папярэджвае, каб толькі бацькі не ведалі. Дзе тут скажаш!..

Пачынаем пацiху зачэсваць угору валасы, намыльваць, нават залізваць іх пад шляхетнага «кавалера». Валасы ўпарцяцца, ім не хочацца «ўгору», бо і расчоскі яшчэ ніхто не мае, карыстаемся згрэблам з пальцаў правай рукі. Хочацца спадабацца нашым шчабятлівым дзяўчаткам, шчокі якіх ужо сарамліва просяць бурачковага румянцу.

Першая русацкая зіма выдалася суровай. Снегу намяло пад стрэхі, прыціснулі на ўсю моц маразы. Пашкадаваў мяне бацька і прыладкаваў кватарантам на хутар свайго лепшага сябра Дубіцкага. Сябры-навікоўцы мне зайздросцяць: пакуль яны брыдуць па замеценай дарозе да школы, я і падрамаць магу лішнюю хвіліну ў цёплым ложку. На русацкім хутары мы кватаравалі разам з маладым настаўнікам, які толькі скончыў педвучылішча. Выкладаць яму выпала батаніку, не самую кепскую з навук, да якой у мяне было асаблівае стаўленне. Здзіўляла тая стараннасць, з якой мой настаўнік рыхтаваўся да сваіх урокаў. Ён хадзіў па пакоі з кута ў кут і зубрыў на памяць тое, што заўтра павінен быў тлумачыць вучням. Гаварыў з картавінкай, і мне было цяжка стрымаць смех, калі ён шмат разоў паўтараў двухрадкоўе з падручніка, дзе ішла размова пра бярозавік. І сёння ягоным голасам прамаўляецца ў маёй памяці гэта:

Из перерубленой старой березы
Градом лилися последние слёзы.

Мне падабаўся гэты не надта ўпэўнены ў сабе хлопец, і на ўроках яго я стараўся быць засяроджаным і ўважлівым, што не падабалася маім шумлівым аднакласнікам. Ён рэдка выклікаў мяне да дошкі, бо ў гэтым і не было патрэбы — усе ягоныя ўрокі мы рыхтавалі на хутары разам.

Летам у школу прыслалі новага маладога дырэктара. Ён ішоў пешшу з Гуменаўшчыны і спыніўся ля нашай крайняй хаты. Нясмела адчыніў брамку, паставіў ля ганка чамадан. Мы з маці былі ў двары, стаяў запрэжаны конь — кудысьці збіраліся ехаць. Ветлівы малады чалавек прызнаўся, што за дарогу ён прытаміўся, папрасіў дазволу пакінуць свой цяжкаваты чамадан, ён за ім вернецца потым, як толькі ўладкуецца ў школе і адшукае месца кватаравання. Праз некалькі дзён бацька запрог каня і я сам адвёз той чамадан у Русакі. Добрую дырэктарскую падтрымку я адчуваў да заканчэння сямігодкі. Мне і сёння здаецца, што ён лепш за іншых адчуваў маю натуру, ведаў, што мяне вельмі лёгка пакрыўдзіць, і ўсяляк берагаў, заступаўся, але так, каб гэтага ніхто не заўважыў. Не думаю, што тут была нейкая ягоная тактыка. Верыцца, што чалавек гэты меў добрую спачувальную душу. Меў ён яшчэ цёплы барытоністы голас, вёў у нас урокі спеваў: дзякуючы яму мы хутка вывучылі нотную грамату, ведалі на памяць шмат песень. Песенную славу дырэктара дзялілі ажно тры сельсаветы. Яго канцэрты ў вяліканавікоўскім клубе не мелі сабе роўных, народ гатовы быў трымаць спевака на сцэне да самай раніцы. Ніводнаму сталічнаму артысту не шанцавала так, як шанцавала нашаму дырэктару.

Праз шмат гадоў на сваіх «Жыгулях» ехаў я ў вёску праведаць бацькоў. Старую рубяжэвіцкую дарогу рыхтавалі пад асфальт, ужо дабравата высыпалі жвірам, але яшчэ не ўтрамбавалі, і машыну на свежым насыпе вадзіла ўбакі. Недзе за Гнецькамі я ўбачыў падобнага «жыгулёўца». Ён разгублена бегаў вакол машыны, якая забуксавала пасярод дарогі. Я спыніўся, каб дапамагчы чалавеку, які ад здзіўлення развёў рукамі: «Казік? Вось дык сустрэча!..» Гэта быў ён, мой дырэктар. Я тут жа адкрыў багажнік, пачаў шукаць вяроўку для буксіру. «Не трэба! — замахаў ён рукамі. — Ты піхані мяне!» Я прыклаўся абедзвюма рукамі да багажніка, сабраў сілы, ён некалькі разоў газануў, і машына выскачыла. Мы так тады і не пагаварылі. Відаць, ці то ад разгубленасці, ці то ад радасці, што пастка адолена. Ужо здалёк

ён памахаў рукой, крыкнуў мне: «Дзякуй!» У машыне, як я заўважыў, сядзела ягоная жонка. Тая сустрэча зноў вярнула ў далёкія школьныя гады, дзе ўсё жыццёвае для мяне толькі пачынаецца, дзе шмат чаго я яшчэ не ведаю, пра многае не здагадваюся.

Чаго найбольш жадалася чалавеку пасля вайны? Ну, вядома ж, міру. Тая страшная, што апякла наш пушчанскі край сваім гарачым полымем, навучыла многаму. Вайна — гэта вялікая жыццёвая школа, і кожнаму чалавеку яна дае свае ўрокі. Вучыць яна, як з безвыходнага знаходзіць выхад, як перамагаць страх і голад, а яшчэ — асцярожнасці. Беражонага, відаць, беражэ не толькі Бог, але і ўласная асцярожнасць.

У пасляваенным свеце з'яўляецца шмат таго, што змушае палохацца новых войнаў. Успыхнула небяспечнае ў Карэі, пра якую толькі і гамоніць тутэйшы люд, і вось усе мае вяскоўцы адзін перад адным пабеглі ў Вялікія Навікі ў краму разбіраць запалкі, соль і газу — якраз тое, чаго ў вайну не хапала. Чалавек лёгка паддаецца паніцы, і гэта не прамінулі скарыстаць здагадлівыя гандляры. Тое, што псавалася на складах, тут жа размяталася ветрам панікі, і хітрыя вясковыя крамнікі задаволена паціралі рукі: усё распрадавалася за нейкія хвіліны. Незайздросны лёс быў і ў саміх лавачнікаў-крамнікаў. Рэдка хто з іх абмінуў падсудную лаву. «Заматаўся»… Сэнс гэтага крыўднага слова добра ведалі нават мы, хто толькі пачынаў хадзіць у школу. «Заматаўся» — гэта значыць растраціўся невядома як, а прасцей — украў. А «замотваліся» пераважна праз тутэйшае начальства, якое любіла «расслабіцца», адвесці душу, цяпер ужо вядома, за які кошт. «Стрэлачнікаў», «казлоў адпушчэння» шукаць доўга не даводзілася — яны былі ў тваіх руках.

Пасляваенны свет сам сабе пагражаў новай небяспекай. Ён яшчэ як след не адышоў ад даўгаватай і страшнай вайны, а яго паспелі ўжо напужаць найстрашнейшым атамам. У сонечныя дні ў пушчы можна было аслепнуць ад блішчаста-агністых срэбных істужак, што скруткамі віселі на дрэвах, кружыліся ў паветры, ляцелі пад ногі. Са школы мы вярталіся з цэлымі скруткамі тых блішчастых істужак, былі нават шчаслівыя ад тых знаходак, бо ўпрыгожвалі потым імі не толькі хатнія сцены, але і адзенне, школьныя сумкі. Мала хто з вяскоўцаў цяміў, што гэта за стужкі і хто іх сее. Нехта з дасведчаных потым растлумачыў, што так заходнія разведвальныя службы слепяць нашы радары, каб потым можна было з гарантыяй запускаць паветраныя шары над савецкай тэрыторыяй. Шары тыя густа рассейвалі наўсцяж пушчы антысавецкія лістоўкі. Тыя ўлёткі-лістоўкі былі добра аздоблены гумарам, здзеклівымі карыкатурамі на савецкіх кіраўнікоў.

Мікіта Хрушчоў на адной, памятаю, быў з нейкім гаечным ключом у руцэ, а нос іншага таксама быў падобны на гаечны ключ. Былі на тых пракламацыях партрэты заходнебеларускіх святароў, якіх пакрыўдзіла савецкая ўлада. Было яшчэ там шмат усялякай праўды і няпраўды, пра што ў нашым друку не пісалася. Гэтак заходнія службы спрабавалі дастукацца да сэрцаў тутэйшага люду. Прыязджаў пасланец з сельсавету і збіраў тыя лістоўкі, а ў крамы завозілі новыя мяхі солі, шэрай, грубаватай, сапраўды каменнай.

Напрыканцы жніўня 1952 года, якраз перад школьным вераснем, пушчу ўскалыхнула яшчэ адна нечаканасць: злавілі шпіёнаў. Учатырох ноччу яны прызямліліся ў самай глыбіні пушчы з парашутамі. Іх тут жа адлавілі ў Кляцішчы. Мы тады любілі чытаць усялякія прыдумкі пра тых самых шпіёнаў, а яны ў нас пад самым бокам сноўдалі ў пушчы. Прызнацца, ні шпіёнаў, ні страшных «лясных братоў» мы, малыя, не баяліся. Можа таму, што самі іх на свае вочы не бачылі. Больш за ўсё мы тады баяліся ваўкоў. Здарылася так, што адзін з на-

шых трапіў у кіпцюры ваўчыцы. Быў гэта ваенны пераростак, хлопец ужо ў сіле, ён цудам выжыў у тым небяспечным двубоі з драпежным зверам. Здарылася гэта ў піліпаўку, цёмнай раніцай, калі ён адзін ішоў праз лес да школы. Ваўчыца напала на яго знянацку. Добра, што хлопец паспеў ашчаперыць рукамі яе гарляк. А далей было доўгае супрацьстаянне. Можа, дапамаглі хлопцу леснікі, якія ў гэты час збіралі ў бочку смалу з сосен-падсочак. Можа, грымлівая бочка і змусіла ваўчыцу адпусціць сваю ахвяру. Пасля таго выпадку мы баяліся хадзіць у школу паасобку. А восеньскімі і зімовымі цёмнымі раніцамі свой лясны шлях падсвечвалі агнямі квачоў, добра змочаных саляркай ці газай. Здалёку гэта відовішча нагадвала нейкае своеасаблівае факельнае шэсце. У цемры яно нават уражвала. Ці мала было факельных шэсцяў у гісторыі свету!.. Часта разам з імі хадзілі вялікія жахі. Мы ж сваім толькі адганялі ад сябе прэч самае страшнае на сваім шляху.

Вёска паціху вымірае. А калі нешта неспакойнае і здараецца сёння ў свеце, ніхто не панікуе, не бяжыць у краму па соль і запалкі. Ды і няма каму. Нядаўна рамантаваў я ў старой бацькоўскай хаце варыўню-прыбудоўку. Выкідваў з яе ўсё старое, непатрэбнае. І тут пад старым кубельцам знайшоў падкову. Не, яе зусім не з'ела іржа, але наслаілася на ёй добрым, у таўшчыню самой падковы, рудым слоем. Слой той ужо нічым не здымеш, ён прыкіпеў да металу навечна. Сорамна прыбіваць яе да парога. Я проста пачапіў падкову на плот пры шуле. Гэта ж так наглыталася яна той пасляваеннай солі! Што і казаць, і майму, і бацькаваму шчасцю хапіла ў гэтым жыцці солі… Яшчэ як хапіла…

Я не памятаю ўжо, як скончылася тая дарога, як перайшла яна ў іншую лясную, яшчэ даўжэйшую. І мераць яе мне давядзецца аднаму. Але гэта ўжо будзе зусім далёка ад вайны, якой я зусім не ведаю, але ў якой я нарадзіўся.

***

Ён самы дужы з вясковых мужчын, што засталіся ў сіратлівай пушчанскай вёсачцы. Жыццё хутка адлічыць чалавеку дзевяць дзясяткаў, а ён, мядоватвары, пры густых валасах на галаве, хай сабе і сіваватых, раніцай заводзіць свой чырвоны «мацыклет», садзіць у каляску сухаватую кабеціну-жонку і з дымком ды маторным трэскам уцякае за вясковую гару, якая якраз за маёй хатай. Не кажа нікому — куды, бо якая каму да гэтага справа. Часта бачу яго трохколавік ля рубяжэвіцкага касцёла, а то яшчэ ля нейкай крамы. Маладзейшыя мне распавядалі:

— Ого, у яго ўсюды такі парадак. Нідзе ніякая гайка, ніякі цвік не прападзе. Усё — па скрынках.

А другі дадаваў:

— Ну, добра… А каму гэта ён усё пакіне?.. Не вечны ж…

— Ну табе ж не пакіне, — злаваўся першы. — Сын жа ёсць, дачка…

Моцным быў корань у ягоным генетычным дрэве. Сам добра памятаю, якія пласты падаваў ён угору, калі стагавалі ў пушчы сена. У сахароў гнуліся ды ламаліся доўгія чаранкі, а ён толькі сабе пасмейваўся ўнізе. Некалі мяне, малога, падсадзілі на адзін з тых стагоў, і я адразу адчуў, як закружылася галава ад вышыні. Стагі пушчанцы клалі роўныя з лесам.

Пашанцавала чалавеку і на той трохколавік чырвоны. Здаецца, бегаў ён яшчэ ў мае маладыя гады. Яму ўжо, напэўна, добрыя тры дзясяткі будзе. «Здароваму дык і тэхніка здаровая трапляецца», — падумалася неяк. І пацікавіўся я ў чалавека, як жа яму ўдалося так

зберагчы сваю тэхніку. Мой бацька некалі за куды меншы час з'ездзіў, «дабіў» ажно два матацыклы.

— А, братачка, — нібы апраўдваўся ён, — каб ты ведаў, колькі я на яго аддаў. Але ж люблю яго, бо паслухмяны, як пад мяне зроблены.

А да мяне ён заскочыў з просьбай: «Згубіў я, стары пень, недзе шлем. Не ведаю дзе. Некалі ж у вашага бацькі былі мацыклеты, дык, можа, дзе часам шлем заваляўся?»

Пайшоў я шукаць, усе куткі абмацаў, — няма нідзе ніякага шлема. Магчыма, бацька яшчэ пры жыцці аддаў некаму непатрэбную рэч. Ды, як памятаю, былі ажно тры тыя шлемы. Мне так хацелася яму дапамагчы, ажно адчуў сябе няёмка, што не здолеў гэтага зрабіць. Чаго добрага, яшчэ падумае, што пашкадаваў. Не купляць жа яму да матацыкла новы шлем. Але ў старой вёсцы, калі добра пашукаць, абавязкова знойдзеш. Недзе адшукаў і ён нейкі яйкападобны каптур, і я за яго шчыра парадаваўся.

А нядаўна ад тых жа маладзейшых пачуў, што ў дзядзькі Янака, так тут яго клічуць, — бяда. Пайшоў у склеп, а ён у яго глыбокі, саслізнуў з лесвіцы і моцна пабіўся. Ляжаў у бальніцы, ажно ў Бараўлянах. Выпісалі, цяпер дома. Сумна зрабілася ад гэтай весткі. Ужо збіраўся ісці ў проведы. Ажно вечарам чую — і вушам сваім не веру — знаёмае патрэскванне матора. Вызірнуў у акно: чырвоны трохколавік. Ад сэрца адлягло. Ну і малайчына дзядзька Янак! Трэба абавязкова ўзяць чарку за тваё здароўе!..

***

Гаражны кааператыў, да якога належу і я, не такі і малы. Якога толькі ў ім няма люду! Я маю на ўвазе прафесіі. З пісьменнікаў, здаецца, я адзін. Праўда, пра гэта ніхто не ведае. І вось нядаўна чую ад свайго маладога гаражнага начальніка нібыта і злосную фразу:

— Появился у нас тут один писатель!..

Я адразу навастрыў вуха, ужо і рот раскрыў, каб спытаць прозвішча. Думаю, пазнаёмлюся, весялей будзе, калі побач калега. Аднак… асекся своечасава. Тут жа да мяне дайшло, што начальнік меў на ўвазе нейкага кляўзніка.

І сумна стала — во каго сёння называюць нашым імем!..

***

Быў я некалі маладым, рыхтаваў сябе да вялікай будучыні. І аднойчы як падумаў — стала страшнавата. Праз дваццаць год, калі павінен будзе пабудавацца камунізм, які нам абяцаў шчодры Хрушчоў, па маёй прыкідцы мне будзе недзе пад сорак. Нешта нават уяўлялася, а ўсё астатняе было і надта цьмяным. Ну як гэта, скажам, мы — і бяздар, і пасрэдны, і геній — ды будзем сёрбаць з адной міскі?

***

Хутка чалавек зусім нічога не будзе рабіць сваімі рукамі. Націснуў на кнопку — і чакай: усё зробіцца само, без цябе. Ужо і цяпер чалавецтва не можа без той самай кнопкі. Дзе ні павярніся — усюды трэба на нешта націскаць. Бываюць і страшныя кнопкі. Гэта тыя, якія носяць у сваіх маленечкіх чамаданчыках прэзідэнты вялікіх краін. Гэта — ядзерныя кнопкі.

А жанчына мне пераказвае, як аднойчы на дачы яна ўзялася мыць нейкую бялізну. Пральнай машыны там няма, дык яна пакідала тую бялізну ў балейку, заліла вадой, пайшла

шукаць парашок. А тут падбягае маленькая ўнучка. Паглядзела на балейку ды давай яе абмацваць рукамі з усіх бакоў.

— Што гэта ты робіш, Кацярынка? — спытала жанчына.

— Ды кнопку шукаю. Як яно ўключаецца?

Хто-хто, а гэтыя, калі выраступь, напэўна, прыдумаюць такую кнопку, што нам і не снілася.

***

Можна нават хваліцца тым, што яшчэ табой не напісана. Так многія і робяць. Не памятаю толькі выпадку, каб хто потым здзівіў абяцаным. Тых, хто яшчэ не нарадзіўся, загадзя не хрысцяць.

***

Самым бязгрэшным быў я ўсяго дзевяць месяцаў, пакуль не з'явіўся на свет божы. А потым адразу ўсё і пачалося. І назад, у тую дзявятку, ужо не папросішся. Але я добра ведаю, калі не будзе маіх грахоў: толькі тады, калі не будзе мяне самога.

***

Два правілы для рук павінны быць абавязковымі: не падымаць іх угору і не апускаць уніз!..

***

Жыццё наша — гэта школа. Так сцвярджаў і я сам неаднойчы. Значыць, закончыў я на гэты час сямідзесяцігодку. А чаму навучыўся? Усё яшчэ невук.

***

У літаратуры ён працаваў, як робат. Але аднойчы «селі» тыя самыя батарэйкі. Пакуль мяняў іх — памянялася само жыццё.

***

Са школьных гадоў не цярплю ніякіх формул. А тут чамусьці сама сабой залезла ў нататнік формула бурштыну: $C_{10}H_{16}O$. Цікава, якая ж формула ў чалавечай слязы? Відаць, у кожнага свая.

## З вясёлых прыкмет пушчанца

У тыя мае, ужо і не надта маладыя гады, калі я меў сям'ю, уласную машыну і пісьменніцкі білет у кішэні, недзе ў сваім нутры, якога ніколі не бачыў і не хачу бачыць, найпрыемней было мне адчуваць сябе звычайным вясковым пастухом. Штомесячна выпадала шчасце прыязджаць у вёску і адпасваць статак кароў. Недзе ў Беларусі гэта называецца радоўкай, а ў нас — проста адпаска. Сэнс той жа. Пасвіць вясковы статак, які колькасцю сваёй тады адпавядаў карцёжнаму «ачку» (21 карова), аднаму мне, ужо дабравата гарадскому, было цяжкавата, і я браў на падмогу майго бывалага дзядзьку Кароліка. У дзядзькі быў вельмі разумны сабака (ужо і не памятаю яго мянушку. Добра яшчэ, што, прайшоўшы вялікую

школу бяспамяцтва, помню імя свайго дзядзькі). З пастухоўствам ён пасляхова спраўляўся за нас абодвух. Праўда, аднойчы перастараўся — пакінуў без хвастоў двух самых неўтаймоўных цялушак. Кажуць, чалавек чалавека часта разумее з паўслова — наш сабака (хоць ты пішы яго з вялікай літары) разумеў чалавека без слоў, нават без намёку, часам здагадваючыся, пра што той задумваецца. Ён без вагання адпускаў дзядзьку ў найбліжэйшую краму (5 кіламетраў адлегласці) па той самы напой, якога «душа жадае», а мне пакідаў забрадзелую казіную купіну, каб я, як казаў дзядзька, «нешта там крэмзаў». Даравіты сабака без ніякай там дыягностыкі заўсёды дакумекае, хто чаго варты і каго да чаго д'яблавай сілай цягне.

Дзядзька вяртаўся хутка. Яго ногі заўсёды мелі спрыт крылаў. Пакуль я падлічваў дваццаціаднагаловы статак, ён ужо быў ля нашага вогнішча. Я не здзіўляўся яго ўвішнасці. Была тут у нас свая нестыкоўка: наколькі ён быў спрытны на ногі — настолькі я быў марудны ў матэматыцы. А што ж вы хочаце, калі ваша настаўніца замест таго, каб вучыць рашаць складаныя задачкі, з агнём у вачах расхвальвае літаратурны твор?!

Статак на вялікай пашы лічыць даволі цяжка. Вакол — лес, які згушчаецца да пушчы. Каровы ўвесь час у руху, яны нібыта насміхаюцца, пакуль ты іх лічыш. Ды і матэматык я такі — нават пералічваючы свае маленькія грошы, выплачаныя (ледзьве не напісаў «выплаканыя») самымі беднымі купюрамі, пералічваю па некалькі разоў. І кожны раз атрымліваецца розная лічба. Так было і тут, з каровамі — адзін раз тое, другі раз — не тое. Але дзядзька скідае з сябе фрэнч, ставіць паміж купінамі пляшку і супакойвае: «Не бойся! Надыходзіць якраз той час, калі не мы пасём кароў, а пасуць яны нас!..»

Ён гладзіць і цалуе свайго разумнага сабаку, налівае дзве пластмасавыя чаркі, якія ніколі не б'юцца і не працякаюць, і прыгаворвае:

— Пакуль ёсць ён і ёсць нешта ў цябе ў кішэні — не прападзём!..

Дзядзька — гэта добры пушчанскі даведнік. У свой добра пацёрты ў кішэнях нататнік я сёе-тое запісваю з яго слоў, нешта бяру ў памяць. Размова даходзіць да народных прыкмет, і ён, наліваючы чарговую пластамасавічку, сур'ёзна кажа:

— Запісвай!..

Так яно і запісалася:

1. Калі з раніцы раз за разам круціцца калаўрот у калодзежы і звіняць вёдры — значыць, у хаце гоняць самагонку.

2. Калі мужчына лагодны, многа тупае і часта пытаецца ў жонкі: «Можа, прынесці яшчэ дроў?», хоць у хаце даўно выпалена, — значыць, адчувае нейкую сваю віну…

3. Калі днём і ноччу ў хаце гараць лямпачкі, а лічыльнік круціцца з натугай — значыць, у ім сядзіць жучок-злодзей.

4. Калі курыца часта кудахча, а гняздо, дзе яна нясецца, пустое — значыць, яе яйкі трэба шукаць на чужой патэльні.

5. Калі гаспадар ноччу часта варочаецца ў ложку — значыць, яму ў нечым не дагадзіла жонка.

6. Калі раніцой з неахвотай мыецца кот — трэба чакаць гасцей, але непажаданых.

7. Калі з раніцы гаспадыня напявае тое, чаго да гэтага яшчэ не спявала — значыць, вечарам будзе плакаць ад таго, ад чаго яшчэ не плакала.

8. Калі свярбіць у левым воку — на ім вырасце ячмень.

9. Калі свярбіць у правым воку — хутчэй за ўсё, яго чакае чыйсьці кулак.

10. Калі свярбіць язык — хутчэй бяжыце да калодзежа, дзе чэрпае ваду гаваркая суседка.

11. Калі падчас сняданку вы прыкусілі язык — значыць, ваш незычлівец брэша на вас ужо з самага ранку.

12. Калі ў печы часта страляюць вуглі — трэба чакаць нашэсця цыганоў.

13. Калі чалавек перамінаецца з нагі на нагу — значыць, хутка ён нечага папросіць.

14. Калі ў двары брэша сабака, а за плотам няма нікога чужога — значыць, брэша ён на вас…

Спіс гэты можна было б доўжыць, але тады дзядзькавы прыкметы было б праблематычна далучыць да народных. А дзядзька ж наш — чалавек з народа.

***

Люблю вясковыя лавачкі. Ужо лічаныя жыхары засталіся ў маёй маленькай старой вёсцы, а лавачкі на вуліцы пры доме яшчэ стаяць. На іх за адзін вечар прабягаюць не толькі ўсе дзённыя навіны, але часам і цэлыя стагоддзі.

…На вечаровай лавачцы ў цёткі Фэльці зноў гудзе размова, і тут часам пачуеш больш, чым вычытаеш, выгледзіш, выслухаеш у сродках масавай інфармацыі. Мы — людзі лясныя і гаворым толькі пра лес, у які цяпер, летам, «навастрыліся» ўсе гарадскія колы. Гэта ў нас, у паэтаў, у лес заглядаюць, «як у храм». Цяпер у лес едуць, як у тую краму. Тут даюць усё самае смачнае, і даюць «за бясплатна». На вечаровай лавачцы ў цёткі Фэльці ў маіх Навіках мы бядуем пра тое, што зніклі з нашай пушчы сарокі. Неяк нязвыкла без гэтых хітруняў выглядае пушча. Мала стала ў лесе дзеразы, якая некалі так пяшчотна вілася ля ног грыбніка, абвівала ў хаце абразы і партрэты блізкіх і родных. У лесе шмат чаго, што даўно просіцца ў Чырвоную кнігу.

Цётка Фэльця не ведае слова «прагрэс» і ўсё новае, нікчэмнае, вытлумачвае людской нядбайнасцю. І правільна, як мне здаецца, вытлумачвае.

Я вясковец, які ўвесь свой лепшы час пражыў у камянічным горадзе, пачуваюся сёння так, быццам і не выязджаў ніколі адсюль, а праседзеў усе свае вечары на цётчынай лавачцы. З лесам я кожны дзень. І штораніцы думаю, што сёння я ў ім буду самы першы госць. Аднак не, хоць устаў яшчэ да Фэльцінага пеўня, хтосьці і мяне апярэдзіў. Хаджу штодзённа аднымі і тымі ж кругамі, па шмат разоў кручуся вакол адных і тых жа ствалоў, тапчу адзін і той жа мох. І гэткім жа манерам рухаюцца мае думкі. І што ж бачу ў ім, грыбным ды ягадным, лясным храме? Бачу ўсюды смецце: асабліва шмат яго ля дарогі, найбольш — каля той «галоўнай вярсты», па якой едуць з горада. Ляжыць, упакаванае ў мяшкі, а то і ўроссып.

Не ведаю, што я зрабіў бы з тымі паскуднікамі (а як іх інакш назавеш?), калі б злавіў іх з багажнікам смецця!..

«Шкадую, што я не ляснік, не мне перададзена стрэльба», — выгукнуў некалі Аляксей Пысін. Пайшоў бы ў леснікі і я. Ды сёння позна ўжо. Не тыя ногі для такой адказнай пасады.

Дык што ж рабіць з тымі, хто прыязджае ў пушчу са смеццем? Караць? Здымаць порткі ды — крапівою? Можа, нейкія камеры відэафіксацыі на дрэвы чапляць? Не надта лашчыць слых гэтае слова — камеры… Пачакай, кажу я сабе, каб змагацца з нейкім злом, трэба ведаць яго прычыны. А чаго гэта яны вязуць тое смецце за сотні вёрст у вёскі? Ды таму, відаць, што няма куды яго падзець там, у горадзе. Не прадумана ў нас яшчэ ўсё як след з тым

самым сметнікам. Вось і вясковец нясе свой друз найперш куды? У лес, пад тую ж яліну. Там — не відаць.

Трэба думаць, шукаць і пачынаць, відаць, з таго, каб на яго халера, сметніка.

Сумнаватай бывае гамонка на вечаровай лаўцы ў цёткі Фэльці. Але вунь ідзе на ферму яе начны вартаўнік Лёнік. Здаецца, сёння і не пад чаркай. Гэты зараз выкіне нешта вясёлае. Гумар ратуе тутэйшы люд.

А ў леснікі я ўсё-ткі пайшоў бы!..

***

Мы рыхтаваліся да саракагоддзя часопіса «Маладосць». 1993 год быў не лепшым, каб адзначаць нейкія юбілеі. Але знайшліся спонсары для падтрымкі свята, і толькі не было грошай на запрашальны білет. І вось адзін з аўтараў бярэцца дапамагчы з друкаваннем. У мяне і сёння захоўваецца тое сціплае запрашэнне з добра адціснутым сінім васільком уверсе. Гляджу на яго — і згадваю тыя вясёлыя заходы, без якіх не было б таго білета.

Перад гэтым у рэдакцыі мы прыкінулі няхітры макет запрашэння і падаліся з Алесем Камароўскім, нашым адказным сакратаром, у выдавецтва. Выдавецкі дырэктар быў заняты, прымаў нейкага наведвальніка, і мы чакалі сваёй чаргі ў прыёмнай.

— А вы хто будзеце і з якім інтарэсам? — пацікавілася сімпатычная, з гарэзлівымі вачыма сакратарка, што нешта марудліва адбівала на машынцы. І тут Алесь вельмі паспяхова скарыстаўся наборам сваіх даўніх жартаў.

— А мы прыехалі на рэспубліканскі конкурс пастухоў і даяраў, — скорагаворкай адказваў мой сябра. Нідзе нічога ўсмешлівага нават не прамільгнула на ягоным твары. Гэта быў артыстычны, даўно адпрацаваны прыём. Мяне нават не пакрыўдзіла тое, што мне ў гэтым розыгрышы адводзілася роля пастуха. Дояр, як лічыў ён, нехта больш паважаны ад пастуха. А па-сучаснаму, па-новаму, дояраў ужо называлі аператарамі даення. Во як!.. А пастух — ён і ёсць пастух. Яго сяброўка — пуга, а сябра — сабака. Хай сабе будзе і так, падумаў я, абы спектакль удаўся.

— Прыехалі мы са Стаўбцоўшчыны, з радзімы Коласа. Так і калгас наш называецца, — працягвае Алесь. — А старшыня наш, таварыш Каробка, выпраўляючы сюды, сказаў: «Едзьце! Каб без першага месца не вярталіся!» Гэтая казёншчына зусім не згладжвае сябравага гумару. Бачу, што прыгажуня прымае ўсё за чыстую манету. Да таго ж пачынае распавядаць пра сваё. Яна толькі нядаўна была з мужам у Галандыі. «І каб вы ведалі, — кажа нам, — якая там увага каровам. У кожнай рагулі на шыі свой званочак, кожны званочак спявае сваім голасам, а пастух гэтыя галасы добра ведае, — кідае яна позірк у мой бок. — А лугі там такія кваяцістыя, а…»

Тут Камароўскі яе перабівае і пачынае расхвальваць свае наднёманскія мясціны.

— А каб вы бачылі, якая прыгажосць у нас каля Нёмана!.. І, скажу вам, каровы нашы нічым не горшыя ад тых галяндэрак. Мы вось цвёрда трымаем першае месца па рэспубліцы і з тым жа намерам завіталі на гэты конкурс.

Тут прыгажуня нам пахвалілася, што яны з мужам набылі новую машыну, кіруе ёю толькі яна. Мы і запрашаем яе ў нашы мясціны. І яна згаджаецца.

— Толькі ж без мужа прыязджайце! — просіць Алесь.

— Хто ж гэта ў лес едзе са сваім паленам?! — жартуе жанчына.

І тут расчыняюцца дырэктарскія дзверы, і начальнік запрашае нас у свой кабінет. Там доўга не затрымаліся. Дырэктар некаму патэлефанаваў, даў указанне, і мы развіталіся. Зачыняючы дзверы, яшчэ раз пакланіліся сакратарцы, і толькі нас там бачылі.

Праз некалькі дзён запрашэнне было аддрукавана, і пра гэта па тэлефоне нам паведаміла сакратарка. У голасе яе адчуваўся не толькі афіцыйны тон, але і жалезны халадок.

— А цяпер, паважаныя дояр і пастух, — змяніўся раптам яе голас, і я з небяспекай сунуў слухаўку пад вуха Алесю Камароўскаму. Усё самае злоснае пасыпалася ў яго вушы. Я сачыў, як мяняецца твар у сябра, і шэптам падказваў:

— Хораша запрасі яе на вечарыну!.. І папярэдзь, каб «без свайго палена»!..

Яна пагадзілася, але сказала, што «палена» усё-ткі будзе.

На вечарыне наша запрошаная, як мне здалося, пачувала сябе шчаслівай. Нават прызналася, што жарт наш ёй спадабаўся. Завітала яна на свята сапраўды не адна. Але гэта ўжо яе сакрэт. А вечарына ўдалася.

І мы засталіся добрымі знаёмымі.

***

Нельга ў адзін прыхват чытаць шмат паэзіі. Гэта не проза, дзе, ухапіўшыся за хлясцік героя, можна бегчы ўслед за ім, часам нават пераганяючы яго. Атруціцца можна і мёдам, калі хапіць яго лішнюю лыжку.

Многа паэзіі чытаць дазваляецца толькі рэдактару.

***

Вытыркачыкі-лісічкі, што жоўтымі галоўкамі выбліснулі з-пад леташняга лісця, часам і застаюцца на ўзроўні свайго выбліску, не растуць, быццам іх сурочылі. Часта так бывае і з паэтычнай моладдзю. У літаратуры яны і застаюцца толькі вытыркачыкамі.

***

Незадоўга да смерці старая мая мама спытала ў мяне:

— Ты ўсё там яшчэ робіш?

— Ага, у холдзінгу, — адказваю.

— Ты што, сынок, не трэба ў холадзе. Ты ж ужо немалады. Шукай што цяплейшае…

Я паслухаўся і знайшоў гэта цяплейшае. Яно — у роднай мамінай хаце.

Цяпер і грэюся там. І цяплей, чым там, нідзе не бывае.

***

У старых сваіх паперах адшукаў і гэты цікавы канверт. Тады, у ліпені 1980 года, пісаў мне з Ялты ў Кактэбель мой старэйшы сябра Мікола Татур. Не памятаю ўжо, што было ў самім лісце, а дадатак да яго (P. S.) захаваўся на канверце. Напэўна, захацелася падзяліцца з маладзейшым сваёй самотай. Канверт ужо быў заклеены, дык і вырашыў не хаваць ад людзей свайго сакрэтнага. Уяўляю, колькі вачэй прачытала гэты беларускі тэкст: «Крыху сумна першы дзень. Сустрэў адну знаёмую — Пашкевічыху, ды і тая заўтра едзе. 3-га ліпеня прыязджае Юрэвічыха з Юрэвічам — увесь Дом творчасці ажывіцца. А там, глядзіш, з новым заездам, можа, і мне пашанцуе крыху раскатурхацца, або растатуркацца. Надзеі не трачу… М. Т.»

Можа, і сумна было чалавеку, калі пісаліся гэтыя радкі, але як весела яны сёння прачыталіся!..

***

Ёсць сны, якія памятаюцца ўсё жыццё, бо само жыццё праз гады іх спраўджвае. І сны гэтыя не абавязкова страшныя.

***

Гэты чалавек (бясспрэчна, з талентам) так і застаўся дзесьці на паэтычным захвосці. Аднак спадзеўкі падаваў добрыя. У Каралішчавічах на семінары, куды ён прыехаў дзесяцікласнікам, мы хвалілі яго не толькі за нейкія радкі, але і за бойкі, зусім не вясковы характар. Неяк у вялікім пакоі Каралішчавіцкага Дома на першым паверсе мы гуртам падымалі чарку, налілі і яму. Чарка не пайшла (ці пайшла, ды з пырскамі вярнулася), і яму зрабілася перад намі няёмка.

— Я не ўмею піць, — ціха прамовіў ён, — але абяцаю ўсім, што абавязкова навучуся.

Рассмяшыў ён тады нас. Але навучыўся ўсё-ткі. Хай бы і не даваў ніякай клятвы. Бо браў на грудзі хлопец, а потым ужо і мужчына, мінаючы ватэрлінію.

***

Як можна назіраць за хірургічнай аперацыяй на сэрцы? Вядома ж, з заміраннем сэрца, а яшчэ з трывожнай думкай, каб хаця яно не спынілася

***

Не дрэва выбірае птушку, а птушка — дрэва. Але ўзаемазгода тут ёсць. Яна ідзе ад самой прыроды.

***

Маладыя… Смешным, а то і страшным бывае іх юнацкі максімалізм. Да кожнага з вялікіх у іх свае прэтэнзіі: і да Купалы, і да Коласа і да… А каб дазволіў Бог сесці сваім месцам на іх месцы?.. Паглядзеў бы я, што б яны заспявалі!.. І ці заспявалі б?.. Хутчэй — заплакалі б…

Тры высноўкі: той, хто нічога не шукае і знаходзіць — шчаслівы; той, хто настойліва шукае і знаходзіць — працаўнік; той, хто не жадае шукаць і не шукае — гультай.

***

Што тут казаць пра чалавека, калі і кату хочацца ўвагі. Круціцца ён, мітусіцца вакол цябе, а калі бачыць, што ўвагу ты аддаў нейкім «балванам» у тэлевізары, пойдзе сумна да падаконня, будзе доўга шэра-белай лапкай церці свой твар, нібы жагнаючыся, а потым яшчэ доўга праз прыжмур паглядаць на цябе ды так, крыўдуючы, і засне. І шкада яго, мной пакрыўджанага. Трэба выключаць тэлевізар!..

***

Ранняя вясна, што яшчэ не паспела ўбрацца ў маладую траву і пер'е, даймае ўсімі звычкамі зімы, з холадам ды прымаразкамі… Хораша адчуваць яе праз халодны глыток бярозавіку, палахлівы блакіт першых пралесак ды сумны шоргат пад нагамі леташняга лісця. Усё гэта даўно знаёмае, спрадвечнае, але з новым маладым здзіўленнем.

***

Выйшаў з машыны, глыбока ўдыхнуў светлай тутэйшай чысціні, на ўвесь вымах развёў рукі:

— Вось ты, мая родная, пракавечная, птушкамі закалыханая цар-пушча!.. Якраз пад маю душу і твае лепшыя настроі!..



**Эдгар Алан По**

# Чорны кот

Вельмі страшэннае, але ў той жа час і вельмі звычайнае апавяданне я хацеў бы напісаць. Я не чакаю і не патрабую вашай веры ў яго. Безумоўна, я быў бы вар'ятам, калі б хацеў гэтага, асабліва ўлічваючы, што мае ўласныя пачуцці не прымаюць маіх тлумачэнняў. А я не вар'ят, і словы мае — дакладна не выдумка. Але заўтра я памру, і сёння хацеў бы адвесці душу. Маё галоўнае жаданне — дакладна, коратка і без тлумачэнняў распавесці вам пра шэраг падзей, якія здарыліся ў маёй сям'і. Гэтыя падзеі мелі жахлівае, пакутлівае і разбуральнае ўздзеянне на мяне. Аднак я не спрабую патлумачыць іх. Для мяне яны выглядалі сапраўдным жахам — шмат каму яны пададуцца хутчэй мудрагелістымі, чым жахлівымі. Пасля, мабыць, знойдзецца нейкі розум, які прывядзе мае фантазіі да чагосьці агульнага, розум больш спакойны, лагічны і менш узбудлівы за мой, розум, які распазнае ў гэтых абставінах, пра якія распавядаю я са страхам, усяго толькі паслядоўнасць звычайных прычын і вынікаў.

З дзяцінства я меў паслухмяны і мяккі нораў. Пяшчотнасць майго характару была такой заўважнай, што сябры часта кпілі з мяне. Асабліва я любіў жывёл, і бацькі песцілі мяне вялізнай колькасцю маленькіх сяброў. З імі я праводзіў большасць свайго часу, і для мяне было вялікім шчасцем іх карміць і лашчыць. Гэтая асаблівасць характару расла разам са мной, і ў сталым узросце я знайшоў у ёй адну з галоўных крыніц асалоды. Тым, хто калі-небудзь прывязваўся да вернага і разумнага сабакі, я наўрад ці мушу апісваць радасць, якую ад гэтага атрымліваеш. Нешта ёсць у бескарыслівай і самаадданай любові жывёлы, якая ідзе адразу ў сэрца таго, хто меў неаднаразовую магчымасць адчуць вартае жалю сяброўства і нязначнасць вернасці слабога чалавека. Я рана ажаніўся і быў рады знайсці ў сваёй жонцы падобныя схільнасці. Бачачы маю неабыякавасць да хатніх жывёл, яна не губляла магчымасці знайсці для мяне найбольш мілыя экзэмпляры. Мы мелі птушак, залатых рыбак, добрага сабаку, трусікаў, маленькую малпачку і ката.

Апошні быў незвычайна вялізным і прыгожым стварэннем, цалкам чорным і неверагодна разумным. Кажучы пра яго кемлівасць, жонка, якая была крыху прымхлівай, неаднойчы прыгадвала даўняе павер'е, што ўсе чорныя коткі — абернутыя ведзьмы. Не тое, каб яна ставілася да гэтага вельмі сур'ёзна, але ўзгадаць пра гэта можна менавіта цяпер.

Плутон, так звалі ката, быў маім любімцам і сябрам. Я сам гадаваў яго, а ён суправаджаў мяне па доме. Часам было цяжка ўтрымаць Плутона, каб ён не хадзіў за мной па вуліцы.

Такое сяброўства доўжылася паміж намі некалькі гадоў, падчас якіх мой характар (пад уздзеяннем д'ябла нястрымнасці), хаця мне і сорамна прызнавацца ў гэтым, перажыў сур'ёзныя змены ў горшы бок. Дзень за днём я станавіўся ўсё больш панурым, нястрыма-

ным, няўважлівым да пачуццяў тых, хто побач. Я дазваляў сабе гаварыць з жонкай грубым тонам. Нават дайшоў да таго, што падняў на яе руку. Жывёлы, вядома, адчулі змены ў маім характары. Я не толькі закінуў іх, але і пачаў блага абыходзіцца з імі. Адносна Плутона, праўда, я захоўваў дастатковую ўвагу, каб стрымліваць сябе ад нядобрых дзеянняў супраць яго. Але нічога не замінала мне пакрыўдзіць трусаў, малпу і нават сабаку, калі выпадкова ці жадаючы пабачыць мяне, яны з'яўляліся на маім шляху. Але хвароба ўсё болей прагрэсіравала, бо з алкаголем мала якая немач можа параўнацца, і цяпер нават Плутон (які састарэў і стаў лёгка раздражняцца) пачаў адчуваць уплыў майго хворага нораву.

Неяк вечарам, калі я моцна п'яны вярнуўся дадому, мне падалося, што кот пазбягае мяне. Я схапіў яго, а ён, спужаўшыся маёй грубасці, злёгку кусnуў мяне за руку. У той жа час мяне апанавала раз'юшанасць д'ябла. Я не пазнаваў больш сябе. Мая душа быццам пакінула мяне, і я ўспыхнуў ад зларадства, падмацаванай джынам. Я вынуў з камізэлькі сцізорык, схапіў беднае стварэнне за шыю і выразаў яму адно вока! Я чырванею, успыхваю, пачынаю трэсціся ўсім целам, апісваючы тую клятую жорсткасць.

Калі раніцай вярнуўся здаровы сэнс (бо праспаўся пасля начных буянстваў), я адчуў сумесь жаху і раскаяння за здзейсненае злачынства, але пачуццё было лёгкім і ледзь заўважным, а душа мая заставалася некранутай. Я зноў кінуўся ў крайнасць і хутка патапіў у віне ўсе ўспаміны пра гэты ўчынак.

Тым часам кот павольна папраўляўся. Вачніца была парожняя, і гэта сапраўды страшэннае відовішча, але ён ужо не пакутаваў ад болю. Ён, як звычайна, хадзіў па хаце, але, чаго можна было чакаць, моцна палохаўся, калі бачыў мяне, і ўцякаў. Маё сэрца яшчэ не зусім скамянела, і спачатку я вельмі хваляваўся, бачучы, што істота, якая калісьці так моцна мяне любіла, зараз адкрыта ненавідзіць. Але гэта пачуццё хутка змянілася раздражненнем. І пасля, як сімвал майго незваротнага падзення, ува мне абудзілася вычварэнства. Філосафы не звяртаюць на яго ўвагі. Але я ўпэўненны да глыбіні душы, што вычварэнства з'ўляецца адной з прымітыўных уласцівасцей чалавечай натуры — неад'емным першародным пачуццём, якое вызначае прыроду чалавека. Хто сотні разоў не рабіў нешта паскуднае ці недарэчнае толькі таму, што ведаў: яму гэта рабіць забаронена? Ці не маем мы, насуперак усім развагам, моцнага жадання парушыць закон толькі таму, што гэта закон? І, як я казаў, гэтае пачуццё распуснасці ці вычварэнства абудзілася ўва мне як спадарожнік майго канчатковага падзення. Гэта было неспасцігальнае імкненне душы кроіць саму сябе — прыносіць боль сваёй асабістай прыродзе, рабіць зло толькі дзеля самога зла, — якое прымусіла мяне завяршыць здзекі над няшчаснай жывёлай. Аднойчы раніцай я з халодным сэрцам накінуў яму на шыю пятлю і павесіў на дрэве; павесіў, хоць слёзы цяклі з вачэй, а сэрца разрывалася ад горкага раскаяння; павесіў, бо ведаў, што ён мяне любіў і ніколі не жадаў пакрыўдзіць; павесіў, бо ведаў: так я раблю грэх — смяротны грэх, што пашле маю бессмяротную душу ў такое страшэннае месца, да якога, калі б гэта было магчыма, не дацягнецца нават бязмежная ласка Уселітасцівага і Усекараючага Бога.

Ноччу пасля таго, як лютая справа была зроблена, я прачнуўся ад крыкаў. Полаг майго ложка палаў. Увесь дом гарэў. Я, мая жонка і наш слуга ледзьве выратаваліся з полымя. Усё было разбурана. Уся мая маёмасць знікла ў агні, я быў ахоплены роспаччу.

Не буду маладушна звязваць трагедыю і маё зверства логікай прычыны і выніку. Я жадаю толькі ўзнавіць чарговасць падзей і не ўпусціць ніводнай дэталі. У той жа дзень я вярнуўся да пажарышча. Усе сцены, акрамя адной, абрушыліся. Гэта была сцяна, якая стая-

ла амаль што ў цэнтры дома і да якой прымыкала ўзгалоўе майго ложака. Тынк тут, што самае дзіўнае, не патрэскаўся ад агню — я тлумачыў гэта тым, што сцяну затынкавалі нядаўна. Каля яе сабралася шмат людзей, і амаль усе яны з вялікай скрупулёзнасцю і цікавасцю разглядалі адно месца. Выгукі: «Дзіўна!», «як гэта?» і іншыя падобныя да іх прыцягнулі маю ўвагу. Я наблізіўся і ўбачыў вялізную выяву ката на белай паверхні тынку. Дакладнасць сапраўды ўражвала. На шыі ката была вяроўка.

Як толькі ўбачыў гэты прывід (не мог назваць яго інакш), я адчуў моцны страх і здзіўленне. Але з часам спакой пачаў прыходзіць да мяне. Я памятаў, што павесіў ката ў садзе каля хаты. Калі пачаўся пажар, там адразу сабраўся народ і хто-небудзь з іх, магчыма, зрэзаў вяроўку і закінуў ката ў акно, у мой пакой. Напэўна, каб пабудзіць мяне. Калі іншыя сцены падалі, яны ўціснулі ахвяру маёй бязлітаснасці ў свежы тынк, на якім ад жару і дыму засталася выява.

Хоць я і супакоіў, калі не сумленне, дык розум дэталёвым тлумачэннем надзвычайнай з'явы, яна ўсё роўна зрабіла на мяне глыбокае ўражанне. На працягу некалькіх месяцаў я не мог пазбавіцца ад думак пра здань ката. І ў гэты час да мяне вярнулася далёкае пачуццё, падобнае — толькі падобнае — да раскаяння. Я так далёка зайшоў, што пачаў шукаць у брудных прытонах, дзе быў частым госцем, такога ж чорнага ката, каб замяніць ім майго былога гадаванца.

Аднойчы ноччу, калі сядзеў, напалову страціўшы прытомнасць, у надта далёкай ад паняцця прыстойнасці карчме, маю ўвагу прыцягнуў нейкі чорны прадмет, які ляжаў на вялікай бочцы джыну ці рому, што складалі асноўную мэблю залы. Некалькі хвілін я неадрыўна глядзеў на верх гэтай бочкі, не разумеючы, як не заўважыў яго раней. Я падышоў і дакрануўся да прадмета. Гэта быў чорны кот, такі ж вялікі, як і Плутон, падобны да яго як дзве кроплі вады, калі б не адно: у Плутона не было ніводнай белай шарсцінкі, а гэты кот меў вялікую, невыразнай формы пляму на грудзях.

Я дакрануўся да яго, ён падхапіўся, гучна завуркатаў, пацёрся аб маю руку і быў відавочна ўсцешаны маёй увагай. Гэта была акурат тая самая істота, якую я шукаў! Я адразу ж прапанаваў уладальніку карчмы прадаць мне ката, але гэты чалавек не прэтэндаваў на яго, больш за тое — не бачыў яго раней і нічога пра яго не ведаў.

Я доўга лашчыў ката, і калі сабраўся ісці дадому, ён захацеў суправаджаць мяне. Канешне, я дазволіў кату зрабіць гэта, зрэдку нахіляўся да яго і трохі пагладжваў. У хаце ён хутка да ўсяго прызвычаіўся і адразу стаў любімцам маёй жонкі.

Што да мяне, я хутка пачаў адчуваць да яго непрыязнасць, якая ішла аднекуль знутры. Я не ведаю як ці чаму гэта адбывалася, але яго відавочная любоў абарочвалася для мяне агідай і раздражненнем. Паступова гэтыя пачуцці ператварыліся ў лютую нянавісць. Я ўсяляк стараўся абмінаць гадаванца. Пачуццё сораму і ўспамін пра маё былое злачынства не дазвалялі мне бязлітасна абысціся з ім. Прайшло некалькі тыдняў, а я ніводнага разу не ўдарыў яго, нават пальцам не дакрануўся, але паціху пачаў глядзець на яго з такой агідай, што кожны раз ад адной толькі яго прысутнасці мне даводзілася ўцякаць, як ад чумы.

Што больш за ўсё злавала мяне — гэта, безумоўна, адкрыццё, якое я зрабіў раніцай, калі прынёс яго дадому. Выявілася, што ён, як і Плутон, быў пазбаўлены аднаго вока. Тым не менш, ад гэтага ён стаў яшчэ больш любы маёй жонцы, якая, як я ўжо казаў, захавала тое пачуццё чалавечнасці, што некалі было адметнай рысай майго характару і крыніцай многіх маіх простых і чыстых задавальненняў.

Але, чым больш павялічвалася мая антыпатыя да ката, тым больш ён прывязваўся да мяне. Ён усюды хадзіў за мной, ды яшчэ з такой упартасцю, што нават цяжка ўявіць. Кожны раз, калі я садзіўся ў крэсла, яму абавязкова трэба было забіцца пад яго ці ўскочыць мне на калені і ахінуць мяне сваімі агіднымі ласкамі. І кожны раз, калі я ўставаў, ён блытаўся пад нагамі так, што я ледзь не падаў, або чапляўся сваімі доўгімі і вострымі кіпцюрамі за адзежу і гэтак узлазіў мне на грудзі. У такія хвіліны я хацеў звесці яго са свету адным ударам, але нешта стрымлівала мяне. Безумоўна, я яшчэ памятаў пра сваё мінулае злачынства, але справа была ў іншым — дазвольце мне адразу прызнацца — тое быў сапраўдны жах перад гэтым зверам.

Насамрэч, я не баяўся нейкага фізічнага зла, але ніяк не магу вызначыць тое пачуццё больш дакладна. Мне сорамна прызнаць — так, нават цяпер у гэтай турме мне сорамна прызнаць, — што жах, які ўсяляла ў мяне пачвара, дайшоў да крайнасці, калі я паглядзеў на ката больш уважліва. Жонка шмат разоў звяртала маю ўвагу на белую пляму на яго поўсці, пра якую я ўжо казаў і якая з'яўлялася адзіным адрозненнем паміж гэтым зверам і тым, якога я знішчыў. Чытач, напэўна, узгадае, што гэтая пляма спачатку была зусім не выразнай, а потым крок за крокам пачала прымаць абрыс, які будзе яшчэ вельмі доўгі час займаць мой розум, бо гэта ўжо падобна на неверагодную бязглуздзіцу. Не магу без здрыгу назваць тое, на што стала падобна пляма (праз яе я і ненавідзеў яго, баяўся і, калі б толькі пасмеў, то адразу ж забіў бы) — гэта была жудасная выява, брыдкая і змярцвелая; то была ШЫБЕНІЦА — ох, гэтае змрочнае і крывавае ўвасабленне ЖУДАСЦІ і ЗЛАЧЫНСТВА, ПАКУТАЎ і СМЕРЦІ!

Цяпер я сапраўды быў самым няшчасным смяротным на Зямлі. І каб гэты нікчэмны звер — падобны да свайго папярэдніка, над якім я ўчыніў расправу, — прыносіў мне, чалавеку, створанаму па выяве і падабенстве Усявышняга, такія нясцерпныя пакуты! Я навекі страціў спакой! Удзень агіднае стварэнне не пакідала мяне ні на хвіліну, а ноччу кожную гадзіну я прачынаўся ад пякельных сноў і адчуваў велізарную вагу гэтай пачвары на грудзях і пякучае дыханне на твары — увасабленне майго начнога кашмару, якога не было ніякіх сіл скінуць з сябе, бо да канца маіх дзён ён будзе пахаваны ў маім сэрцы!

Усе гэтыя пакуты выціснулі з маёй душы рэшткі дабрыні. У маёй галаве цяпер жылі толькі злосныя думкі — самыя д'ябальскія думкі ў свеце. Мая звычайная хмурнасць змянілася нянавісцю да ўсяго існага, да цэлага чалавецтва; а больш за ўсіх пакутавала ад маіх раптоўных выбухаў гневу, якім я так часта і так сляпа аддаваўся, мая пакорлівая жонка — на жаль, самая цярплівая з усіх маіх пакутнікаў.

Аднойчы дзеля нейкай гаспадарчай справы мы разам спусціліся ў сутарэнне старога будынка, які стаў нашым прытулкам пасля пажару. Кот увязаўся за мной і ледзь не збіў з ног, чым страшэнна разлютаваў. Узняўшы сякеру і забыўшыся пра страх, што дагэтуль сунімаў мяне, я накіраваў на жывёлу такі ўдар, які, без сумневу, павінен быў стаць для яе апошнім, калі б трапіў туды, куды я цэліў. Аднак жонка спыніла мяне. Раз'юшаны яшчэ больш заступніцтвам, я вырваўся і рассек яе галаву сякерай. Яна адразу павалілася.

Учыніўшы гэта паскуднае забойства, я адразу ж задумаўся, куды схаваць цела. Я ведаў, што ні ўдзень, ні ўноч мне не выпадзе вынесці яго без рызыкі, што суседзі мяне заўважаць. Усялякія думкі прыходзілі мне ў галаву. Спачатку я думаў пасячы труп на дробныя кавалкі. Затым вырашыў зарыць яго ў сутарэнні. Потым мне падалося, што лепей будзе кінуць яго ў калодзеж ці пакласці ў скрыню і разам з іншымі даручэннямі загадаць паш-

тальёну вынесці. Напрыканцы я знайшоў спосаб, які цалкам задаволіў мяне. Я вырашыў замураваць цела, як калісьці ў Сярэднявеччы манахі замуроўвалі сваіх ахвяр.

Сутарэнне як мага лепей пасавала для гэтай мэты. Муроўка была даволі хісткай, а тынкоўка з-за вільгаці яшчэ не паспела зацвярдзець. Да таго ж у адным з муроў быў выступ, дзе некалі знаходзілася штосьці накшталт коміну ці каміну, але пазней было закладзена цэглай і патынкавана. Я не сумняваўся, што ў мяне без вялікіх намаганняў атрымаецца выцягнуць адтуль цэглу, схаваць труп і зноў закласці дзірку так, каб ніводнае прыдзірлівае вока нічога не заўважыла.

І мае чаканні спраўдзіліся. Я ўзяў манціроўку і з лёгкасцю выцягнуў цэглу, акуратна прыхіліў труп да ўнутранай сцяны, замацаваў яго там і заклаў цэглай нанова, як і было раней. Здабыўшы з усімі перасцярогамі вапну, пясок і пакулле, я падрыхтаваў тынкоўку, якая зусім не адрознівалася ад старой, і рупліва прыняўся за працу. І калі скончыў, застаўся надта задаволены вынікам. Сцяна выглядала так, быццам яе і не чапалі. Уважліва прыбраўшы ўсё смецце, я азірнуўся навокал і з трыумфам пераможцы адзначыў, што ўсе мае намаганні не прайшлі дарэмна.

Наступным крокам было адшукаць пачвару, вінаватую ва ўсіх няшчасцях, бо я нарэшце надумаў яе забіць. Калі б знайшоў ката тады, лёс яго быў бы вырашаны. Але падавалася, што перапалоханая маёй бязлітаснасцю, разумная жывёліна лічыла за лепшае трымацца ад мяне падалей. Немагчыма выказаць тую палёгку, якую я адчуў, калі ненавісная пачвара знікла з маіх вачэй. Не з'явіўся кот і ноччу — гэта была адзіная ноч з часу яго гасцявання, калі я спаў моцна і спакойна, нават нягледзячы на цяжар забойства на душы.

Прайшоў другі дзень, а за ім і трэці, а мой кот усё не з'яўляўся. Я зноўку адчуў палёгку. Пачвара, апанаваная страхам, пакінула мяне назаўжды! Я больш ніколі яго не пабачу! Майму шчасцю не было мяжы! Пачуццё віны за страшэнны ўчынак амаль не турбавала мяне. Некаторыя пытанні мне, канешне, задалі, але я адказаў на іх як мае быць. Нават было праведзена следства, але, вядома, нічога не знайшлі. Я адчуваў сябе ў поўнай бяспецы.

На чацвёрты дзень пасля забойства да мяне нечакана завіталі паліцэйскія і зноўку правялі пільныператрус усяго дома. Упэўнены ў тым, што ім ніколі не знайсці месца пахавання, я зусім не збянтэжыўся. Паліцэйскія загадалі мне прысутнічаць, пакуль яны абшнарвалі кожны куток, а пасля спусціліся ў сутарэнне. Ні адзін мускул не зварухнуўся на маім твары. Сэрца маё білася так роўна, нібы ў чалавека, які спіць. Склаўшы рукі на грудзях, я хадзіў па сутарэнні сюды-туды. Паліцыя была цалкам задаволена і збіралася ад'язджаць. Аднак весялосць на маім сэрцы было ўжо не стрымаць. Я прагнуў сказаць хоць слова і канчаткова пераканаць іх у сваёй невінаватасці.

«Спадарства! — сказаў я, калі паліцэйскія падніmaліся па лесвіцы. — Я рад, што здолеў развеяць вашы падазрэнні. Зычу вам здароўя і паболей ветлівасці. Дарэчы, гэта вельмі якасная пабудова, — апанаваны нястрымнаю прагаю сказаць нешта нядбайнае, я ледзь усведамляў, што гавару. — Я бы нават сказаў, што гэта надзвычайная пабудова. У гэтых мурах… Вы спяшаецеся, спадарства? У гэтых мурах няма ніводнай расколінкі», — і тут, апантаны самахвальствам, я пачаў моцна грукаць кіем, які трымаў у руцэ, менавіта па тых цаглінах, за якімі знайшла апошні прыстанак душа маёй жонкі.

Божа, ратуй і ўберажы мяне ад кіпцюроў д'ябла! Не паспела рэха патануць у цішы, як мне адгукнуўся голас з магілы! Крык, спачатку ледзь чутны і перарывісты, як плач дзіцяці,

хутка перайшоў у працяглы гучны лямант, незвычайны і дасканала нечалавечы, у звярынае скавытанне, прарэзлівы віскат, напоўнены жахам і трыумфам, які можа выйсці толькі з пекла, дзе галосяць душы, асуджаныя на вечныя пакуты, а дэманы святкуюць перамогі.

Пра вар'яцкія думкі, якія прыходзілі мне на розум, лепей было наогул не казаць. Няцвёрдай хадою, амаль у непрытомнасці, я дайшоў да супрацьлеглай сцяны. На імгненне паліцэйскія застылі на лесвіцы, апанаваныя жахам. У наступны момант яны кінуліся крышыць сцяну. Яна абрушылася, і адразу перад вачыма нешматлікай публікі паўстаў труп маёй жонкі, ужо значна згнілы і перапэцканы запечанай крывёю. На галаве яго, разявіўшы чырвоную зяпу і вылупіўшы адзінае вогненнае вока, сядзела паскудная жывёліна, чыё падступства падбіла мяне на злачынства, а выкрывальны лямант аддаў на пэўную смерць. Я замураваў гэтую пачвару ў магіле!

**Пераклад з англійскай Мацвея Бенько, Ганны Скалабан, Мікіты Буйніцкага, Таццяны Гуравай; падрыхтавала да друку Вольга Марозава.**

# Чорт на званіцы

«Якая гадзіна?»
Старая прымаўка.

Кожны ведае, што найлепшым месцам ва ўсім свеце з'яўляецца, або, на жаль, з'яўлялася галандскае мястэчка Вандэрвотэймшасн. Знойдзецца няшмат людзей, якія бачылі гэтае месца, бо разлеглася яно там, дзе няма ніякіх дарог. Таму я павінен паведаміць вам пра гэты закуточак, каб і тыя, што ніколі не наведвалі яго, дазналіся пра ягонае існаванне. Асабліва трэба паведаміць чытачу, якія гаротныя падзеі адбыліся з жыхарамі таго мястэчка, каб выклікаць спачуванне да небарак. Усякі, хто ведае мяне, не мае ніякіх сумневаў, што гэты самаабавязак я выканаю з належнай адказнасцю. Усё буду падмацоўваць фактамі, папярэдне праверанымі, як і належыць сапраўднаму гісторыку.

З дапамогай розных крыніц магу сказаць, што Вандэрвотэймшасн зусім не змяніўся за сваё існаванне. Але, на жаль, вымушаны прызнаць, што дату заснавання гэтага мястэчка я дакладна не ведаю, таксама як і матэматыкі часам у формулах карыстаюцца бясконцасцю або няпэўнасцю. Але ўпэўнены, што мінула прыстойная колькасць год са дня яго заснавання.

Што датычыцца самой назвы, з маркотай пішу, што таксама не ведаю. Існуе шмат думак, сярод якіх ёсць праўдападобныя і не вельмі, але я не магу назваць ні адну з іх вартай. Існуе Грогзвігская тэорыя, якая шмат у чым падобна да Крутапленцкай. Ёсць там пэўная логіка, хоць не ўсім яна падасца зразумелай. Некаторыя гісторыкі тлумачаць назву электрычнай вадкасцю (ад саст. vonder voter — цудадзейная вада), якую бачылі на спічаку будынка гарадской рады. Я не збіраюся выбіраць, якая тэорыя дакладная, а якая не. Хачу звярнуць увагу чытача на літаратуру «Oratiunculae de Rebus Praeter-Veteris» Дандэргудца і

таксама на Бландэрбузарда «De Derivationibus», з 27 па 5010 старонкі, праглядзіце таксама нататкі Стафандпуфа і каментарыі Грунтудгузеля.

Невядомасць паходжання назвы гэтага мястэчка — Вандэрвотэймшасн, кажа сама за сябе, сцвярджаючы, што горад даволі стары. Нават самы пажылы жыхар не здолее ўспомніць якія-небудзь змены ў аблiччы горада. Нават думка пра гэта можа здацца непрыемнай і абразіць чуллівых жыхароў. Даліна, у якой размяшчаецца гэты гарадок, мае форму ідэальнага кола, акружнасць якога складае каля чвэрці мілі. Яшчэ яно акружана пакацістымі ўзгоркамі, праз якія яшчэ ніхто не праходзіў. Таму мясцовыя жыхары  ўвогуле не вераць у казкі, нібыта за гарамі нехта жыве.

На раўніне, брукаванай акуратнай пліткай, стаіць у рад больш за шэсцьдзясят маленькіх хатак. Задняя частка выходзіць на ўзгоркі, а пярэдняя, зразумела, на плошчу, што знаходзіцца прыкладна за шэсцьдзясят ярдаў ад параднага ўвахода. Перад кожнай хатай ёсць агародзік са сцежкай вакол, сонечным гадзіннікам ды капуснымі градкамі. Усе хаткі настолькі падобны адна да адной, што адрозніць іх немагчыма. Усе яны пабудаваны ў старадаўнім стылі, таму і складваецца ўражанне чагосьці крыху дзівацкага, але гэта не псуе дзіўную прыгажосць мястэчка. Фасады ўпрыгожвае чырвоны клінкер, а дзякуючы аздабленню чорным растворам, хаты нагадваюць шахматную дошку. Франтоны павернуты да фасада, шырокія карнізы ідуць вакол усёй хаты, над рамамі і над парадным уваходам. Вокны вузкія і глыбока пасаджаны, шыбы маленькія, раздзеленыя безліччу перагародак. Дахоўкі дробныя, моцна пакручаныя. Разьба па дрэве цёмнага колеру выглядае таксама нязвыкла. Такое пачуццё, што разьбяры ў Вандэрвотэймшасн ведаюць толькі, як рабіць элементы ў выглядзе гадзіннікаў ды капусты. Але гэта яны робяць сапраўды па-майстэрску і ўпрыгожваюць сваім талентам усё, дзе ёсць месца для зубіла.

Знутры, як і знадворку, хаты мала чым адрозніваюцца, планаванне пакояў ды мэбля таксама падобныя. Падлога выкладзена квадратнай кафляй, сталы на выгнутых вытанчаных ножках ды крэслы з цёмнай драўніны. Камінныя паліцы шырокія і высокія, і, акрамя фігурак гадзіннікаў ды качаноў капусты, на іх роўна пасярэдзіне стаіць сапраўдны гадзіннік, што выдае аглушальнае ціканне, а па баках, нібы суправаджальны экіпаж, — кветкавыя вазоны з гароднінай. Паміж вазонамі і гадзіннікам стаіць маленечкі парцалянавы чалавечак, у якога на месцы жывата — вялікая дзіра, праз якую бачны цыферблат.

Каміны велізарныя і глыбокія, з масіўнымі крывАватымі металічнымі падстаўкамі для дроў. У іх раз-пораз скачуць гарэзныя агеньчыкі полымя, над якімі вісіць пузаты чыгун, поўны кіслай капусты са свінінай. Над ім варожыць добрая гаспадыня — трохі паўнаватая невысокая пажылая жанчына, блакітнавокая і чырванатварая. На ёй — вялікі каптур, упрыгожаны жоўтымі і фіялетавымі стужкамі, памяранцавая сукенка з грубай напаўваўнянай тканіны, занадта вольнага крою ззаду і занадта шчыльная ў таліі, да таго ж кароткая, не ніжэйшая за калена, а поўныя ногі і шырокія шчыкалаткі прыкрываюць зялёныя панчохі. Туфлі з ружовай скуры перавязаны бантамі жоўтай стужкі ў форме качаноў. У левай руцэ жанчына трымае важкі галандскі гадзіннік, у правай — чарпак для кіслай капусты і свініны. Пад нагамі круціцца тоўстая котка, да хваста якой хлопчыкі жартам прывязалі пазалочаны цацачны рэпецір.

Самі хлапчукі ў гэты час знаходзяцца ў садзе, гуляюцца з парасём. Кожны з іх крыху вышэйшы за паўметра. На галовах — трыкуткі, з плечыкаў звісаюць паліто з вялікімі перламутравымі гузікамі, з-пад паліто выглядаюць фіялетавыя падоўжаныя камзолы, бры-

джы з аленевай скуры, а з-за цяжкіх чаравікаў са срэбнымі спражкамі бачны чырвоныя шкарпэткі. У зубах — па люльцы, а ў правай руцэ — па абдзёртым маленькім гадзінніку. Зробяць зацяжку — і на гадзіннік глянуць, глянуць — ды зацягнуцца. Ленаваты і тлусты парсюк падбірае апалае капуснае лісце, часам брыкае прывязаны хуліганамі пазалочаны рэпецір — такі ж самы, як у коткі, каб выглядаў не горш за яе.

Адразу ля ўваходных дзвярэй сядзіць і сам гаспадар у скураным крэсле з высокай спінкай, з такімі ж выгнутымі ножкамі, як у стала. Гэта празмерна поўны стары спадар, з вялікімі круглымі вачыма і падвойным падбародкам. Вопратку яго апісваць няма патрэбы: яна такая ж, як і хлапчукоў. Адзіная розніца ў люльцы: яна большая за хлапчукоўскую і ад яе больш дыму. Ён таксама мае гадзіннік, але мужчыны носяць яго ў кішэні. Па праўдзе кажучы, акрамя гадзінніка яму ёсць на што пазіраць, і зараз я пра гэта раскажу. Закінуўшы нагу на нагу, ён сядзіць з паважным выразам твару і рашуча не спускае вачэй з аднаго вартага ўвагі аб'екта ў цэнтры раўніны.

Гэты аб'ект стаіць на вежы будынка гарадской рады. Чальцы гарадской рады ўсе невысокага росту, кругленькія, ялейныя, адукаваныя, з вялікімі вырачанымі вачыма і льснянымі падвойнымі падбародкамі. Плашчы іх даўжэйшыя, а спражкі на туфлях — большыя за тыя, што носяць звычайныя жыхары Вандэрвотэймшасна. Пакуль я быў у горадзе, яны правялі некалькі сходаў і прынялі наступныя тры важныя рэзалюцыі:

«Змяняць стары добры ход рэчаў — дрэнна».

«За межамі Вандэрвотэймшасна няма нічога прыстойнага».

«Мы застанемся адданымі нашым гадзіннікам і капусце».

Над залай пасяджэнняў рады размешчана вежа, а на ёй — званіца, у якой спрадвеку існуе гонар і цуд паселішча — галоўны гадзіннік горада Вандэрвотэймшасна. Гадзіннік — вось на што глядзіць стары спадар, седзячы ў скураным крэсле.

У гадзінніка сем цыферблатаў, па адным на кожным з сямі бакоў вежы, каб любы ахвотнік мог лёгка даведацца, якая гадзіна. Стрэлкі на вялікім белым цыферблаце важкія і чорныя. За гадзіннікам сочыць адмыслова наняты чалавек, але праца не патрабуе ніякіх намаганняў — з гадзіннікам Вандэрвотэймшасна ніколі нічога не здаралася. Да нядаўняга часу адна толькі думка пра гэта была б ерассю. З тых далёкіх стагоддзяў, якія першымі ўзгадваліся ў гарадскім летапісе, гадзіны рэгулярна адлічваліся вялікім звонам. Тое ж датычылася і іншых гадзіннікаў у горадзе. Нідзе так старанна не сачылі за дакладным часам. Калі вялікі звон вырашаў прабіць дванаццаць гадзін, яго паслухмяныя паслядоўнікі разам адкрывалі раты і рэхам паўтаралі за ім. Карацей кажучы, добрыя жыхары ганарыліся сваёй кіслай капустай, ну і, канешне, сваімі гадзіннікамі.

Да людзей, якія знайшлі сабе цёплае месцейка, звычайна ставяцца з большаю павагай. Званар з Вандэрвотэймшасна займаў самае цёплае з усіх месцаў і, адпаведна, быў самым паважаным у свеце. Ён лічыўся галоўным у горадзе, і нават свінні глядзелі на яго з пашанай. Фалды ягонага фрака былі даўжэйшыя за фалды фракаў іншых мужчын, а люлька, спражкі на ботах, вочы і пуза — большыя за іншых. А яго падбародак быў не тое што двайны — нават трайны.

Вандэрвотэймшасн паўстаў перад вамі вельмі шчаслівым горадам, але — на жаль! — гэтаму мястэчку наканавана было перажыць цяжкія часы.

Старэйшыя жыхары горада заўсёды казалі, што «з-за пагорка не чакай добрай махоркі»; і, мабыць, было ў іх словах нешта прарочае. Гадзіннік паказваў без пяці поўдзень, калі

заўчора на ўсходнім баку пагорка з'явіўся нейкі дзіўны аб'ект. Гэта, безумоўна, прымусіла кожнага спадара збянтэжана выпаўзці са свайго скуранога крэсла і адным вокам зірнуць на феномен. Другое вока звыкла глядзела на гадзіннік на званіцы.

Праз дзве хвіліны незвычайны аб'ект быў апазнаны як мініяцюрны малады чалавек — іншаземец. Ён спускаўся з пагорка досыць шпарка, і хутка ўсе разгледзелі яго. Сапраўды, ён быў самым-самым нізкім з усіх, хто калі-небудзь прыязджаў у Вандэрвотэймшасн. Цемнаскуры, з доўгім кручкаватым носам, вачыма-гарошынамі і шырокім ротам, малады чалавек усміхаўся ад вуха да вуха, дэманструючы свае здаровыя прыгожыя зубы. Ён не насіў ні барады, ні вусоў; валасы, не схаваныя пад капелюшом, ляжалі акуратнымі кудзеркамі. Ён быў апрануты ў добры чорны фрак (з адной кішэні тырчаў доўгі край насоўкі), чорныя кашміравыя брыджы, чорныя шкарпэткі і стаптаныя туфлі з вялікімі бантамі, зробленымі з атласнай стужкі. У адной руцэ яго быў капялюш, а ў другой — скрыпка разоў у пяць большая за яго. У левай руцэ малады чалавек таксама трымаў залатую табакерку, з якой ён з асалодай нюхаў тытунь, пакуль неверагодна вялікімі крокамі спускаўся з пагорка. Барані божа! Ну і відовішча для сумленных жыхароў горада Вандэрвотэймшасн!

Шчыра кажучы, твар маладога чалавека быў не толькі ўсмешлівым, але і нейкім злавесным ды нахабным. Калі ён з'явіўся ў горадзе, стаптаны выгляд яго пантофляў нікога не пакінуў абыякавым; кожны з жыхароў, які бачыў яго ў той дзень, нават заплаціў бы, каб толькі зазірнуць пад край белай насоўкі, што так зняважліва тырчала з кішэні фрака. Але найбольшай абразай было тое, што гэты франт, калі танцаваў фанданга ці круціўся, не даваў сабе рады з падлікам крокаў.

Добрыя людзі не паспелі і вокам міргнуць, як паскуднік за паўхвіліны да поўдня скокнуў у натоўп, праслізнуў там, пазыбаўся на адной назе тут, потым зрабіў піруэт і pas-de-zephyr і ўпырхнуў у будынак ратушы, дзе сядзеў усхваляваны званар і паліў. Званар адразу ж атрымаў у нос, потым паскуднік ударыў яго наводмаш і штурхнуў, пасля нацягнуў свой капялюш яму на галаву, а далей — закрыў нос і вочы. І, нарэшце, падняў вялікую скрыпку ды пачаў біць тоўстага званара так доўга і так моцна, што, здавалася, быццам цэлы полк барабаншчыкаў адбівае рытм у званіцы горада Вандэрвотэймшасн.

Невядома, да чаго магла б прывесці гараджан гэтая нечаканая шалёная атака, калі б не той факт, што да поўдня заставалася толькі паўсекунды. Гадзіннік вось-вось пачне біць, а гэта акурат той самы момант, калі ўсім трэба вачэй не зводзіць з асабістых гадзіннікаў. Аднак, відавочна, незнаёмец у званіцы рабіў нешта такое, што ніякім бокам не датычылася часу. Гадзіннік пачаў біць — і ўсе адразу пазабываліся на ўсё астатняе і толькі лічылі ўдары.

«Раз!» — прабіў гадзіннік.

«Расс!» — паўтарыў кожны стары джэнтльмен у кожным абітым скураю крэсле ў Вандэрвотэймшасне. «Расс!» — сказаў ягоны гадзіннік; «расс» — сказаў гадзіннік яго фрау; «расс» — сказалі гадзіннікі хлопчыкаў і маленькія пазалочаныя гадзіннічкі з рэпецірамі на хвастах коткі і свінні.

«Два!» — працягнуў вялікі звон і…

«Тфа!» — паўтарылі ўсе.

«Тры! Чатыры! Пяць! Шэсць! Сем! Восем! Дзевяць! Дзесяць!» — прабіў звон.

«Тры! Тшатыры! П'яць! Шасць! Сэм! Восэм! Дсев'яць! Дсейсяць!» — адказалі іншыя.

«Адзінаццаць!» — прабіў вялікі звон.

«Атсінаццаць!» — згадзіліся маленькія.

«Дванаццаць!» — прабіў звон.

«Тфанаццаць!» — цалкам задаволеныя, адказалі астатнія і панізілі свае галасы.

«Тфанаццаць на самай спраффе!» — прамовілі ўсе маленькія старыя джэнтльмены, гледзячы на свае гадзіннікі. Але вялікі звон яшчэ не скончыў.

«Трынаццаць!» — прабіў ён.

«Дэр Тайфель!» — прастагналі маленькія старыя джэнтльмены, бялеючы; яны выпусцілі з ратоў свае люлькі і знялі правыя ногі з левых кален.

«Дэр Тайфель! — вохнулі яны. — Ттрынаццаць! Ттрынаццаць! Майн Готт, ттрынаццаць гадзін!»

Навошта і спрабаваць апісаць жахлівую сцэну, якую ўсё гэта выклікала? Увесь Вандэрвотэймшасн вокамгненна апынуўся ў вартай жалю мітусні.

«Што сталася сс майім шыфатом?» — залямантавалі ўсе хлопчыкі. — Я каладаю ўшо кадзіну!»

«Што сталася сс маёй капустай?» — завішчалі ўсе фрау. — Яна пераварылася ў кашу за кадзіну!»

«Што сталася сс маёй люлькай? — залаяліся ўсе маленькія старыя джэнтльмены. — Грамы і маланкі, яна фся скурылася за кадзіну!» — і яны пачалі напаўняць люлькі зноў і зноў з вялікай лютасцю, затым адкінуліся ў сваіх крэслах і запыхкалі так хутка і люта, што ўвесь лог імгненна запоўніўся густым дымам.

Тым часам усе качаны капусты моцна пачырванелі, і, здавалася, што сам д'ябал усяліўся ў кожную рэч, падобную формай на гадзіннік. Выразаныя на мэблі гадзіннікі ўзяліся скакаць, быццам зачараваныя, а тыя, якія стаялі на камінннай паліцы, амаль што лопаліся ад лютасці і ўсё працягвалі адбіваць трынаццаць, пры гэтым так вілялі і тузалі сваімі маятнікамі, што жудасна было глядзець. Аднак, найгоршым аказалася тое, што ні каты, ні свінні не маглі больш мірыцца з паводзінамі маленькіх рэпеціраў, прывязаных да іх хвастоў, і абурана лёталі паўсюль, драпаліся і піхаліся, вішчалі і мяўкалі, скакалі людзям на твары і тыкаліся пад спадніцы, і гэтым стваралі такі агідны грукат і перапуд, які толькі можа спасцігнуць толькі разважны чалавек. А каб яшчэ дадаць турбот, той подлы шалапут на званіцы выкладваўся з усіх сіл. Раз-пораз можна было мімаходам убачыць гэтага паганца скрозь дым. Вось ён сядзеў у званіцы на званары, а той ляжаў нерухома на спіне. У зубах ліхадзей трымаў звонавую вяроўку і тузаў яе галавой, і гэтым падымаў такі невыносны шум, што ў мяне звініць у вушах нават тады, калі я проста думаю пра гэта. На каленях у яго ляжала велізарная скрыпка, якую ён неўпапад скроб абедзвюма рукамі, чым ствараў неверагоднае відовішча — дурань! — спрабуючы граць «Джудзі О'Флэнаган і Пэдзі О'Раферці».

Стан рэчаў стаў такім дрэнным, што я пакінуў мястэчка з агідай і цяпер прашу ратунку ва ўсіх аматараў дакладнага часу і добрай капусты. Давайце рушым туды гуртам і выганем паскуднае хлапчанё са званіцы, і тым самым адновім старажытны стан рэчаў у Вандэрвотэймшасне.

**Пераклад з англійскай Марыны Янгіравай, Ганны Кастуновай, Ганны Гаворскай, Любові Кісель; падрыхтавала да друку Вольга Марозава.**

# Камерсант

«Парадак — душа бізнесу»
Старая прыказка

Я камерсант. Заўсёды і ва ўсялякай справе я прытрымліваюся парадку, таму што менавіта парадак — гэта, бадай, адзінае, што можа прынесці поспех. Але ад усёй душы я ненавіджу гэтых дзівакоў, што лапочуць пра парадак, не разумеючы ягонай сутнасці; успрымаюць яго літаральна, апаганьваючы тым самым ягоны (сакральны) дух. Такія таварышы нават самыя незвычайныя ў сваёй дзівакаватасці рэчы робяць самым належным чынам. Але тут усё і зводзіцца да відавочнага парадоксу: падпарадкоўвацца сістэме мажліва, толькі займаючыся руціннымі справамі, але абсалютна нішто незвычайнае немажліва ўціснуць у рамкі парадку. Які нармальны чалавек здолее ўявіць дзёрзкага нахабніка, што паводзіць сябе «належным чынам», ці прывіда, якога можна абазваць «структураваным»?

Да маіх вышэйпададзеных высноў я прыйшоў дзякуючы шчасліваму здарэнню ў дзяцінстве. Аднойчы, калі я паводзіў сябе непрыстойна шумна, мая рахманая нянька (якую я згадаю ў тэстаменце) падняла мяне за пяткі і пракруціла так разы тры, аблаяла, пасля чаго я ўляцеў у ложак галавою. Гэты выпадак, скажу я вам, і вырашыў мой далейшы лёс: я здолеў разбагацець! Гуз, што адразу вырас на маёй макушцы, стаў заўсёдным напамінам пра парадак. Упэўнены, што ў мяне атрымалася стаць такім выбітным камерсантам, дзякуючы менавіта імкненню да ўпарадкавання і пастаянства.

Больш за ўсё на свеце я ненавіджу геніяў. Гэтыя, як вы іх называеце, геніі — усе набітыя дурні. Да таго ж ступень іх дурасці прама прапарцыянальная ступені іх геніяльнасці, пра гэта няма чаго і спрачацца. У прыватнасці, у камерцыйнай дзейнасці геніі дасягнуць поспехаў толькі тады, калі яўрэй добраахвотна падзеліцца грашыма ці сасновыя галінкі ператворацца ў мускатны арэх. Людзі такога складу заўсёды церпяць няўдачу ў нейкіх неймаверных пачынаннях ці бязглуздых пагадненнях, кіруючыся «належным парадкам», хаця гэта, зразумела, нельга і назваць дзейнасцю. Вылучыць такога кшталту людзей з натоўпу вельмі проста: звярніце ўвагу на іх спецыяльнасць. Калі перад вамі гандляр-пачатковец альбо гаспадар мануфактуры па вытворчасці бавоўны, табаку ці чагосьці кшталту гэтага, альбо бакалейшчык ці мылавар, прытворны прававед, каваль, доктар — карацей, чалавек, занятак якога можа падацца незвычайным, — смела запісвайце іх у шэрагі геніяў, што, па логіцы, азначае, што перад вамі дурань.

Але я ні ў якім разе не геній, я — звычайны камерсант. Мая кніга выдаткаў і даходаў будзе таму доказам. Запаўняю яе я належным чынам, а што тычыцца маёй руплівасці і пунктуальнасці, то тут я даў бы фору нават гадзінніку. Да таго ж усё, чым я калі-небудзь займаўся, ніколі не супярэчыла ўстаноўленаму парадку маіх калег. Не магу падзякаваць сваім бацькам — людзям слабавольным і бесхарактарным. І вокам бы не паспеў міргнуць, як вырасцілі б з мяне набітага генія, але мой добры анёл-ахоўнік падаспеў своечасова. У біяграфіі кожны факт праўдзівы, а ў аўтабіяграфіі — і пагатоў. Я, вядома, разумею, што вам цяжка ў гэта паверыць, асабліва калі сын паведамляе такое пра роднага бацьку. Але гэта насамрэч адбылося. Аднойчы, калі мне ішоў пятнаццаты год, мой нябожчык бацька вырашыў уладкаваць мяне да, як ён гэта назваў, «выбітнога гандляра скабянымі вырабамі

для навукі і досведу». Я асабіста лічу, што гэта ператварылася ў досвед бязглуздзіцы! Аднак вынікам такога недарэчнага ўчынку сталася тое, што я вярнуўся дадому, да маіх прыдуркаватых бацькоў праз два ці тры дні ў ліхаманкавым стане з жудасным болем у макушцы (акурат там, дзе ў дзяцінстве быў гузак). Тады я быў ужо адной нагой у магіле (толькі ўявіце: шэсць тыдняў жыццё вісела на валаску), а дактары даўно махнулі на мяне рукой. Але, нягледзячы на пакуты, я быў удзячны за выратаванне ад «навукі і досведу ў гандлі», і, вядома, маёй лагоднай няньцы, якая не пашкадавала сілы ў той памятны дзень.

Большасць хлопцаў збягае з дому ў дзесяць ці дванаццаць год, але я пачакаў да шаснаццаці. Хутчэй за ўсё, і ў шаснаццаць я б гэтага не зрабіў, калі б не пачуў, як мая нябожчыца маці абмяркоўвала з кімсьці мой пераход на свае хлябы — я мусіў стаць бакалейшчыкам! — падумаць толькі! Я вырашыў неадкладна пакінуць бацькоўскі дом і паспрабаваць знайсці прыстойны занятак, не прыслужвацца перад прыдуркаватымі бацькамі, рызыкуючы скончыць жыццё поўным геніем. Дзіўна, але адразу ўсё пайшло гладка, і ўжо ў васямнаццаць год я быў цалкам задаволены жыццём, працуючы ў галіне даволі прыбытковай — хадзячай жывой рэкламе аднаго краўца.

Я мог выконваць цяжкія абавязкі, якія накладвала на мяне гэтая спецыяльнасць, толькі прытрымліваючыся строгага парадку, што і сфарміравала мяне як асобу. Не толькі падлікі, але і мае ўчынкі былі падуладныя суворым ціскам парадку. Менавіта сістэма зрабіла з мяне чалавека, а зусім не грошы. Але і кравец, у якога я працаваў, моцна паўплываў на мяне. Штодзень а дзявятай я наведваў ягоную майстэрню і апранаўся ў новы гарнітур. Дзесьці а дзясятай я ўжо прысутнічаў на модных праменадах ці іншых месцах для масавых забаў. З зайздроснай акуратнасцю я круціўся ў сваім гарнітуры, дэманструючы ўсім убранне, што выклікала захапленне найлепшых гандляроў. Ужо апоўдні з'яўляўся ахвотнік зайсці да маіх працадаўцаў у кантору «Кравец і Прыйдзізноў». Я кажу гэта з гордасцю, але і са слязьмі на вачах: мае працадаўцы апынуліся самымі няўдзячнымі людзьмі. Той рахунак, праз які мы пасварыліся і канчаткова разышліся, не ўтрымліваў тое, што я заслугоўваў (вядома, з пункта гледжання чалавека, хоць як-небудзь знаёмага з паняццем прадпрымальніцтва). Вось, можаце судзіць самі.

Мой рахунак выглядаў наступным чынам:

Дэбіторы

сп-ы Кравец і Прыйдзізноў, краўцы

Пітэру Даходніку, чалавеку-рэкламе

10 ЛІПЕНЯ Шпацыр звычайны, прывёў новага кліента 25

11 ЛІПЕНЯ Тое самае 25

12 ЛІПЕНЯ Хлусня, другі клас, 1 шт.; прадаў пашкоджаную чорную тканіну як нябачна зялёную 25

13 ЛІПЕНЯ Хлусня, першы клас, 1 шт., звыш якасці і памеру; рэкамендаваў танны фабрычны атлас як сукно высокай якасці 75

20 ЛІПЕНЯ Пакупка неверагодна новага каўняра ці манішкі для кашулі, завёў размову, раз'юшыў старога Пітэршэма 02

15 ЖНІЎНЯ Насіў падкарочаны сурдут з двайной падкладкай (+40 у цэні) 25

16 ЖНІЎНЯ Стойка на адной назе 3 гадзіны, дэманстрацыя новай мадэлі штаноў у палоску, кошт — 12 і ½ цэнта за кожную нагу ў гадзіну 37,1/2

17 ЖНІЎНЯ Шпацыр звычайны, прывёў вялікага кліента (таўстун) 50

| | | |
|---|---|---|
| 18 ЖНІЎНЯ | Тое самае (сярэдняга памеру) | 25 |
| 19 ЖНІЎНЯ | Тое самае (малы чалавек, блага заплаціў) | 06 |
| СУМА | 2, 961/2 | |

Галоўным чынам, спрэчка была праз 2 пені за каўнер. Даю вам слова гонару, гэта быў самы слушны кошт за такі цудоўны якасны каўнер. Больш за тое, я лічу (і небеспадстаўна), што дзякуючы яму мы здолелі прадаць яшчэ сёе-тое. Аднак заснавальнік фірмы не пагаджаўся плаціць аніяк больш за 1 пенс, даводзячы, што ажно чатыры такія каўняры можна выцяць з аркуша паперы. Для мяне, зразумела, гэта было справай прынцыповай. Бізнес ёсць бізнес, трэба да ўсяго ставіцца сур'ёзна. Хіба так вядуць разлік? Мяне пазбавілі 50 адсоткаў прыбытку! Ці варта казаць, што я неадкладна паведаміў спадарам, што Кравец і Прыйдзізноў — ганьба для паважанага камерсанта. Нядоўга думаючы, я заснаваў сваю справу ў самым прыбытковым, самавітым і незалежным ва ўсіх сэнсах сэрвісе назаляння.

Мая абсалютная сумленнасць, ашчаднасць і дзелавыя схільнасці прывялі мяне да квітнеючага гандлю і я хутка стаў віднай персонай сферы назаляння.

Па шчырасці, я ніколі не кідаўся ў вульгаршчыну, проста паціху працягваў займацца сваёй старой добрай ды сур'ёзнай справай. Свайму пакліканню я б не здрадзіў і да цяперашняга часу, каб не адзін непрыемны выпадак, які адбыўся тады, калі я праводзіў звычайную дзелавую аперацыю, з якіх і складаецца гэтая прафесія. Кожны разумны чалавек добра ведае, што, калі б багачу-скнару, спадчынніку-мантачу ці таварыству-банкроту не прыйшло ў галаву збудаваць палац, самае добрае, што можна ў такім выпадку зрабіць — адгаварыць іх ад гэтага.

Вось акурат на тым і заснаваны назольны сэрвіс. Такім чынам, як толькі праект будаўніцтва наспеў у галаве аднаго з вышэйназваных бакоў, мы, дзялкі, абзаводзімся цудоўным перспектыўным куточкам зямлі ці выдатным месцейкам побач альбо насупраць іх будпляцоўкі. Пасля мы чакаем, пакуль палац не выбудуюць напалову, і тады плацім якому-небудзь густоўнаму архітэктару, каб ён стварыў для нас нейкую дэкаратыўную паветку насупраць, ці хлеў у нова-англійскім ці стара-еўрапейскім стылі, ці свінарнік, ці невялікую арыгінальную забаўку кшталту вігвама ці іглу.

Канешне, мы не можам сабе дазволіць зруйнаваць гэтыя пабудовы коштам у пяць разоў большым за нашыя пачатковыя выдаткі. Ці можам? — пытаюся я. Пытаюся ў бізнесменаў. Было б абсурдна дапусціць, што насамрэч можам. І ўсё-ткі знайшлася адна падазроная кантора, якая папрасіла нас акурат — так, акурат! — пра гэта. Канешне, я ніяк не адрэагаваў на такую нелагічную просьбу, але палічыў сваім абавязкам тым жа вечарам пайсці і абквэцаць увесь іх палац сажай. За што гэтыя бязглуздыя злодзеі і затурылі мяне за краты, а калі я адтуль выбраўся, джэнтльмены з назольнага сэрвісу не маглі не скасаваць са мной стасункі.

Наступны бізнес, на які я мусіў адважыцца дзеля хлеба штодзённага, — абразабойкавы — не надта падыходзіў да майго далікатнага складу цела. Тым не менш, я пайшоў на гэта добраахвотна і справа стала прыносіць мне прыбытак. А ўсё дзякуючы таму, што я працягваў строга прытрымлівацца метадычнай акуратнасці, якую ўбіла мне тады ў галаву мая чароўная нянька — быць мне апошнім мярзотнікам, калі я не памяну яе ў маім тэстаменце на добранькую суму.

Гэтак, трымаючыся, як я ўжо казаў, найстражэйшай сістэмы ва ўсіх маіх стасунках, і ведучы як след упарадкаваную бухгалтэрыю, я здолеў пазбегнуць сур'ёзных цяжкасцей, і, урэшце, зусім няблага ўладкаваўся сярод маіх паплечнікаў па прафесіі. Па шчырасці, у лічаных людзей атрымалася наладзіць свае справы лепш за мяне. Я проста перапішу сюды старонку з майго штодзённіка, каб мне не было патрэбы рабіць самарэкламу — гэтае паскудства, якім не стане займацца высакародны чалавек. Дык вось, мой штодзённік вам не схлусіць.

«1 студзеня — Новы год. Сустрэў на вуліцы Хапуна, ледзьве стаяў на нагах. Не забыць: той, хто трэба. Амаль адразу пасля яго сустрэў Хама, п'янага, як зямелька. Не забыць: ён таксама падыдзе. Занёс абодвух джэнтльменаў у мой гросбух, адкрыў абодвум бягучы рахунак».

«2 студзеня — пабачыў Хапуна на біржы, падышоў, стаў капаць яму на мазгі. Выставіў мне кулакі і збіў з ног. Выдатна! — зноў падняўся. Крыху не паладзіў з маім адвакатам, Тарбахватам. Я хацеў за кампенсацыю тысячу, але ён сказаў, што за такую драбязу як збіццё з ног больш за пяць соцень не бяруць. Не забыць: пазбавіцца ад Тарбахвата — ніякай методыкі».

«3 студзеня — пайшоў у тэатр шукаць Хама. Знайшоў у бакавой ложы, другі рад, паміж тоўстай і худой лэдзі. Назіраў за ўсёй кампаніяй праз тэатральны бінокль, пакуль не ўбачыў, як тоўстая лэдзі пачырванела і нешта прашаптала Х. Тады пайшоў у ложу і ўсунуўся як мага бліжэй. Не здолее. Плюнуў, падсеў яшчэ шчыльней. Нуль рэакцыі. Тады сеў і падміргнуў худой лэдзі. На маю радасць, адразу ж падняў мяне за загрывак і зашпурнуў у аркестравую яму. Вывіх шыі і цалкам струшчаная правая нага. Дадому прыйшоў страшэнна радасны, выпіў пляшку шампанскага і запісаў за маладым чалавекам пяць тысяч. Тарбахват кажа, што справа выгарыць».

«15 лютага — пайшоў на кампраміс з містарам Хапуном. Сума занесена ва Уліковую кнігу — 50 цэнтаў (гл. адпаведны запіс)».

«16 лютага — сума па справе Хама, гэтага шыбеніка, які мяне ўганараваў 5 доларамі. Кошт гарнітура — 4 долары і 25 цэнтаў. Чысты прыбытак (гл. Уліковую кнігу) — 75 цэнтаў».

Вось і чысты прыбытак, не менш за 1 долар і 25 цэнтаў, які за вельмі кароткі час прынеслі мне адны толькі справы Хапуна і Хама. І я з гонарам магу запэўніць чытача, што гэтыя вытрымкі былі выбраны з майго дзённіка наўздагад.

Словы пра тое, што здароўе даражэйшае за грошы, старыя, але вельмі слушныя. Прафесія гэтая сапраўды аказалася занадта цяжкай для майго далікатнага арганізма. Заўважыўшы нарэшце, што на мне не засталося жывога месца і сябры ўжо зусім пераcталі пазнаваць на вуліцы, я падумаў: трэба мяняць працу. Таму я ўзяўся за брудапэцканне, чым і займаўся на працягу некалькіх гадоў.

Горшае за ўсё ў гэтай прафесіі тое, што яна прываблівае занадта многіх, і канкурэнцыя ў выніку неверагодная. Любы невук, якому не хапіла розуму зрабіць кар'еру ў хадзячай рэкламе, ці назалянні, ці ў абразабойцы, напэўна, лічыць, што пэцканне брудам яму акурат па зубах. Але бясконца памыляюцца тыя, хто лічыць, быццам займацца гэтым можа нават пустагаловы. У такой справе трэба прытрымлівацца метаду, а інакш — пішы прапала. Хоць бізнес мой быў невялікі, але справы ішлі як па масле, дзякуючы таму, што даўно стала маёй звычкай ва ўсім быць паслядоўным. Я найперш выбіраў пераход праз вуліцу

старанна, не спяшаючыся, і заўсёды працаваў толькі тут. Таксама загадзя клапаціўся, каб паблізу знаходзілася невялікая лужына, да якой было рукой падаць. Такім чынам, я зарэкамендаваў сябе як чалавек, якому можна давяраць, а гэта, скажу вам, палова справы ў маёй прафесіі. Хто не кінуў мне мядзяк, той мог не спадзявацца перайсці вуліцу ў чыстых нагавіцах. І паколькі маю звычку весці справы ўсе добра разумелі, то ніхто ніколі не спрабаваў пажывіцца за мой кошт. Я б гэтага не спусціў, бо сам не падманшчык і нікому яшчэ не дазволіў мяне ашукаць. Але супраць валакіты банкаў я, канешне, быў бездапаможны. Грошай яны не плацілі своечасова, і гэта вельмі замінала маім фінансавым справам. Банкі, аднак, не людзі. Банкі — гэта карпарацыі, а ў карпарацый, вядома, няма ні цела, якое можна пакалаціць, ні душы, якую можна праклясці.

Справы ішлі ўгару, але ў адну няшчасную хвіліну я спакусіўся адначасова ўзяцца яшчэ за сабакапэцканне — занятак шмат у чым падобны, але ні ў якім разе не такі паважаны. Размясціўся я ў найлепшым, бясспрэчна, месцы ў цэнтры горада і меў выдатныя шчоткі і ваксу. Мой сабачка, дарэчы, быў вельмі тлустым і любіў хітрыкі. Стаж у нашай справе ён меў значны і, магу смела сказаць, добра яе разумеў. Працавалі мы звычайна так. Пампей, як мае быць выкачаўшыся ў брудзе, садзіўся ля дзвярэй крамы і чакаў, пакуль побач не з'явіцца які-небудзь моднік у нашараваных ботах. Тады сабака накіроўваўся яму насустрач і цёрся поўсцю аб бліскучыя халявы. Моднік моцна лаяўся і азіраўся, шукаючы чысцільшчыка. А я быў тут як тут, на самым бачным месцы з ваксай і шчоткамі. Працы было на хвіліну, а плацілі шэсць пенсаў. Спачатку гэтага ставала. Я, на самай справе, не сквапны, але так нельга было сказаць пра майго сабаку. Я дзяліўся з ім трэцяй часткай прыбытку, але нехта параіў яму патрабаваць палову. З гэтым я не мог пагадзіцца — мы пасварыліся ды разышліся.

Потым я нейкі час спрабаваў свае сілы ў ігры на катрынцы. Атрымлівалася, можна сказаць, даволі няблага. Занятак немудрагелісты, сумленны і не патрабуе асаблівага таленту. Набыць катрынку можна за бесцань, а каб яе настроіць, трэба толькі адчыніць скрынку і тры-чатыры разы хуценька пастукаць малатком па валіках. Гэта вельмі добра, уявіце сабе, удасканальвае гучанне інструмента. Пасля застаецца толькі прагуляцца па горадзе, закінуўшы катрынку на спіну, пакуль не ўбачыш дзверы з абцягнутым аленевай скурай малатком. Тут спыняйся ды круці ручку катрынкі, зрабіўшы выгляд, быццам мусіш застацца тут і граць да другога прышэсця. Праз некаторы час расчыніцца акно і хто-небудзь кіне шасціпенсавік, загадваючы сціхнуць і ісці прэч. Я ведаю катрыншчыкаў, якія і сапраўды «ішлі прэч» за гэтыя грошы. Але што да мяне, то я лічыў непазбежныя выдаткі занадта вялікімі, каб «ісці прэч» менш чым за шылінг.

Занятак прыносіў добры прыбытак, але я чамусьці быў не зусім задаволены і таму праз некаторы час кінуў катрынку. Шчыра кажучы, мне вельмі не ставала малпы і шкодзіла тое, што вуліцы амерыканскіх гарадоў такія гразкія, дэмакратычны зброд бесцырымонны, а маленькія хлопчыкі страшэнна шкадлівыя.

Потым я некалькі месяцаў нідзе не працаваў, але нарэшце ўладкаваўся на Фальшпошту. Служба гэта простая і даволі прыбытковая. Напрыклад, раніцай я рыхтаваў пачак фальшывых лістоў, у кожным чыркаў два-тры радкі — пра ўсё, што здавалася мне дастаткова інтрыгуючым, — і падпісваўся Томам Добсанам, Бобі Томпкінсам ці яшчэ кім-небудзь. Згінаў і запячатваў кожны ліст, потым наклейваў фальшывыя маркі — нібы з Нью-Арлеана, Бенгаліі, залівa Ботані ці з іншага далёкага адсюль месца — і адразу ж выпраўляўся па

штодзённым маршруце, шпарка, быццам вельмі спяшаючыся. Я заўсёды выбіраў вялікія дамы, разносячы пошту і атрымліваючы грошы за паслугі. Людзі плацяць за лісты нядоўга думаючы, асабліва ахвотна за падвойныя, бо людзі вельмі дурныя. Знікнуць жа за рогам вуліцы да таго, як канверт паспеюць адкрыць, лягчэй лёгкага. Самым кепскім з'яўлялася тое, што даводзілася шмат і вельмі хутка хадзіць, ды і мяняць маршрут трэба было часта. Акрамя таго, мяне вельмі непакоілі дакоры сумлення. Я не магу слухаць, як зневажаюць бязвінных людзей, таму было сапраўды вельмі непрыемна чуць, як цэлы горад прыняўся перамываць косці Тому Добсану і Бобі Томпкінсу. І я з агідай кінуў гэты занятак.

Восьмым і апошнім маім пачынаннем стала гадаванне катоў. Справа гэтая аказалася самай прыемнай ды выгаднай і не патрабавала надта многа клопату. Усім вядома, што краіну запаланілі каты: апошнім часам іх развялося так шмат, што прашэнне аб дапамозе, пад якім стаяла шмат подпісаў, у тым ліку і подпісаў людзей вельмі паважаных, было вынесена на разгляд Заканадаўчага сходу на апошняй памятнай сесіі. Сход быў надзвычайна добра праінфармаваны і адобрыў шмат іншых мудрых і карысных законаў, а працу сваю ўвянчаў Каціным законам. У арыгінале закона ўзнагарода прызначалася за каціныя галовы (чатыры пенсы за штуку), але Сенат паспяхова выправіў галоўны сказ, змяніўшы «галовы» на «хвасты». Гэта папраўка была так відавочна дарэчы, што закон прынялі аднагалосна.

Як толькі губернатар падпісаў законапраект, я ўклаў усе свае сродкі ў набыццё катоў і котак. Спачатку я мог карміць іх толькі таннай мышацінай. Але жывёлы так хутка выконвалі біблейскі запавет, што я ўрэшце вырашыў быць велікадушным, і пачаў балаваць іх вустрыцамі і чарапашым супам. Каціныя хвасты па вызначаным судом кошце прыносяць мне добры прыбытак, бо я вынайшаў, як з дапамогай макасарскага алею можна збіраць ураджай тры разы на год. Мяне таксама цешыць тое, што жывёлы хутка прывыкаюць да гэтай працэдуры і ахвотна пазбаўляюцца хваста. Такім чынам, я лічу сябе чалавекам заможным і ўжо нагледзеў сабе маёнтак на беразе Гудзона.

**Пераклад з французскай Дар'і Станцэль, Іаанны Владыка, Елізаветы Васілевіч;**
**падрыхтавала да друку Вольга Марозава.**





# Пераклады на беларускую: стан праблемы

**Андрэй Хадановіч прызнаецца адным з самых віртуозных перакладчыкаў на беларускую, ці не так? З улікам таго, што ён яшчэ і знаўца замежнай літаратуры, якую даўно выкладае ў БДУ, табе, чытач, цікава будзе пачытаць, што менавіта ён думае пра стан справы. Размову з ім запісаў Анатоль Трафімчык.**

**— Ці не маглі б вы даць агульную ацэнку сітуацыі з перакладамі замежнай мастацкай літаратуры на беларускую мову?**

— На маю думку, гэта сітуацыя за апошні тузін гадоў значна палепшылася. Не так даўно стан праблемы выглядаў гуманітарнай катастрофай. А цяпер збольшага адбываецца нармальны працоўны ход. Магчымыя цікавыя рашэнні, нават перамогі на перакладчыцкай ніве, здараюцца і прыемныя нечаканыя праекты. Вырасла цэлае пакаленне перакладчыкаў. Увогуле сярод маладых творцаў узрастае доля тых, каго прываблiваюць пераклады. З чым гэта звязана? Можа быць, з адсутнасцю самацэнзуры. Можа быць, з тым, што стала менш нейкай культурнай замкнёнасці. Можа быць, з тым, што прыйшло пакаленне, не зацыкленае выключна на рускамоўнай культурнай прасторы. Канешне, гэта звязана яшчэ і з інтэрнэтам, які здымае многія абмежаванні. Ведаю некалькі дзясяткаў маладых перакладчыкаў, якія добра валодаюць англійскай і часта яшчэ якой заходнееўрапейскай мовай, а таксама парай-тройкай славянскіх. Таму перакладаюць з трох-чатырох, а чытаюць на яшчэ большай колькасці моў.

Зазірнём у гісторыю. У Беларусі ніколі не існавала перыёдыкі для публікацыі перакладаў на беларускую. Прыкладам, ва ўсходняга суседа быў часопіс «Иностранная литература», у заходняга — «Literatura na Świecie», у найбліжэйшых па духу ўкраінцаў — «Всесвіт». Тым часам, у Беларусі некалі, мо ў 1970-я, быў выключна альманах «Далягляды» (1975—1992 гг., удакладненне наша. — **А. Т.**). Пасля «Далягляды» спынілі існаванне, але з’явілася «Всемирная литература». Гэты часопіс чамусьці, выходзячы ў сталіцы Беларусі, друкаваў замежную літаратуру на рускай мове. Я сам, калі не ведаю арыгіналу і не маю беларускага перакладу, не супраць чытаць мастацкія творы замежных аўтараў па-руску, але магу гэта зрабіць без праблем дзякуючы расійскім выданням. А ў 1990-х магчымасці азнаёміцца з замежнай літаратурай на беларускай мове амаль не было. Толькі часопіс «Крыніца» даваў трохі такіх матэрыялаў. Але ж «Крыніца» не з’яўлялася спецыялізаваным на перакладах выданнем. Хоць гэта быў прарыў, які фактычна

абяцаў сённяшнюю эвалюцыю. Менавіта дзякуючы «Крыніцы» наш класік перакладной літаратуры Васіль Сёмуха меў магчымасць рэпрэзентаваць па-беларуску з нумара ў нумар творы нямецкамоўнага прыгожага пісьменства. Цяпер магчымасці сталі значна шырэйшымі.

**— Як сёння выглядае літаратурная карта беларускіх перакладаў?**

— Зразумела, ёсць мовы больш-менш пашыраныя ў перакладах. Напрыклад, многія гатовы перастварацьз англійскай. Кардынальна іначай справа выглядае ў стасунку да стараанглійскай. Але нават тут маем вельмі сімпатычнае з'яўленне перакладу паэмы «Бэўвульф» у выкананні Антона Францішка Брыля (пераклад гэтай паэмы газета «Звязда» назвала «галоўнай беларускай кнігай 2013 г.». — **А. Т.**). Адносна някепска з французамі, найбліжэйшымі славянамі: цэлая плеяда маладых аўтараў перакладае з польскай, іншыя людзі, а часам і тыя самыя — з чэшскай і славацкай моў. Сюды дадамо і пераклады са шведскай, якія з'явіліся за апошнія гады дзякуючы культурным прарывам. Здарыліся і добрыя перастварэнні з іўрыта. Што праўда, у апошнім выпадку заслуга адзінаасобная — Паўла Касцюкевіча (гэтаму спрыяла і палітыка ізраільскага пасла ў Беларусі): выйшаў Эдгар Керэт («Кіроўца аўтобуса, які хацеў стаць Богам», 2007), а таксама зборнік сучаснага ізраільскага апавядання «Чалавек, які скраў сцяну плачу». З нямецкай крышачку горш: толькі нядаўна сталі з'яўляцца новыя перакладчыкі пасля нашых вядомых класікаў (Васіля Сёмухі, Лявона Баршчэўскага, Галіны Скакун). Гэта Ірына Герасімовіч, якая ў 2013-м выдала кніжку сучаснага нямецкага аўтара М. Кумпфмюлера «Хараство жыцця» пра перадсмяротнае каханне Франца Кафкі, Альгерд Бахарэвіч, што перастварыў нядаўна па-беларуску казкі братоў Грым, Ігар Крэбс, што пераклаў для сайта «ПрайдзіСвет» падборку тэкстаў класічных нямецкіх песень.

Ясна, што не вырашана праблема (і ў бліжэйшы час яна хіба не развяжацца) так званых малых і экзатычных літаратур. У 2013 годзе праводзіўся цэнтральнаеўрапейскі фестываль «Шэнгенка», дзе хараша былі прадстаўлены палякі, славакі і чэхі, а вось венгры былі прадстаўлены перакладамі з мовы-пасярэдніка. На жаль, сёння няма людзей, якія валодаюць на належным узроўні вугорскай і беларускай мовамі. У гэтай сітуацыі, асабліва датычна паэзіі, я трымаюся пазіцыі, што для пераходнага часу пераклады магчымыя ў тандэме, поплеч з аўтарам, які дапамагае перастваральніку — падрадкоўнікам, выразным чытаннем, тлумачэннем «падводных» сэнсаў сваіх вершаў. Я не так даўно меў канструктыўны досвед такой працы на пленэры ў Грузіі, дзе акрамя гаспадароў сабраліся творцы і перакладчыкі з нашай краіны, а таксама з Літвы і Украіны. Канешне, слабая абазнанасць у грузінскай і літоўскай мовах вымушана кампенсавалася прымяненнем у кантактах англійскай і рускай моў.

**— Да пачатку 1990-х літаратурную класіку перакладалі на беларускую мову ў асноўным праз ужо гатовыя рускія пераклады. Ці варта перарабляць гэтую працу наноў, але ўжо маючы справу з арыгіналамі? Можа, варта пакінуць усё як ёсць і крочыць далей, бо шмат жа яшчэ працы, нават у перакладзе класікі.**

— Няма тут адзінага правіла. У кожным асобным выпадку трэба разбірацца. Усё залежыць перш за ўсё ад таго, наколькі таленавіта былі зроблены тыя тэксты. У цэлым «пераперакладанне» можа быць някепскай штукай. Прыклад? Возьмем «Рамэа і Джульету» ў перастварэнні К. Крапівы. Ён англійскай не валодаў і, зразумела, карыстаўся рускімі перакладамі. Але там знаходзяцца свае нечаканыя перакладчыцкія ўдачы. Зазначу, ні ў Пастэрнака, ні ў Шчэпкінай-Купернік няма такіх дасціпных, смешных рэплік, асабліва калі ідзе гаворка пра нізавы стыль, дзе лаянка і пярэбрахі слуг. Усё-такі талент байкапісца, гумарыста праяўляўся. У той жа час высокі стыль, пафасныя і лірычныя месцы ў Крапівы не вытрымліваюць канкурэнцыі ні з арыгіналам, ні з рускімі перакладчыкамі.

Але і тут варта задумацца, бо кожнае пакаленне мае права на сваё бачанне класікі. Ясна, што мае пераклады Бадлера іншыя, чым, скажам, у Юркі Гаўрука, які жыў 50 гадоў таму. А ў Андрэя Касцюкевіча, майго маладзейшага калегі, Бадлер можа таксама быць інакшым. Мо і не

трэба перакладаць усё нанава, але варта часам крытычна перачытваць перастворанае.

**— Ахапіць беларускімі перакладамі ўсю сусветную літаратуру немагчыма. Як паставіцца да адбору замежных твораў пры наяўнасці іх рускамоўных перастварэнняў?**

— Чалавек столькі разоў багаты, а некаторыя кажуць нават, столькі разоў чалавек, колькі ён ведае моў. Гэта, канешне, скарб — магчымасць чытаць у арыгінале. Нічога не маю супраць, калі чытаюць замежную літаратуру па-польску. Тым больш, што пераклады твораў Кафкі, Джойса, Борхеса ў польскай мове з'явіліся раней — тады, калі ў нас яны былі забаронены.

Але! Пераклад выконвае не толькі камунікатыўную функцыю. Пераклад — гэта геніяльны каталізатар уласнага актуальнага стану культуры. Невыпадкова залаты век расійскай паэзіі з Баратынскім, Пушкіным, Лермантавым адбыўся літаральна праз некалькі гадоў пасля культурнай рэвалюцыі, здзейсненай Жукоўскім і некаторымі іншымі на перакладчыцкай ніве. Гэта значыць, тады, калі сама паэтычная мова запрацавала. У мастацкім перакладзе. У выніку і сітуацыя для прыходу паэтаў выявілася больш спрыяльнай. Таму калі я, напрыклад, раблю пераклады, то думаю перш за ўсё пра чытачоў-літаратараў і беларускія тэксты, якімі аўтары адгукнуцца і будуць ужо ў адным кантэксце з перакладзенымі мною творцамі. Мы вырашаем стылістычныя праблемы. Мы запаўняем белыя плямы нашай лексікаграфіі, працуем нібы ў два бакі: ствараючы высокі стыль, з аднаго боку, а з іншага — перакладаем і масавыя творы, працуючы са слэнгам, прастамоўем, жаргонам — нармальнай мовай псіхалагічна падобных да нас жывых гарадскіх людзей. У якасці прыкладу згадаю пераклады твораў сучаснага ўкраінскага пісьменніка Сяргея Жадана, які актыўна карыстаецца актуальным гарадскім слэнгам па-ўкраінску. У польскай літаратуры аналагічным падыходам карыстаецца Дарота Маслоўская. Вельмі добра было б яе перастварыць, бо такія пераклады прыдаліся б нашым маладым аўтарам. З'яўляецца, пашыраецца такая субкультура і ў беларускамоўным асяродку. Успомнім: тэліць ці тэлефоніць, ночыць, прышпільны, аўтаспын — сёння шырока распаўсюджаныя слоўцы. Чым больш такога будзе, тым жывейшая мова. І пераклады гэтую жывасць каталізуюць. У чым спецыфіка працы сумленнага перакладчыка? Сутыкаючыся з нейкім «цяжкім», праблемным па-беларуску словам, ён гэтую праблему не можа абысці — у адрозненне ад нашага арыгінальнага аўтара, які, не ведаючы нейкага слова, спакойна абыходзіцца сінонімам ці іншым прыёмам. Сумленны перакладчык мусіць біцца лбом аб сценку, але спрабаваць знайсці аналаг. А калі такога няма, то часам і стварыць яго.

**— Але ці існуюць хоць якія стымулы для такой напружанай працы?**

— Зразумела, тут у пачатку будуць стаяць асабістыя прыярытэты і жаданні. Аднак важнае і матэрыяльнае заахвочванне. Я стараюся нелюбімых, не самых любімых аўтараў не перакладаць. Але на дадзеным этапе, дзякуючы пэўнаму статусу, я ўжо магу выбіраць сам, і адмаўляцца ад нейкіх замоў і прапаноў. Некалькі вершаў можна перакласці проста з любові. Цяжэй з п'есай ці раманам. Такія рэчы на голым энтузіязме цяжка выканаць. У гэтым сэнсе трэба дзякаваць тым, хто выдзяляе стыпендыі перакладчыкам. Як прыклад — Міністэрства культуры Францыі, якое пару гадоў таму дало мне стыпендыю на пераклад рамана «Евангелле паводле Пілата» Эрыка-Эманюэля Шміта. Добра перакладаць п'есы. Бо можна пабачыць вынік — тэатральную пастаноўку, што таксама ёсць пэўным каталізатарам і заахвочваннем. Зваротная сувязь вельмі важная для перакладчыка. Зрэшты, тут я больш кажу праз асабістую прызму. Кожны мае свае матывацыі ў перакладчыцкіх схільнасцях.

**— У кожнай справе важна, каб быў ар'ергард — моладзь. Што тут? У параўнанні, напрыклад, са старэйшым пакаленнем, з мінулымі часамі ці ёсць пэўныя зрухі?**

— Мне здаецца, кола пашырылася. Як мінімум у два разы. Гэта відаць, скажам, калі раздаюцца пэўныя ўзнагароды па выніках конкурсаў. Маем досыць прадстаўнічыя шорт-лісты літаратурных прэмій. Напрыклад, прэмія «Дэбют»

імя Максіма Багдановіча ўтрымлівае намінацыю «мастацкі пераклад». У першы год узнагароду падзялілі Вольга Цвірка і Наста Лабада. Абедзве пераствараюць сучасную шведскую літаратуру. Увогуле, апошнім часам увага да шведскай літаратуры выглядае сімптаматычнай. Трэба ўспомніць кампанію часопіса «Прайдзісвет»: Ганна Янкута і Кацярына Маціеўская (абедзве таксама ўжо лаўрэаткі «Дэбюта»), Юлія Цімафеева, Алена Пятровіч, Алеся Башарымава, Уладзь Лянкевіч, Павел Рааго… Трохі старэйшыя ад іх Вера Бурлак, Марыя Мартысевіч, выдатны перакладчык-багеміст Сяргей Сматрычэнка, у якога ўжо з'яўляюцца свае вучні-перакладчыкі.

Моладзь перакладае і класіку, і вельмі цікавіцца замежнымі літаратурнымі навінкамі. Што больш важна, не магу сказаць. Гэта як два крылы, неабходныя для паўнавартаснага палёту. Сярод апошніх кніг, што мне спадабаліся, — зборнікі дэтэктыўных і містычных апавяданняў, а таксама першы том апавяданняў сэра Артура Конан Дойла. Перакладчыкі не баяцца нібыта нізавога жанру і падыходзяць да яго вельмі сур'ёзна. Зрэшты, час уносіць свае карэктывы: Конан Дойл ці Эдгар По — даўно ўжо высокая класіка. Ёсць тэндэнцыя да перакладаў даўніх літаратур: маем зацікаўленасць да твораў на стараанглійскай і лацінскай мовах. Так, акрамя Антона Францішка Брыля, згадаю Міхася Баярына, што пераклаў з санскрыту «Бхагавад-Гіту». Таксама — Ігара Кулікова, з яго перакладамі не толькі з Рыгведы, але і з сярэднявечных сагаў. Ганна Янкута перакладае творы Джэйн Осцін — англійскую класіку. А вось Юля Цімафеева цікавіцца амерыканскімі паэтамі-бітнікамі, спрабуе перастварыць «Лямант» Алена Гінзберга. Сярж Мядзведзеў пераклаў «Байцоўскі клуб» Чака Паланіка.

Тым не менш, працы яшчэ шмат. Важна, каб у нас з'явіўся цывілізаваны кніжны рынак, аўтарскія правы шанаваліся, а перакладчыцкія намаганні належным чынам аплачваліся. Пакуль жа і перакладчыкі, і перакладзеныя кнігі з'яўляюцца ў нас галоўным чынам з тых моў, краіны якіх маюць фундацыі, што падтрымліваюць такую дзейнасць. Яскравы прыклад — Інстытут Гётэ і швейцарская фундацыя «Pro helvetia» дапамагаюць перастварэнню з нямецкай. Ёсць падтрымка з боку шведаў, палякаў (скажам, Польскі інстытут у Мінску), чэхаў. Але па-ранейшаму існуе даволі шырокае кола людзей, якія перакладаюць без матэрыяльнай падтрымкі — проста таму, што не могуць не займацца мастацкім перакладам. Калі казаць пра чытача, то найлепшай падтрымкай беларускай літаратуры і культуры з'яўляецца набыццё кнігі. Не толькі і не столькі таму, што яна беларуская! Найперш таму, што яна добрая. І мы тут маем усё шырэйшы выбар. Кожны спажывец знойдзе нешта сваё.

**— Беларускі народ мае вартае інтэрнацыянальнай увагі прыгожае пісьменства. Якія праблемы існуюць з перакладамі айчынных аўтараў на іншыя мовы і як яны вырашаюцца? Які рэсурс можна выкарыстаць у дадатак?**

— Беларуская мова пакуль яшчэ не мае шмат замежных «агентаў», папулярызатараў і прамоўтараў. За мяжой вобмаль такіх людзей, якія адначасова ўмеюць добра перакладаць і добра валодаюць беларускай мовай. За рэдкімі выключэннямі з найбліжэйшых краін-суседзяў. Так, у Польшчы ўсё часцей публікуюцца нашы аўтары дзякуючы перакладчыку паэзіі Адаму Паморскаму і перакладчыцы прозы Малгажаце Бухалік. Па-ўкраінску адносна нямала таксама. Па-літоўску ўсё болей, дзякуючы працам Уладаса Бразюнаса і Вітаса Дзякшніса. Пераклады на рускую мову знаходзяць сваіх чытачоў. Трохі радзей — па-нямецку, хаця і з выкарыстаннем мовы-пасярэдніка. Так, на нямецкую «Код адсутнасці» Валянціна Акудовіча перакладзены з рускай, а вершы Вальжыны Морт часам перакладаюцца з англійскай, а не з беларускай версіі. Хоць паасобныя перакладчыкі з'яўляюцца. Напрыклад, шмат добрых рэчаў робіць Томас Вайлер. Я ў гэтай справе аптыміст, хоць і стрыманы. Бо лічу, што самі беларусы — дзяржава ці нейкія недзяржаўныя фонды — мусяць прыкласці шмат намаганняў (у тым ліку фінансавых), каб стымуляваць вывучэнне беларускай мовы і літаратуры за мяжой. Тады міне трохі часу — і ў свеце паболее перакладчыкаў з беларускай.

**Мікола Мікуліч**

# Пошук вядзе ў глыбіню

У рамках Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў «Гуманітарныя навукі як фактар развіцця беларускага грамадства і дзяржаўнай ідэалогіі» (2011—2015), над якой працуюць гуманітарыі Беларусі, намаганнямі супрацоўнікаў аддзела ўзаемасувязей літаратур Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі выконваецца праект «Нацыянальныя тыпы ментальнасці ў беларускай і еўрапейскіх літаратурах: ідэйна-эстэтычная спецыфіка, стылявая эвалюцыя, перакладчыцкая інтэрпрэтацыя». Нацыянальны тып ментальнасці — гэта вызначальная духоўна-генетычная асаблівасць этнасу, яго ўласцівасць прадуцыраваць і фарміраваць пэўную сацыякультурную карціну свету, аснову якой складаюць уяўленні чалавека пра з'явы і працэсы грамадскай рэчаіснасці. У дадзенай карціне цесна пераплецена прыродна-біялагічнае і культурна-цывілізацыйнае, ландшафтна-геаграфічнае і сацыяльнае, рацыянальнае і эмацыянальнае, псіхалагічнае і метафізічнае, свядомае і падсвядомае. У ёй аспекты індывідуальнага самапачуцця асобы арганічна паяднаны з грамадскімі настроямі і тэндэнцыямі. Адлюстроўваючы спецыфіку духоўна-псіхалагічнага жыцця народа, мастацкая літаратура абавязкова раскрывае характэрную нацыянальна-этнічную сістэму поглядаў, ацэнак, розуманастрояў і паводзін герояў, што дзейнічаюць у адпаведнасці з пэўнымі сацыяльна-філасофскімі прынцыпамі і крытэрыямі. Гэтая сістэма грунтуецца на тых аб'ектыўных ведах і суб'ектыўных вераваннях, якімі валодае народнае асяроддзе, і разам з дамінуючымі патрэбнасцямі і архетыпамі калектыўнага падсвядомага фарміруе іерархію грамадскіх каштоўнасцей і прыярытэтаў. Сублімiраваўшыся ў характэрныя аспекты духоўна-філасофскай парадыгмы, нацыянальны тып ментальнасці такім чынам абумоўлівае прадуцыраванне і функцыянаванне ў літаратуры тых ці іншых ідэйна-мастацкіх канстант і стылявых ліній.

У калектыўным даследаванні аддзела ўзаемасувязей літаратур упершыню ў літаратуразнаўстве прааналізаваны перадумовы зараджэння, станаўлення і эвалюцыі беларуска-іспанскіх культурна-літаратурных узаемасувязей, устаноўлены многія новыя факты, якія значна паглыбляюць ранейшыя ўяўленні пра гэтыя ўзаемасувязі. Увод «Дыярыуша» Ю. Харкевіча ў беларускую культурную прастору праз пасрэдніцтва перакладу на нацыянальную мову садзейнічаў асэнсаванню гістарычна-псіхалагічнай спецыфікі яго ідэясферы, у кантэкстуальным полі якой быў увасоблены канцэпт «Іспанія», што дазволіла паказаць асаблівасці ўспрымання культурнага, рэлігійнага жыцця іспанцаў, іх побыту, прыроднага свету ўраджэнцам беларуска-літоўскіх земляў, чые ўспаміны аб наведванні ў XVIII стагоддзі далёкай паўднёваеўрапейскай краіны прыкметна вылучаюцца ў творы сваёй экзатычнасцю.

Акадэмічныя кампаратывісты звярнулі ўвагу на пашырэнне іспанскай тэматыкі ў творчасці беларускіх аўтараў XIX стагоддзя, звязанае як з актывізацыяй кантактных сувязей (удзел выхадцаў з беларускіх земляў у вайне Напалеона з Іспаніяй), так і з зараджэннем рамантызму. На матэрыяле твораў А. Міцкевіча «Бульба», «Дзяды», «Конрад Валенрод» і інш. разгледжана спецыфіка ўвасаблення нацыянальных канцэптаў шляхам пераасэнсавання інтрадуктаванага іспанскага матэрыялу.

Адметнасць нацыянальнага адлюстравання раманскага свету асэнсавана на прыкладзе «Успамінаў аб Іспаніі» Ф. Булгарына, а таксама «Погляду на Астурыю» А. Галынскага.

Адзначана, што зварот да іспанскіх матываў у беларускай літаратуры першай паловы XX стагоддзя ў вялікай ступені быў абумоўлены падзеямі грамадзянскай вайны ў Іспаніі, адлюстраванымі ў паэзіі Я. Купалы, М. Танка, В. Таўлая і іншых аўтараў.

Аналіз беларускамоўных перакладаў з іспанскай літаратуры дазволіў выявіць характэрныя знаходкі айчынных аўтараў у перадачы асноватворных элементаў іспанскага менталітэту і падкрэсліць іх сувязь з выбарам адпаведнай перакладчыцкай стратэгіі.

У даследаванні прааналізаваны нацыянальнае і наднацыянальнае вымярэнні факту ананімнасці выдання шэрагу буйных польскамоўных беларускіх эпічных твораў XIX стагоддзя. Выяўлена, што такая ўстаноўка бярэ пачатак у адчуванні пісьменнікамі вялікай сацыяльнай адказнасці перад сучаснікамі і нашчадкамі за разгортванне «гісторыі», яна распаўсюджваецца на забаўляльныя, негістарычныя творы (Г. Мастоўская), знаходзіць раскрыццё ў вальтэрскотаўскай фіксацыі дэталей побыту мінулага (В. Савіч-Заблоцкі, І. Яцкоўскі і інш.). Факт ананімнага выдання твораў у многім абумоўлены дамінантнай задачай аўтараў па-мастацку «задакументаваць» гістарычную праўду, якая не ўсім прыходзіцца даспадобы, і тым самым засцерагчы сябе ад верагодных у той час нападак і пераследаванняў (І. Яцкоўскі, В. Савіч-Заблоцкі, Я. Лучына і інш.). Праўдападобнасць дадзенай версіі ўзмацняецца і тым фактам, што, напрыклад, Я. Баршчэўскі, які выступаў без псеўданіма, ад свайго імя, абраў іншы спосаб «абароны» — фантастычна-казачную жанравую форму.

У працэсе аналізу польскамоўнай беларускай прозы XIX стагоддзя ў кантэксце еўрапейскай устаноўлена, што традыцыя ананімнага выдання твораў развівалася ў двух варыянтах, якія трывала замацаваліся ў еўрапейскіх, у тым ліку і славянскіх літаратурах. Першы варыянт запачаткаваны Г. Уолпалам і засноўваецца на ідэі знойдзенага або атрыманага ў спадчыну старажытнага рукапісу. Другі паходзіць ад «Апавяданняў карчмара» В. Скота і грунтуецца на ідэі запісу твораў, пачутых пры пэўных абставінах, якія ў славянскай традыцыі часта звязаны з феноменам вечарніц (М. Гогаль, В. Савіч-Заблоцкі). І ў пісьмовай, і ў вуснай формах бытавання артэфакты пазіцыянуюцца як цікавыя і павучальныя, таму вартыя друку.

У калектыўнай працы пераканаўча паказана, як мастацкая проза Я. Баршчэўскага, В. Савіч-Заблоцкага, І. Яцкоўскага, І. Ходзькі і іншых пісьменнікаў дазваляе пераадолець успрыманне радаводу нашай культурнай спадчыны як выключна «сялянскага», таму што запаўняе прабел у гісторыі айчыннай культуры, звязаны з адсутнасцю ўвасаблення жыцця нацыянальнай арыстакратыі. Устаноўлена, што вобраз аўтара прадстаўлены ў аблічччы старога чалавека, які валодае патэнцыяльнай здольнасцю дакладна ўзнавіць «гісторыю», карыстаецца павагай і даверам да сябе. Выяўлена, што пазіцыянаванне сябе як літаратара ў творах ажыццяўляецца з пазіцый уласнай сціпласці, а таксама непрэстыжнасці гэтага занятку, што вырастае са светапогляду пісьменнікаў, але з цягам часу ператвараецца ў даніну модзе.

Акадэмічныя кампаратывісты прааналізавалі асноўныя тэндэнцыі гісторыка-культурнага развіцця ў Беларусі і ва Украіне першай паловы XX стагоддзя. Як прыкметная рыса таго перыяду адзначана ўвага да чалавека і яго душэўна-пачуццёвага свету, якая спалучаецца з фундаментальнымі задачамі нацыянальнага самавызначэння героя, спасціжэння глыбінных слаёў народнай псіхалогіі, асноў нацыянальнай ментальнасці, перадачы цэласнага і каларытнага аблічча этнасу, выяўленага ў «часе-прасторы».

У працы адзначана спецыфіка мастацка-вобразнага асвятлення хранатопу горада ў беларускай і ўкраінскай паэзіі першай паловы XX стагоддзя. Праз паэтычныя характарыстыкі асаблівасцей гарадского ладу жыцця чалавека, духоўна-псіхалагічных працэсаў творцы заваастралі ўвагу на «антынамічнасці горада як яго фундаментальнай уласцівасці». У светаўспрыманні мастакоў слова насцярожана-стрыманыя, а часам і адкрыта негатыўныя адносіны да горада карэлявалі з прызнаннем яго як праявы і гаранту прамысловага, навуковага, культурнага прагрэсу, магчымасці выйсці за межы старога ўтылітарнага побыту да больш дасканалых, дынамічных і свабодных форм жыцця. Аналіз мастацкіх тэкстаў дазволіў засяродзіць увагу на тым, што, выступаючы складнікам маштабнага гістарычнага працэсу, горад — не толькі маркёр, але і ключавое звяно дзяржаўна-культурнага будаўніцтва і нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Параўнальны аналіз выявіў адрознасць рэсурсаў нацыянальнай ідэнтыфікацыі ў беларускай і ўкраінскай паэзіі 1920—1930-х. Адзначана спецыфіка мастацка-вобразнага ўвасаблення ў беларускай і ўкраінскай паэзіі індустрыяльнага пейзажу як спосабу адлюстравання тэхніч-

ных пераўтварэнняў, змен у гарадскім жыцці, іх экалагічных наступстваў пад уплывам прамысловай рэвалюцыі. Закранаюцца своеасаблівыя псіхалагічныя прынцыпы ўспрыняцця творцамі гарадскога асяроддзя, абумоўленыя іх сацыяльнай ўстаноўкай, г.зв. аціцюд. Эстэтычная пазіцыя беларускіх аўтараў у дачыненні гарадскога ладу жыцця абумоўлена повязямі ментальнага тыпу беларуса, засяроджанага, няспешна разважлівага, сфарміраванага акумулюючай энергетыкай прыродна-вясковых ландшафтаў. Зроблены высновы аб тым, што беларускія і ўкраінскія паэты, акрэсліўшы новы ўрбаністычны вектар развіцця нацыянальнага мастацтва слова, праз індустрыяльны, культурны і псіхалагічны пейзаж індывідуальна-творча і нацыянальна своеадметна выявілі горад як самастойны эстэтычны аб'ект, феномен цывілізацыйнага поступу ў яго разнастайных праявах.

У другой тэматычна акрэсленай частцы даследавання звяртаецца ўвага на прыродна-ландшафтныя кампаненты ў мастацка-эстэтычнай карціне свету як крэатыўную стыхію, што валодае невычэрпнымі магчымасцямі ў перадачы аксіялагічнай, этыка-філасофскай змястоўнасці быцця. Заўважана, што на прыродныя топасы экстрапалююцца важнейшыя сэнсавыя параметры духоўнай і фізічнай арганізацы способу жыцця нацыянальнай супольнасці. Так, сімволіка-метафарычная насычанасць прыродна-паэтычных вобразаў Я. Коласа і М. Рыльскага, А. Куляшова і А. Малышкі (у прыватнасці, вобраза лесу) дазваляе інтэрпрэтаваць іх як код дыялектычнага пазнання нацыянальнага космасу Беларусі і Украіны. Прааналізаваны шэраг тыпалагічна падобных вобразаў-сімвалаў расліннага свету ў паэзіі М. Багдановіча і ўкраінскіх паэтаў А. Алеся, А. Крымскага, У. Самійленкі, М. Чарняўскага. Вызначаны іх мастацка-эстэтычная вартасці і функцыянальная роля ў паэтычных тэкстах, як маляўнічых ландшафтна-тапанімічных адзінак нацыянальнай жыццепрасторы, транслятараў сутнасных духоўна-нацыянальных канстант і сімволікі адраджэнцка-патрыятычнага зместу.

Параўнальны аналіз маладой рускай і беларускай рускамоўнай паэзіі засведчыў, што вялікі ўплыў на яе развіццё аказалі буйныя сацыяльныя, палітычныя, эканамічныя і культурныя перамены ў грамадскім жыцці, такія як «перабудова», развал СССР і іншыя, якія паслужылі своеасаблівым стартавым момантам для глыбінных зрухаў у грамадскай свядомасці.

1980-я — пачатак 1990-х у Мінску былі адзначаны высокай актыўнасцю авангардных арт-груп, творчых аб'яднанняў «Форма», «Плюраліс», «Галіна», «Квадрат», «Камікон», «Беларускі клімат» і іншых, якія адыгрывалі значную ролю ў фарміраванні беларускай культурнай прасторы таго часу. Яркі след у айчынным авангардным мастацтве 1990—2000 гадоў пакінулі Ігар Корзун, Ігар Палевікоў, Мікалай Раманоўскі і іншыя беларускія паэты, мастакі і дызайнеры.

Устаноўлена, што базавым прынцыпам творчасці многіх маладых аўтараў з'яўляецца развіццё фармальна-змястоўнага інавацыйнага патэнцыялу слоўнага знака, у аснове якога ляжаць вынікі мастацкага сінтэзу вербальнага знака з візуальным. Эстэтычная рэалізацыя гэтага прынцыпу палягае ў сферы паэтычнага эксперыменту з фармальным і змястоўным бокам паэтычнага слова, яго графічным аспектам (што прасочваецца ў ранняй творчасці Дз. Строцава, творах Дз. Плакса, Р. Бернштэйна, У. Сурыкава, Дз. Дзмітрыева), а таксама пры стварэнні адмысловай мастацкай прасторы на стыках літаратурнай творчасці з выяўленчым мастацтвам — жывапісам (Л. Русава), графікай (Дз. Строцаў, Дз. Плакс), каліграфіяй (І. Палевікоў), фатаграфіяй і дызайнам (І. Корзун).

У сучасным вербальным мастацтве мова разглядаецца аўтарамі як адмысловы феномен быцця, які аказвае вялікі ўплыў на свядомасць аўтара. Верагодна, гэтым абумоўліваецца характэрная малаэмацыянальнасць і некаторая адхіленасць лірычных суб'ектаў эксперыментальнай паэзіі ад вынікаў сваёй творчасці, адчуваецца імкненне паэтаў максімальна аб'ектывізаваць погляд на навакольны свет. У зместавым плане назіраецца зрух увагі аўтараў з «вечных тэм» на паўсядзённыя, звычайныя праблемы — адбываецца гэтак званая «паэтызацыя рэчаіснасці».

У даследаванні выяўлены асаблівасці перакладаў еўрапейскага санета на беларускую мову. На аснове глыбокага аналізу шматлікіх перакладных тэкстаў заўважана, што ў пачатку XX стагоддзя паступова складваюцца дзве стратэгіі напісання і перакладу санета — «купалаўская» і «багдановічаўская». Першая дазваляе мадэрнізацыю класічнага санета, захоўваючы санетны малюнак рыфмы, выкарыстоўвае трохстопныя вершаваныя памеры, дапускае метрычную разнастайнасць. Другая прытрымліваецца класічнага сілаба-танічнага санета, у аснову якога пакладзены ўзоры французскага, нямецкага і рускага сілаба-танічнага верша. Вядомы даследчык Я. Барычэўскі ў сваёй кнізе «Тэорыя санета» становіцца на бок «багдановічаўскага» шляху стварэння і перакладу санета, аднак беларускія паэты працягваюць прытрымлівацца дзвюх стратэгій, напрыклад, Ул. Жылка — «багдановічаўскай», Ю. Гаўрук — «купалаўскай». Гэтыя дзве тэндэнцыі «працягваюць жыць» і ў XXI стагоддзі.

У калектыўнай працы акрэслены крытэрыі кампаратывісцкага аналізу перакладаў «Крымскіх санетаў» А. Міцкевіча на беларускую мову. Даказана, што на аўтарскі стыль перакладчыка звычайна ўплывалі як сацыяльна-палітычная сітуацыя, так і развіццё беларускай версіфікацыйнай сістэмы. Пры перакладзе санетаў Міцкевіча на беларускую мову ў большасці перакладчыкаў заўважаюцца спробы прыстасавання польскай сілабікі да беларускай сілаба-танічнай сістэмы вершаскладання. Асобна вылучаецца дыфузны (кампрамісны) з пункта гледжання фармальных прыкмет шлях перакладу польскіх санетаў на беларускую мову (напрыклад, у перакладах М. Танка, У. Мархеля, М. Кандратава).

У даследчай працы прымаецца тэзіс аб тым, што «анегінская страфа» — гэта пушкінскі санет (па аналогіі з шэкспіраўскім і спенсэраўскім). На аснове гэтага робіцца параўнальны аналіз перакладу рамана ў вершах А. Пушкіна «Яўгеній Анегін», выкананага А. Куляшовым і захаваных урыўкаў перакладу гэтага твора А. Дудара. Выяўлены перакладчыцкія стратэгіі пры пераадоленні праблемы захавання знешніх фармальных прыкмет, а таксама пошуку адэкватнага адпаведніка метафар і рускамоўных устойлівых словазлучэнняў на беларускую мову. Вылучаны стылявыя інавацыі Алеся Дудара і Аркадзя Куляшова.

Апісаны і асэнсаваны ўдалыя і «спрэчныя» тэкстуальны замены ў працы перакладчыкаў над беларускамоўным варыянтам знакамітай паэмы. У асноўным Аркадзю Куляшову ўдалося добра перадаць змест і знайсці адпаведную вобразнасць арыгінала, яго перакладчыцкая стратэгія дазволіла стварыць набліжаны да пушкінскага эквіартыстычны твор. Магчыма, што ў першым і трэцім раздзелах рамана ў перастварэнні Алеся Дудара тэмпарытм больш жвавы, чым ва ўвасабленні Аркадзя Куляшова, дзе болей акадэмізму. Абодва паэты, можна сцвярджаць, узорна перастварылі «анегінскую страфу» — своеасаблівы пушкінскі санет, — увёўшы яго ў кантэкст беларускага літаратурнага працэсу. Поўны тэкст «Яўгенія Анегіна» ў перакладзе Аркадзя Куляшова фактычна завяршае перакладчыцкі дыскурс знакамітага пушкінскага рамана ў вершах.

***

Перакладны санет і ў XXI стагоддзі адыгрывае важную ролю ў беларускім літаратурным працэсе, пра што сведчыць зварот перакладчыкаў новага пакалення да гэтага жанру (напрыклад, пераклад санетаў Фернанда Пэсоа). Санет як строгая, складаная форма выступае маркерам майстэрства перакладчыка і развіцця беларускай версіфікацыйнай сістэмы.

Такім чынам, дзякуючы глыбокаму параўнальна-тыпалагічнаму аналізу, раскрыццю сацыяльна-гістарычных традыцый і каштоўнасцей, нацыянальна-этнічных адрозненняў і сыходжанняў, пісьменніцкіх феноменаў, арыгінальнага мастацкага мыслення, выканаўцамі праекта «Нацыянальныя тыпы ментальнасці ў беларускай і еўрапейскіх літаратурах: ідэйна-эстэтычная спецыфіка, стылявая эвалюцыя, перакладчыцкая інтэрпрэтацыя» выяўлены характэрныя асаблівасці інтэгральнай асновы духоўна-маральнага свету беларускай і іншых еўрапейскіх літаратур — рускай, украінскай, польскай, англійскай, іспанскай і інш.

**Маргарыта Дзяхцяр**

**maladost@zviazda.by**

# Дакрануцца да слоў

Часам бывае, што не можаш падабраць трапныя словы. Часцей за ўсё так і бывае — хочаш сказаць, а не можаш. Як той сабака. Словы часам важней за ўчынкі, але не заўсёды надаеш гэтаму ўвагу. Словы, у адрозненне ад учынкаў, нельга выправіць, — можна падабраць новыя.

Гэтай стужцы Браяна Клагмана і Лі Стэрнтала ўжо некалькі гадоў, але наўрад ці многія пра яе чулі. Гэта адзін з тых фільмаў, якія, заўважыўшы на «Кінапошуку», закрыеш, нягледзячы на высокі рэйтынг. З першага погляду — звычайная меладрама з вядомымі па серыялах акцёрамі, якая не абяцае інтэлектуальнай асалоды. Насамрэч «Словы» — гэта вялікая таямніца.

Тры гісторыі, якія зліліся ў адну; тры гісторыі — і невядома, якая з іх сапраўды існуе; тры гісторыі, дзе галоўнымі героямі будуць, напэўна, словы, а не людзі. Усё пачынаецца са «Слоў» — кнігі, якую толькі што выдаў Клэй Хаманд. Зараз мы, гледачы, будзем слухаць яго новы раман — ён сам нам яго прачытае. Гэта будзе кніга пра чалавека, які таксама піша кнігу. Гісторыя падобная не то да скарбонкі, не то да матрошкі. Здаецца, лёгка заблытацца — некалькі кніг, некалькі герояў, але стужка пабудавана максімальна камфортна для гледача.

Чаму жыццё прымушае нас рабіць тое, чаго мы не хочам? Чаму мы павінны не жыць, а выжываць? Каб зарабіць грошы, мы займаемся нелюбімай справай, а чым давядзецца. Як Роры Джэнсан. Ён, малады і гарачы, хоча стаць пісьменнікам. Ноччу ён штосьці піша. Вядома, у стол. А днём працуе ў выдавецтве сярод людзей, якія займаюцца кнігамі, сярод людзей, якія іх друкуюць, сярод людзей, чые кнігі друкуюць. Падобна да самабічавання. А можа, гэта стымул — працаваць там, дзе хочаш быць аўтарам. Калі-небудзь, калі ўсё будзе добра, ты ім станеш.

Кажуць, «за кожным вялікім мужчынам стаяла вялікая жанчына». Роры пакуль што далёка да велічы, але жанчына ў яго ўжо ёсць. Дора.



Яна такая прыгожая, пяшчотная і цярплівая. Яна заўсёды падтрымлівае Роры, верыць у яго нават, здаецца, больш, чым ён сам. З ёй Роры едзе ў Парыж.

Чаму нешта чароўнае заўсёды адбываецца ў Парыжы? Чаму там людзі прыгожыя, круасаны свежыя, кветкі напоўнены асаблівым водарам? Чаму Парыж — гэта, як казаў Хемінгуэй, свята? Напэўна, там пазбаўляешся ад звычайнага жыцця. Роры там знайшоў жыццё новае.

У антыкварнай краме Дора ледзьве не прымушае Роры набыць скураны партфель для папер. Не, не для папер, а для рукапісаў. Роры кажа, што гэта нейкая старызна, а Дора лічыць, што партфель выдатны. Жанчынам часам трэба саступаць. Гэта ж могуць быць вялікія жанчыны.

Роры і Дора вяртаюцца ў Амерыку са старым скураным партфелем. Там і сапраўды цяпер ляжаць рукапісы. Але ці толькі рукапісы Роры?

Шмат гадоў таму гэты партфель належаў іншаму чалавеку. Гаспадаром яго быў прыгожы малады салдат-амерыканец, які, па іроніі лёсу, знойдзе ў Францыі сваё каханне — Селію. Але якое каханне без «разынак»: «Ён ведаў толькі адно французскае слова, а яна — адно англійскае. Гэта былі ідэальныя адносіны».

Цяпер у фільме, нібы па спіралі, будуць ісці разам некалькі падобных сюжэтных ліній. Каханне і пісьменніцтва, сумленне і пісьменніцтва, драма і пісьменніцтва. Малады безыменны амерыканец таксама напіша кнігу, якую надрукуе той, хто знойдзе партфель з рукапісам…

Інтрыга раскрытая, падумаеце вы? Здаецца, ужо ўсё расказана? І вядома, што будзе далей? А вось і не. Сюжэты, якія яшчэ зусім нядаўна рухаліся разам па адной спіралі, — перасякуцца і разбягуцца.

«Словы» — гэта драма не аднаго чалавека, а, напэўна, цэлага пакалення. Гэта драма тых, хто хоча поспеху, хто шукае яго ў тварах людзей і маніторах ноўтбукаў. Гэта драма тых, хто любіць словы больш, чым людзей, хто заключае «пагадненне з сумленнем».

Ці ёсць сэнс казаць штосьці яшчэ? Магчыма, толькі адно: выкарыстоўваючы словы, памятайце, што кожнае з іх можа быць выкарыстана супраць вас.



**Анастасія Васілевіч**

# Катрынка, якая гучыць па-новаму

«Завяла катрынку!» — можаце падумаць вы. Канешне, тэма бацькоў і дзяцей не самая рэдкая. Яшчэ ў школе ўсе чыталі этапны твор Фёдара Міхайлавіча, і многія ведаюць біблейскую запаведзь: «Шануй бацьку свайго і маці сваю». Але ў мінулым тэатральным сезоне, нібы грыбы пасля дажджу, адна за адной з'яўляліся пастаноўкі, якія закраналі гэтую тэму. Калі гэта катрынка, то дзеля чаго яна зноў заводзіцца? Значыць, стала патрэбнай людзям па абодва бакі рампы. Штосьці зразумець і пераасэнсаваць, у нечым разабрацца... З гэтага вымалёўваецца самая што ні на ёсць сапраўдная тэатральная тэндэнцыя.

Пачала я разважаць пра гэта, калі на III Нацыянальнай тэатральнай прэміі перамог спектакль НАДТ імя Максіма Горкага «Зацюканы апостал (Аракул?..)». У ім падымалася праблема сямейных узаемаадносін, якія будуюцца на шантажы, маніпуляцыях і грошах. А таксама неразуменне дзяцей-індыга бацькамі… Журы палічыла, што гэтая пастаноўка заслугоўвае назвацца лепшай у Беларусі. Крытэрыяў было шмат. Але актуальнасць тэмы — адзін з іх. І тут для мяне пачала выбудоўвацца пэўная мазаіка. Першымі кавалкамі сталі восеньскія чыткі, а апошнімі пазламі — вясеннія прэм'еры.

У рамках фестывалю «ТЭАРТ-2014» адбыліся чыткі фінкіх п'ес. У адной з іх, «У бабчыным боце граў факстрот» (Сірку Пелтала), раскрывалася тэма індыферэнтных адносін бацькоў да дзяцей. Цікава, што хлопчык, на якога першыя амаль не звярталі увагі, употайкі сустракаўся з бабуляй. Тое ж самае і ў «Зацюканым апостале»: галоўны герой Малыш ладзіў з дзедам лепш, чым з бацькамі. Што ў жыцці — тое і ў тэатры. Менавіта дзеці заўсёды занятых бацькоў найбольш прывязаныя да бабуль і дзядуль. Але здараецца і наадварот. Спектакль «Пахавайце мяне за плінтусам» НАДТ імя Якуба Коласа стаў намінантам III Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Галоўны герой Саша — хворы хлопец, якога пакінула маці. Але ён любіць яе больш, чым бабулю, якая аддае ўнуку ўсю любоў і робіць яго папраўку сваёй мэтай.

Аднак часцей за ўсё ўздымаецца іншая праблема: дзеці не шануюць бацькоў. Восенню адбыліся дзве чыткі п'ес, прадубліраваныя вясной, але ужо ў рамках праекта «Драма LIVE». У п'есе «Стыд» Аляксея Макейчыка тэма бацькоў і дзяцей не самая галоўная, але праблема непаважання маці ўзнята дастаткова сур'ёзна. Другая прачытаная п'еса «Гэта ўсё яна» Андрэя Іванова ўжо не новая. У розных фарматах яна з'яўлялася на тэатральнай прасторы не толькі Беларусі, але і іншых краін. Прываблівае балючая тэма інтэрнэт-стасункаў. Галоўная гераіня зарэгістравалася ў сацыяльнай сетцы пад нікам дзяўчынкі-падлетка. Так яна спрабавала наладзіць кантакт з сынам. Але калі выявілася праўда, усё склалася трагічна. Спектакль «Гэта ўсё яна» быў прызнаны «лепшай пастаноўкай для дзяцей і падлеткаў» Латвіі, нягледзячы нават на нецэнзурную лексіку. А гэта паказвае, што не толькі беларусы звярнулі ўвагу на дастаткова старую тэму.

Адной з нашумелых навін мінулага сезона стала пастаноўка п'есы «Ціхі шоргат сыходзячых крокаў» Дзмітрыя Багаслаўскага адразу ў двух мінскіх тэатрах. У гэтай п'есе беларускага драматурга ўздымаецца тэма бацькоўскай хаты, узаемаадносін сваякоў. Галоўны герой Аляксандр адстойвае радавое гняздо, якое вырашана прадаць, і размаўляе з ужо памерлым бацькам у сне. Сын да апошняга выпытвае, ці быў ён любімым. А бацька толькі ўсміхаецца і паліць. У Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі падчас спектакля героі перасыпаюць пясок, які накрывае ўсю сцэнічную пляцоўку. «Тата» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы па гэтай жа п'есе вырашаны ў іншым ключы — з выкарыстаннем відэа-праекцый. Самая яскравая — калодзеж, у які трапляе кропля вады. Лейтматыў часу — галоўны у абодвух спектаклях. І вада, і пясок сімвалізуюць хуткаплыннасць жыцця. А для часу ўсё адно — тое пакаленне ці гэтае. Некалі і мы станем пясчынкамі.

Анастасія Васілевіч

Яшчэ адзін спектакль па п'есе Дзмітры Багаслаўскага — «Калі заўтра няма». Некалькі разоў паказаны на пляцоўцы РТБД, ён прымусіў задумацца аб непазбежным канцы жыцця. Галоўны герой не ладзіць з бацькамі, якія заўсёды ў камандзіроўках. Аднойчы ён знаёміцца з дворнікам, які становіцца яго дарослым таварышам. Аднак той аказваецца хворым і нечакана памірае. У хлопца ўзнікае пытанне: што далей? І першае, што ён робіць, — вывозіць свайго дзеда-інваліда на прагулку. Ці так цяжка прамовіць: «Я цябе люблю» сваім бацькам? Напэўна, мы таксама недасказалі нейкія словы. А ніхто не ведае, колькі часу ў нас засталося.

Гэтага не ведала і маці гераіні Машы ў спектаклі «Аднойчы ўсе мы будзем шчаслівыя» Цэнтра імя Ус. Мейерхольда (Масква). Яна па віне дачкі трапіла на той свет. Гэтая пастаноўка, прывезеная на тэатральны форум «M@rt.кантакт- 2015» (Магілёў), была вызначана лепшай. На той свет ледзь не сышлі ад гора і героі вясенняй прэм'еры «Вечнасць на дваіх» у НАДТ імя Максіма Горкага. Старыя бацькі, якія страцілі дом, ніяк не маглі пераехаць да кагосьці са сваіх чацвярых дзяцей. Сітуацыя дайшла да абсурду: мужа і жонку рассялілі па розных хатах. Тэма «лішняга рота» была паднята і ў прэм'ерным спектаклі РТБД. Галоўны герой пастаноўкі «Дзед» — стары чалавек, унук якога «падабцаснік», а нявестка — меркантыльная асоба, мэта якой — яго кватэра. У доме становіца так невыносна, што праз іншае вымярэнне стары вяртаецца ў ваенны час да сяброў.

Пасля такой канцэнтрацыі жудасных гісторый пачынаеш разважаць, ці на самай справе ўсё так жахліва? Можа, і не заўсёды, але сцэна — гэта павелічальнае шкло: нават маленькія праблемы разглядаюцца вельмі падрабязна, што дапамагае гледачам адказаць на іх пытанні, разабрацца ў сабе, перажыць катарсіс. Канешне, у гэтым выпадку драма вучыць лепей, а вось ці падымаецца тэма бацькоў і дзяцей у камедыйным ключы? Выдыхнуўшы, адразу прыгадаю яшчэ адну прэм'еру мінулага сезона — «Круг любові» ў НАДТ імя Максіма Горкага. Гэта пастаноўка пра тое, што колькі б мы не казалі пра адрозненні, мы вельмі падобныя да сваіх бацькоў. Самі не заўважаючы, можам паўтарыць іх жыццёвы шлях і іх памылкі. У спектаклі маладая гераіня вырашае збегчы з каханкам, як гэта зрабіла некалі яе свякроў. Яшчэ адна камедыя — «Фінт-круазэ» ў РТБД. Тэма гіперапекі ўжо дарослых дзяцей выклікае тут толькі смех. Але трэба адзначыць, што дзеці ўсё ж такі «перамагаюць» і выходзяць з-пад бацькоўскага крыла.

Вясной адбылася чытка п'есы Наталлі Слашчовай «Хурма». П'еса спецыфічная тым, што ў ёй раскрываюцца ўзаемаадносіны ўжо дарослай дачкі і маці. Першая ніяк не можа наладзіць сваё жыццё, а другая працягвае лічыць погляды дачкі на жыццё «недарослымі». Гэтая чытка была паказана на Лабараторыі рэжысёрскіх праектаў у Цэнтры эксперыментальнай рэжысуры. На адной з такіх лабараторый быў прадстаўлены і экскіз спектакля «Каралева прыгажосці з Лінэйна» паводле п'есы Марціна Макдонаха. П'еса таксама распавядае пра ўзаемаадносіны дарослай дачкі і маці. Першая ізноў ніяк не можа знайсці жаночае шчасце, а другая спецыяльна ва ўсім ёй перашкаджае. Дзве «Чайкі» Антона Чэхава ўзляцелі ў тэатральнае неба ў мінулым сезоне. Прэм'еры тэатра імя Янкі Купалы і Беларускага дзяржаўнага моладзевага тэатра.

Спектаклі, якія больш за год ідуць на беларускай сцэне, дапаўняюць сфарміраваную мазаіку. «Раскіданае гняздо», «Дажыць да прэм'еры», «Ліфт» у РТБД. «Вечар» і нават «Паўлінка» з «Пінскай шляхтай» у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы і г. д. Іх шмат. Канешне, некаторыя прысвечаны тэме бацькоў і дзяцей цалкам, у іншых гэта толькі адна з падтэм. Але ва ўсіх гэтых пастаноўках пакаленні шукаюць агульную мову, і, на жаль, не заўсёды знаходзяць.

Яшчэ адна праблема — немагчымасць дарослых дзяцей уладкаваць сваё жыццё. Шукаючы шчасце, яны жывуць з бацькамі. Трыццаць год — гэта зараз няшмат… Так, час змяніўся. Расказаць аб гэтых змяненнях можна рознымі мовамі. Таму не трэба злавацца на дзіўныя сюжэты і вельмі сучасную лексіку. Тэма бацькоў і дзяцей, прапушчаная праз прызму сучаснасці, становіцца катрынкай, якая гучыць па-новаму. А новую мелодыю заўсёды цікава паслухаць.

**Паліна Лісоўская**
maladost@zviazda.by

# Давайце размаўляць!

**Тэатральны сезон 2014—2015 праляцеў, прамільгнуў і нетаропка скрочыў на перыферыю нашай свядомасці. Застаецца толькі ўспамінаць, чым новым ды яскравым ён нас уразіў, а чым засмуціў. Вось крытыкі і ўспамінаюць, абагульняюць і аналізуюць. А чым мы, маладыя, горшыя?! Ёсць у мяне, да прыкладу, на прыкмеце адна вельмі добрая тэндэнцыя. Спяшаюся занатаваць яе, каб не збегла. Каб смелай хадой перайшла яна ў новы сезон, набралася сіл і... выдала нам новы тэатр.**

Ведаеце, якім я ўяўляю сабе новы тэатр? О, гэта чароўнае месца, у якім спектакль робіцца толькі першым крокам да сапраўднага мастацтва. Другі крок (нічым не саступае па значнасці першаму!) — усеагульная рэфлексія. Стваральнікі спектакля разам з гледачамі абмяркоўваюць толькі што прыгатаваную страву мастацтва. Наогул, можна гэта есці ці ні ў якім разе? Смачна, спадабалася ці брыдота выключная? Якіх спецый не хапае? А якія інгрэдыенты дужа смачныя? Іншымі словамі, рэжысёр атрымлівае бэкграўнд ад сваіх гледачоў. І далей можа ўжо разважаць, ці даляцеў яго пасыл (мэсэдж) да ўдыторыі. Калі не, то чаму? Чым дыхае сучасны глядач і чаго чакае ад тэатра? І гэта не значыць, што рэжысёр ультрасучаснага спектакля, пачуўшы крытыку ад рафінаваных гледачоў, пойдзе ставіць класічную пастаноўку, якіх зараз — на кожным кроку. Не, такіх рэжысёраў яшчэ адшукаць трэба. Але ж некаторыя крытычныя заўвагі могуць быць грунтоўнымі і патрэбнымі. Да таго ж, сам рэжысёр мае магчымасць растлумачыць гледачам, чаму ён абраў менавіта такую тэатральную форму і такую тэматыку. Тады і гледачы пашыраць свой кругагляд.

Колькі слоў… Атрымалася цэлая споведзь. Але ж гэтыя словы спарадзіла само жыццё. Цяпер — да яго.

У 2014 годзе ў наш Моладзевы тэатр прыехаў працаваць расійскі рэжысёр Іскандэр Сакаеў. І так яму спадабалася тут, што мы маем ужо тры ягоныя спектаклі ў рэпертуары. У гэтым сезоне ён здзівіў дзвюмя пастаноўкамі: «Чэхаў. Камедыя. Чайка» і «Сон у летнюю ноч». Вам могуць спадабацца гэтыя спектаклі, а могуць і не спадабацца — гэта справа вельмі суб’ектыўная. Але я ведаю дакладна: яны вылучаюцца з шэрай масы рэпертуарных варыянтаў фаст-фуду — усялякіх камедый палажэнняў ды немудрагелістых лёгкіх пастановачак. Галоўнае — колькі пытанняў узнікае пасля прагляду: чаму такая форма, чаму такая інтрэпрытацыя класікаў, чаму, чаму, чаму… І вось, што больш за ўсё мяне здзіўляе: сам рэжысёр хоча арганізаваць абмеркаванні з гледачамі пасля сваіх спектакляў. Бо колькі ні сустракала рэжысёраў (і добрых!) — адзіны скепсіс. Навошта, маўляў, абмяркоўваць? Ну, на фестывалях — добра, можна і паразмаўляць, бо так прынята, але ж пасля рэпертуарных спектакляў якраз і не прынята гаварыць «па душах». Чула такое нават ад маладога рэжысёра-эксперыментатара. Што гэта? Звычка ці лянота? Таму жаданне Іскандэра Сакаева пайсці на дыялог з гледачамі — вялікае дасягненне. Хто ведае, магчыма, ужо ў наступным сезоне яго планы матэрыялізуюцца. І Моладзевы тэатр стане не толькі пляцоўкай цікавых спектакляў, але і пляцоўкай для тэатральных роздумаў. А Іскандэр Сакаеў зможа атрымліваць мэсэджы ад гледачоў не пры дапамозе інтэрнэтаўскіх каментарыяў на АфішыТут.бай, а пры дапамозе размовы. Бо інтэрнэт, ведаеце, часцяком хавае сапраўднае…

Дарэчы, у тым жа Моладзевым тэатры ў гэтым сезоне прайшла яшчэ адна цікавая прэм’ера — танцавальны перформанс «Прадметная размова». Танцоры разважалі на тэму сучаснага мастацтва: што гэта за з’ява такая дзіўная, якія ў яе мэты і формы. Пагадзіцеся, пытанне сучаснага мастацтва вельмі дыскусійнае. Асабліва ў дачыненні перформансаў, дзе час ад часу не разумееш, чаго хацеў аўтар: шакіраваць-эпаціраваць цябе ці данесці глыбокую ідэю?

Стваральнікі спектакля разам з гледачамі абмяркоўваюць толькі што прыгатаваную страву мастацтва. Наогул, можна гэта есці ці ні у якім разе?

Маладыя танцоры не толькі самі разважалі, але і гледачоў падключылі да разважанняў — арганізавалі абмеркаванне. Людзей засталося сапраўды шмат, амаль у кожнага — сваё пытанне да творцаў. Усяго хапала: і крытыкі (што гэта, маўляў, такое, для каго зроблена і як мы павінны гэта разумець?), і добрых слоў, і жартаў, і шчырасці. Сыходзіць, натуральна, не хацелася ні творцам, ні гледачам. Потым, ужо пад дажджом на вуліцы, людзі працягвалі тэатральныя размовы. І было цёплае пачуццё еднасці і любові да тэатра.

Такі сонечны настрой можа не ўзнікнуць, нават калі пастаноўка спадабалася. Бо ты не ўспрымаеш яе як родную. У яе сваё жыццё, у цябе — сваё. Неяк так. Вось зараз каханы сустрэне, а потом і пра вячэру падумаць няблага, а ці працуе крама і г.д. Родным жа спектакль стане, калі ты паглыбішся не толькі ў яго, але і ў яго стваральнікаў, калі іх зразумееш, то і спектакль адкрыецца для цябе па-новаму.

Таму вельмі люблю хадзіць у Тэатр беларускай драматургіі. Безумоўна, не ўсе, але некаторыя спектаклі там абмяркоўваюцца. І ў гэтым сезоне ў тэатры — пік сустрэч з гледачамі. Асабліва запомнілася абмеркаванне прэм’ернага дакументальнага спектакля-даследавання «Мабыць?». Сам спектакль Аляксандра Марчанкі, на маю думку, атрымаўся адным з лепшых у сезоне. Выкананы ён у шыкоўнай тэхніцы дакументальнага тэатра verbatim, якая, на жаль, толькі-толькі прыходзіць на нашу сцэну. Рэжысёр, драматург і акцёры бралі інтэрв’ю ў звычайных беларусаў, каб стварыць зборны партрэт нашага сучасніка. Такі дакумент зацікавіў і формай, свежай ды лёгкай, і зместам. Мы ўбачылі беларуса — ні белага, ні чорнага, але рознага, натуральна, як у жыцці. Вось для такога вострага па тэматыцы і новага па форме спектакля і неабходна абмеркаванне. Яно атрымалася дыскусійным і вельмі жывым. Не магу дакладна сказаць, колькі часу яно ішло: не да гадзінніка тады было! Паўсюль эмоцыі, гарачыя вочы і думкі, думкі… Увесь час слухала і назірала за актрысамі. Яны падчас размовы быццам наноў перажывалі складаныя жыцці сваіх гераінь (адна з тэм спектакля — хатні гвалт над жанчынай). Жанчыны знялі свае акцёрскія маскі, а пад імі — столькі моцных уласных перажыванняў тэмы. Ужо дзеля гэтых твараў трэба было прыйсці на абмеркаванне…

Аднак спектаклі абмяркоўвалі ў гэтым сезоне не толькі ў тэатрах. Ёсць яшчэ адзін варыянт абмеркавання — усяго і адразу на незалежнай тэрыторыі.

Тэатральны крытык, арт-менеджар Аляксей Стрэльнікаў зладзіў цікавы праект «Тэатральны квартал» — яшчэ адно дасягненне года. Чатыры разы крытыкі, рэжысёры, драматургі (уся тэатральная раць) дый звычайныя смяротныя збіраліся ў нефармальнай абстаноўцы кафэ, каб пагутарыць аб тэатральных навінах. Пра што толькі не размаўлялі: пра той самы спектакль «Мабыць?», пра прэм’еру «Тэатра Ч», пра купалаўскія «Чайку», «Другую Сусветную»…

Драматургічныя чыткі, драматургічная лабараторыя, спектакль Таццяны Траяновіч «Ілюзіі», форум вулічных тэатраў і г. д. і г. д. Ідэя такіх свабодных тэатральных гутарак — свежая і неабходная для беларускай тэатральнай прасторы.

Новыя пастаноўкі выходзяць і патрабуюць аналізу. А што можа быць больш аб’ектыўным,

Жаданне Іскандэра Сакаева пайсці на дыялог з гледачамі — вялікае дасягненне. Хто ведае, магчыма, ужо ў наступным сезоне яго планы матэрыялізуюцца

чым аналіз калектыўны? На жаль, ёсць зараз у «Тэатральнага квартала» сур'ёзная праблема — яго месьчачковасць. Неяк не зацікаўлены рэжысёры, спектаклі якіх абмяркоўваюцца, прыходзіць і ўдзельнічаць у размове. Дый і простых гледачоў на «Тэатральным квартале» звычайна не ўбачыш. Памятаю, на першым «Квартале» за адным столікам сядзела шумная кампанія сяброў. Яны прыйшлі ў кафэ, каб адсвяткаваць нейкае сваё свята, безумоўна, не ведалі, што тут адбудзецца тэатральная вечарына. Як жа было шкада, калі яны ні на хвіліну не спынялі сваіх зычных размоў, каб проста пачуць, што гэта тут такое ўсе абмяркоўваюць. Але гэта ўжо, напэўна, пытанне асабістай культуры.

Чаму на тэатральныя сустрэчы не прыходзяць гледачы, якія бачылі спектаклі, і якія, упэўнена, маюць свае думкі? Напэўна, галоўная перашкода — недахоп рэкламы. Пастоў у сацыяльных сетках недастаткова: многіх гледачоў там проста няма, а хто ёсць, можа, і не пабачыць пост. Вось калі б разам з праграмкамі да спектакляў раздаваліся яшчэ і паведамленні, што ёсць магчымасць абмеркаваць пастаноўку разам з крытыкамі і творцамі, эфект быў бы іншы. Увогуле, любая рэклама ў тэатрах спрацавала б — і афішы, і візітоўкі, і жывая размова з людзьмі (прэзентаваць ім ідэю «Тэатральнага квартала», запрасіць на сустрэчу). Таму трэба быць усім разам — тэатрам і незалежным праектам, тэатрам і… тэатрам. Такой еднасці ў нас пакуль няма.

Добра, што з'яўляюцца хаця б нейкія кропачкі дыялогаў датычна рэпертуарных спектакляў. Гэтую тэндэнцыю я і хацела занатаваць. З надзеяй, што такія абмеркаванні стануць не выключэннем з правіла, а самім правілам для ЎСІХ нашых тэатраў (бо колькі прэм'ер прайшлі без аніякіх дыялогаў), што пераадолеюць абмеркаванні сваю месьчачковасць (бо былі ў гэтым сезоне і іншыя абмеркаванні, але ж таксама нейкія месьчачковыя).

Мабыць, тэатральныя размовы ўсё яшчэ могуць некаму падацца не такімі ўжо значнымі. Ну, паразмаўлялі — і што? Але ж размовы — гэта яшчэ і шырокі аналіз тэатральнага працэсу, і дыялог паміж гледачамі ды творцамі, і пашырэнне самога паняцця «тэатр». Так, апошні робіцца не толькі месцам для прагляду спектакляў, але і больш шырокім культурным асяродкам. Бо, як паказваюць абмеркаванні гэтага сезона, размовы ад тэатра пераходзяць на жыццё, на агульначалавечыя пытанні. І калі раней тэатр толькі дасылаў інфармацыю, то цяпер ён можа яшчэ і атрымліваць яе ўзамен. І гэта вялікі інфармацыйны кругаварот, мацнейшы, чым любыя прыгожыя рэжысёрскія пасылы.

**Караліна Губарэвіч**

# Пад імем Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча

Тэатральнае жыццё Мінска разнастайнае: амаль кожны дзень у сталічных тэатрах можна назіраць захапляльныя пастаноўкі на самы розны густ. Часам розныя тэатры ставяць адны і тыя ж п’есы. У такім выпадку аматары тэатральнага мастацтва маюць магчымасць параўноўваць працу рэжысёраў, аналізаваць падыходы да матэрыялу, назіраць за рознымі акцёрамі ў адным амплуа.

А якое тэатральнае жыццё па-за межамі сталіцы?

У мяне было адчуванне, што жыхары невялікіх гарадоў не спакушаны разнастайнасцю тэатральнага рэпертуару. Але маё меркаванне змянілася, калі я наведала Бабруйск. «Горад маленькі, але вельмі тэатральны» — так пра яго казаў расійскі акцёр Павел Арленеў.

У Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча прыходзілі людзі разнастайных прафесій: ад лесапрамыслоўцаў да купцоў. Вялікую частку гледачоў складала яўрэйскае насельніцтва Бабруйска. Падчас Вялікай Айчыннай тэатр прыпыніў працу, аднак у 1944-м тэатральнае жыццё атрымала новае дыханне і на базе даваеннага быў створаны тэатр, які існуе і сёння. У той час на сцэне ставіліся «Падступства і каханне» Шылера, «Рускае пытанне» Сіманава, «Дама-невідзімка» Кальдэрона і шмат што іншае. У 1957-м тэатральны сезон пачынаўся спектаклем паводле твора Янкі Купалы «Раскіданае гняздо».

Несумненна, дух часу пакінуў на сценах адбітак мінулага, прыемны водар арыстакратычнасці. А па Бабруйску развеяна тэатральная багемнасць...

Трэба памятаць, што рух часам ідзе ад маленькага да вялікага, і таму ёсць верагоднасць, што гісторыя бабруйскага тэатральнага мастацтва мела ўплыў на мінскія тэатры

Увогуле, цікава, што бабруйскі тэатр — адзінае месца ва ўсёй Беларусі, дзе пастаўлены ўсе п’есы Дуніна-Марцінкевіча. Нездарма тэатр носіць яго імя.

Ці зведала пляцоўка змены праз некалькі дзесяцццігоддзяў? Хутчэй за ўсё, так. Нягледзячы на сучасны інтэр’ер, тэатр валодае невытлумачальным зачараваннем. Варта толькі зайсці ў яго — і прыходзіць усведамленне, наколькі важны тэатр як частка гісторыі беларускага мастацтва. Без усялякіх сумненняў можна сказаць, што дух часу пакінуў на сценах адбітак мінулага, прыемны водар арыстакратычнасці. А па Бабруйску развеяна тэатральная багемнасць...

Рэпертуар Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча вельмі шырокі. Ставяць спектаклі як прадстаўнікоў замежнай класікі (напрыклад, «Добры чалавек з Сычуані» Брэхта), так і класікаў суседкі Расіі (Астроўскі). Не пакідаюць без увагі і сучасных беларускіх аўтараў — паказваюць «Не пакідай мяне» Аляксея Дударава, «Згублены лебедзь» Юрыя Сохара. Акрамя спектакляў для дарослых, у рэпертуар бабруйскага тэатра ўваходзяць найярчэйшыя дзіцячыя пастаноўкі, сярод якіх «Аленькая кветачка» Аксакава, «Ледзяная панна» Марчука.

Сёлета ўвесну ўстанову наведвалі госці з Калужскага абласнога тэатра юнага гледача. Прадставілі вячэрні спектакль паводле Чэхава «Вішнёвы сад», а таксама два дзіцячыя: «Шчаўкунчык і Мышыны кароль» і «Падарунак Феі».

Трэба памятаць, што рух часам ідзе ад маленькага да вялікага, а таму, на мой погляд, ёсць вялікая верагоднасць таго, што гісторыя бабруйскага тэатральнага мастацтва ў нейкай ступені мела ўплыў і на мінскія тэатры.

**Мікалай Анісавец**

# Міндзікі

## Гісторыя знакамітага лоеўскага роду Байдакоў, напісаная па ўспамінах Багацкай (Байдак) Галіны Паўлаўны 1922 года нараджэння

**На пачатку XX стагоддзя наша сям'я была самай вядомай і заможнай сярод беларускіх сем'яў Лоева. З ёю па аўтарытэце і багацці маглі сапернічаць, бадай, толькі асобныя багатыя сем'і лоеўскіх яўрэяў Долгіных, Прытыцкіх, Сабалеўскіх, Холмецкіх. За нашым родам трывала замацавалася мянушка Міндзікі, якая пайшла ад знакамітага ў Лоеве нашага прапрадзеда, якога звалі Міна. Міна Байдак быў ганчаром. У канцы нашага агарода і зараз шмат гліны і гліняных чарапкоў.**

### Байдакі

Прозвішча Байдак даволі пашырана на постсавецкай прасторы. Яно вядзе свой пачатак ад мянушкі Байдак. Большасць даследчыкаў лічыць яго ўкраінскім па паходжанні і звязвае з ракой. Само ж прозвішча магло быць утворана ад назвы байдак — старадаўняя рачная лодка з адной мачтай. Байдакі, як тып рачных суднаў, выкарыстоўваліся на Дняпры з часоў Сярэдневякоўя і да канца XVIII стагоддзя для сплаўнага і ўзводнага суднаходства. Можна меркаваць, што Байдаком маглі празваць гаспадара лодак, іх будаўніка або заўзятага рыбака. Некаторыя даследчыкі звязваюць наша прозвішча з дзеясловам байдачыць — бурлачыць, наймацца на байдакі на працу. Байдакамі называлі бурлакоў, якія працавалі ў суднаўладальнікаў па найме для валачэння суднаў на рачных перакатах і мелкіх месцах. Зыходзячы з гэтай версіі, лоеўскі род Байдакоў бярэ паходжанне яшчэ з Сярэдневякоў'я, калі плавалі па Дняпры на байдаках і байдачылі іх.

Ёсць, праўда, яшчэ адна версія: быццам прозвішча ўзыходзіць да пераноснага значэння назоўніка байдак — свавольнік, лянівец, гультай, бяздзельнік, буян. Але гэтай версіі дакладна не адпавядае наш лоеўскі род Байдакоў, які па сямейным паданні паходзіць з рамеснікаў.

Нашага прадзеда звалі Яўхім Мінавіч. У яго было тры сыны: старэйшы — наш дзед Ісак, сярэдні — Ілля, малодшы — Павел, і адна дачка — Алена. Дружная была сям'я, працавітая, дабрабыту дасягалі сваёй працай. Пабудавалі за Рачышчам цагельню, сталі рабіць цэглу для ўласнага дома. Зямлю пад дом прыдбалі на Базарнай вуліцы ў цэнтры Лоева. На цагельні працавалі ўсёй сям'ёй: прадзед, дзед Ісак і яго сын, наш бацька Павел, дзед Ілля і яго сыны Іван і Мацвей, дзед Павел — сем мужчын, а калі было неабходна і пасільна, падключаліся жанчыны. Працавалі не пакладаючы рук з раніцы да вечара, таму і жылі ў дастатку.

На самым пачатку XX стагоддзя перайшлі жыць з прадзедавай драўлянай хаты, што месцілася на Плюшчоўцы, у новы цагляны дом. Але з гадамі сям'я павялічвалася, сыны прыводзілі ў дом нявестак, нараджаліся дзеці. Вырашылі будаваць новы, значна большы цагляны дом, на які ўжо мелі сродкі. Месца набылі таксама ў цэнтры Лоева, там, дзе вуліца Плюшчоўка прымыкала да Базарнай вуліцы. Зараз на месцы гэтага дома па вуліцы Царыкава ўзведзена пяціэтажка. Вялікі дом на чатыры сям'і быў пабудаваны ў двух узроўнях, з утульнымі падваламі. Уваход у дом меў вялікі ганак з шасцю прыступкамі. Кожная сям'я жыла ў агульным доме асобна, у кожнай былі тры пакоі, кухня, кладоўка, печ і грубкі — печкі для ацяплення. Працавалі разам на цагельні, але кожная сям'я мела сваю зямлю і апрацоўвала яе самастойна. Хутка сястра дзеда, Алена, выйшла замуж за музыканта Леаніда Цярлецкага і з'ехала з ім у Кіеў. Частка яе дома пуставала, у ёй Міндзікі адзначалі рэлігійныя святы.

Прадзед Яўхім быў набожным чалавекам, спяваў і чытаў у Свята-Троіцкай царкве, сябрам яго быў святар Канстанцін Сарачынскі. Часта бывала ў нашым доме і сястра святара настаўніца Вольга Максімаўна. Усе ў нашым родзе атрымалі добрую па тых часах адукацыю, у доме размяшчалася вялікая бібліятэка з творамі класікаў, у тым ліку і Т.Р. Шаўчэнкі, творчасцю якога асабліва захапляліся.

Цагляны дом на Базарнай вуліцы прадалі заможнай яўрэйскай сям'і, прозвішча якой згубілася ў памяці. Але мянушка новай гаспадыні дома захавалася: усе звалі яе Бройня, але, верагодна, яна мела пашыранае яўрэйскае імя Броня. Яе ведалі як добрага чалавека і гаспадыню крамы, у якой гандлявалі тканінамі.

## Ансоненкі-Царыкі

Бацька наш Павел ажаніўся з вельмі прыгожай лоеўскай дзяўчынай Ганнай Ансоненка-Царык. Наша мама паходзіла з вядомага, але збяднелага лоеўскага роду Захарэўскіх. Яе дзед служыў у царскім войску на Украіне. Там ён атрымаў паведамленне, што яго дачка Соня, якая нарадзілася пасля таго, як яго прызвалі ў войска на 25-гадовую службу, выходзіць замуж. Папрасіў адпачынак, а калі яго не пусцілі, уцёк з войска дадому, хаця да канца службы заставалася тры гады. За Дняпром, зусім блізка ад Лоева, яго схапілі і як дэзерціра павесілі ў вёсцы Задзярэеўка на дрэве. У сям'і Захарэўскіх забралі зямлю, толькі хату з невялікім агародам пакінулі. З тых часоў сям'я вяла бядняцкае жыццё. Але свет, як кажуць, не без добрых людзей.

Старэйшую дачку беглага рэкрута Наталлю ўзяла кухаркай у свой прыгожы маёнтак у вёсцы Суткоў графіня Кацярына Бараноўская. Маёнтак размяшчаўся ў жывапісным месцы на высокім беразе Дняпра за 12 кіламетраў на поўнач ад Лоева. Пазней графіня выдала Наталлю замуж за свайго конюха і фурмана Яўхіма Ансоненку-Царыка. Прыгожых маладых братоў Ансоненкаў-Царыкаў Кацярына Бараноўская прыкмеціла і ўзяла да сябе на службу з Царскага хутара ў Чарнігаўскай губерні, праз які памешчыца часта ездзіла па справах у Чарнігаў. На хутары жыла сям'я Ансоненкаў — сямёра сыноў з бацькам. Маці памерла. Прадзеды і дзяды Ансоненкаў разводзілі авечак, шылі кажухі і шапкі па модзе, якая ў тыя часы называлася «царскай». Іх вырабы карысталіся шырокім попытам сярод заможных людзей. З-за гэтай акалічнасці хутар набыў назву «Царскі», а за сям'ёй Ансоненкаў трывала замацавалася другое прозвішча — Царык. Памешчыца ўзяла да сябе двух братоў: старэйшага Яўхіма і малодшага Рамана. Яўхім у якасці фурмана суправаджаў графіню ў яе шматлікіх паездках, з-за чаго на Лоеўшчыне гулялі плёткі, што ў Кацярыны Бараноўскай фурман з'яўляецца каханкам. Асабліва гэтыя плёткі пашырыліся, калі ў другой палове 1880-х сямейнае жыццё графіні разладзілася, што пазней, у 1894 годзе, прывяло да разводу з Аляксандрам Бараноўскім, які быў значна старэйшы за жонку, са скандалам, праз суд.

Магчыма, гэтыя плёткі і падштурхнулі графіню Бараноўскую паскорыць жаніцьбу свайго фурмана на Наталлі Захарэўскай. Яшчэ ў Суткове ў маладой сям'і з'явіліся два сыны: Пятро і Андрэй. Іншыя дзеці нарадзіліся ўжо ў Лоеве. Усяго ў сям'і Яўхіма і Наталлі было 9 дзяцей. З іх выжылі толькі два сыны і дзве дачкі. Старэйшы сын Пятро сябраваў з сынамі Бараноўскай, хаця быў маладзейшым за іх. Дзеці графіні напачатку атрымлівалі адукацыю ад гувернёраў, вучыўся з імі і Пятро, прысеўшы каля ўвахода ў памяшканне і старанна слухаючы настаўнікаў. Нярэдка здаралася, што яму пасля ўрокаў даводзілася тлумачыць матэрыял графінічам, якія не здолелі яго засвоіць. Бараноўская была мудрай і добрай жанчынай, яна прыкмеціла кемлівага і здольнага малога ды накіравала на вучобу разам са сваімі сынамі.

Вядома, што графіня Бараноўская заўсёды клапацілася пра сваіх слуг, не пакідала іх без падтрымкі. Калі Наталля і Яўхім захацелі пераехаць на сталае жыццё ў Лоеў, памешчыца пабудавала ім драўляны дом на 4 пакоі і купіла пад гаспадарчыя патрэбы невялікі кавалак зямлі ў полі. На жаль, гэты дом у 1918 годзе згарэў. Яўхім падчас Першай сусветнай вайны служыў у войску, затым доўгі час працаваў качагарам на параходзе «Звязда».

У сям'і Ансоненкаў-Царыкаў панаваў патрыярхат: што дзед Яўхім скажа, тое і будзе. Мама расказвала, што калі яна закончыла 4 класы Лоеўскай школы і стала ў бацькі прасіць дазволу на далейшую вучобу, бо марыла стаць доктарам, той моцна адлупцаваў яе рэменем. Пры гэтым гняўліва прыгаворваў: «У графіні дачка не доктар, а бач ты, дачка конюха хоча быць доктарам». За гэта мама была ў крыўдзе на нашага дзеда Яўхіма і сама імкнулася сваім дзецям даць добрую адукацыю. Заўсёды казала нам: «Вучыцеся, вучыцеся, не пашкадуеце».

У Лоеў Пётр вярнуўся, маючы больш высокую адукацыю за яго аднагодкаў, чым бацькі вельмі ганарыліся. Бацька ўладкаваў яго на працу паштальёнам, але гэтая праца Пятру была недаспадобы — вельмі аднастайная і неаўтарытэтная. Ён марыў аб працы, якая б давала шырокія магчымасці для развіцця і самаўдасканалення. Аднойчы ён, разнёсшы частку паштовак па адрасах, другую выкінуў у раку. Неўзабаве хлопца выгналі з працы. Бацька, які меў даволі суровы нораў, адлупцаваў юнака і паслаў вадзіць сляпых жабракоў. Гэтая работа таксама давала на пражыццё, бо адмовіць пасланцу Божаму ў ахвяраванні лічылася вялікім грахом. Пятро прывёў сляпых жабракоў на гару за Лоевам і кінуў іх там. Раззлаваны бацька ўладкаваў свайго адукаванага, але непаслухмянага сына вучнем каваля да лоеўскага купца Чартахоўскага, мяркуючы, што цяжкая праца направіць хлопца на шлях. Але бліжэйшым цеплаходам Пятро з'ехаў у Кіеў. Знайшоў сабе працу ў аптэцы, якая належала яўрэю з Лоева. Днём працаваў у аптэцы, а вечарамі вучыўся ў Кіеўскім медвучылішчы. У якасці фельчара пайшоў на Першую сусветную вайну. Потым удзельнічаў у рэвалюцыі, на баку чырвоных ваяваў падчас Грамадзянскай вайны. Ужо ў канцы 1920-х закончыў Акадэмію Генеральнага штаба, служыў камісарам дывізіі і меў два ромбы на каўняры. Сваім бацькам ён купіў у Лоеве дом з трыма пакоямі. Узяў іх на ўтрыманне — штомесячна дасылаў грашовыя пераводы на пражыццёвы максімум. Да таго ж штогод прыязджаў і прывозіў усё неабходнае. Так працягвалася да апошніх гадоў жыцця бацькоў: дзед Яфім памёр у 1933, а баба Наталля — у 1940 годзе.

Калі арыштавалі маршала Тухачэўскага, у доме Пятра Ансоненкі-Царыка знішчылі ўсе фотаздымкі, на якіх апошні быў сфатаграфаваны разам з маршалам. Каб пазбегнуць рэпрэсій, Пятро стаў карыстацца адным прозвішчам Ансоненка. Да вайны Пятро Ансоненка-Царык служыў у Генштабе, а перад Вялікай Айчыннай атрымаў прызначэнне на пасаду дырэктара закрытага ваеннага завода, які выпускаў боепрыпасы да «Кацюш» і размяшчаўся на Крымскай набярэжнай у Маскве. Пражыў Пятро Ансоненка-Царык доўгае жыццё і памёр амаль у 100-гадовым узросце ў 1986 годзе.

Пайшоў у рэвалюцыю і падчас яе загінуў другі мамін брат Андрэй Ансоненка-Царык. Маміна малодшая сястра, мая цётка Паша, двойчы выходзіла замуж. Першы раз за лоеўскага хлопца Івана Шумігая. Калі муж загінуў у 1918 годзе, у яе засталася гадавалая дачка Даша. У 1920-я цётка Паша другі раз выйшла замуж — за татарына Асмана Сабірава, вельмі добрага чалавека. Бацькі дзядзькі Асмана былі катэгарычна супраць яго жаніцьбы на хрысціянцы і казалі: «Або табе твая жонка, або мы, бацькі. Калі ты выбіраеш жонку-хрысціянку, мы табе не бацькі». На што той адказваў: «Мой баб Паша харошы, я яе не пакіну». Бацькі ад яго адмовіліся. Дзядзька Асман заўсёды дапамагаў нашай сям'і па гаспадарцы, асабліва адчувальнай яго дапамога стала пасля смерці бацькі. Ён заўсёды здзіўляўся, чаму мы, хрысціяне, ядзім «бруднае свіное вуха» і пагарджаем самым чыстым мясам — канінай. Цётка Паша яго харчовы выбар падзяляла — таксама ела каніну.

У дзядзькі Асмана не было сваіх дзяцей, і ён усю сваю любоў аддаваў падчарцы Дашы, якая ў адказ дрэнна вучылася і з цяжкасцю закончыла толькі 7 класаў. У 1938 годзе ён паехаў на радзіму ў Татарстан, каб наведаць пляменнікаў, бацькі яго ўжо памерлі. Паехаў зімой у моцны мароз і па дарозе адмарозіў ногі. Па вяртанні ў Лоеў у яго пачалася гангрэна, ад якой ён і памёр. Завяшчаў не ставіць на магілу крыж, а пакласці камень, што цётка Паша і зрабіла. Дачка цёткі Пашы Даша да вайны выйшла замуж за настаўніка, нарадзіла дачок Веру і Надзю. У 1943 годзе фашысты вывезлі цётку Пашу, яе дачку і

ўнучак у Германію, дзе ўтрымлівалі ў канцэнтрацыйным лагеры. Пасля вайны цётка Паша вярнулася ў Лоеў, а яе дачка выйшла замуж за паляка і засталася жыць з дзецьмі ў Польшчы. Вядома, што іх ужо няма ў жывых.

## У статусе кулакоў і падкулачнікаў

Міндзікі ў цэлым лаяльна паставіліся да Кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту. Меркавалі, што рабоча-сялянская ўлада будзе спрыяць рабочаму люду, усім, хто сваім гарбом стварае дабрабыт. Да таго ж ведалі, што сваяк Пятро Ансоненка-Царык з юнацтва звязаў лёс з бальшавікамі і пайшоў у рэвалюцыю.

Дзед Ісак і баба, якую па дакументах звалі Яўдзікія, а па вулічнаму Аўдзюха, захацелі жыць з сям'ёй асобна, і ў 1928 годзе для іх усім родам пачалі будаваць асобны цагляны дом на Плюшчоўцы, недалёка ад драўлянага дома прадзеда, на процілеглым баку вуліцы. Але ў гэтым доме ім пажыць не давялося.



Дом, пабудаваны Міндзікамі ў Лоеве па вуліцы Леніна, 23 (ранейшая Базарная вуліца). У цяперашні час у будынку размяшчаецца Лоеўскі разліковы цэнтр банкаўскіх паслуг № 316 філіяла № 300 Гомельскага абласнога ўпраўлення ТАА «АЗБ Беларусбанк». У 1990-м з усходняга боку дома была зроблена двухпавярховая прыбудова, а ў 2008—2009-м праведзена рэканструкцыя. У пачатку XXI стагоддзя будынак унесены ў спіс помнікаў архітэктуры XIX стагоддзя.

У сям'і Міндзікаў панаваў матрыярхат: апошняе слова заўсёды заставалася за бабай Еўдакіяй. Яна была вельмі рухавая, працавітая і добрая, але па-своему: любіла дык любіла, а калі нешта было не па яе, то не даравала. Найбольш цярпела ад яе мая мама. Баба заўсёды казала: «Мая печ, мая і рэч». Гэта значыла: не супярэч мне ні ў чым.

Маме даводзілася быць у хатніх справах дыпламатам, бо свякруха ўсё трымала ў сваіх руках — і прала, і ткала.

У дзеда Ісака і бабы Аўдзюхі было трое дзяцей: акрамя сына, нашага бацькі Паўла, дзве дачкі — Ефрасіння і Еўдакія. Ефрасіння выйшла замуж за лоеўскага хлопца, аднафамільца Рыгора Байдака. Той быў чалавек, што называецца, з характарам, не захацеў, каб яму дапамагалі, сам пабудаваў драўляную хату: адзін вялікі пакой з печчу, кухняй і ложкамі, у тым ліку і драўляным дзіцячым ложкам без спінак. Працаваць на цагельні адмовіўся. На пражыццё зарабляў з дапамогай уласнага каня: каму ўзараць, каму нешта падвезці. Па характары Рыгор быў балагурам: так і сыпаў прымаўкамі-прыказкамі, некаторыя з іх і цяпер можна пачуць ад лоеўскіх старажылаў.

Цётка, якую ўсе звалі Просяй, і дзядзька Рыгор вырасцілі чатырох дзяцей: дачок Надзю і Марыю, сыноў Рыгора і Івана. Іх сям'я жыла з усімі жыццёвымі праблемамі і радасцямі, як і большасць сем'яў у Лоеве. Цётка Прося была вялікая працаўніца, і ўсе турботы па ўтрыманні гаспадаркі, агарода і зямлі ў полі ляжалі на яе плячах. Калі падрасла старэйшая дачка Надзя, стала дапамагаць ёй па гаспадарцы і ў школе вучылася мала. Сыны Рыгор і Іван закончылі 7 класаў у Лоеве і працягвалі вучобу далей. Рыгор атрымаў адукацыю бухгалтара і працаваў галоўным бухгалтарам у аб'яднанні «Загатжывёла». Іван звязаў свой лёс з рачным флотам і плаваў на грузавым цеплаходзе капітанам. Калі Рыгор стаў, што называецца, на ногі, ён узяў на сваё матэрыяльнае ўтрыманне малодшую сястру Марыю, якая ў школе была круглай выдатніцай, чым у сям'і вельмі ганарыліся.

Другая бацькава сястра, Еўдакія, або, як усе яе звалі, Дуня, паехала ў Кіеў і там выйшла замуж за машыніста чыгункі Рыгора Сухавея. Іх

сям'я мела сярэдні дастатак, як і іншыя ў той час сем'і рабочых. У іх нарадзіліся дзве дачкі: Галіна і Марыя. Галіна яшчэ да вайны атрымала педагагічную адукацыю, выйшла замуж, нарадзіла дваіх дзяцей і працавала настаўніцай. На пачатку вайны на вачах цёткі Дуні яе дачка Марыя са сваім мужам загінулі пры бамбёжцы Кіева. Гора цётка Дуня не вытрымала і праз тры месяцы памерла. Галіна засталася з двумя дзецьмі ў Кіеве і як перажыла акупацыю, ведае толькі Бог. Муж яе пасля вызвалення вярнуўся ў Кіеў з другой жонкай, але дзецям, пакуль яны вучыліся, дапамагаў матэрыяльна. Пазней Галіна выйшла замуж другі раз і пераехала на пастаяннае жыхарства ў Казахстан.

У канцы 1920-х бальшавіцкія ўлады распачалі палітыку масавага раскулачвання заможнага сялянства і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. У Лоеве гэтай палітыцы папярэднічала муніцыпалізацыя дамоў буржуазных элементаў. Для яе ажыццяўлення райвыканкамам была створана адмысловая камісія, якая, згодна з пастановай Гомельскага акружнога выканкама ад 10 снежня 1929 года, муніцыпалізавала (бязвыплатна адабрала ў фонд дзяржавы) у Лоеве 23 дамы, што належалі ў асноўным заможным яўрэйскім сем'ям. У выніку дзясяткі людзей, у тым ліку і дзеці, былі пазбаўлены жылля і апынуліся на вуліцы.

Прыкладна за два тыдні да гэтай акцыі ў Лоеў да бацькоў завітаў з Масквы Пятро Ансоненка-Царык і таемна папярэдзіў сваіх багатых родзічаў Міндзікаў, каб яны як мага хутчэй перадалі дзяржаве цагельню і выселіліся са свайго вялікага цаглянага дома на Плюшчоўцы ў старую хату, інакш дом забяруць, а іх вышлюць за межы Беларусі. Наш бацька Павел паслухаўся швагра і адразу перавёз сям'ю, а таксама дзеда Ісака і бабу Аўдзюху ў драўляны дом прадзеда. Памятаю, што тады моцна плакала баба Аўдзюха. Што змаглі ўзяць на воз з хатніх пажыткаў, тое і забралі з сабой. Узялі таксама карову, каня, парсюка, санкі, плуг і барану. Пакінулі ўладам амаль цалкам пабудаваны, але не абжыты цагляны дом дзеда Ісака і бабы Аўдзюхі на Плюшчоўцы.

У вялікім доме ў цэнтры Лоева засталіся прадзед Яўхім, яго сыны Павел і Ілля ды нявестка Насця. Прадзед тады сказаў: «Што будзе, тое і будзе». Сыны Іллі і Насці, Іван ды Мацвей, некуды зніклі, іх лёс і зараз нам невядомы. Хутка ў прадзеда Яўхіма, якому на той час было 105 гадоў, адабралі ўсю маёмасць, а самога разам з дзецьмі саслалі на пасяленне на Урал, у Сяроўскі раён Свярдлоўскай вобласці. Прывезлі ў тайгу з рэчамі, выгрузілі і сказалі: «Вось вам зямля, лес, будуйцеся і жывіце». Дзеда Паўла ў першы ж тыдзень забіла дрэвам на лесапавале. Дзед Ілля і яго жонка Насця прыстасаваліся да новага жыцця. Дзед з цягам часу стаў працаваць сапожнікам, яго жонка — у дзіцячым садку. Адразу пасля вайны яны нам нават некалькі пасылак з падарункамі прыслалі.

Вялікі дом Міндзікаў на Плюшчоўцы савецкая ўлада пераабсталявала пад раённы Дом культуры і надала яму імя загінуўшага лоеўскага камісара Валынскага. Усе перагародкі ў памяшканні зламалі і атрымалася вялікая глядзельная зала кінатэатра. Пры першай бамбёжцы Лоева ў жніўні 1941 года ў дом патрапіла нямецкая бомба, і ён быў цалкам разбураны. Адабраная цагельня, не адчуваючы рук і клопату гаспадара, хутка прыйшла ў заняпад. Маёмасць рабавалі ўсе, у каго былі ўлада і нахабства. Уся наша радня плакала, але баяліся, не падыходзілі і блізка да дома. Суседзі пыталі: «Што вы не бераце свайго?» Але мае бацькі і родзічы ведалі: калі толькі з'явяцца каля дома, адразу патрапяць у ссылку. А так засталіся на волі, хаця і атрымалі ганебнае званне «падкулачнікі», якое насілі да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Чаму нас не раскулачылі — застаецца таямніцай. Магчыма, дапамагло тое, што была вялікая сям'я з васьмі чалавек — чацвёра маленькіх дзяцей, мама, бацька, дзед і баба. Магчыма, старая занядбаная прадзедава хата, у якую перасяліліся. Магчыма, станоўчым у вачах бальшавіцкіх улад было тое, што мама паходзіла з сям'і беднаты — была ўнучкай беглага рэкрута і дачкой панскага конюха. Але хутчэй за ўсё сям'ю ўратавала тое, што наш дзядзька Пятро займаў высокую вайсковую пасаду ў Маскве, пра што добра ведала мясцовая ўлада.

Калі распачалася калектывізацыя, бацька свайго каня, воз, сані і рабочы інвентар выму-

шаны быў перадаць у калгас. Але ўсю зямлю на пачатку калектывізацыі калгас не ў стане быў апрацаваць, таму частку неапрацаванай зямлі выдзялялі сем'ям па колькасці едакоў. У каго сям'я большая, таму і зямлі больш. У нашай сям'і на той час было ўжо дзевяць душ, таму зямлі выдзелілі шмат. Пасеялі бульбу, жыта, грэчку, проса, ячмень, лён, каноплі. Для ворыва наймалі каня ў людзей, бо хто не пайшоў у калгас і не быў падкулачнікам, тым коней дазволілі трымаць.

Прадзеда Яўхіма праз год аднаго адпусцілі з ссылкі. Ён дзе ехаў, але больш ішоў пехатою, несучы за плячыма торбачку са сваімі ботамі. Гаварыў: «Оне ж шавровые. И голенища у них "в гормошку"». Боты захаваліся да Вялікай Айчыннай вайны і згарэлі падчас пажару разам з домам. Калі прыйшоў, усе ногі былі ў крывавых мазалях. Два тыдні ляжаў, баба Аўдзюха і мая мама прамывалі яму ногі вадой, змазвалі раны гусіным тлушчам і прыкладвалі альяс да таго часу, пакуль раны не зажылі і ён паціху пачаў хадзіць.

Старая драўляная хата вялікую сям'ю ўжо не змяшчала. Надумалі на падворку будаваць новы дом. Каб мець грошы, бацька і дзед рыбачылі па начах, а днём нарыхтоўвалі лес для дома. У міжрэччы Сожа і Дняпра падпілоўвалі вялікае дрэва, спускалі яго да ракі і сплаўлялі па цячэнні да Лоева. Так пабудавалі вялікі дом на 4 пакоі, з кухняй, сенцамі, каморай і новым хлявом. Ва ўсіх Міндзікаў рукі былі «залатыя». Уся мэбля для дома была зроблена іх рукамі: сталы, ложкі, шафы, куфры, канапа-дыван, стулы.

Ачуняўшы, прадзед Яўхім не сядзеў, склаўшы рукі, ні хвіліны. Па характары ён быў вельмі рухавы і спраўны ў працы. Рабіў чоўны, выразаў лыжкі, плёў з лазы стульчыкі і калыскі. Пераадолеўшы стагадовы рубеж, хадзіў хутка і без кійка. Вядома, што ён валодаў знахарскімі здольнасцямі. Вось што апавядала лоеўская яўрэйка Бэла Глушэц: «У дзяцінстве я моцна захварэла невядомай хваробай і літаральна чахла. Мая мама папрасіла дзеда Яўхіма мяне палячыць, той пагадзіўся. Калі сцямнела і ўзняўся месяц, ён на падворку ўзяў мяне на рукі і сказаў: "Цягніся, дзіцятка, што ёсць моцы ручкамі да месячыка". Я пацягнулася… і страціла прытомнасць. Назаўтра прачнулася ў ложку, а хваробу як рукой адвяло». У 1934 годзе прадзед раптоўна захварэў і памёр.

Дзед Ісак па характары быў поўнай процілегласцю свайму бацьку, усё рабіў хаця і грунтоўна, але вельмі павольна і без эмоцый: ні радасці, ні смутку ніколі не праяўляў. Заўсёды казаў: «Так Богу заўгодна. Бог даў і забраў». Бацька Павел у той час працаваў нарыхтоўшчыкам сыравіны ад ленінградскага завода імя Васкова. Аднойчы дзед Ісак раніцай сеў за сняданак, а бацька адправіўся ў вёску Крупейкі, што ў 5 кіламетрах ад Лоева, дапамагчы забіць парсюка. Калі бацька вярнуўся, то застаў дзеда яшчэ за сталом і здзіўлена спытаў: «Гэта ў цябе яшчэ сняданак?» Той адказаў: «Так, а што?» Бацька рассмяяўся: «Я ўжо ў Крупейкі схадзіў пехатою і парсюка закалоў». «Ну і добра», — адказаў дзед, падняўся з-за стала і ціхенька пайшоў. Але за сталом ён, верагодна, драмаў, бо кожную ноч рыбачыў, а днём то сеткі плёў ці рамантаваў, то нешта яшчэ рабіў па гаспадарцы.

Памёр дзед Ісак у 1935 годзе з-за ўласнай незразумелай упартасці. Ноччу ён рыбачыў на Сожы ў 18 кіламетрах ад Лоева, напэўна, задрамаў у чаўне, страціў раўнавагу і перавярнуўся. У гэты час лоеўскія рыбакі вярталіся дахаты і прапанавалі яму дапамогу. Але дзед катэгарычна адмовіўся, сказаўшы: «Я сам забяруся ў човен і ўсё, што згубіў, знайду і падбяру». Калі рыбакі прыплылі ў Лоеў, яны сказалі нашаму бацьку, што дзед перавярнуўся, плавае ў вадзе і збірае свой рыбацкі інвентар. Адчуўшы няладнае, бацька паплыў на лодцы насустрач дзеду. Сустрэў яго на адлегласці 9 кіламетраў ад Лоева, той плыў тварам уніз. Дзед заблытаўся ў сетцы, а сякеру меў на спіне за поясам. Калі бацька прыцягнуў на сабе дзеда дахаты, той нічога не гаварыў, а толькі міргаў вачыма. Дзеда паклалі на цёплую печ, сталі награваць на лучыне малако і малаком з мёдам паіць яго. Бацька пабег па доктара Багдановіча, але калі той прыйшоў, дзед ужо памёр. Багдановіч казаў, што неабходна было адразу зрабіць яму штучнае дыханне і адкачаць ваду, чаго ў суматосе ніхто не даўмеўся зрабіць.

Бацька ў полі працаваў толькі тады, калі была вострая неабходнасць у мужчынскай працы,

таму што зарабляў грошы на службе, а ноччу рыбачыў. Рыбу прадавалі лоеўскім яўрэям. Вясну, лета і восень жанчыны ад раніцы да вечара былі ў полі. На працу з песнямі ішлі пехатой або ехалі на возе. Дзяцей бралі з сабой. Бацька для майго брата Мішы, які быў зусім маленькім, падвешваў на дрэве ў полі калыску, якую накрывалі абрусам, каб камары і мухі не турбавалі дзіця.

Я таксама заўсёды ў полі мела працу. Памятаю, раніцай малога карміла малочным супам, у асноўным прасяным. Днём, калі дзіця хацела есць і плакала, давала яму «ляльку» — завязаны ў марлю размочаны ў малацэ падсалоджаны хлеб. Дзіця «ляльку» смактала, а я падтрымлівала яе рукой. Калі Міша засынаў, я ціхенька даставала прынаду з яго рота.

Мы, дзеці, ведалі: каб выжыць, бацькам трэба дапамагаць. З ранняга дзяцінства навучыліся не баяцца цяжкай працы, спасцігалі і навуку штодзённага самастойнага выжывання. У ранні м узросце мы перанеслі ўсе дзіцячыя хваробы: дыфтэрыю, чорную воспу, ад якой у 1922 годзе памерла наша старэйшая сястра Клава, жаўтуху. Цяжэй за ўсіх у дзяцінстве хварэў Ваня, які нарадзіўся ў 1926 годзе. У яго быў хранічны бранхіт, ён заўсёды доўга кашляў і нярэдка з высокай тэмпературай трызніў у сне. Толькі з гадамі ён перамог сваю хваробу. Як толькі мы пачалі самі знаходзіць дарогу ў бальніцу, то хадзілі туды без мамы. Памятаю, мне было толькі шэсць гадоў, калі на правай назе ў мяне ўтварылася вялікая рана. На перавязку да ўрача я хадзіла адна і заўсёды пад дзвярыма перавязачнай доўга плакала, баялася заходзіць, таму што было вельмі балюча. Кожны раз хто-небудзь з чужых дарослых людзей спачуваў і заводзіў мяне на перавязку.

Я ў дзяцінстве двойчы тапілася і выратоўвалася толькі цудам. Першы раз — калі спрабавала злавіць з берага на Дняпры дохлую шчуку рукамі, па-дзіцячы думаючы, што рыба жывая. Нахілілася — і ўпала з гліністага берага ў ваду. Ішоў дождж, бераг быў слізкі, паліто прамокла, у боты налілася вада. Цяжкае адзенне цягнула мяне на дно. Я вынырвала з вады і хапалася за слізкі бераг, але рукі зрываліся. Непрытомную мяне знайшоў бацька на беразе, ён воддаль лавіў рыбу вудаю. «Як ты выбралася з вады?» — спытаў ён. Я гэтага не памятала. Бацька перахрысціўся і сказаў: «Дзякуй Богу!»

Другі раз тапілася ў сажалцы, якую ўсе называлі «Калтоб». Гэты «Калтоб» быў глыбінёй каля пяці метраў і знаходзіўся праз агарод ад нашага дома. Я, тады ўжо падлетак, вядром набірала ваду і зноў упала. Мне пашанцавала, што брат Вася, на год меншы за мяне, у гэты час нешта майстраваў на даху нашага дома. Ён убачыў, што я таплюся, саскочыў з даху, зламаў сабе руку, але прыбег і пры дапамозе жэрдкі здаровай рукой выцягнуў мяне на бераг.

Добра памятаю, як на падворку лён і каноплі дарослыя мялі на адмысловым драўляным станку — трапалцы. Позняй восенню пасля ўборкі ўраджаю і зімой баба Аўдзюха прала, а я ніткі з верацяна матала юрком у маленькія клубкі, бо вялікі клубок яшчэ не магла ўтрымаць у руцэ. Потым баба брала два маіх клубочкі і сукала ніткі на самапрадку. Потым яна іх фарбавала ў розныя колеры фарбамі, вырабленымі з шалупіння цыбулі, нейкіх лісцяў, буракоў, кары дрэў. Атрымліваліся вельмі прыгожыя і ўстойлівыя колеры. З каляровых нітак ткалі абрусы і пасцілкі для ложкаў.

З нефарбаваных тоўстых канапляных нітак баба ткала палатно, якое ішло на выраб радна — ім накрываліся, калі клаліся спаць. З радна шылі таксама і матрацы, якія набівалі сенам. Сена тое кожны месяц даводзілася мяняць, таму што яно збівалася ў труху, асабліва ў дзяцей.

Самае тонкае белае палатно бабуля ткала з ільняных нітак. З яго шылі споднюю бялізну, ручнікі, прасціны, навалкі на падушкі. Мама ні прасці, ні ткаць не ўмела, таму ёй даводзілася зімой больш займацца гаспадаркай.

У нас былі дзве каровы, іх трэба было накарміць, напаіць і падаіць. Жывёлу карміў бацька. Пакуль ён жыў, заўсёды гадавалі на падворку трох кабаноў і свінаматку з парасятамі. Ежу для парасят гатавалі жанчыны, карміў бацька. На пачатку 1930-х мы трымалі таксама гусей, качак і курэй. Таму сям'я не галадала.

Усе работы на падворку, у хляве, склепе, каморы, па рамонту абутку былі абавязкам бацькі. Праца па хаце, у агародзе і полі — справай жанчын. Яны ад штодзённага гатавання ежы ў печы

для сям’і і жывёлы, мыцця, прыбірання, працы ў полі і гародзе ад вясны да глыбокай восені моцна стамляліся. Таму вечарам нас звычайна карміў бацька. Памятаю, як зімой смажылі сала на «штычку». На драўляную палачку нанізвалі кавалачак сала, падсмажвалі яго на агні, а сцякаючым з сала тлушчам змочвалі акрайчык хлеба. Гэты было тады для нас сапраўдным далікатэсам. Летам вечарамі бацька распальваў у агародзе вогнішча, на якое ставіў трыножку, — і варыў нам бульбу ў «мундзірах», а таксама пёк у гарачым вуголлі «пячонікі». Калі выспявала кукуруза, яе таксама пяклі на вогнішчы. Бацькаву вячэру запівалі малаком, бо к таму часу мама ўжо выдойвала карову.

А потым, верагодна, у нас была засуха, неўраджай, а ў суседняй Украіне — голад. Іх даканалі харчразвёрсткамі, нас таксама сталі абкладваць падаткамі, то адным, то другім, яшчэ большым. Казалі: «Цвёрдае заданне — безумоўнае выкананне». Гэты вялікі падатак фізічна немагчыма было выканаць у вызначаны тэрмін, таму забіралі з падворка ўсё, што яшчэ можна было забраць: занавескі з акон, пакрывалы і коўдры з ложкаў. З папрокам: «Бач, падкулачнікі, з самавара чай п’юць» — забіралі і самавар. Наш бацька напачатку падтрымліваў савецкую ўладу, казаў, што добра, калі дзецям дарога адкрыта, ёсць магчымасць вучыцца, медыцына бясплатная, толькі працуй добра і будзеш жыць. Пазней пакутаваў, разважаючы: «Жыву лепш за ўсіх, але ж і працую больш, чым лайдак. Але добрым для ўлады чамусьці з’яўляецца лайдак, які прыходзіць у мой дом і ўсё ў мяне забірае, ды яшчэ і крычыць на мяне: “Бач, падкулачнік, жыруе!” За што мяне так? За тое, што мая сям’я не галадае?» Але сказаць нічога нельга было: за слова жорстка каралі, рабілі ворагам народа і расстрэльвалі.

1933—1935 гады былі вельмі цяжкімі і для краіны, і для людзей. Каб купіць бохан хлеба, трэба было выстаяць ноч у чарзе. У гэтыя гады наша сям’я не сеяла нічога, акрамя палоскі бульбы. Усю зямлю, якую раней нам выдзелілі, забраў калгас, а ў магазінах быў зусім мізэрны набор харчовых тавараў. Звычайна ў чаргу з вечара на ўсю ноч за адным боханам хлеба пасылалі мяне. Памятаю, як пры адкрыцці магазіна мяне моцна сціскаў натоўп, я губляла прытомнасць і падала. Прыходзіла ў сябе, калі ляжала за прылаўкам мокрая, бо, каб прывесці да свядомасці, мне пырскалі ў твар вадой. Мне прадавалі бохан хлеба, які нашай сям’і выдзяляла па картцы дзяржава, і я ішла дахаты. На наступную ноч у чаргу пасылалі брата Васю, але ён мяне са слязамі прасіў: «Схадзі за мяне, Галя, пастой у чарзе. Ты прытомнасць страціш і табе прададуць бохан без чаргі, а мне прыйдзецца стаяць ноч і яшчэ паўдня, каб яго набыць». Многія дарослыя тады з голаду гублялі сумленне і адціскалі дзяцей у чарзе на задні план, нягледзечы на тое, што дзеці займалі чаргу раней за дарослых.

Бацькава пасада на працы была скарочана, таму што ў горад пайшлі цэнтралізаваныя пастаўкі калгасных прадуктаў. Бацька ўладкаваўся на працу да воднікаў на прыстань, але жыццёвых нягод не вытрымаў, захварэў і 16 кастрычніка 1936 года памёр. Было яму тады ўсяго 42 гады. Ужо пасля яго смерці мама нарадзіла брата Жэню. Наша баба Аўдзюха паехала ад нас у Кіеў да малодшай дачкі Дусі. Пасля ад’езду бабулі маміна слова ў сям’і стала законам. На кампраміс з намі яна ніколі не ішла. Мы з братам Васем адразу сталі дарослымі ў свае 14—13 гадоў. Бацькавы абавязкі па гаспадарцы стаў выконваць Вася, маміны — я.

За бацьку нам назначылі пенсію, якой хапала толькі на кніжкі ды іншую дробязь. Хлеб ужо быў у свабодным продажы, але грошай, каб купіць яго ўдосталь, не хапала. Таму з надыходам вясны мы пераходзілі на падножнае харчаванне. Збіралі і елі пупышкі лазы, шчавель, цыбулю лугавую, кветкі акацыі. На агародзе сеялі ячмень, які спеў хутчэй за іншыя зернявыя культуры. Напачатку лета, як толькі ячмень пачынаў наліvацца, мы нажніцамі зразалі жоўтыя каласкі, падсмажвалі іх на вогнішчы і елі. Было смачна. Калі ж вырастала агародніна, паспявалі ягады, яблыкі і грушы — надыходзіў райскі час.

З бацькавай пенсіі нашай сям’і з 6 чалавек даставаўся толькі адзін кілаграм хлеба на дзень. Мы трымалі карову і малоко ў нас было, але хлеба заўсёды не хапала. Вася, большы з маіх братоў, працаваў і стамляўся, таму заўсёды казаў: «Мой хлеб уцёк. Галя, падзялі свой хлеб, дай кавалачак мне, бо мой праглынуўся. Я ж не-

вінаваты». Я заўсёды дзялілася з Васем. Вечарам звычайна ён пытаўся: «Хлеб з малаком ёсць?». Калі атрымліваў адказ, што няма, расчаравана ўздыхаў. Калі мы, дзеці, крыўдзіліся на маму за тое, што не даставалася на вячэру хлеба з малаком, то звычайна яна казала: «Супраць ночы закрыюцца і так вочы».

Памятаю, як аднойчы ў нашай сям'і «падкулачнікаў» улады за нядоімкі адабралі карову. Каб выжыць, мама вымушана была паехаць у Маскву да брата Пятра Ансоненкі-Царыка. Дзядзька Пятро заўсёды дапамагаў нам — матэрыяльна і парадамі. Ён быў асабіста знаёмы са старшынёй ЦВК БССР А.Р. Чарвяковым. Не паспела мама вярнуцца з Масквы ў Лоеў, як карову прывялі на наш падворак.

Тады для дзяцей абавязковай была толькі пачатковая адукацыя. Нашы бацькі хацелі, каб мы добра вучыліся. Мы ўсе наведвалі школу, хаця гэта было няпроста. Вясной і восенню нам з Васем неабходна было дапамагаць маме з ворывам. Мы засявалі два агароды, а ў полі — невялікія дзялянкі ячменю і проса. Мама будзіла нас а пятай гадзіне і да пачатку заняткаў у школе мы працавалі на праполцы, а восенню — на ўборцы ўраджаю. У вызначаны час мама запрашала нас на сняданак і адпраўляла ў школу. За школьныя адзнакі спрос таксама быў строгі. Васю і Мішу заўсёды перападала ад мамы, бо ім не надта давалася вучоба. Каб мы не перашкаджалі адзін аднаму пры падрыхтоўцы да ўрокаў, дом быў падзелены. Мне было выдзелена самае цёплае месца ў хаце — печ, на ёй ляжалі ўсе мае падручнікі і сшыткі. Васю дасталася самае прасторнае і светлае памяшканне — зала, таму што ён заўсёды займаўся, што называецца, «на публіку» — галасна. Звычайна мама пыталася, ці вывучыў ён тое, што чытаў. Той адказваў: «Яшчэ не». І тады мама казала: «А я, сынок, ужо вывучыла». Ваневы школьныя прылады ляжалі на кухонным стале. Мішу дасталася спальня. Міша нарадзіўся ў 1929 годзе, у час, калі адбываліся раскулачванні і высылкі ў нашай сям'і, нервовае перанапружанне. Гэта, верагодна, сказалася на яго развіцці. Ён доўга не размаўляў, а потым гаварыў дрэнна. Чамусьці ўсе словы ў яго былі заменены. Цукар ён называў «кусь-кусь», блін — «забалотнік». У вучобе ён напачатку моцна адставаў, за што атрымліваў не дапамогу, а лазінку.

У канцы 1930-х дзядзька Пятро Ансоненка-Царык забраў мяне ў Маскву, дзе я тры гады вучылася ў школе. Вярнулася ў Лоеўскую школу ў 9 клас. У дзядзькі не было сваіх дзяцей з-за цяжкага ранення жонкі ў Грамадзянскую вайну, і яны хацелі мяне ўдачарыць. Але мама не пагадзілася з просьбай брата. Дарэчы, не пагадзілася мама і на ўсынаўленне дзядзькам малодшага нашага брацікa Жэні.

Пасля заканчэння 8-га класа я кожныя летнія канікулы працавала і атрымлівала зарплату. Старэйшы брат Вася, як толькі закончыў 8-ы клас, пайшоў працаваць і вучыўся ў вячэрняй школе. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, працаваў архіварыусам у Лоеўскім райвыканкаме. Брат Ваня яшчэ да заканчэння 8-і класаў паехаў па камсамольскім прызыве вучыцца ў 32-е Ленінградскае рамесніцкае вучылішча. Жыццё нашай сям'і, адносна папярэдніх гадоў, стала наладжвацца. Толькі не лянуйся, працуй і зарабляй грошы, у магазінах на прылаўках было ўжо самае неабходнае. Але вайна з фашызмам зноў абарвала ўсё светлае, перакрэсліла чорнай паласой наша юнацтва.

## Праз жорны вайны

Мама, мае малодшыя браты і я фашысцкую акупацыю пражылі ў Лоеве. Як выжылі і вытрымалі, нельга патлумачыць словамі. У жывых засталіся толькі самыя шчаслівыя, дзякуючы Божай дапамозе, і мы ў тым ліку.

Я вучылася на першым курсе геафака Гомельскага педінстытута, калі пачалася вайна. Мы вырашылі ўсім курсам добраахвотнікамі ісці на фронт. Каб развітацца з мамай і братамі, адправілася параходам у Лоеў. Калі паведаміла аб сваім рашэнні, у адказ пачула істэрычнае: «Не пушчу! Вася ў народным апалчэнні, Ванін лёс невядомы. У мяне на руках 12-гадовы Міша і 4-гадовы Жэня. Што я буду адна з імі рабіць? А ты ведаеш, што такое вайна? Пойдзеш толькі праз мой труп!» Давялося падпарадкавацца і

зведаць усе нягоды фашысцкага акупацыйнага рэжыму.

Як толькі фашысты ўвайшлі ў Лоеў, наша сям'я трапіла ў расстрэльны спіс, бо брат Вася быў у Лоеўскім партызанскім атрадзе «За Радзіму» і гэта многія ў Лоеве ведалі. Каб мы асцерагаліся, папярэдзіў нас Вася Антановіч, бацька якога працаваў у валасной нямецкай адміністрацыі. Першыя рэпрэсіі фашысты скіравалі на лоеўскіх яўрэяў. Асабліва здзекаваліся з траіх дэфектных яўрэяў Лёмы, Гіка і Нахемы. Іх запрагалі ў воз замест коней, вазілі на іх ваду і цэглу з разбітых пры бамбёжцы дамоў. Калі тыя ад знямогі падалі, іх жорстка білі, пакуль аднойчы не забілі да смерці. Восенню больш за сотню лоеўскіх яўрэяў фашысты пераправілі праз Днепр і расстралялі. Да нас дайшлі чуткі, што ад карнікаў уцякла толькі адна жанчына — Рая, якая да акупацыі працавала загадчыцай дзіцячай бібліятэкі. Яе дваіх дзяцей-блізнят і маму фашысты забілі. Казалі, што Рая доўгі час блукала вакол і клікала: «Сталін, спасай! Сталін, спасай!»

Мы жылі разам і сябравалі з яўрэйскімі дзецьмі, хадзілі з імі ў школу. Для большасці лаяўчан расправа з яўрэямі была сапраўдным шокам.

У штодзённы шок нас прыводзіла і паўгалоднае існаванне. Не было солі, цукру, таго, што набывалася раней у краме. Муку і крупу, у каго было сваё зерне, малолі і церлі на самаробных мука- і крупадзёрках, пяклі аладкі. На першы год акупацыі яшчэ захавалася крыху бульбы, быў пасеяны агарод, трымалі карову і курэй. Затым курэй пералавілі немцы. Заходзілі амаль у кожны двор, дзе былі лепшыя пабудовы, і крычалі на ўсё горла: «Малако, куры, яйкі!» Самі бегалі за курамі, пакуль не адлавілі ўсіх. Да пачатку 1942 года стала пуста на падворках. Нашу карову застрэлілі.



Дом Міндзікаў па вуліцы Царыкава, 39 (былая Плюшчоўка) доўгі час выкарыстоўваўся як адміністрацыйны будынак Лоеўскага малаказавода. У пасляваенныя гады да дома з левага боку зроблена аднапавярховая прыбудова. У той жа час будынак быў аздоблены керамічнай пліткай.

Памятаю, як летам 1942-га ўбегла ў дом бледная мама і сказала, што суседзяў Літошанкаў немцы і паліцаі павялі на расстрэл. Іх бацька і зяць былі разам з нашым Васем у партызанскім атрадзе. Міша выскачыў у акно, мама схапіла Жэню, я за імі. Мы схаваліся ў канцы нашага агарода ў высокім бульбоўніку, дзе праляжалі да ночы.

Ноччу агародамі, бо па вуліцы існі баяліся, дабраліся да мамінай сястры цёткі Пашы. Але тая нас у сваю хату не пусціла. Сказала: «Мы баімся, што разам з вамі заб'юць і нас». Цётка жыла з дачкой Дашай і яе двума малымі дзецьмі. Што рабіць? Сталі прабірацца агародамі да цёткі Просі. Была ціхая ноч, сабакі не брахалі, іх даўно перастралялі паліцаі. Дзверы ў хату адкрыў дзядзька Рыгор. Калі мама расказала яму, з якой мэтай мы прыйшлі, сказаў: «Самі загінем, але вас будзем ратаваць». Жэня ў іх жыў разам з іхнімі ўнукамі. Мішу і маму яны таксама недзе надзейна схавалі. Мяне з іх малодшай дачкой Марыяй гэтай жа ноччу паслалі да сваёй старэйшай дачкі Надзі. У Надзі было малое дзіця, і мы павінны былі яго даглядаць. Марыя ўвесь час была побач са мной.

Позняй восенню за намі прыехаў партызанскі сувязны з вёскі Аляксандраўка. Мяне і братоў схавалі ў воз з сенам і вывезлі да партызан. Памятаю, калі ехалі праз вёскі, у якіх знаходзіліся паліцаі, я заціскала малому брату Жэню нос і рот, каб ён, не дай Бог, не чыхнуў і не кашлянуў. Бог нас мілаваў, але Жэня настолькі ўзлаваўся на мяне, што я баялася, каб ён нікуды не ўцёк ад нас. Потым да нас прыехала мама і расказала, што ў нашым доме ўсё пабіта і паламана, але сам дом не пацярпеў. Узрушаная, яна даводзіла

мне: «Лепш бы я дазволіла табе пайсці на фронт. Там ёсць перадавая, але ёсць і тыл. А тут тылу няма, наўкол перадавая». Ад партызан мы даведаліся, што наш Васіль пайшоў у складзе ўкраінскага партызанскага злучэння Сідара Каўпака ў рэйд на Карпаты.

Пазней мы хаваліся ў вёсцы Пустая Града. Шмат гора і пакут выпала тады на нашу долю. Памятаю, як падчас вызвалення Лоева ў кастрычніку 1943 года ратаваліся ад разрываў снарадаў і бомб у бамбасховішчы Жупанавых. Было страшна, зямля дрыжала, здавалася, жыццё вось-вось абарвецца. Тады думалася, што лепей быць забітай адразу, каб без мук, толькі б не застацца калекай. Але нарэшце пачулі: «Ура! Ура! Ура!» Пачалі выпаўзаць з бамбасховішча, хаця вакол яшчэ ішоў бой. Няўжо нас вызваляюць? Мы доўга не маглі ў гэта паверыць.

Бой ішоў і на паўночнай ускраіне Лоева, за могілкамі, але нашу маму не стрымаў страх. Яна пабегла да нашай вуліцы і ўбачыла выпаленую пустку аж да самага Дняпра. Дома не было, ён згарэў. Мы засталіся ў чым стаялі, не мелі ні міскі, ні лыжкі.

Зноў нас прынялі да сябе цётка Прося і дзядзька Рыгор. У іх хаце з адным вялікім пакоем тады жыло адразу 45 чалавек. Спалі на падлозе «ўпокат». Дзядзька Рыгор прыносіў на ноч у хату сена, мы клаліся спаць на адзенне, у якім хадзілі. Акрамя хаты, у іх цудам засталася яшчэ і карова. Памятаю, цётка Прося падоіць карову, прынясе малако, возьме чарку і дзеліць на ўсіх. Спачатку дае малако дзецям, потым хворым і саслабелым, потым старым. Ёй самой і нам, дарослым, малака звычайна не хапала. Здзіўляла, колькі было дабрыні і справядлівасці ў гэтых людзей.

Немцы яшчэ былі ў ваколіцах Лоева, а наша мама ўжо вырашыла адрамантаваць старую хату дзеда Яўхіма і бабы Наталлі. Ад яе засталіся толькі пабітыя часам і аскепкамі сцены і дах, былі выдраны вокны і падлога. Па яе строгім загадзе я з братам Мішам, якому было тады ўжо 14 гадоў, разбіралі размешчаны паблізу нямецкі бліндаж і цягалі дошкі на падлогу для хаты. Дошкі былі доўгія і цяжкія. Мы ўскладалі дошку на пляча і неслі: я — спераду, Міша — ззаду. Аднойчы Міша ўпаў і дошка знесла мне з нагі ўсе тканкі амаль да касці. Плакала я, і каб мяне суцешыць, плакаў Міша.

Вокны ў гэтую хату нам зрабіў і паставіў дзядзька Рыгор. Так у нас з'явіўся дах над галавой. Жыць стала лягчэй. Міша і Жэня пайшлі ў школу.

А колькі радасці было, калі мы атрымалі вайсковы «трохкутнік» з фронта ад Вані, якому тады споўнілася толькі 17 гадоў. Мы былі упэўнены, што ён, малалетка, калі выжыў, знаходзіцца недзе ў глыбокім тыле. Ваня ж напісаў, што ў блакадным Ленінградзе працаваў на заводзе, але захварэў і ў сакавіку 1942 года быў вывезены ў Новасібірск, дзе падлячыўся, і ў жніўні гэтага ж года паступіў у Новасібірскае пяхотнае вучылішча. Са снежня 1942 года знаходзіўся на фронце ў Падмаскоўі, адкуль разам з нашым войскам гнаў ворага да межаў Беларусі. Памятаю, ліст заканчваўся такімі словамі: «Вы жывыя, жывыя, жывыя! Я гэтага хочу. Я на фронце, вызваляю Радзіму недалёка ад вас».

Падчас фашысцкай акупацыі шмат людзей на Лоеўшчыне загінула, але тыя, што засталіся ў жывых, жылі дружна, дапамагалі адзін аднаму. Жыццё было цяжкім. Пачаліся эпідэміі. Я злегла з тыфам, ледзь адкараскалася ад гэтай хваробы. Усіх нашых даймала малярыя, а мама захварэла на рожыстае запаленне нагі. Малодшыя браты, Міша і Жэня, ад пастаяннага пераахалоджвання былі літаральна пакрыты фурункуламі. Наш дзядзька Рыгор памёр ад тыфу ў 1944 годзе. Тады сям'я цёткі Просі апынулася ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Да таго ж два яе сыны патрапілі ў фашысцкі палон, хаця і не па сваёй волі. А палон тады ўладамі прыраўноўваўся амаль да здрады. Старэйшага яе сына Рыгора фашысты захапілі яшчэ на мяжы каля Брэста, дзе ён служыў у арміі на пачатку вайны. Цётка Прося была добрай і мудрай жанчынай. Падчас вайны яна забрала нявестак з дзецьмі да сябе ў хату, у якой пражыла большую частку свайго жыцця. Дзякуй Богу, усе яе дзеці засталіся жывымі. Толькі пасля вайны Рыгор, Іван і Марыя выехалі з Лоева на іншае месца жыхарства. Цётка засталася са старэйшай дачкой Надзяй, якая выйшла яшчэ да вайны за лоеўскага хлопца Якава Ганчарэнку і нарадзіла дваіх дзяцей. Цёт

Цагляны дом на Базарнай вуліцы прадалі заможнай яўрэйскай сям'і, прозвішча якой згубілася ў памяці. Але мянушка новай гаспадыні захавалася: яе звалі Бройня

ка пражыла годнае жыццё, мела дзевяць унукаў, сем з якіх атрымалі вышэйшую адукацыю.

Паведамленне аб Перамозе мы, хворыя, паўгалодныя людзі, сустрэлі з вялікай радасцю і слязьмі. Наша сям'я больш плакала, бо для нас вайна яшчэ не закончылася. Толькі пасля перамогі над Японіяй наш Ваня прыехаў на пабыўку ў Лоеў у званні маёра, з пяцю раненнямі і кантузіяй. Тады ён ужо служыў у органах ваеннай разведкі. Меў сем баявых узнагарод: два ордэны Айчыннай вайны I ступені, ордэн Айчыннай вайны II ступені, два ордэны «Чырвонай Зоркі», медалі «За адвагу» і «За баявыя заслугі».

## З надзеяй у будучыню

У 1945 годзе мы, як у нас кажуць, «жаночай удобаю» сталі з нуля будаваць на дворышчы прапрадзеда Міны новы дом. Зноў было цяжка, але нам дапамагала надзея на шчаслівую будучыню. Лес у міжрэччы Сажа і Дняпра нам, як пагарэльцам, дзяржава выдзеліла бясплатна. Валіць дрэвы і цягнуць бярвенні да ракі нам з мамай дапагалі людзі. Плыты па рацэ мы гналі самі. Наймалі людзей, каб падвезці бярвенні на дворышча, апрацаваць іх і зрабіць зруб.

Грашыма крыху дапамог брат Ваня — ён даслаў 500 рублёў сваіх вайсковых зберажэнняў. Хворым пасля ранення вярнуўся ў Лоеў брат Вася. Падчас рэйду каўпакаўцаў на Карпаты ён быў цяжка паранены са станкавага кулямёта ў жывот і моцна абмарозіў ногі. У шпіталі пачалася гангрэна і ўрачы настойвалі на ампутацыі. Але Вася адмовіўся, заявіўшы: «Калі памру, то з дзвюма нагамі». Ён выжыў і захаваў свае ногі, хаця яны ў яго заўсёды мелі чорны колер і мёрзлі.

З вяртаннем Васі жыць і будавацца нам стала значна лягчэй, фактычна ён узяў на свае плечы завяршэнне нашай будоўлі. На працягу 1945—1946 гадоў брат працаваў загадчыкам гандлёвага аддзела райвыканкама. Таксама Вася аказваў вялікі ўплыў на выхаванне самага малодшага з маіх братоў, Жэні, замяніўшы яму бацьку. Якая радасць была, калі мы ўрэшце ўвайшлі ў свой новы дом.

У 1947 годзе Сідар Каўпак, на той час старшыня ЦВК Украінскай ССР, запрасіў Васіля да сябе і накіраваў на пасаду намесніка старшыні райвыканкама Гараднянскага раёна Жытомірскай вобласці. Але на гэтай пасадзе брат працаваў толькі некалькі гадоў. На Жытоміршчыне тады зацята змагаліся з савецкай уладай украінскія нацыяналісты-бандэраўцы. Жыць і працаваць было небяспечна. Ды і здароў'е падводзіла, хворы вярнуўся ў Лоеў. Вучыўся завочна і працаваў у гандлі, спачатку загадчыкам аддзела райвыканкама, а затым старшынёй Райспажыўтаварыства.

З завяршэннем вайны наша жыццё пачало аднаўляцца і наладжвацца. Мы ўсе сталі працаваць і вучыцца, хто як мог. Брат Ваня пасля заканчэння вайны застаўся служыць у Прыморскім краі, затым служыў ў Германіі. На вайсковай службе паслядоўна закончыў вышэйшую разведшколу ў Маскве, ваенную акадэмію імя Фрунзэ, акадэмію Генштаба ў 1967 годзе. Ён займаў пасады начальніка разведкі дывізіі, намесніка начальніка разведкі арміі, намесніка начальніка разведкі Забайкальскай ваеннай акругі, быў намеснікам начальніка кафедры ваенна-дыпламатычнай акадэміі, працаваў ў апараце Галоўнага разведвальнага ўпраўлення СССР. У званні палкоўніка выйшаў у адстаўку. Генералам не стаў з-за сямейных абставін. Неабходна было ў чарговы раз ехаць на службу ў Забайкалле, але ў гэты час яго сын вучыўся ў Маскве і хацеў кінуць вучобу, чаго брат не мог дапусціць. Пазней яго сын Вадзім Іванавіч Байдак стаў генералам, да выхаду ў адстаўку ён доўгі час пра-

цаваў дырэктарам закрытага ваеннага інстытута ў Маскве. Брат памёр у 2008 годзе.

Калі наша сям'я перайшла жыць у новы дом у Лоеве, я паехала на працу ў Прыбалтыку, у горад Шаўляй, куды мяне запрасіла цётка Антаніна, сястра жонкі нашага дзядькі Пятра Ансоненкі-Царыка. Прыбалтыка ў вайну пацярпела менш, чым Беларусь, Людзі там жылі лепш. Неўзабаве я закахалася і выйшла замуж за ўкраінца-франтавіка Афанасія Фёдаравіча Багацкага. Завочна закончыла філіял Маскоўскага фінансавага інстытута ў Галіцыне. Затым пераехалі з мужам у Крым: спачатку ў Джанкой, затым у Еўпаторыю. У Джанкоі муж працаваў галоўным бухгалтарам ваенторга, я галоўным бухгалтарам тэрытарыяльнага Савета курорта прафсаюза. У нас нарадзілася трое дзяцей: дзве дачкі-блізняты Вера і Людміла і сын Уладзімір. У 1981 годзе я размяняла сваю кватэру ў Еўпаторыі на Мінск для дачок, а сама вярнулася ў Лоеў, каб даглядаць сваю старэнькую маму. Муж на той час ужо памёр.

Мой брат Міхаіл пасля заканчэння Лоеўскай школы прыехаў да мяне ў Шаўляй. Тут закончыў будаўнічы тэхнікум, затым працаваў дырэктарам Шаўляйскага завода жалезабетонных вырабаў. У 1970 годзе быў забіты пры нявысветленых абставінах. Я на яго пахаванні не была, бо быў моцна хворы муж. Казалі, што Мішу забілі з помсты, бо бацька яго жонкі працаваў старшынёй райвыканкама ў Прыбалтыцы і прымаў удзел у рэпрэсіях супраць мясцовых жыхароў.

Самы малодшы з маіх братоў, Яўген, доўга шукаў сваё жыццёвае прызванне. Закончыў тры тэхнікумы. Доўгі час працаваў на Поўначы. Зараз знаходзіцца на пенсіі і жыве ў Лоеве.

З другой паловы 1960-х, я лічу, пачаўся самы светлы і шчаслівы час у жыцці майго пакалення. У магазінах з'явілася ўсё неабходнае для жыцця, і кошты былі дастаткова нізкімі. Памятаю, мяса трэцяга сорта каштавала 46 капеек, язык і мясная выразка — 1 рубель 60 капеек за кілаграм, яйкі ў залежнасці ад сорта — 0,6, 0,8 і 1,2 рубля за дзясятак. Булка белага хлеба каштавала 20 капеек, а калі сорт вышэй, крышку даражэй. Прамтавары таксама каштавалі параўнальна нядорага. Па сутнасці, для жыцця ўсё неабходнае тады было.

К гэтаму часу мае браты пажаніліся, я выйшла замуж. Ва ўсіх нарадзіліся дзеці, і кожны быў па-свойму шчаслівы. Наша мама жыла і радавалася за нас. Аб нашых часовых праблемах мы ёй ніколі не казалі, каб не турбаваць. Мы прыносілі ёй толькі радасць. І яна заўсёды казала: «Мае дзеці ў золаце купаюцца». Яна вельмі ганарылася намі і з нецярпеннем чакала да сябе ў госці.

Часцей за ўсё мы, Міндзікі, наведваліся ў Лоеў летам. Калі ўсе з'язджаліся разам, было сапраўднае свята для мамы. Тады да нас прыходзілі бацькава сястра цётка Прося з дачкой Надзяй і маміна сястра цётка Паша. Цётка Прося была вельмі набожная, спіртнога не брала ў рот ні кроплі. Але Вася, каб цётка весялілася разам з намі, падліваў таемна ёй у бутэльку з ліманадам крыху гарэлкі. Тады разам з намі яна спявала песні і весялілася, а на наступны дзень прыходзіла з прэтэнзіяй да Васі: «Спакуснік, ты мне гарэлкі падліў!» Вася гэта адмаўляў і казаў: «Табе, цётка, сілы і вяселля даў Бог, каб ты была як мы ўсе. Ты ж за нас Богу малілася, каб ён абярог нас ад агню і мяча, і мы ўсе, Міндзікі, хто ваяваў і быў пад акупацыяй, засталіся жывымі. Дзякуй табе!» Цётка Прося была задаволена. Яна была баптысткай па веравызнанні. Біблію ведала ўсю на памяць і нікога ў жыцці не пакрыўдзіла. Пасля вайны Вася час ад часу на лодцы па просьбе цёткі перавозіў яе на левы, украінскі, бок Дняпра, вечарам забіраў назад. Цётка Прося ездзіла на набажэнствы.

З мамай жылі брат Вася і яго сям'я. Дабрэй Васі і Тані, яго жонкі, я людзей не ведаю. Як яны радаваліся, калі мы прыязджалі да іх! Калі мае дзеці былі маленькія, Вася сустракаў мяне ў Гомелі з машынай, хаця сваёй машыны ў яго не было. Памятаю, аднойчы я ляцела самалётам з Гомеля ў Лоеў. Доўгі час было нялётнае надвор'е, мароз і завея. Вася чакаў мяне з сямі гадзін раніцы да вечара. Калі прызямліўся наш самалёт на аэрадроме, да яго на санях пад'ехаў увесь замёрзлы і абсыпаны снегам Вася. Майму здзіўленню і радасці не было мяжы. На працы яго таксама вельмі паважалі за дабрыню і чуласць да людзей. На вялікі жаль, вельмі хутка вайна дала аб сабе знаць і ў 1969 годзе Вася памёр.

1970-я сталі вяршыняй існавання СССР і дабрабыту савецкіх людзей. У краіне ўсё планава-

лася Дзяржпланам. Асноўныя сродкі вытворчасці, статутны фонд выдзяляліся бясплатна, і не трэба было турбавацца, што ў бальніц і санаторыяў не будзе сродкаў для набыцця абсталявання, а для калгасаў — трактароў. Тыя, хто атрымліваў асноўныя сродкі бясплатна, паквартальна рабілі невялікія амартызацыйныя адлічэнні ў статутны фонд. Сабекошт асноўных сродкаў быў невялікі, таму вялікіх фінансавых праблем не было.

Я працавала галоўным бухгалтарам у Еўпаторскім тэрсаветкурорце і памятаю, што калі ў нас не хапала грошай для выплат у статутны фонд, то рахунак на картатэцы ў дзяржбанку стаяў не больш трох дзён. Потым банк даваў крэдыт пад зусім маленькі працэнт. Еўпаторыя — дзіцячая здраўніца, пуцёўка ў якую каштавала мінімальна або наогул выдавалася за кошт прафсаюза.

Кватэры атрымлівалі бясплатна, кватэрная плата была стабільна маленькая, вучоба і лячэнне — таксама бясплатныя. Стыпендыю давалі ўсім, акрамя двоечнікаў, гуртажытак таксама бясплатны. Жылі як па Бібліі: усе роўныя, усе працавалі, розніца ў зарплаце была ў межах 20 працэнтаў, для большасці яна вызначалася па тарыфных стаўках або акладах. Не было вельмі бедных, як і алігархаў, бандытаў, слова «кілер» мы наогул не ведалі. Хто хацеў верыць у Бога, той жыў у душы з ім. Я чалавек веруючы. Міндзікі, нягледзечы на савецкія абставіны, усіх сваіх дзяцей хрысцілі, усе асноўныя рэлігійныя святы адзначалі, па магчымасці наведвалі царкву.

Унукі на гэтыя мае разважанні звычайна гавораць так: «Ты, бабуля, бачыш СССР праз ружовыя акуляры». Але ж гэта бачанне не толькі маё, але і большасці людзей майго пакалення. Што тады нам патрэбна было змяніць — гэта падтрымаць вёску, разняволіць людзей, даць свабоду веруючым. Гарбачоўскую перабудову наша пакаленне падтрымала, бо спадзявалася на станоўчыя змены ў нашым жыцці ў межах СССР.

Развал СССР стаў сапраўдным шокам для мяне і большасці людзей майго пакалення. Многія людзі нават з вышэйшай адукацыяй не знайшлі сябе ў новым жыцці, дзе пануе інстынкт абагачэння, і апынуліся на ўзбочыне. Маё адмоўнае стаўленне да гэтай падзеі ўзмацніла і трагічная смерць сына.

Мой сын Уладзімір, які нарадзіўся ў 1950 годзе, закончыў Харкаўскае вышэйшае ваеннае радыёлакацыйнае вучылішча, затым ваенную акадэмію імя Фрунзэ ў Маскве. У званні палкоўніка служыў спачатку на касмадроме Байканур, запускаў касмічныя ракеты, затым у Генштабе. Рыхтаваўся атрымаць генеральскае званне і пасаду камандуючага ракетных войск Далёкаўсходняй ваеннай акругі Расійскай Федэрацыі, але ў 1997 годзе быў забіты пры нявысветленых абставінах у Нагінску, калі вяртаўся з Мінска ў Маскву. Забойцу не знайшлі. Калі хавалі сына, то адзінае, чаго мне хацелася, — ляжаць разам з ім у яго цынкавай труне, але рукі дачкі, унучкі і яшчэ некага ўтрымалі.

Доўгі час не хацелася жыць, але жывой у магілу не ляжаш. Дапамогай мне былі словы сына, які некалі пісаў: «Мама, трэба з аптымізмам пераадольваць цяжкасці». І я жадаю гэтага сваім дзецям і ўнукам. І ўсім людзям. Дай Бог усім мудрасці і цярпення.

**Андрэй Калавур**

# З гісторыі жаночага руху на Беларусі: Канстанцыя Скірмунт і Юзэфа Кужанецкая ў стасунках да грамадскасці

«Ёсць іскра ў мне, якую ніхто не загасіць,
Ёсць гонар ў мне, які ніхто не спакусіць»
З панегірыка Канстанцыі Скірмунт [1].

«Феміністкі і эмансіпанткі» [7], «гэтыя праклятыя дзве патрыёткі» [7], неаднаразова судзімыя за адкрыццё тайных школ — Канстанцыя Скірмунт і Юзэфа Кужанецкая, дзве пінскія шляхцянкі, якія разам і паасобку, аб'яднаўшы вакол сабе іншых актывістак (Леанціна Орда, Марыя Горніч, Уладзіслава Ляшчынская), разгарнулі буйную дзейнасць у рэчышчы дагэтуль «непрымальным» для жанчын: палітыкі і эканомікі, публіцыстыкі і гісторыі, асветы і нацыянальнага руху.

У лісце пратэсту да Ю. Пілсудскага ў 1920 годзе (надрукаваны на старонках Echo Litwy) у сувязі з заняццем Вільні і Віленшчыны Польскім войскам гучыць: «…Няма Літвы без Вільні, гэтая нібы любая "сястрыца", што калісьці сваімі землямі і народамі ад мора да мора дала адразу Польшчы, аб'ядноўваючыся з ёй, вялікадзяржаўнае становішча, не мае сёння нічога вялікага са свайго вялікага мінулага, апроч спадчыннага клейноду — Вільні… Польшча для здаровай палітыкі не мусіць прэтэндаваць на Вільню. Тады знікне галоўны прадмет спрэчкі паміж двума народамі, а даўні саюз расквітнее ў новых формах» [5]. Аўтар — Канстанцыя Скірмунт. Праз год пасля ўтварэння Litwy Srodkowej, з падпісаннем Рыжскага дагавора, краёвасць як феномен грамадска-палітычнага жыцця знікне і перанясецца ad acta.

## Аб месцы «краёвасці» ў сусветнай палітычнай філасофіі

Палітычнае мысленне Канстанцыі Скірмунт не абумоўлівалася «этнічнасцю», якая была ў «модзе» ў XIX — пачатку XX стагоддзя. Дамінантамі стасункаў між людзьмі hic et nunc для Канстанцыі з'яўляліся агульная адказнасць усіх за прыналежнасць да «краю» (тэрмін закона) і культура. «Культура — гэта святло і цяпло, — адзначала яна, — і такое ёсць права "натуры": да святла і цяпла цягнуцца, з гэтай нудой і жаданнем кожная істота жыве — кветкі, дзіця, чалавек» [1]. Канчатковая мэта ўплыву культуры на грамадскасць разглядалася як момант стварэння істотна новай сацыяльнай сувязі «наваднога моста», якая, у сваю чаргу, акрамя іншага, стварае падставу для новага ўзроўню «палітычнага ўяўлення».

Стварэнню функцыянальнага грамадства перашкаджае «ўзаемнае неразуменне, незнаёмства, шавінізм» [11]. Для іх пераадолення Канстанцыя прапаноўвала прытрымлівацца салідарнасці: «Намагацца зразумець адзін аднаго, глыбока пазнаць, што кожны з нас любіць, узаемна адмовіцца ад эгаізму, які нараджвае пачварную, грубую пыху і нянавісць» [11].

Палітычная думка Канта і яго паслядоўніка Фрэбеля, які даследаваў досвед палітычнага жыцця ў Швейцарыі, грунтавалася на канцэпцыі грамадзянскага і сусветна-грамадзянскага станаў. Нямецкія мысляры пайшлі далей «палітычнай нацыі», якая аб'ядноўвае грамадзян, а не дыстанцыруе пануючы этнас і меншасці. Яны «ўяўлялі» цесны саюз такіх нацый, а вынікам саюза бачылі як мінімум скасаванне факта вайны і ператварэння яго ва «ўнутраны канфлікт».

На другім канцы свету ад прыхільнікаў краёвай ідэі, пад уплывам Woman's Peace Party і Union of Democratic Control, В. Вільсан распрацоўвае ў 1916 годзе праграму для Лігі Міру. У 1925 годзе ён скажа: «Тое, чаго мы прагнем, ёсць Царства Закона, заснаванае на згодзе ўсіх, хто гэтым законам кіруецца, якое абапіраецца на арганізацыйную волю чалавецтва» [10]. Функцыянальнасць «палітычнай нацыі» (у практыцы/мысленні) меней усяго знаходзілася ў рамках




Дэманстрацыя The Woman's Peace Party супраць уцягвання ЗША ў Першую сусветную вайну.

псіхалагізму. Як бачна, другая ступень будаўніцтва «палітычнай прасторы» дзяржаў на падставе закона і культуры, дзе ўсталявалася новая сацыяльная сувязь, — гэта забеспячэнне сусветнай бяспекі шляхам аб'яднання па тых жа прынцыпах.

Сёння гэта актуальныя пытанні для будаўніцтва інтэграцыйных прастораў. Ю. Хабермас паўтарае, што «толькі роўная павага да кожнага асобнага чалавека і салідарнасць паміж усімі і ёсць канчатковая мэта культуры» [10]. Аднак сёння салідарнасць, на яго думку, нават у канстытуцыянаванай у прававых адносінах форме, даволі заняпалы рэсурс у саюзах этнічных нацый.

Пошук алгарытму стварэння калектыўнага актара, які на транснацыянальным узроўні зможа знайсці шлях да палітычнага кампрамісу і рэалізаваць яго ва ўсім свеце, — той працэс, які толькі пачынаецца.

## Канстанцыя Скірмунт (1851, Калоднае — 1934, Пінск) як аб'ект жаночай гісторыі

З часоў пінскіх княгінь — Марыі Гаштольд і Боны Сфорца (XV—XVI стст.) — імёны жанчын усё часцей уваходзяць у сферу «публічнасці». Падкрэсліваючы сваю ролю ў палітычным жыцці княства, яны падпісваліся пад юрыдычнымі актамі: «Я кн. Мар'я з дачкою сваёй кн. Аляскандраю» і Pinencis Domina [6]. Уласна сямейная традыцыя Скірмунтаў у стасунках мужчына/жанчына вядзе свой пісьмовы адлік з адносін Матэвуша Бутрымовіча і Крысціны Лях-Шырмы (продкаў Канстанцыі Скірмунт), у гонар якой падстараста даў назву свайму маёнтку каля Пінска. Бабуля Канстанцыі — Гартэнзія — размежавала сваю дзейнасць з мужам Аляксандрам, знакамітым беларускім прадпрымальнікам, і займалася справамі пінскага шляхецтва, узначальваючы яго (жанчына маршалак). Хелена Скірмунт (маці Канстанцыі) дасягнула вялікіх поспехаў у галіне мастацтва і адукацыі, атрымаўшы яе ў лепшых універсітэтах Еўропы таго часу, таму, кажучы пра яе сям'ю, часцей прыгадваюць не мужа — Казіміра (архітэктара Пінскага вучылішча/гімназіі), — а ўласна Хелену.

Некаторы час Канстанцыя выхоўвалася пад уплывам Гартэнзіі ў Альбрэхтова (Пінск, сядзіба Скірмунтаў), калі бацькі былі ў ссылцы за ўдзел у паўстанні 1863—1864 гадоў. Яна вучылася ў жаночым пансіёне ў Калішы (Польшча) і ў Дрэздэнскім прыватным вучылішчы. Цікавасць да акадэмічнай гісторыі і філасофіі Канстанцыі прывіў Ян Карлавіч, з якім яна мела доўгую перапіску «з Альбрэхтова» і спрачалася наконт філасофіі Дрэпера [7]. Бясспрэчна, сімвалічнай постаццю для шляхцянкі з'яўлялася Эліза Ажэшка, якая наведала яе ў «Мурэку» (Пінск, палац Бутрымовіча) ў 1885 годзе і якая, жывучы некаторы час у Людвінава (каля Пінска), адчыніла школку для сялян у 1862 годзе і прымала ўдзел у палітычных дыспутах краю.



Сядзіба Скірмунтаў у Альбрэхтова, Пінск.

«Мае продкі былі ліцвінамі, Міцкевіч быў ліцвінам, мая мама ліцвінка, і я з іх» [1]. Ідэя Вялікага Княства Літоўскага не зыходзіла з «публічнасці» на працягу стагоддзяў: у 1791 годзе Матэвуш Бутрымовіч выказаўся за ўвядзенне Статута Літоўскага ў Кароне, калі апошняя хоча распачаць уніфікацыю права Рэчы Паспалітай; што датычыцца Канстытуцыі 3 мая, то і яна не стварыла адзінай уніфікаванай дзяржавы, зыходзячы з дакумента «Узаемныя Заручыны Абодвух Народаў». Ідэя ВКЛ не знікла і на пачатку XX стагоддзя. Прыхільнікі асобнасці беларуска-літоўскага краю («краёўцы») у межах Расійскай імперыі дзейнічалі і распаўсюджвалі ідэі ў Першай і Другой Думе («Тэрытарыяльная кола»), Дзяржаўным Савеце, Краёвай партыі Літвы і Беларусі, арганізацыях масонаў («Адзінства», «Літва», «Беларусь»), грамадскай арганізацыі «Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага» 1915 года і шмат якіх выданнях: толькі Канстанцыя публікавала артыкулы ў выданнях Kraj (Санкт-Пецярбург), Kurier Polski (Варшава), Gazeta Codzienna (Вільня), Slowa (Вільня), Przeglad Wilenski (Вільня), Kurier Litewski (Вільня—Мінск) і інш. Канстанцыя, разам з Р. Скірмунтам, М. Ромэрам, Б. Ялавецкім, стала галоўнай фігурай у распрацоўцы канчатковай ідэалогіі краёцаў [8]. Ідэалогія разглядала тэрмін «нацыя» па-за межамі этнічнага разумення, для яе ўласціва галоўная прыкмета — грамадзянін краю. Яна абапіралася на грунтоўны гістарычны перыяд існавання шматканфесійнага і шматэтнічнага Вялікага Княства Літоўскага. Краёвасць аднача-сова вырастала і з «тутэйшасці», якая спалучалася са свядомасцю шляхты. На думку Канстанцыі, праява «тутэйшасці» з'яўлялася «гранітным падмуркам для патрыятызму і абароны краю», яна выяўляла «сардэчную сувязь з зямлёй» [3]. Наконт краёвасці пісаў адзін з «айцоў-заснавальнікаў» беларускай дзяржаўнасці Раман Скірмунт: «Мы павінны працаваць для дабра ўсяго краю разам з нашым літоўскім або беларускім народам, з якім мы ўтвараем адзіную нацыю» [8]. М. Ромэр — беларуска-літоўскі палітычны дзеяч — вызначыў галоўную мэту дзейнасці: «Задачай бліжэйшай будучыні з'яўляецца арганізацыя сумеснага жыцця розных культурна-этнічных элементаў у краі і ў Вільні на падмурку агульнага грамадзянства» [3]. У 1910 годзе Канстанцыя ўпэўнена абвясціла: «Ліцвінкай і толькі ліцвінкай, з ласкі Божай, я была, ёсць і да апошняга дыхання буду!» [1].




Зборнік артыкулаў пра краёвасць К. Скірмунт.

Мыслярка дзейнічала на ніве розных этнічных культур, супольнае існаванне якіх («калектыўныя актары») было гарантам існавання адзінага субэтнасу «ліцвіны». Яе асноўныя гістарычныя працы былі прысвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму: «Гісторыя Літвы» [2], «Над Нёманам і над Балтыкай у пачатку гісторыі» [4] і інш. Вядома, што А. Ельскі прапаноўваў ёй у 1906 годзе напісанне канцэпцыі гісторыі Беларусі, якая, хутчэй за ўсё, так і не знайшла свайго ўвасаблення (палітычную гісторыю для этнічнай ідэі Беларусі Канстанцыя выводзіла ў іншых сумежных працах: ад ранняга Полацка і Усяслава Чарадзея) [7]. У частцы «Гісторыі Літвы» — «Геаграфія даўняй Літвы», яна вызначала гістарыч-

ныя рэгіёны ВКЛ: уласна Літва (Вільня, Коўна, Гродна, Ліда, Ашмяны, Браслаў і інш.), Жмудзь (Паланга), Русь Літоўска (Мінск, Навагрудак, Ваўкавыск, Пружаны, Слуцк і інш.), Падляшша (Берасце, Беласток і інш.), Палессе (Пінск і Тураў), Беларусь (Полацк, Віцебск, Орша, Магілёў і інш.), Валынь (Луцк, Овруч і інш.), Украіна з Руссю Северскай (Кіеў, Чарнігаў), Падолле (Камянец-Падольскі, Вінніца) [2]. Галоўную ролю «стваральніка дзяржавы» ВКЛ Канстанцыя адводзіла, бясспрэчна, Гедзіміну, які аб'яднаў усіх і стварыў ліцвінскую супольнасць з «люду розных станаў», утвараючых адзіны край [2].

Канстанцыя лічыла, што асвета павінна мець мову мясцовага жыхарства: «трэба навадніць тысячамі чытанак край» [3]. Эканоміка, на яе думку, павінна грунтавацца на дасягненні «агульных даброт», імкнуцца да гэтага цераз дзейнасць у сферы сельскай гаспадаркі (адзначала істотную ролю Мінскага і Палескага сельскагаспадарчых таварыстваў, якія мелі пэўны досвед) і прамысловасць [3]. У 1901—1903 гадах было створана Таварыства ўзаемнага крэдыту палескіх землеўласнікаў, аднак статут арганізацыі не прадугледжваў удзелу жанчын. У сувязі з гэтым, для грашовага стымулявання краю і ўсталявання ролі жанчын, Канстанцыя і Юзэфа на ўласныя сродкі ў «Мурэку» ствараюць Крэдытна-ашчадную касу.



Канстанцыя Скірмунт.

На пачатку XX стагоддзя Канстанцыя заклікае: сучасным рэгіёнам Літвы (у разуменні этнічным) і Беларусі, так званай «адвечнай Гедзімінавай зямлі», трэба аб'яднацца да абароны сваіх інтарэсаў і стварыць адзіны палітычны цэнтр у Вільні на падставе дэмакратызму і два этнічнакультурныя цэнтры ў Коўне і Мінску. Стварыць Краёвую партыю. «Час! — Калі жыць хацім, і жыць так, як нам прыстала» [3].



«Мурэк» — палац Бутрымовіча ў Пінску.

## Юзэфа Кужанецкая (1853, Дубае — ?) як аб'ект жаночай гісторыі

Пачатак XX стагоддзя. З прычыны набліжэння запланаванага ўладай злому касцёла ў вёсцы Гарадзішча (каля Пінска) дзясяткі мясцовых жанчын выйшлі на «жаночы бунт», як яго азначылі ў віленскай газеце [9].

У 1909 годзе Раман Скірмунт і Юзэфа Кужанецкая ставяць подпісы ў звароце да ўлады. Зварот даваў гарантыю фінансавання касцёла і прапаноўваў перадачу яго ў грамадскае карыстанне. Праз дзень зварот падпісалі чатыры ўплывовыя жанчыны Пінска: Канстанцыя Скірмунт, Леанціна Орда, Аляксандра Бутрымовіч і Стэфанія Брэза. За выратаванне касцёла яны атрымалі ад Рымскага прастола ўзнагароду Pro Eclessia [9].

Плённая дзейнасць створанага ў 1902 годзе Пінскага таварыства дабрачыннасці, у склад якога, акрамя іншых, уваходзілі Канстанцыя і яе сваячка Юзэфа, дала вынікі не толькі ў справе з гарадзішчанскім касцёлам, але і ў асвеце. У 1907 годзе жанчыны заснавалі дзве тайныя школкі ў Пінску: у доме Мікульскага (вул. Пецярбургская), дзе вывучалася каля 120 дзетак, і ў доме Часнака. Афіцыйны дазвол на адкрыццё школак для дзяцей бедных гараджан, які спрабавала аформіць Леанціна Орда (1859—1947) ў Вільні, не быў атрыманы, таму школкі працавалі нелегальна. У іх выкладалі арыфметыку, геаграфію, гісторыю і інш. Урокі вялі Уладзіслава Ляшчынская, Ганна Трусінская, Марыя Горніч і іншыя жанчыны. Але ўжо да 1911 і 1912 гадоў школкі былі зачынены. Тады і адбыліся два судовыя працэсы над жанчынамі і адміністратыўнае пакаранне апошніх.

Працягваючы праводзіць палітыку «краёўцаў» у сферы асветы, у 1907 годзе Юзэфа, як знаўца дыялекта паўночнай Піншчыны, піша Лемантар для палешукоў. Фінансаванне праекта здзяйсняецца Канстанцыяй. Лемантар распаўсюджваецца шляхтай і ксяндзамі ў Пінску і на Піншчыне. Напісаны лацінкаю і ўкраінскаю абэцэдаю, лемантар стаў першым знаёмым нам фактам кадыфікацыі палескай мовы. З «Предмовы» гучыць: «На том лементары повинны учитися читати всі Полешуки… повинны науперш научитиса читати, писати, раховати і Бога хвалити…» [7].

Падчас Першай сусветнай Канстанцыя разам з грамадскасцю стварыла Камітэт выратавання, які пастаўляў бедным грошы, прадукты і адзенне. У 1916-м намаганнямі камітэта была створана чатырохкласная гімназія пад кіраўніцтвам Марыі Горніч.



Вуліца Пецярбургская, Пінск. Перш. чв. XX ст.

## Без эпілога

Здаецца, час Канстанцыі і Юзэфы працягваецца. Іх каардынаты пакрысе з'яўляюцца ў свядомасці. У адной з прац Канстанцыя зрабіла спасылку на Аўгусціна Аўрэлія для таго, каб знайсці арыенцір і вырашэнне «распаленых спраў»: «У неабходным — яднанне, у сумніўным — свабода, ва ўсім — любоў». У яе разуменні гэта было прыкладна так: «у пытанні роднай мовы — вольны выбар, у палітычных і грамадскіх справах — еднасць, ва ўсіх стасунках — любоў» [11].

P.S. Да апошняга часу месца пахавання Юзэфы Кужанецкай было невядома. Але мы адшукалі яго на старых могілках у Пінску. Самае кранальнае ў гэтай гісторыі тое, што яны з Канстанцыяй пахаваны пад адным помнікам. Ініцыялы Юзэфы напісаны збоку: J. K. 1853—1915.

### Крыніцы


1. «Panie z muru» / Roman Skirmuntt / «Slowo» n. 127, 1934. S. 3.
2. Skirmuntt, K. Dzieje Litwy. — Krakow, 1886.
3. Skirmuntt, K. Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie wilenskiej 1905-1907 r. — Warsawa: Jan Cotta, 1907. — 86 s.
4. Skirmuntt, K. Nad Niemnem i nad Baltykiem w zaraniu dziejow. — Warsawa: Gebethner i Wolff, 1897. — 163 s.
5. Szpoper, D. Gente Lithuania, natione Lithuania. Mysl polityczna i dzialalnosc Konstancji Skirmuntt (1851—1934). — Gdansk, 2009. — 487 S.
6. Грушевский, А. С. Пинское Полесье. — Киев: Типография Императорского Университета Св. Владимира, 1903. — 160 с.
7. Ильин, А. Л. Очерки истории культуры Пинщины (IX — нач. XX вв.). — Пинск: Типография ПолесГУ, 2013. — 220 с.
8. «Краёвасць» у беларускай і літоўскай гісторыі. 1905—1940 гг.» / Алесь Смалянчук / Беларускі Гістарычны Агляд Т. 4 сш. 1—2, 1997.
9. «Партрэт у Гарадышчанскім касцёле: хроніка падзей» / Мікола Нікалаеў / ARCHE, № 1, 2004.
10. Хабермас, Ю. Расколотый Запад. — М.: Весь мир, 2008. — 186 с.

# Караткевіч forever



1959 год. Фота з хатняга архіва Уладзіміра Караткевіча.

# «Не ідуць вершы — пішы фантастыку»

**Па-суседску завітаць да Уладзіміра Караткевіча і атрымаць водгук на сваю творчасць — хіба не мара для маладога літаратара? Менавіта так зрабіў Адам Глобус у 1982 годзе, падрыхтаваўшы свой першы паэтычны зборнік «10 на 10». А сёння ён дзеліцца з чытачамі «Маладосці» парадамі, некалі пачутымі ад класіка.**

**Матэрыял падрыхтавала Хрысціна Чарнушэвіч.**

**— Чаму вы вырашылі звярнуцца са сваім рукапісам да Уладзіміра Караткевіча?**

— Мой бацька, Вячаслаў Адамчык, быў катэгарычна супраць, каб я стаў пісьменнікам. Лічыў, што гэта нервовы, не вельмі прыбытковы занятак, асабліва складаны ў тагачасных палітычных умовах. Ён бачыў мяне матэматыкам: у нашай сям'і была пэўная матэматычная традыцыя… Але я ўсё роўна пісаў вершы. А на нашай лесвічнай пляцоўцы, акрамя бацькі, быў яшчэ адзін аўтарытэтны пісьменнік — Караткевіч, таму мне дастаткова было перайсці праз гэтую пляцоўку, каб даведацца яго меркаванне пра тыя творы. Я папрасіў яго прачытаць мой рукапіс, каб ён сказаў, ці варта далей гэтым займацца.

**— Ці чакалі вы грунтоўнага разбору сваіх твораў з боку Караткевіча?**

— Чаму ж не? Мы шмат гутарылі — пра літаратуру, жывапіс, лёс нашай бацькаўшчыны… І Караткевіч адгукнуўся амаль што на кожны верш! Як ён сам гэта разумее, як гэта можа ўспрыняць рэдактар, як адрэагуе чытач... Я лічу, што гэтыя нататкі Караткевіча — прыклад узорных паводзін старэйшага пісьменніка ў дачыненні да маладога аўтара-пачаткоўца. Ён ахвяраваў сваім часам не проста на прачытанне кніжкі, але і на напісанне такога падрабязнага водгуку. Ён нават пакінуў нейкія тлумачальныя малюнкі. І ўжо разам з Караткевічам мы пераконвалі майго бацьку, што я ў літаратуры не безнадзейны таварыш, што, мабыць, мне ўсё ж можна пісаць.

**— Якія парады Караткевіч даваў маладым пісьменнікам?**

— Ён, напрыклад, казаў: калі не пішацца сур'ёзная проза, не ідуць вершы — пішы фантастыку. Караткевіч меркаваў, што гэта апошні прытулак пісьменніцкай дзейнасці. Будзь фантастам, стварай нейкую бязглуздзіцу, толькі не кідай пісаць зусім. Вось Міхась Стральцоў лічыў інакш. Ён раіў працаваць над крытыкай ці літаратуразнаўчымі артыкуламі, калі няма натхнення, але ж таксама ніколі не спыняцца.

**— Ці вучыў ён, як правільна камунікаваць з рэдактарамі?**

— Караткевіч рэкамендаваў пагаджацца з праўкамі, але захоўваць рукапісы. Калі бачыш, што рэдактар або цэнзар выкрэслівае нешта істотнае, працуй на перспектыву — усё выправіш, калі будзеш выдаваць збор твораў. Пісьменнік не павінен баяцца саступіць некаму сёння, каб потым аднавіцца цэласна і ярка.

**— Але кажуць, што ў самога Караткевіча не заўсёды былі простыя стасункі з рэдактарамі…**

— Часам ён прымаў праўкі, часам абураўся, але не сыходзіў у нейкае непаразуменне. Ён проста адстойваў свае погляды. Калі рэдактар казаў Караткевічу, што выраз «мільгаюць хаты, як кучы гною» няправільны, той мог аспрэчыць: «Я вось так бачу». Аднак кніжкі яго выходзілі, ён быў папулярным, значыць, мог паразумецца і з рэдактарамі.

**— Ці памятаеце, як выглядаў працоўны кабінет Караткевіча?**

— У нас на дзвярным касяку быў цвічок, на якім віселі ключы ад кватэры Караткевіча. Калі яны з жонкай, цёцяй Валяй, з'язджалі, я мусіў палiваць кветкі, глядзець за кватэрай. Таму я не проста ведаю, я за яе адказваў. Кабінет быў поўны кніжак, там была тахта для адпачынку — Караткевіч часам нават спаў у кабінеце. Над працоўным сталом вісеў вялізны партрэт Кастуся

Каліноўскага — ён заўсёды быў для пісьменніка прыкладам. Караткевіч любіў пагаварыць пра Каліноўскага, наогул вельмі любіў XIX стагоддзе, такое рамантычнае. Вось для мяне яно было цалкам чужое. Эстэтычна мы з Караткевічам знаходзіліся ў розных плоскасцях. Аднак увесь час збіраліся разам — на Новы год, Каляды ды на іншыя святы былі за адным сталом.

**— Як у Караткевіча адбываўся творчы працэс?**

— Калі ён пачынаў пісаць, то захапляўся так, што мог працаваць па 18 гадзін на суткі. І пакуль не скончыць, не мог спыніцца. Караткевіч вельмі любіў добрую паперу, пісаў на ёй дробным почыркам, вельмі акуратна. З адной старонкі яго рукапісу атрымлівалася паўтары старонкі машынапісу. Ён меў шыкоўныя касцюмы, белыя кашулі, гальштукі, прытым мог сесці і працаваць у такой вопратцы. Таму што касцюм як бы трымаў яго. Караткевіч у сваёй творчасці не карыстаўся нейкімі дакладнымі схемамі, ён рухаўся бесперапынна. Пакутаваў, што не дапісаў «Каласы пад сярпом тваім», і шмат разоў расказваў, як павінна ўсё скончыцца і чаму ён не дапісаў. Караткевіч не хацеў забіваць Каліноўскага. Вось ён кожны раз бярэцца, вывучае дакументы і ўсё роўна не можа апісаць гэтую сцэну…

**— Урэшце, якое значэнне мела для вас асоба Уладзіміра Сямёнавіча?**

— Для мяне гэта быў жывы чалавек, са сваімі цяжкасцямі. Калі ты жывеш па суседстве, то адчуваеш пэўную адказнасць, у тым ліку побытавую. У мяне шмат успамінаў звязана з побытам Караткевіча, але я не магу імі дзяліцца, каб не зашкодзіць стварэнню помніка пісьменніка, кананізацыі яго вобраза, якая адбываецца сёння. Сам Караткевіч не прэтэндаваў на славу галоўнага паэта і пісьменніка нацыі, яму былі блізкімі творцы накшталт Вальтэра Скота. Ён любіў бібліятэчку прыгод, Конан Дойла, лічыў, што піша найперш для моладзі. Для мяне Караткевіч — жывы чалавек, які і застаецца жывым, з усімі сваімі хібамі і вялікімі дасягненнямі.

## Водгук Уладзіміра Караткевіча на зборнік паэзіі Адама Глобуса

— Ясна, што пісаў мастак. Ды яшчэ пад уплывам работ у Мсціслаўлі і г. д.

— Ад паўнакроўя верша часам застаецца каркас (і не заўсёды напоўнены настроем, як напоўнены лепшыя з японскіх «танка» і «хокку»).

— Схожасць паміж імі і розніца.

— Мысленне мастака і, у дад., манументаліста. Схожасць з уласнымі жывапіснымі накідамі.

— З гэтага вынікае, што і чытач пав. быць мастаком і валодаць (у некаторых выпадках) выняткова́й, большай нават, чым у паэта, сілай уяўлення. Такіх адзінкі.

І трэба думаць не аб тым, каб напісаць больш зразумела (чытач з часам дарасце, калі будзе многа чытаць такога), а ў тым, што там, дзе будуць вырашаць лёс кнігі, можа сядзець чалавек, начыста гэтага ўяўлення пазбаўлены, або... дурань.

— Як выблытацца? Можа праз аўтаілюстрацыі (яно й лепей, бо адно трох-двухрадкоўе на старонку — гола, а тры — непрыгожа), якія разам з вершамі памагалі б чытачу пранікнуць у сканструяваны Вамі свет. Менавіта сканструяваны, бо радавому чытачу патрэбен для Вашых твораў «план», «карта», як у Сцівенсана да «Вострава скарбаў». Падумайце.

(«Арка» і, асабл., «Барабан». А ўявіце сабе вершы «Варатар» (футбольны) і варатар (крапасны)? І па-польску beben, не выблытаешся. Мо назва «Архітэктурны барабан», або «бараб. — п’едэстал Купалы»? Не ведаю. «Бэлька — думка, якая выказана нязграбна.

– Ясна, што пісаў мастак. Ды яшчэ пад уплывам работ у Мсціслаўлі і. г. д.

– Ад паўнакроўя верша часам застаецца каркас (і не заўсёды напоўнены настроем, як напоўнены лепшыя з японскіх „танка" і „хокку")

– Схожасць паміж імі і розніца.

– Мысленне мастака і, у дад., манументаліста. Схожасць з уласнымі жывапіснымі накідамі.

– З гэтага вынікае, што і чытач пав. быць мастаком і валодаць (у некаторых выпадках) выключнай, большай нават, чым у паэта сілай уяўлення. Такіх адзінкі.

І трэба думаць не аб тым, каб напісаць больш зразумела (чытач з часам дарасце, калі будзе многа чытаць такога), а ў тым, што там, дзе будуць вырашаць лёс кнігі можа сядзець чалавек начыста гэтага ўяўлення пазбаўлены, або... дурань.

– Як выблытацца? Можа праз аўтаілюстрацыі (яно й лепей, бо адно трох-двухрадковае на старонку – гола, а тры – непрыгожа), якія разам з вершамі ~~[illegible]~~ памаглі-б чытачу пранікнуць у сканструяваны Вамі свет. Менавіта сканструяваны, бо радавому чытачу патрэбен для Вашых твораў „план", „карта", як у Стывенсана да „Вострава скарбаў." Падумайце.
(„Арка"; асабл. „Барабан". А ўявіце сабе верш „Варатар" (футбольны); варатар (крапасны)? І па-польску bęben, не выблытаешся. Мо назва „Архітэктурны барабан", або „бараб.-п'едэстал купала"? Не ведаю. „Бомба" – думка ясная, але выказана нязграбна.)

– „Гіпс" – гіст. з лопухам у Рэп. Можа гіпс і хоча выглядаць толькі самім сабою, можа ён удае сябе ўсім на свеце і хваліцца, што можа гэта, але... жыцця няма, адзінага... Так будуць думаць я, ён, ты. З багаццем асацыяцый. А што заўважыць гіпсавы?
Мінарэт – асац., d абедз. да крайнасці.
„Замест мін – ..., замест кліча муэдз. – дым смярдзючы, што плыве над горадам – будоўляй."

– Не ведаю, ці пастр. тут даты. Ямы хай – для сябе. А то знойд. майстры, якія будуць падлічваць, колькі вершаў напісана 26.X.81 г. Ці гэта ведаць не трэба, што можна напісаць 20 вершаў за дзень, а пасля год маўчаць.

– [illegible]. Тут няма 3-х радкоў, значыць думку можна і зрабіць яснейшай.

– „Стол" – спроба, як можна часам без шкоды для [illegible]

Рукапіс Уладзіміра Караткевіча.

— «Гіпс» — гіст. з лопухам у Рэп. Можа гіпс і хоча выглядаць толькі самім сабою, можа ён удае сябе ўсім на свеце і хваліцца, што можа гэта, але... жыцця няма, адзінага... Так будуць думаць я, ён, ты. З багаццем асацыяцый. А што заўважаць гіпсавыя?

Мінарэт — асац., даведз. да крайнасці.

«Замест мін-..., замест кліча муэдз. — дым смярдзючы, што плыве над горадам-будоўляй».

— Не ведаю, ці патр. тут даты. Яны хай для сябе. А то знойд. майстры, якія будуць падлічваць, колькі вершаў напісана 26.X.81 г. Ім гэта ведаць не трэба, што можна напісаць 20 вершаў за дзень, а пасля год маўчаць.

— Пярсцёнак. Тут няма 3х-радкоўя, значыць думку можна і зрабіць яснейшай.

— «Стол» — спроба, як можна часам без шкоды для тканіны верша двума-трыма монасілабамі праясніць яго (верша) думку... для гіпсавых.

— Ёсць перш за ўсё вока («Райскія ябл.» і г.д.); крыху горш з гукам. А верш — гэта не толькі зрок, але й слых і нюх і пачуццё дотыку («букет шурпатых васількоў» — не памятаю ўжо ў якога паэта. Трэба і іх развіваць).

— «Рэчавік з мясарэзкай». Можа «Сонца — прамянямі — разрэз. яе».

— Кава-рамантык. Не хапае нейкага Mota — закл. гука, акорда.

— Выразкі. Лайдак! Адна справа клеіць «Чужую бацькаўшчыну», а іншае

«Святло
патушыў —
і
пачуў,
Як б’ецца
сэрца гадзіннік.
І ўся музыка! Вялікая работа! Я і ты!

— Кухня. Кампазіцыя № 1 Кампазіцыя № 2 Кампазіцыя № 3




Сам даеш у гіпсавую руку ножык.
Рэчавік № 2 Е Крэсла ў столь
Грукала рукамі
Кудравай галавы.

Тлумачу: Паверхам вышэй танцавалі пасля гадзіны ночы. Спачатку грукаў крэслам, а пасля, у адчаі, стаў біцца галавою (пакуль яшчэ кучаравай).

Мястэчка: — «Раніца». (!) Гэта як цень паху выклік. дзяцінства. Ваўчкі.

— «Варыянты». Ясна, якія асацыяцыі выклікае. Скляп. царквы, скляп. неба і г. д.

— «Партрэт дзеда». Асацыяцыі патрабуе. Адной адзінюткай. Ці так яму, скажам, было, калі, прыйшоўшы з танцаў, піў у цемры малако з гладыша.

— Сугучн. пачуццям пакалення, якое бачыла блін на абрусе і грэла рукі аб кафлю. Для соцень пакаленняў да гэтага асацыяцыя тая — мёртвы гук (а колькі іхніх асацыяцый адышло ў нябыт) і для многіх пасля нас — гэта будзе пустым гукам. Я б назваў «Спыніся, імгненне».

— «Ампір». Канон — па старaж. гармата. Калі яшчэ неяк дадаткова абыграць?

— «Дом і кот». Вось тут ужо зрок, адсутнасць слыху, гукаў і **рух**.

Г. зн. нямое кіно. Або сон. Гукавое яшчэ, трэба спадзявацца, будзе.

— Ёсць і проста замал. для памяці. Як у Айвазоўскага, якога Вы дужа ж любіце.

(далей ідзе малюнак са стрэлачкай-указальнікам і надпісам: «А сонца ў гэты час было вось тут»)

Астатняе прыйдзе ў майстэрні і будзе карцінай.

«Вуліца» і інш.

Горад:

Большасць рэчаў магла б быць карцінамі. Яны і ёсць карціны... у словах. «Паліклініка» — гэта Далі ў пэўным сваім перыядзе.

«Ноч пабудавала горад». Недзе аступіўся ў параўнанні.

«Дахі плошчы» — што ні кажы — новая манера. Будзе цяжка.

«Могілкі». Раз пейсы, то чые могілкі?

Балота.

— «Камень на балоце». Не толькі імпрэсія, імгн., а настрой, працягнуты ў часе, якасна вышэйшы стан.

— «Хаджу на балота». Ясна аб чым. Але «карункавы шкілецік лісціка», «а плямкі... **жар. птушка**». Ясна, адкуль цяга да вершаў. Немаг. паказаць фарбай фазы руху. Тое, што нарадз. мультфільм.

А часам і **распад** формы, а гэта ўжо ні да чаго («Пякучы холад»)

(«У ценю трава кволая» — няма сувязі паміж трыма фазамі. Не ведаю як. Мо:

— А ў ценю трава кволая.

— Дык запаліце сонца кожнай травіначцы!

— Ну, ведаеце, бывае і засуш.

Тады тры характары: канстататар — запалены рамантык і асцярожны скептык.

А мо і неяк іначай. Думайце.

Алейка.

— «Ціхі марш» — цуд. назва.

— Банкет. Праўда што добрае глупства можа змарозіць толькі чалавек, у якога розум так па жылачках і пераліваецца.

Гуляй, словам, гуляй. Дагуляешся.

Кару з дрэва.

Жару.

*(подпіс Караткевіча)*

«Божую кароўку» яшчэ б неяк павярнуць, каб зайграла.

Раздз. «алейка» часам збіваецца на:

Пішу табе ў альбом:<br>
Удар у сценку лбом,<br>
І ад такога болю<br>
Ўспомніш мяне паняволі.

# «І ў мяне будуць мядзведзі»

**Матэрыял, які пададзены тут, мог бы гэтаксама паспяхова фігурыраваць і ў трошкі забытай «маладосцеўскай» рубрыцы «Фотаальбом», і ў «Эпісталярыі».**

*«Добры дзень, паважаны Сяргей Сцяпанавіч!»* — паляцела адным ліпеньскім днём некуды да Гурона на «мэйл» з «перадслімачкам» pan-i-znik, з якога дакладна можна зразумець, да каго паляцела. *«І буду мчацца я з Гурона для паклона нізенькага ад Панізніка»*, — пісаў перад тым Сяргей Панізнік, высылаючы ў якасці прывітальнага падарунка «Маладосці» здымак за подпісам: «У двары Караткевіча. 10.05.1968 г.». Гэта, уласна кажучы, і падштурхнула, па-першае, папрасіць «расшыфраваць» здымак, а па-другое, звярнуцца да адрасата з наступным:

*Добры дзень, паважаны Сяргей Сцяпанавіч!*

*Ці не будзе Вам чаго напісаць у № 11 «Маладосці» да юбілею Уладзіміра Караткевіча? Мы ламаем галаву, што б такое даць, каб не паўторанае, свежы погляд, дагэтуль невядомае. Успомнілася пра Вас. Мо ёсць у Вас што пад такія крытэрыі?*

«Расшыфроўка» здымка была атрымана адразу ж. «Крыптограф» напісаў наступнае:

*Двор Караткевіча Уладзіміра Сямёнавіча межаваў у 1968 годзе з дваром Мальдзіса Адама Іосіфавіча. У 1967 годзе я пачаў службу вайсковага журналіста ва Уруччы, у 120-й гвардзейскай Рагачоўскай дывізіі. Мяне, аўтара зборнічка «Кастры Купалля», лагодна прынялі пісьменнікі Мінска. Пакуль не меў уруччанскага прытулку, у начаванні дапамагала сям'я Барадуліна Рыгора Іванавіча, спачуваў Рагойша Вячаслаў Пятровіч...*

*Уладзімір Караткевіч прапанаваў адзначыць Дзень майго нараджэння ў яго кватэры і пазваніў сваім сябрам, каб я змог пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. А я запрасіў Жэню Янішчыц, якую знайшоў на Ясельдзе яшчэ ў 1965 годзе. Валянціна Коўтун і Уладзімір Янкоўскі (медык) знаныя былі яшчэ з сустрэч Беларускага зямляцтва імя Цёткі ў Львове.*

*На тую хвіліну з мноства гасцей побач аказаліся Уладзімір Караткевіч, Яўгенія Янішчыц, Валянціна Коўтун, Уладзімір Янкоўскі, Пятро Маляўка з Гомеля, Вацлаў Жыдліцкі з Прагі (каля яго дачка Рыгора Барадуліна Ілонка), Міхась Стральцоў, Мікола Прашковіч, Алесь Барскі з Варшавы, Ала Станіславаўна Сакалоўская (гэта яна пазней будзе рыхтаваць да выдання кнігі Рыгора Барадуліна).*



Караткевіч у Празе. 1973 год.



ЧОРНЫ ЗАМАК АЛЬШАНСКІ

РАМАН

Сяргею Панізніку, які „пракапляюшчы" гэты нумар „Маладосці", каб ведаў, ня будучы час.
Ул. Караткевіч

В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю.

Частка 1. ГРОЗНЫЯ ЦЕНІ НАЧНЫЯ

З чаго мне, чорт пабірай, пачаць? З таго прадвесня, калі за акном было сутонне і мокры снег?

А што вам да леташняга снегу й сутоння? Пачаць з таго, хто я такі?

А што вам, урэшце, да мяне, звычайнага чалавека ў вялізным горадзе? І нашто вам мая самахарактарыстыка?

Адразу браць быка за рогі і расказваць? А якое я маю права на вашу ўвагу? Тое пра-

Мал. П. Драчова

2 «Маладосць» № 7

1979

17

Аўтограф Караткевіча на старонцы часопіса «Маладосць».

*Потым Валодзя Янкоўскі ўзяў у рукі мой «Зеніт», і я аказаўся побач Алы Сакалоўскай, з якой і да гэтага часу падтрымліваю творчыя стасункі.*

*Тая сустрэча 10 траўня 1968 года пакінула шчымлівы знак на ўсё жыццё. Мы ж тады былі ўсе маладыя!*

На ліст з просьбай даць нешта цікавае ў «караткевічаўскі» нумар атрымана паведамленне пра тое, як у 1988 годзе Сяргеем Панізнікам была прывезена з В'етнама выдадзеная там кніга Уладзіміра Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі»…

*Падарунак паэта Ле Чонг Шама з г. Гюэ. У 1989 г. Ле Чонг Шам быў госцем выдавецтва «Юнацтва». Я пераклаў яго верш, прысвечаны «беларускаму народнаму паэту» Караткевічу, мы наведалі магілу Паэта. На вокладцы зборніка апавяданняў Караткевіча, перакладзенага з рускай мовы, ёсць надпісы акрамя аўтографа Ле Чонг Шама, але кнігі з сабой не маю. А нататку «В'етнамскія мядзведзі Уладзіміра Караткевіча» магу пераслаць… У мяне ёсць здымкі Караткевіча ў Юрмале, у Празе з жонкай, з Забэйдам і Жыдліцкім... Ёсць аўтограф на кнізе жонкі Уладзіміра Сямёнавіча — Валянціны Браніславаўны.*

Да ліста дадаваліся новыя фотаздымкі: «Рыгор Барадулін слухае Уладзіміра Караткевіча», «Мая сястра Ніна Панізнік распавядае Уладзіміру Караткевічу і Рыгору Барадуліну пра свой "выхад да мора" з беларускага Прыдзвіння. Юрмала, пасёлак Каўгуры. Ліпень 1966 г.», «Міхась Іванавіч Забэйда-Суміцкі, Валянціна Браніславаўна Караткевіч, Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, Вацлаў Жыдліцкі. Прага. Ліпень 1973 г.»…

Безумоўна, да Гурона зноў пабеглі ўдзячныя радкі:

*Паважаны Сяргей Сцяпанавіч!*

*Атрымалі ад Вас чарговы падарунак. Усё гэта складваем у асобную папку, каб у № 11 надрукаваць у гонар юбілею Уладзіміра Сямёнавіча.*

І ў адказ:

*Перасылаю жменю в'етнамскіх зярнят Уладзіміра Караткевіча. З паклонам Сяргей Панізнік.*

«Будуць і ў мяне мядзведзі», — напісаў Сяргей Сцяпанавіч, даведаўшыся пра падрыхтоўку гэтай публікацыі.

Друкуем тут прысланыя Сяргеем Панізнікам фотаздымкі, а на старонках наступнай рубрыкі — артыкул, тыя самыя в'етнамскія зярняты.




«Былі ў мяне мядзведзі» на в'етнамскай мове. г. Гюэ, 1985 год.



Міхась Іванавіч Забэйда-Суміцкі, Валянціна Браніславаўна Караткевіч, Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, Вацлаў Жыдліцкі. Прага. Ліпень 1973 г. Фота С. Панізніка.



З Рыгорам Барадуліным у Юрмале. 1966 год.



Сястра Сяргея Панізніка Ніна распавядае Уладзіміру Караткевічу і Рыгору Барадуліну пра свой «выхад да мора» з беларускага Прыдзвіння. Юрмала, пасёлак Каўгуры. Ліпень 1966 года.



БЕЛОРУССКОЕ ДОБРОВОЛЬНОЕ ОБЩЕСТВО
ОХРАНЫ ПАМЯТНИКОВ
ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ

В. Б. КОРОТКЕВИЧ

ПАМЯТНИКИ
ИСТОРИИ
ВИТЕБСКА

Сяргею Панізніку
ад пачынаючай
аўтаркі
6.5.75

Издательство «Полымя»
Минск 1975

Аўтограф на кнізе жонкі Уладзіміра Сямёнавіча — Валянціны Браніславаўны.



На развітанне з удзельнікамі дэлегацыі В. Г. Грышановічам, І. М. Лапцёнкам, С. С. Панізнікам.



У двары Караткевіча. 10.5.68.



Васіль Быкаў і Навум Гальпяровіч на радзіме Петруся Броўкі. Пуцілкавічы. 16.6.1985. Адкрыццё філіяла Літаратурнага музея П. Броўкі ў гонар 80-годдзя Народнага паэта Беларусі.



Рыгор Барадулін слухае Уладзіміра Караткевіча.



Уладзімір Караткевіч з Вацлавам Жыдліцкім. Мінск, 1968 год. Фота С. Панізніка.



Караткевіч, Жыдліцкі, Барскі.



В'етнамскі паэт Ле Чонг Шам з Барысам Сачанкам ля Дома дружбы ў Мінску. 1989 год. Фота С. Панізніка.

**Сяргей Панізнік**

# В'етнамскія каласы Караткевіча

Дойлід. Майстра. Араты. Сейбіт. Глыбіннадумны… Якімі толькі высокімі словамі-азначэннямі не ўшаноўваюць незабыўнага рупліўца-працаўніка на ніве нашай літаратуры — каласістага Уладзіміра Караткевіча (26.11.1930—25.7.1984). Стараючыся вызначыць параметры таленту, называюць шэраг яго заняткаў: паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, сцэнарыст… А яшчэ і кампазітар. Гэта я магу сцвердзіць магнітафоннымі запісамі голасу Караткевіча ў лістападзе 1968 года. На дыску «Галасы», выдадзеным у 2009-м, вы можаце пачуць вершы з цыкла «Таўрыда», пачутую пад Оршай народную песню і створаны ім раманс, які быў прысвечаны каханай жанчыне.

Для поўнай жа характарыстыкі Творцы запрашаю наведаць вуліцу Караткевіча ў Оршы, на выездзе ў бок Віцебска. На сцяне будынка Парытэтбанка вы ўбачыце барэльеф, прысвечаны маладому аршанцу, і яго аўтограф. А на памятнай шыльдзе прачытаеце вось такія радкі: «Гэта вуліца носіць імя нашага земляка Уладзіміра Караткевіча, народнага пісьменніка Беларусі».

А пра яго ўзвышэнне на міжнародным п'едэстале напісана нямала даследаванняў, існуе багата памятак, як на сёння — рарытэтаў. Вось іскрынкі ад чэха Вацлава Жыдліцкага гараць аўтографам на перакладзенай ім і выдадзенай у Празе кнізе Уладзіміра Караткевіча пад назвай «Kralovska pomsta» з кароткім напамінкам, чаму ён ператалумачыў аповесць аўтара «Дзікае паляванне караля Стаха»: «…каб людзі ведалі, што аўтара цанілі за мяжой даўно да той заслужанай ацэнкі на яго радзіме».

«Свет мяне паўторыць», — калісьці спадзяваўся ў сваім вершы Уладзімір Сямёнавіч. Яго надзеі спраўдзіліся. Упляліся пад літаратурнае вязьмо многіх народаў каласы з-пад сярпа Караткевіча. Вось што я спазнаў, дзякуючы «князю Уладзіміру» ажно праз 10 тысяч кіламетраў ад Мінска.

Вясной 1988 года адправілася ў В'етнам дэлегацыя ў складзе галоўнага рэдактара Дзяржкамвыда БССР Ігара Мікалаевіча Лапцёнка, дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Валерыя Мікалаевіча Грышановіча і мяне, тагачаснага загадчыка рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва».

У старажытным горадзе Гюэ на поўдні В'етнама заключалі дамову аб творчым супрацоўніцтве з тамтэйшым выдавецтвам «Тхуан Хоа», знаёміліся з перакладзенымі на в'етнамскую мову кнігамі Васіля Быкава, Івана Шамякіна… А рэдактар выдавецтва паэт Ле Чонг Шам падарыў мне невялікую кніжачку на рысавай паперы з дужа цікавым пазначэннем яе аўтара: V-KO-ROT-KE-VICH.

Кніжка У. Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі» была надрукавана ў 1985 годзе вялікім накладам. Пераклад з рускай мовы зрабіў Нгуен Тхен Лонг. Разумею, чаму з такой цікавасцю было прынята гэтае апавяданне беларускага аўтара. Караткевічаў мядзведзь Туп тупаў па В'етнаме, забаўляючы чытачоў таленавітым сюжэтам, дадаваў вольналюбімаму в'етнамскаму грамацею натхнення. Хаця б вось такімі радкамі: «Так, былі ў мяне мядзведзі. І менавіта таму мне ўсё цяжэй і цяжэй робіцца адбіраць у жывёл свабоду — адзінае, дзеля чаго існуе ўсё чыста жывое на зямлі».

Паэт Ле Чонг Шам пакінуў на кнізе Караткевіча свой аўтограф: «Товариш Сергей. Мой серце». Думаю, што параўнанне «Маё сэрца» адносілася не так да мяне, як да Караткевіча. І пра гэта трохі пазней. Так, дарчы надпіс напісаны з памылкамі. Але рускай мовай Ле Чонг Шам валодаў свабодна. Пісаў вершы на роднай мове і на незабытай каланіяльнай — па-французску. Распавядаў нам, чаму горад Гюэ, цэнтр правінцыі Тхуа Тхіен, такі фантастычна прыгожы. І самому Караткевічу быў бы зразумелы гэты гістарычны сюжэт: кожная новая дынастыя на зямл і Ле Чонг Шама, умацаваўшыся ва ўладзе, знішчала ўсё тое, што было ўзведзена да яе. А вось апошняя дынастыя — не паспела. І мы бачылі горад Гюэ ў непарушнай старажытнай аздобе.

Пры сустрэчах з прыязнымі да нас гараджанамі я атрымаў ад мастака Хай Банга малюнак — сяброўскі шарж, ад паэтэсы Хоанг Тхі Зуэн — паэтычны зборнік, а трохі пазней па пошце яна пераслала свой верш-прысвячэнне, які пераклалі мне ў Мінску в’етнамскія студэнты.

Некалькі разоў пагутарыў са мною ў Гюэ былы ленінградскі аспірант Нгуен Дзін Нго, які пры нараджэнні 21 чэрвеня 1983 года сваёй дачушкі даў ёй цікавае імя — Бāць Нга. У перакладзе яно гучыць так: Белая Русь. Аспірант, будучы ў СССР, даведаўся пра падабенства гістарычных лёсаў двух народаў, былую падзеленасць іх тэрыторый… І сваю памяць пра гераічную Беларусь «увекавечыў» у імені дачушкі. Па вяртанні дадому ў нашай прэсе я многа пісаў пра звесткі ад Нгуен Дзін Нго, тэксты і здымкі перасылаў у В’етнам, за што Бāць Нга назвала мяне сваім хросным бацькам.

А ў 1989 годзе мінчане сустракалі гасцей з амаль што пародненага горада Гюэ. І ў першую чаргу было наведванне Усходніх могілак, дзе на помнік Караткевічу легла тая самая кніжачка пра «в’етнамскіх» мядзведзяў. Праз некаторы час Ле Чонг Шам паказаў мне свой верш, прысвечаны Караткевічу, пераказаў па-руску кожнае слова кожнага радка. У выніку атрымалася такое вось перастварэнне:

**Каля магілы**

Караткевічу — беларускаму народнаму паэту

На гэтай нязрушнай зямлі
Надгробак вось тут узвялі:
Два рысавыя каласочкі,
Цюльпаны нібы каралі.
І мне Вы паспелі зрабіць
Такое, што змог палюбіць
Крутыя аблокі над Мінскам,
Журботную выраю ніць.
З В’етнама паклікалі Вы
І нас да сваёй муравы,
Узносіцца з ветрам журботным
Ваш дух да святой сінявы.
Народнае — што? Для красы
Два рысавыя каласы?
Радкі — у паэта — зярняты.
Набраклі яны… Ад расы.

Пшанічныя каласы на надгробку Уладзіміра Сямёнавіча нездарма ўявіліся в’етнамскаму паэту як рысавыя. Сімвалічнае спарадненне вобразаў. Не дзіва, што вось такімі каласамі Ле Чонг Шама свет паўтарае творчую спадчыну з-пад сярпа Караткевіча.

А на развітанне з в’етнамскімі ўспамінамі не магу ўтрымацца, каб не згадаць Белую Русь В’етнама. Вось які верш я ёй прысвяціў:

Успомню казку: над планетай
аэрафлоцкая смуга.
Зноў уяўляецца Бāць Нга
і вечнае В’етнама лета.
Пад ім — карамысла-дуга,
азёры рысавых плантацый…
Дзяўчына тут змагла азвацца
маёй Радзімаю…
Бāць Нга!
Праз дзесяць тысяч кіламетраў
сціхала ростані туга…
…Мне й сёння з Бацькаўшчыны нетраў
гучыць імя: — Бāць Нга! Бāць Нга!

Успамінаю, як пры чарговай сустрэчы любіў са мной здароўкацца Уладзімір. Ён запомніў з майго верша такія радкі: «Хамутоў не зналі коні продкаў // На гербах прыдзвінскае зямлі…» І кожны раз, убачыўшы мяне, замест прывітання амаль ускрыкваў: «Хамутоў не зналі коні продкаў!» А цяпер ужо з караткевічаўскага В’етнама я воклічна прамаўляю ўслед Уладзіміру Сямёнавічу:

— Незабыўны КА-РАТ-КЕ-ВІЧ! Бāць Нга з намі! І з намі — уся БЕ-ЛА-РУСЬ!

# Даследчык, грамадзянін... Асоба

Працуючы над неапублікаванай спадчынай Уладзіміра Караткевіча, раз-пораз сутыкаешся з думкай, што сапраўдны талент пакідае пасля сябе ўрадлівае поле, шчодра засеянае выпакутаванымі за гады творчай працы залацінкамі-меркаваннямі, якія прымушаюць чалавека любога ўзросту і любога часу разважаць. Пра час і пра сябе, пра ўласны лёс і лёс свайго народа, пра чалавецтва... Гэта той выпадак, калі вынік разумова-мысленчай дзейнасці — твор пэўнага пісьменніка — адасабляецца ад стваральніка і ідзе «на шырокі прастор», становіцца фактам пазачасавага існавання, абуджае свядомасць, знаходзіць сабе суразмоўцу праз дзясяткі і сотні гадоў. І новы суразмоўца, які ўступае ва ўмоўны дыялог з Караткевічам, няўлоўна трапляе пад уплыў «магнітнага поля» ад тэксту пісьменніка, паступова пачынае адчуваць арыгінальнасць і слушнасць яго аргументаў, у большасці выпадкаў, бадай, апынаецца на яго баку.

«Адказы на пытанні...» захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ф. 11, воп. 2, адз. зах. 396) з пазнакай на рукапісе: 11 снежня 76 г., 21.42, Дубулты. Пісьменнік адказвае на пытанні Алега Бембеля (Зьніча), які на той час працаваў у Інстытуце філасофіі Акадэміі навук БССР у якасці малодшага навуковага супрацоўніка і рыхтаваў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў мастацкай культуры» (так і не дапушчаную да абароны).

Усяго Алег Бембель прапанаваў адказаць на 22 пытанні па Беларусі і на 19 агульных пытанняў. Уладзімір Караткевіч дае адказ на першыя 13 пытанняў, якія закранаюць шырокі спектр праблем беларускага існавання ў дыяхранічным і сінхранічным аспектах. Мяркуем, што думкі Караткевіча-прарока і ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь зусім не састарэлі, гучаць надзвычай актуальна і здольныя ў чарговы раз паказаць неардынарнасць яго таленту, шырыню ахопу жыццёвых з'яў і працэсаў, якія хвалявалі яго, доказнасць і пераканаўчасць высноў.

Як вядома, Алег Бембель працаваў і над кнігай «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», якая выйшла ў Лондане ў 1985 годзе. Відаць, невыпадкова яна завяршаецца пасляслоўем Уладзіміра Караткевіча «Мова (што я думаю пра цябе)», якое пазней, у 1996 годзе, было апублікавана і на Беларусі як артыкул у кнізе пісьменніка «Творы».

У 2010 годзе падчас асабістай гутаркі на юбілейных мерапрыемствах у Оршы, прысвечаных 80-годдзю Уладзіміра Караткевіча, Алег Бембель, сёння інак Жыровіцкага праваслаўнага манастыра айцец Мікалай, пацвердзіў наяўнасць сваіх пытанняў і ўзрадаваўся, што на іх знайшліся адказы пісьменніка. Выказваем спадзяванне, што знаёмства з новым творам Уладзіміра Караткевіча для кагосьці стане адкрыццём — адкрыццём новай грані яго таленту як літаратуразнаўцы і мысляра, разбуральніка спакойнага «застойнага» часу і абуджальніка нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

**Пятро Жаўняровіч**

# Уладзімір Караткевіч

**Адказы на пытанні, звязаныя з тэмай: «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў духоўнай культуры асобнага народа — як часткі чалавецтва»**

Ад таго, што сапраўды адбываецца ў душах сучасных людзей, шмат у чым залежыць, якім уступіць чалавецтва ў трэцяе тысячагоддзе Новай Эры (калі яно не знішчыць сябе да гэтага часу). Абуджэнне і фармаванне глыбінь чалавечага духу, у сваю чаргу, у значнай меры залежыць ад таго, ці кантактуюць з імі сучасныя з'явы культуры і, калі так, што менавіта яны там абуджаюць і фармуюць. Шмат у чым лёс чалавецтва залежыць ад светаадчування сучасных стваральнікаў духоўных каштоўнасцей, ад іх разумення адвечнага пытання: «Хто мы? Адкуль? Куды ідзём?», ад іх мужнасці — як у самой творчасці, так і ва ўзаемаадносінах з наяўным грамадствам (што, зрэшты, цяжка рэзка размежаваць).

Вашы думкі па наступных прыватных і агульных пытаннях з'яўляюцца вельмі важнымі для разумення таго, што сапраўды адбываецца ў глыбінях сучаснай духоўнай культуры, якія ўмовы для яе развіцця, для выхавання творцаў духоўных каштоўнасцей з'яўляюцца аптымальнымі. Выкажыце, калі ласка, і свае меркаванні па тых пытаннях, якіх няма сярод ніжэйпададзеных, але якія ўяўляюцца Вам істотнымі ў гэтых адносінах.

БЕЛАРУСЬ

1. У чым Вы бачыце асаблівасці нацыянальна-беларускага — духу, прыроды, укладу жыцця, гісторыі і г. д.? У якіх з'явах культуры, асобах, гістарычных падзеях яны выявіліся найбольш яскрава і глыбока?

2. Якія дзеячы духоўнай культуры Беларусі (усіх часоў) унеслі найбольш значны ўклад у вызначэнне паняццяў «нацыянальнага» і «інтэрнацыянальнага» альбо стварылі адпаведныя з'явы мастацтва? У прыватнасці — узнавілі і вызначылі спецыфічна беларускае, першародна-беларускае? У чым менавіта гэта выявілася?

3. Што з'яўляецца характэрным, спецыфічным менавіта для беларускага народа ў суадносінах і ўзаемадзеянні «інтэрнацыянальнага», «нацыянальнага» і «індывідуальнага» ў працэсе яго мастацкага (і увогуле — духоўнага) станаўлення, а таксама ў яго станаўленні як нацыі і дзяржавы?

4. Вашы меркаванні аб аптымальных суадносінах і ўзаемадзеянні «інтэрнацыянальнага», «нацыянальнага» і «індывідуальна-творчага» ў сучаснай духоўнай культуры Беларусі?

5. Якія істотныя рысы, на Ваш погляд, уласцівы беларускай мастацкай культуры? У прыватнасці:

а) паслякастрычніцкага перыяду ўвогуле?

б) перыяду Вялікай Айчыннай вайны (і найбольш значным увасабленням тэмы вайны ў з'явах пасляваеннай беларускай культуры)?

в) сучаснага перыяду?

6. Тое ж — канкрэтна — у літаратуры, музыцы, архітэктуры, выяўленчым мастацтве, кіна-, тэле- і тэатральным мастацтве і г. д.?

7. Якія з'явы (і асобы) у беларускай культуры Вы лічыце найбольш выдатнымі? Якія з іх прынеслі найбольшае дабро свайму народу? Іх характэрныя асаблівасці?

8. Тое ж — у перыяд Вялікай Айчыннай вайны і ў мастацкім увасабленні тэмы вайны?

9. З'явы (і асобы), якія зрабілі найбольшую шкоду беларускай культуры?

10. Як Вы ацэньваеце меркаванне, што з цягам часу пераважная большасць беларусаў пакіне сваю мову, а яе жывымі носьбітамі і захавальнікамі будуць толькі вузкія колы дзеячаў нацыянальнай духоўнай культуры?

11. Ваша разуменне паняццяў: «народ», «маса», «натоўп»? Што характэрна, на Ваш погляд, для паняцця «народ» у перыяд Вялікай Айчыннай вайны? У якіх з'явах беларускай духоўнай культуры асаблівасці паняцця «народ» выяўлены найбольш яскрава?

12. Што з'явілася найбольш значнай заваёвай чалавецтва ў Другой сусветнай вайне — у агульным гістарычным працэсе яго духоўнага станаўлення? Што з'явілася самым характэрным для гэтага — аднаго з самых напружаных, вырашальных момантаў чалавечай гісторыі — у плане станаўлення свабоды і сумлення: індывідуальнага, нацыянальнага, класавага, наяўных пакаленняў і агульначалавечага? Якія яшчэ моманты, на Ваш погляд, могуць быць ахоплены паняццем (у гэтым выпадку, відаць, занадта «блюзнерска-кабінетным») — «спецыфіка Другой сусветнай вайны ў яе духоўным аспекце»? — для савецкага народа, для Беларусі — перыяду Вялікай Айчыннай вайны? У якіх з'явах беларускай культуры гэтыя праблемы пастаўлены найбольш глыбока?

13. Што страціла чалавецтва ў Другой сусветнай вайне — акрамя мільёнаў людзей і арэчаўленых каштоўнасцей?

**Алег Бембель**

Каб адказаць на ўсе пытанні, зададзеныя мне Вамі, шаноўны тав. Бембель, патрэбна не 2—3 старонкі (гэта немінуча будзе адпіскай), а цэлая кніга, на якую ў большасці «творцаў духоўных каштоўнасцей» проста не хопіць часу.

Па супадзенні абставін я, аднак, якраз напісаў такую кнігу. Яна выйдзе на пачатку 1977 года. Напісана яна, праўда, для юнакоў, але, ду-

Аб’ектыўна і Скарына, і Цяпінскі, і Будны, і Філіповіч, і шмат іншых раслі са свайго народа і ляпілі свой народ, дапамагалі яму канчаткова аформіцца і пасля нарадзіць беларускую нацыю

маецца, будзе прыдатная і для часткі дарослых. Назва: «Зямля пад белымі крыламі».

Кнігу тую — па выхадзе — з ахвотаю падару Вам. Думаецца, у ёй знойдзецца нешта і для Вашай тэмы. Калі так — буду рады.

Наконт асаблівасцяў нацыянальна-беларускага там будуць раздзелы аб нацыянальным характары, прыродзе, гісторыі, укладзе жыцця, аб з’явах культуры, асобах, гістарычных падзеях.

Г. зн., там будзе адказ, хай няпоўны, на *першае пытанне* Вашых «Пытанняў». Ва ўсякім разе Вам стане ясны *прынцып*, якім я кіруюся ў поглядзе на ўсё гэта.

*Другое пытанне*. Аб дзеячах духоўнай культуры Беларусі, што ўнеслі «найбольш значны» ўклад у паняцце нацыянальнага і інтэрнацыянальнага.

Падмурак. Калі нельга яшчэ казаць пра спецыфічна беларускае, як нельга па падмурку вызначыць архітэктурны стыль, але без якога падмурка не стаіць ніякі будынак. Нацыянальнае, інтэрнацыянальнае (у сэнсе духоўнасці ўсіх людзей), індывідуальнае — злітыя ў адно. «Слова» — для ўсіх усходніх славян, а пераважна для будучай Беларусі (карані якой ёсць ужо тады), асабліва Кірыла Тураўскі і вялікая асветніца Ефрасіння. Паняццяў яшчэ доўга не было. Была справа. Як Казімір Лышчынскі і Кашпар Бекеш былі атэістамі і матэрыялістамі, не маючы аб гэтых паняццях ані зялёнага паняцця.

Аднак аб’ектыўна і Скарына, і Цяпінскі, і Будны, і Філіповіч, і шмат іншых раслі са свайго народа і ляпілі свой народ, дапамагалі яму канчаткова аформіцца і пасля нарадзіць беларускую нацыю. Урэшце, той жа мэце служылі і такія неадназначныя, плынныя, часам вартыя пакланення, а часам агіды палемісты, як Філон Кміта, Мялешка, Леў Сапега. У першых — адзіны сплаў веры ва ўсе (а перш за ўсё ў свой) народы. У другіх — неразумная любоў да свайго народа, якая часам цяжка, а часам досыць лёгка пераходзіла ў служэнне чужым. Часам — у рэнегацтва.

Пачатак усвядомленай нацыі — гэта ўжо ананімы (ананімнае, неназванае яшчэ ўсведамленне яе), Марцінкевіч і г. д.

І ўрэшце, на поўны голас: «Я ёсць! Паспрабуйце ўзяць голымі рукамі!»

Каліноўскі і асабліва Багушэвіч.

Ясна, што ў творчасці апошняга абражаны нацыянальны гонар часам кідаецца ў крайнасці: неабходна супрацьяддзе супраць атруты, якой стагоддзямі труцілі народ. І, аднак, у душы паэт быў інтэрнацыяналістам і, пры спрыяльных абставінах, выявіў бы гэта шырока ў творчасці (прадмова да «Дудкі», словы аб «пабратымцах нашых»).

Самы натуральны сплаў двух паняццяў — уся творчасць Багдановіча. Усяленскасць — пераклады і ўведзеныя ў беларускую стыхію вершаваныя формы ўсіх народаў. Спецыфічна, першародна-беларускае — казачныя цыклы, цыкл «Старая Беларусь», ледзь не ўся грамадзянская лірыка. Тут увесь беларускі характар, пададзены з той мерай чысціні (без адробіны шлаку), з якой яго падае хіба толькі наш фальклор.

Пытанне аб нацыянальным і інтэрнацыянальным — яно, я лічу, крыху надуманае, і, можа, нават няварта было б яго ставіць.

Таму, што беларусы ў лепшай (у пераважнай па сваёй велічыні) частцы — прыроджаныя інтэрнацыяналісты (часам нават у некаторую шкоду сабе, калі сваё лічыцца другарадным, калі чалавек не разумее, што за будучы агульны стол трэба прынесці як мага больш свайго, каб быць роўным з усімі, каб цябе паважалі і хвалілі, як руплівага гаспадара).

Таму ў большасці твораў нашай літаратуры і мастацтва цяжка аддзяліць адно ад другога.

Аднак амаль усе творы нашых стваральнікаў стаяць на моцнай нацыянальнай аснове. Іх не зблытаеш з іншымі. Цераз сваё — да агульнага.

Толькі цераз сваё. Іншага шляху большасць нашых не разумее, а калі разумее, то не прымае.

Пасля Багдановіча самымі «першароднабеларускімі» творамі, акрамя лепшых узораў лірыкі нашых карыфеяў, я лічу «Новую зямлю», «Сымона-музыку», гістарычныя паэмы Купалы, а «самым-самым першародным» яго ж паэму «Яна і я». Тут увесь беларус ад кваццістых, першародна ясных, дзёрзкіх язычаскіх часоў — і да нашых дзён.

Гэта адказ і на *трэцяе пытанне*. Дадам толькі, што спецыфіка еднасці («адзіны ў трох асобах») нацыянальнага, інтэрнацыянальнага і індывідуальнага і з'яўляецца спецыфічным, тыпова беларускім шляхам. Такім быў шлях мастацкага і духоўнага станаўлення беларуса. А паколькі асэнсаванне сябе ішло ў беларуса ледзь не цераз адны літаратуру і мастацтва (Каліноўскі, народнікі і іншыя таксама былі літаратары, публіцысты, журналісты), то цалкам ясная іхняя роля ў стварэнні нацыі, а значыць, і дзяржавы.

Ільвіная доля працы была зроблена намі. І ўжо толькі тады, поўнасцю авалодаўшы самасвядомасцю, «хлопчыкі» ўсур'ёз «узяліся за стрэльбы» і пайшлі на «бой наш астатні».

Паўстанні мінулага (нават гераічная і трагічная эпапея Каліноўшчыны) цярпелі паражэнні менавіта таму, што Янка яшчэ да канца не ўсвядоміў, што ён мужык і рамеснік, што ён — Беларус. Свае літаратура і мастацтва адкрылі яму вочы на гэта.

*Чацвёртае пытанне*. Адказ дадзены вышэй.

*Пятае пытанне*. Рысы, уласцівыя беларускай мастацкай культуры.

а) Паслякастрычніцкі перыяд увогуле.

Шырокае распаўсюджанне мовы, рост колькасці выданняў, масавасць культуры, цікавасць да яе, многім да таго невядомай. Спачатку, у 20-я гады, — бясконцасць і разнастайнасць пошукаў, аж да беларускага (усё ж беларускага!) футурызму. Раскутасць думкі і формы, адчуванне таго, што «ўсё можам».

Пасля, у 30-я, некаторая нівеліроўка, сямтам нават падзенне мастацкага (і маральнага) узроўню. Непавага да канкрэтнай асобы, якая нічога не каштуе побач з масай (некаторыя творы Самуйлёнка, пераважная частка крытычнай прадукцыі), і, урэшце, цень непавагі да свайго — а значыць, і да іншых — народаў.

Часта неабгрунтаваны аптымізм, які шкодзіў непрадузятаму погляду на абставіны, людзей і свет. Погляду, а значыць, і рабоце над тым, каб паправіць частыя яшчэ памылкі, выкараніць усё подлае, грубае, пабеданосікаўскае, гарлахвацкае (былі, як бачыце, і выключэнні, шкада, часцей за ўсё, пасля бойкі), што шкодзіла людзям і краіне (я не кажу пра спецыфічныя абставіны, у якіх жыла заходнебеларуская літаратура).

б) Вайна. Як ні дзіўна, бязмерная тая бяда была, у пэўным сэнсе, карыснай літаратуры беларускай (і ўсім літаратурам СССР, але асабліва ёй).

Бязмерныя мукі людскія, нечалавечыя мукі беларускія ацверазілі нашу літаратуру, пазбавілі яе барабаннага бою, нарадзілі боль, высакароднасць, супакутаванне кожнай асобе, усёачышчальную нянавісць (шваль не дужа ўтрымаецца на перадавой, у тым ліку і на перадавой літаратурнай) і сапраўдны патрыятызм (калі або адчуваць сябе, або здохнуць, пайсці ў рабства), сапраўдны, нязкідкі, часам горкі, але прасветлены, аптымізм: «застанемся ў жывых або загінем, але выжывуць, неадменна выжывуць Людзі, усе сапраўдныя Людзі, выжывеш ты».

Нездарма многія нават пасрэдныя паэты (пра вялікіх не кажу) пісалі ў вайну цудоўныя і ўзнёслыя вершы, якія так і засталіся вяршыняй іх творчасці.

в) Сучасны перыяд. У двух словах: многія рысы перыяду даваеннага, але значна, амаль поўнасцю ачышчаныя ад хібаў таго часу вайной і некаторымі пасляваеннымі падзеямі. Паўсюдны (і паўсядзённы) рост інтэлігентнасці, высакалобасці, увагі да чалавека, павагі да яго асобы. Нязмерна ўзрос агульны мастацкі ўзровень, далейшае развіццё атрымала форма, што лепей чым калі да гэтага выражае змест. Старыя дасягненні не згублены, а развіты. З'явілася і шмат новых заваёваў.

*Пытанне шостае.* Адказваючы канкрэтна на гэта пытанне, трэба зноў жа пісаць кнігу. Пастараўся даць адказ у «Зямлі пад белымі крыламі».

Увогуле, мае асабістыя погляды ў гэтым сэнсе нетыповыя. Ранні Чорны мне, напрыклад, мілейшы за так званую «эпоху росквіту» яго

творчасці (там частка твораў вымучаная: чалавек часам пісаў пра нямілае). Больш чалавечны ў агульным сэнсе і больш нацыянальны.

Кепска з музыкай. У сэнсе нацыянальнай музыкі, вядома. Дрэнна зразуметыя новыя плыні і павевы зрабілі тое, што мы, не паспеўшы, амаль не паспеўшы даць народу сваіх Бахаў, Бетховенаў, Мусаргскіх, Чайкоўскіх, нават Гершвінаў, — скаціліся ў дрэнна пераваранную сучаснасць, у свет, дзе музыка блукае, нібы сонная і апантаная, туды, сюды і навокал. Амаль нічога нельга запомніць, палюбіць, прамармытаць пад нос, проста прасвісцець. Усё пісьменна, дакладна, масцеравіта, але й не болей.

Апошнім, бадай, быў Туранкоў. Калі не будзе змен — будзе кепска. Як гэта ні смешна — патрэбны геніі, парасткі ад ствала народнага, бо музыцы Гэтага зелянець вечна.

У архітэктуры таксама не знойдзены яшчэ свой, адметна-беларускі стыль, які панаваў у нас раней. Менавіта свой, ад гэтай зямлі (Спас-Ефрасіння, Каложа, касцёл у Ішкалдзі, Мір, Сынкавічы, Мала-Мажэйкава, Мікольская ў Магілёве, Ружаны, слонімскія будынкі, Жылічы і тысячы іншых прыкладаў). Тыя нельга адарваць ад нашай зямлі, яны ўпісаны ў яе. І нават калі яны стаяць на зямлі суседа (Круціцкі церамок у Маскве) — кожны скажа: «А гэта будавалі беларускія майстры».

А большасць сучасных нашых будынкаў могуць стаяць хоць у Туле, хоць у Палтаве, і ніхто такога пра іх не скажа. Хаця ёсць сярод іх рэчы сапраўдныя. Тут яшчэ трэба шукаць свой шлях.

Са скульптурай, жывапісам, прыкладным мастацтвам куды лепей. Тут нацыянальны струмень моцны. Бо і адкуль жа мастакам браць тое, што яны хочуць паказаць. Кепска толькі тое, што большасць майстроў добра ведаюць Кіжы і Самарканд, ездзяць на эцюды ў Крым і вельмі дрэнна ведаюць свой край. Спытайце, хто з іх пісаў сынкавіцкае дзіва? Замак у Крэве? Гальшаны? Можа, адзін-два. А многія шэдэўры — ніхто. Адсюль і заняпад гістарычнага жывапісу. Багацюшчая беларуская гісторыя невядомая, а значыць і чужая ім.

Кепска тое, што большасць майстроў добра ведаюць Кіжы і Самарканд, ездзяць на эцюды ў Крым і вельмі дрэнна ведаюць свой край

Той жа недахоп прысутны і нашай графіцы, увогуле адной з лепшых у Саюзе, а можа, і ў Еўропе. За выключэннем, магчыма, Кашкурэвіча, Агуновіча, Паслядовічаў, Шаранговіча, Драчова, Басалыгаў, Куліка і некаторых іншых, слаба вырашана ў іхняй творчасці нацыянальная, гістарычная стыхія.

Тэатр, у двух беларускіх тэатрах, то ўзвышаецца, то падае, але ўвогуле на ўзроўні. Толькі што мала рэжысёраў, якія разумеюць глыбокую духоўную Сутнасць зямлі, на якой яны твораць (праўда, у кіно ў гэтым сэнсе яшчэ горш, зусім кепска).

Тэлебачанне няма з чым параўноўваць у мінулым. А так што ж, ёсць харошыя, нават цудоўныя перадачы, але іх мала.

Кіно, — выключаючы некаторыя рэчы кіно дакументальнага, — пасля пад'ёму канца пяцідзясятых — шасцідзясятых гадоў (лепшымі фільмамі лічу «Трэцюю ракету», «Цераз могілкі», «Альпійскую баладу», пару іншых) перажывае пагрозлівы спад узроўню. Прычын гэтаму шмат, але тут не месца пра іх гаварыць.

*Сёмае пытанне.* Найбольш выдатнай з'явай у беларускай культуры лічу яе народнасць. Найбольш выдатнымі асобамі тых, хто гэтую народнасць няўхільна праводзяць. Вядома, не народнасць у сэнсе Увараўскім, а тую народнасць, якая ў шчырасці, у вернасці душы народнай, у імкненні пасільна казаць народу праўду, у вернасці народнай (хай мадэрнізаванай у горадзе) паэтыцы.

Выдатныя асобы — тыя, што гэта (прынамсі ў лепшыя перыяды сваёй творчасці) разумелі.

Некаторых ужо назваў вышэй. Яны прынеслі найбольшае дабро свайму народу: Багушэвіч, Багдановіч, Купала, Колас. Бо адкрылі яму вочы на сябе. Як і мастакі, і фалькларысты беларускія XIX— пач. XX ст., як Каліноўскі і дзясяткі іншых.

Ажывілі камяк сырой гліны. Большага дабра нельга зрабіць.

У нашы дні найбольшае дабро робяць тыя, што, на новых узроўнях і па-свойму, не даюць таму агню згаснуць, каб людзі маглі і надалей грэцца ад яго. Пералічыць іх немагчыма. У лепшых сваіх творах гэта Танк і Панчанка, Брыль і Быкаў, Барадулін і Сіпакоў (у сваім «Вечы», якое, між іншым, якраз і ёсць неаддзельны сплаў нацыянальнага — усеславянскага — інтэрнацыянальнага), дый ці мала яшчэ хто. З ліку саб'ешся. Усе, хто помніць, што радзіме мы абавязаны ісцінай.

*Восьмае пытанне*. На яго я ўжо адказаў. Тады ўсе, амаль усе, пісалі на грані магчымасцяў. І нават у выдатных паэтаў (Панчанка) вайна і, скажам, пяцідзясятыя гады былі пікам. Магчыма, таму, што была разверстая шырыня выказванняў, таму, што зноў зазвінелі на поўны голас прызабытыя ў 30-я гады за новымі тэрмінамі словы «Расія», «Беларусь» і г. д.

Што да пасляваенных твораў пра вайну, то тут, перш за ўсё, прыходзяць у галаву імёны Быкава і Брыля. А ўсіх зноў жа не пералічыць.

*Дзявятае пытанне*. Выцякае з адказу на сёмае. Усе, хто прымушаў народ і асобных людзей забыць, хто ён, хто яны ёсць.

Крытыка канца 20—30-х гадоў, крытыка доўбні, крытыка, пазбаўленая гістарычнасці, вульгарная, якая «подвизалась» ва ўсіх галінах культуры (Бендэ і іншыя, часткова жывыя дагэтуль, імёны якіх мы ведаем, але аказваць ім такі гонар, што вось і іх успомнілі, не будзем). Яны — трупы, трупы, якія ў свой час замахваліся нават на Купалу, папсулі шмат крыві некаторым, а многіх прымусілі змоўкнуць.

Тэорыі. Накшталт тэорыі бесканфліктнасці, якая ледзь не адвучыла народы (і ў прыватнасці беларускі) ад сучаснай кнігі, сеючы пагарду да яе. Бо хто, сапраўды, будзе чытаць нудную, шэрую, несумленную макулатуру.

Або тэорыя ідэалізаванага паказу жыцця, ці як яна там звалася. Гэта добра для фантастыкі аб будучым. А фантастыка аб сучаснасці называецца іначай і прасцей.

Брахня.

Такіх асоб было шмат ва ўсіх галінах культуры. Назавём хаця б Абэцэдарскага і яго падпявал,

Ранні Чорны мілейшы за так званую «эпоху росквіту» яго творчасці. Больш чалавечны ў агульным сэнсе і больш нацыянальны

якія пакінулі горад нашай гістарыяграфіі ў шматлікіх руінах, затармазілі рост яго прыцягнутымі за вушы пастулатамі, беспрынцыпнымі прынцыпамі, тэорыямі, узятымі напракат (і толькі злёгку мадэрнізаванымі) у «гістарыёграфаў», горшых, вядома, часоў Аляксандра трэцяга і Мікалая апошняга. Абарона праваслаўя (выключнасці яго), абсалютызму (у асобе Івана Грознага і апрычніны), народнасці (не ў нашым сэнсе, а ў сэнсе права смаркацца ў руку і пляваць праз грыб на ўвесь сусвет).

Адрыжкі гэтага сустракаюцца і зараз. І яны, вядома ж, будуць пераадолены, каб навука наша развівалася шырока, каб яна была існай навукай.

Але ж колькі шкоды, часам непрыкметнай для вока сярэдняга чалавека, яны нарабілі.

*Пытанне дзясятае*. Ёсць харошае польскае слова «бздура», г. зн. лухта, глупства, трызненне сівой кабылы. Пакуль наша баба стаіць з чапялой ля печкі або круціцца ў хаце ля газавай пліты — нічога такога быць не можа. Ясна, урбанізацыя. Але да таго часу людзі паразумнеюць. І вось адна з галоўных нашых задач — рабіць так, каб яны паразумнелі.

*Пытанне адзінаццатае*. Божа мой, гэта ж ясна. Натоўп можа ісці граміць магазіны — і слухаць на плошчы прамову аб касмічным палёце. У першым выпадку ён зброд, у другім — маса, частка таго, імя чаму і ёсць народ. Бывае так, што адзін чалавек як народ (Каліноўскі), бывае — народ як адзін чалавек, а бывае так, што адзін чалавек (калі такога можна назваць чалавекам) робіць спробу падмяніць сабой народ (Гітлер). У выпадку з натоўпам такое, можа, часам і ўдасца. Нават на досыць доўгі час.

У выпадку з *масай* — часткова і на тэрмін больш кароткі. З *народам*, з *народнымі* масамі, з народамі — ніколі. Хіба на час, што для гісторыі — секунда. Рана ці позна гэтая аднадзёнка ляснецца мордаю ў гразь.

Што было характэрна для паняцця «народ» у перыяд вайны? На гэта, па-мойму, адказваць не трэба. Абуджэнне патрыятызму, гнеў абражанай нацыянальнай годнасці, фронт, рэйкавая вайна, Берлін. Беларусы былі ў гэтых абставінах не выключэннем, а хутчэй ледзь не самым яркім прыкладам.

А наконт таго, у якіх з'явах беларускай нацыянальнай культуры асаблівасці паняцця «народ» выяўлены найбольш яскрава, то для ацэнкі гэтага ёсць беспамылковая прыкмета. Кніга, якая раскупаецца хутка, якая жыве дзесяцігоддзі, без нажыму крытыкі, без напамінання, якая хвалюе праз сто год — яна і ёсць тая, у якой паняцце «народ» выяўлена «найбольш яскрава». У народа ёсць пачуцце на паняцце «народ», на вернасць люстэрка, у якім ён бачыць сябе.

*Пытанне дванаццатае.* Часткова на гэта пытанне я ўжо адказаў. Асоба, Народ, Чалавецтва ў значнай частцы сваёй адмовіліся ад дуднення ў фанфары ў тых выпадках, калі гэта не трэба і сорамна. Перад такой вялікай бядой, перад тварам смерці, перад такімі выпрабаваннямі, у час, калі вырашалася пытанне «жыць або не жыць», — смешным і дробязным стала многае і многае.

Вайна, вадарод, халодная вайна, яшчэ некаторыя падзеі пазбавілі людзей і народы цялячага аптымізму, зрабілі іх больш суровымі, разумнымі, спелымі духоўна. Многія з ранейшых «нумароў» цяпер бы не прайшлі. Чалавек, Народ, Чалавецтва паразумнелі перад тварам смерці. Была названа правільная цана многім і многім мільёнам, былі сарваныя многія і многія маскі. Барацьба за самае права жыць на зямлі падрыхтавала гэта. Чалавецтва стала больш сумленным: чалавек, які перанёс такое, у большасці выпадкаў ужо не стане канчатковым нягоднікам.

І, у прыватнасці, пераважная большасць людзей зразумела, што нават «абстрактны» гуманізм лепшы за «канкрэтнае» чалавеканенавісніцтва.

Ва ўсіх *лепшых* пасляваенных савецкіх і таму, вядома ж, беларускіх творах пастаўлены гэтыя праблемы.

Кнігі, якія дзьмуць у старую дудку, кнігі аўтараў, якія нічаму не навучыліся (а ёсць і такія), не карыстаюцца ніякім поспехам (акрамя як у таго чытача, у якога яшчэ да вайны перастаў расці мозг, якога вайна і пагроза вайны ядзернай не зрабілі больш разумным і памяркоўным), кнігі іхнія асмейваюцца амаль усёй вялікай арміяй чытачоў.

*Пытанне трынаццатае*. Так, загібель людзей, працы іхняй, каштоўнасцяў. Вы назвалі гэта. Але загібель усяго гэтага мае і іншы аспект. У некаторых выпадках гінуў не проста чалавек (што само па сабе пачварна). Гінуў будучы Купала, Эйнштэйн, Моцарт.

Загінула праца рук чалавечых. Страшна. Але колькі гадзін, аддадзеных аднаўленню, былі беззваротна страчаны чалавекам і чалавецтвам, адабраны ад творчай працы. Можа, адна толькі разборка руін пазбавіла народы — а значыць і Беларусь — сотняў опер, раманаў, карцін. Сярод іх маглі быць новыя «Князі Ігары», новыя «Ростані», новыя «Начныя дазоры».

Што ж датычыцца душ людскіх, то тут страты ідуць за кошт яшчэ жывых, але траўміраваных, за кошт той невялікай у працэнтах, але досыць вялікай колькасна часткі, якія вырашылі, што «жыццё кароткае», а таму адарваліся ад іншых, зашыліся ў свае маленькія «версалі», якіх нічога не цікавіць акрамя накапіцельства, кішэні, калекцый, вілаў.

Такім глыбока напляваць на чалавека побач, на ўсё чалавецтва, на родную мову, на родны народ.

Яны — той булён, у якім плодзіцца мікроб абыякавасці і да інтэрнацыянальнага, і да нацыянальнага, да сваёй мовы, да свайго народа, да яго бліскучай і слаўнай будучыні. Яны самі не чытаюць, самі не гавораць, самі нічым не цікавяцца і таму гэта яны і «выказваюць меркаванне», якое вы закранулі ў пытанні дзясятым.

Але не пра іх размова. У лепшым выпадку яны вартыя толькі нашай пагарды, пагарды работнікаў на роднай ніве, пагарды сапраўдных людзей.

# Анатоль Верабей: «Сам Уладзімір Сямёнавіч быў бы задаволены»

**Пра Уладзіміра Караткевіча шмат напісана і сказана. Тым не менш, размаўляць пра пісьменніка можна бясконца, асабліва з чалавекам, які ведае пра яго, бадай, усё. Прадстаўляем гутарку з нястомным даследчыкам творчасці Караткевіча, кіраўніком новага Збору твораў пісьменніка ў 25 тамах, дацэнтам кафедры беларускай літаратуры і культуры філалагічнага факультэта БДУ Анатолем Вераб'ём. Запісала Тамара Мінютка.**

**— Чаму і калі вы зацікавіліся менавіта Караткевічам?**

— У 1978 годзе я працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, дзе планавалася напісаць серыю кніг пра пісьменнікаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру ў канцы 1950 — 1960-х гадах. Мне пашанцавала пісаць пра творчасць Уладзіміра Караткевіча. Да 50-годдзя пісьменніка планавую тэму выканаў, а падчас урачыстаці з нагоды юбілею ў доме літаратара 28 лістапада 1980 года Адам Мальдзіс адзначыў, што малады даследчык скончыў працу па творчасці Караткевіча. У 1985-м выйшла мая першая кніжка пра Уладзіміра Сямёнавіча «Жывая повязь часоў». Потым, калі не стала пісьменніка, я прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Збору ягоных твораў у 8 тамах (1987—1991), напісанні каментарыяў да гэтага і далейшых выданняў, вывучэнні архіваў пісьменніка.

**— Што найбольш запомнілася ад асабістых сустрэч з пісьменнікам?**

— Я некалькі разоў сустракаўся з Караткевічам: на выставе, на ягонай кватэры. Розніца ва ўзросце ў нас складае 20 год. Я адчуваў, што ён чалавек энцыклапедычных ведаў, фенаменальнай памяці, аднак бар'еру паміж намі не існавала. Была натуральная гаворка пра творчасць, жыццё. Пазней, калі ўжо вывучыў спадчыну пісьменніка, даведаўся, што ён сапраўды ўмеў гаварыць і з простым чалавекам, і з высокім інтэлектуалам: знаходзіў словы, падыходы да кожнага.

**— Які твор Караткевіча ваш самы любімы?**

— Нялёгка адказаць на гэтае пытанне, столькі ведаючы пра Караткевіча. З паэзіі мне вельмі блізкі і дарагі верш «Заяц варыць піва». Ён каштоўны сцвярджэннем: «Павінна ж быць і ў зайца радаць перад халоднаю зімой». Творчасць Караткевіча трагедыйная, драматычная і, разам з тым, жыццесцвярджальная: ён адчуваў, бачыў, выяўляў радасць жыцця. Пазней Караткевіч увасобіў гэтую ідэю ў аповесці «Ладдзя Роспачы», дзе Гервасій Выліваха са Смерцю ў карты гуляе на заклад за сваё жыццё; у п'есе «Званы Віцебска», у якой запэўніваецца, што нельга, каб у Віцебска не было Віцебска, каб у Беларусі не было Беларусі, у п'есе «Маці ўрагану» пра Крычаўскае паўстанне, дзе паўстанцаў пакаралі, але голас народа прамаўляў: «Чорта лысага яны ўзялі і возьмуць нас!» Жыццесцвярджальны пафас прысутнічае і ў іншых творах. Менавіта гэта мне блізка. Магу сказаць, што Караткевіч з уласных твораў найбольш любіў «Каласы пад сярпом тваім», «Ладдзю Роспачы» і «Чазенію».

**— Які твор вы б параілі прачытаць чалавеку, незнаёмаму з творчасцю Караткевіча? З чаго лепей пачынаць?**

— Думаю, што з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Гэта гістарычны твор, напісаны ў лепшых традыцыях дэтэктыва і адначасова вельмі адметна, па-караткевічаўску: ён здолеў напоўніць аповесць нацыянальным, культурнагістарычным беларускім каларытам. Твор патрыятычны, змястоўны, глыбокі і, разам з тым, лёгка і захапляльна чытаецца. Тут і вобразы высакародных рыцараў Беларусі (Андрэй Беларэцкі, які змагаецца з цёмнымі сіламі, — дзікім паляваннем караля Стаха), і рэтраспекцыя ў мінуўшчыну, і гістарызм. У творы асуджаецца здрада чалавеку, Радзіме… Караткевіч нярэдка ўзгадваў, што мы, беларусы, «здраду прымаем, а здрадніка вешаем». Можна пачынаць таксама з апавяданняў: «Блакіт і золата дня», «Сіняя-сіняя» ці «Кніганошы», з вершаў: «Заяц варыць піва», «Паўлюк Багрым», «Беларуская песня», «Безгаловая Венера», «Трызненне мужыцкага

Брэйгеля»… Яны захапляюць патрыятычнасцю, мастацкай культурай, інтэлектуальнасцю.

**— Пра Караткевіча шмат напісана, але застаецца і шмат загадак. Якія прабелы ў караткевічазнаўстве, на вашу думку, неабходна перш за ўсё запоўніць?**

— Думаю, што Збор твораў у 25 тамах, з якога выйшла ўжо 10 тамоў, дазволіць па-новаму глянуць на творчасць Уладзіміра Караткевіча. Будуць з'яўляцца навуковыя працы пра патрыятычны, адраджэнскі складнік твораў, гістарызм, выкарыстанне пісьменнікам фальклору і міфалогіі, айчынных і сусветных літаратурных традыцый. Сваіх даследчыкаў чакаюць дэтэктыўныя творы. Вельмі цікавая для навуковага асэнсавання праблема веры. У вершы «Паўлюк Багрым», напісаным 2 ліпеня 1957-га, ёсць такія радкі: «Край сагнуўся у спіне, край баіцца размоў пра волю, край згубіў сваю мову і матчынай песні напеў… Нельга верыць у Бога, калі ён такое дазволіў, цяжка верыць у люд свой, калі ён такое сцярпеў». Пазней, напрыклад, у «Сівой легендзе» ён згадваў пра прыход Месіі, Выратавальніка, Бога. У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» прыход Выратавальніка, Юрася Братчыка, — скразная ідэя. А ў 1980-м з'явіліся радкі: «На Беларусі Бог жыве — і няхай да веку жыве»…

**— Якія вашыя асабістыя даследчыцкія планы?**

— З 2012 года асноўны план — паспяхова завяршыць згаданы Збор твораў. Калі будзе ўсё добра, гэта адбудзецца ў 2020 годзе. Важна займацца прапагандай творчасці Караткевіча на тэлебачанні і радыё. Таксама неабходна збіраць рукапісы, машынапісы твораў пісьменніка. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук, Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, Аршанскім музеі Уладзіміра Караткевіча вельмі багатыя фонды. Акрамя таго, рукапісы захоўваюцца ў асабістых архівах. Напрыклад, у перакладчыка Васіля Сёмухі захоўваецца рукапіс аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», у хатнім архіве Рыгора Барадуліна — рукапіс аповесці «Ладдзя Роспачы». Месцазнаходжане ж рукапісу рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» пакуль невядома. Пошукі будуць працягвацца…

**— Як вы ставіцеся да сучасных інтэрпрэтацый творчасці Караткевіча, напрыклад, да дзейнасці гурта «Нельга забыць»?**

— Памятаю, у 1980-м да 50-годдзя Караткевіча я напісаў артыкул пра яго і надрукаваў у часопісе «Маладосць». Потым спытаўся: «Уладзімір Сямёнавіч, як вы ацэньваеце мой артыкул?» — «Я нармальна ацэньваю, гэта ж ваша права, пазіцыя», — адказаў пісьменнік. Так і гурт «Нельга забыць» ды іншыя суполкі і асобныя людзі — выяўляюць сучасныя падыходы, крытэрыі, ацэнкі, нешта новае знаходзяць у творчасці Караткевіча. Кожная эпоха — гэта новае прачытанне, новае разуменне. Асабіста я слухаю «Нельга забыць» з задавальненнем.

**— Каму належыць ініцыятыва выпуску новага Збору твораў Караткевіча? І чыя гэта была ідэя?**

— У 2008 годзе такую ідэю мне падказаў наш вядомы навуковец-літаратуразнаўца Міхась Мушынскі. З таго часу я пачаў рабіць захады. У 2011-м міністр інфармацыі даручыў выдавецтву «Мастацкая літаратура» выдаваць Збор твораў Караткевіча. Я, як даследчык творчасці Уладзіміра Сямёнавіча, сабраў калектыў укладальнікаў, рэдкалегіі. У 2012 годзе выйшлі першыя два тамы паэзіі. Галоўным чынам у працы над Зборам твораў прымаюць удзел кандыдаты навук, даследчыкі творчасці Караткевіча. Усе мы энтузіясты, бо рыхтуем яго ў вольны ад асноўнай працы час. Упершыню падрыхтоўку каардынуе філалагічны факультэт БДУ: звычайна гэтым займаецца Інстытут літаратуры Акадэміі навук. Нашы даследчыкі рыхтуюць тэксты, рэдагуюць іх, пішуць каментарыі. У рэдкалегію уваходзяць навукоўцы, а таксама пляменніца Уладзіміра Сямёнавіча Алена Сінькевіч, якая з'яўляецца спадкаемцам аўтарскіх правоў, і Галіна Шаблінская, якая прапагандуе творы Караткевіча на беларускім радыё. Дарэчы, адметнасць выдання і ў тым, што плануецца выхад двух кампакт-дыскаў:

P.S. Пад вокны прыбег чыйсьці сабака і брахнуў на мяне нешта падобнае на „Пая крэу": лаянка, якая, безумо паходзіць з сармацкай мовы. Сабака-паліглот, бо на ў яго, таксама безумоўна, тутэйшая. Тэткі звычайны К здох з нейкімі бруднымі ўпрыгожаннямі ў хвасце і з а віслым вухам

## Дарэчы. аўтапародыя і аўтакарыкатура.




Калі першым каханнем гарыць галава,
Калі горка — кладу я з сабой
„Безу куст", „Ткачых" і „Магілу ільва",
А не свой барабанны бой.

Аўтапародыя Уладзіміра Караткевіча.

на першым — голас Караткевіча, вершы і песні ў яго выкананні, чытанні пісьменнікам урыўкаў са сваіх твораў. А на другім — відэа з яго выступленнямі на тэлебачанні, у Саюзе пісьменнікаў, яго здымкі ў мастацкім фільме «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Падчас падрыхтоўкі Збору твораў праведзена велізарная тэксталагічная праца, якая дазволіць адкрыць новыя нюансы ў творчасці Караткевіча. У выніку збору і вывучэння разнастайнага матэрыялу, франтальнай зверкі ўсіх вядомых на гэты час рукапісных і друкаваных крыніц у тамы, што выйшлі, уключаны творы, якія не публікаваліся пры жыцці пісьменніка або друкаваліся ў перыядычных выданнях. Гэта вершы «Якубу Коласу», «Ода Радзіме», «Горкія напевы», «Калумбы зямлі нязнаемай», «Людзі з маланкай», «Наследаванне Сыракомлю», «Васілю Быкаву», апавяданні «Дзядуля», «Паляшук», казкі «Лебядзіны скіт», «Вужыная каралева», аповесці «Предыстория» (на рускай мове), «У снягах драмае вясна», «Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны» і інш. Пры падрыхтоўцы твораў удакладнены даты іх напісання і крыніцы першай публікацыі, выпраўлены недакладнасці, значна пашыраны гістарычна-тэксталагічны каментар. Напрыклад, раман, які раней друкаваўся пад назвай «Нельга забыць», пададзены пад назвай «Леаніды не вернуцца да Зямлі», што, думаецца, адпавядае аўтарскай волі.

**— Што найбольш пацярпела ад цэнзуры ў творах Караткевіча? Што вяртаецца з таго, што выкідалася раней?**

— У аповесцях «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Ладдзя Роспачы», рамане «Каласы пад сярпом тваім» пацярпеў нацыянальна-патрыятычны складнік. Яго мы вяртаем, узмацняем. Пры гэтым павялічваецца аб'ём твораў.

**— Ці вяртаюцца выкінутыя з тэкстаў прысвячэнні?**

— Некаторыя прысвячэнні ў паэтычным зборніку «Мая Іліяда» адсутнічалі, хоць у рукапісах яны былі. «Мая Іліяда» ўвайшла ў другі том новага Збору твораў, які я ўкладаў. Усе прысвячэнні былі вернуты. Асобныя вершы я надрукаваў паводле рукапісаў, некаторыя падаваў у некалькіх варыянтах. Напрыклад, верш «Матчына душа» меў спачатку рускамоўны варыянт, а потым узнік беларускамоўны. Рабілася звычайная тэксталагічная праца: параўнанне з рукапісам, сэнсавы, кантэкставы аналіз і, нарэшце, выбар варыянту для публікацыі. Часам выпраўляліся недакладнасці, рэдактарскія памылкі, якія падаюцца ў раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты» і ў каментарыях. Скажам, пры падрыхтоўцы казак 1950-х я сутыкнуўся з наяўнасцю русізмаў у тэкстах. Я разумеў, што тэксты збору будуць передрукоўвацца дзіцячымі выданнямі, таму некаторыя русізмы, з агаворкай у «Іншых рэдакцыях і варыянтах» і ў каментарыях, былі заменены беларускімі адпаведнікамі.

**— У Зборы твораў рыхтуецца і том з малюнкамі Караткевіча. Што вы можаце пра яго сказаць?**

— Караткевіч быў вельмі таленавіты і як мастак. Малюнкі пісьменніка часткова змешчаны ў кнізе «Свет вачыма Караткевіча», выдадзенай у 2006 годзе Аршанскім музеем. Увогуле, нашы пісьменнікі, напрыклад, Кузьма Чорны, Васіль Быкаў цудоўна малявалі. У суседніх літаратурах ёсць асобныя выданні малюнкаў Пушкіна, Лермантава, Шаўчэнкі, Выспянскага, у нас жа такіх кніг пакуль няма. Але мы плануем цэлы том малюнкаў Караткевіча самага разнастайнага характару: ілюстрацыі да ўласных твораў, віншаванні, малюнкі з лістоў. Скажам, у лісце да Максіма Танка з вёскі Лесавічы, дзе Караткевіч працаваў пасля ўніверсітэта, ён намаляваў аўтакарыкатуру: пісьменнік ляжыць на ложку, а побач — выявы слуцкіх ткачых, бэзу, які расцвіў, магілы льва, а таксама прабітага барабана, які сімвалізуе яго ўласную лірыку. Гэты малюнак суправаджаецца наступнымі паэтычнымі радкамі: «Калі першым каханнем гарыць галава, калі горка, кладу я з сабой "Бэзу куст", "Ткачых" і "Магілу льва", а не свой барабанны бой». Вось так — з гумарам, іроніяй — ставіўся Караткевіч да ўласнай творчасці, і гэта прыкмета розуму, нават геніяльнасці. Калі сабраць, сістэматызаваць і выдаць малюнкі пісьменніка, гэта дазволіць глыбей зразумець яго творчасць, здольнасць да

пластыкі, маляўнічасці ў пейзажах, апісаннях характараў, стану чалавека. Самы ранні малюнак пісьменніка датуецца 1938 годам. Вы зможаце пабачыць найцудоўнейшую ілюстрацыю да верша «Заяц варыць піва» і многіх іншых твораў. Не будзем раскрываць усіх сакрэтаў…

**— Як вы думаеце, ці быў бы сам Уладзімір Сямёнавіч задаволены вынікам працы над Зборам ягоных твораў?**

— Думаю, быў бы задаволены. Мы вельмі беражліва ставімся да яго мастацкага слова, робім захады, каб тэксты былі пададзены ў адпаведнасці з аўтарскай воляй, таму найперш кіруемся рукапіснымі матэрыяламі. Мы захоўваем яго спецыфічныя слоўцы, напрыклад, «прыўкрасны», «распавесці», «адверты» (шчыры, адкрыты), «прысмеркі» (прыцемкі) і г. д. У творах Караткевіча прысутнічаюць некаторыя прыкметы ўсходняга аршанскага дыялекту, элементы ўкраінскай і рускай моў і, безумоўна, ёсць каларытныя беларускія словы. Мы, укладальнікі, стараемся беражліва захаваць мову Уладзіміра Караткевіча.

## Генадзь Кажамякін:
# «Часам застаешся перад выбарам»

**Найноўшы Збор твораў Уладзіміра Караткевіча, які выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура», — гэта спроба перадаць літаратурную спадчыну класіка ў выглядзе, не скалечаным цэнзурай і беспадстаўнымі праўкамі. Пра тое, чым небяспечныя беларускія жаўрукі, што звязвае беларускую літаратуру з Брэжневым і як фарміравалася адметная мова Караткевіча, распавёў Хрысціне Чарнушэвіч рэдактар аднаго з тамоў Збору.**

**— Як складвалася супрацоўніцтва Уладзіміра Караткевіча з рэдактарамі яго твораў?**

— Вядома, ён шанаваў многае з таго, што рабілі рэдактары, шмат з чым пагаджаўся, асабліва, калі гэта датычылася моўных норм. У раннім перыядзе творчасці Караткевіча сустракалася нямала хібаў, звязаных з культурай мовы. Трапляліся словы, якія ў нас ніяк не могуць ужывацца. Нязгоду рэдактара часам выклікала і ўжыванне пісьменнікам слова зараз у значэнні «цяпер». Пры падрыхтоўцы да выдання ў часопісе «Полымя» рамана «Леаніды не вернуцца да зямлі» («Нельга забыць»), пры рэдагаванні машынапісу гэтае слова ў такім сэнсе падкрэслівалася, і пісьменнік сам надпісваў зверху: «цяпер». Гэта толькі адзін прыклад. Што датычыцца відавочных памылак, дык у сталым узросце ён іх не дапускаў. Але Караткевіч часта крыўдаваў на рэдактараў, калі яны выкідалі з тэксту тое, што лічылі непатрэбным. Тады ўзнікалі канфліктныя сітуацыі. Забаўна, што ў жартоўным вершы «Мая ананімка на членаў Саюза пісьменікаў БССР» (1955) ён так напісаў пра аднога з рэдактараў:

А той, што мяне рэдагуе,
Той курыць цыгаркі ўласныя
І імі ўсіх не частуе,
Стаіць за прыватную ўласнасць.
Калісьці з вышак у маткі
Краў ён зімнія грушы
І, да таго ж, ён… татка!!!
Грэх мовіць! — мае дачушку.

Ну, дапусцім, тут — жарт. Праўда, у кожным жарце ёсць свая доля жарту. Але, калі здараўся канфлікт, Караткевіч проста выбухаў. Ён быў халерыкам і рэагаваў адпаведна: моцна злаваўся, мог пакрыўдзіць рэдактара страшэннай, грубай абразай, зараз жа ўспыхваў, але і хутка потым астываў. Дарэчы, падобныя паводзіны можна часткова прасачыць у паказаным у «Леанідах…» вобразе Андрэя Грынкевіча, прататып якога — сам аўтар. Акрамя таго, Караткевіч і сам часам мог быць рэдактарам. Зборнік Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана» (1967) рэдагаваў менавіта ён. На адвароце тытульнага аркуша чытаем: «Зборнік адрэдагаваў на грамадскіх асновах Уладзімір Караткевіч».

**— Гэта значыць, кампраміс заўсёды знаходзіўся?**

— Караткевіч разумеў, што твор мае быць надрукаваны. Калі гаворка ішла пра моцную пе-

раробку, ён, вядома, быў незадаволены. Але ж не магло быць, каб рэдактар цалкам ад свайго адступіўся і зрабіў толькі так, як хоча пісьменнік. Тым не менш, шмат з якімі рэдактарамі Караткевіч быў у добрых стасунках, напрыклад, з Васілём Сёмухам, які рыхтаваў «Леаніды…» і некаторыя іншыя творы пісьменніка да друку.

**— Якія прэтэнзіі да Караткевіча мелі цэнзары?**

— На той час існавала цэлая сістэма цэнзуравання твораў, найперш зважалі на палітычныя моманты. Так была «зарэзана» сама назва рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі». Гэта было яшчэ ў 1960-х. А пазней здарылася яшчэ адна гісторыя. У лістападзе 1982 года памёр кіраўнік СССР Леанід Брэжнеў, і тады ў назве ўгледзелі нейкі намёк на імя памерлага палітыка. Раман выйшаў пад назвай «Нельга забыць». У кароценькай анатацыі, дадзенай у канцы, аўтар усё ж неўпрыкмет даў чытачу звесткі пра сапраўдны загаловак твора. Што датычыцца частковых «перамог» аўтара над цэнзурай, дык дзіўна, напрыклад, што ў друк прайшоў фрагмент, дзе Караткевіч перадае жахлівую атмасферу сталінскіх часоў, — пра пакаленне, што «ляжала ўначы з расплюшчанымі вачыма», чакаючы арышту. Пісьменніку ўдалося яшчэ нешта ціха правесці ці «адваяваць». Але найбольш крамольныя моманты выкрэсліваліся. Толькі цяпер, у новым Зборы твораў, адбылася рэканструкцыя тэксту першага рамана класіка з вяртаннем жаданай аўтарам назвы.

**— Часта цэнзары выкрэслівалі з тэкстаў Караткевіча слова «беларускі»…**

— Так, была, прыкладам, гісторыя з выразам «беларускія жаўрукі», і з іншымі падобнымі момантамі. Цэнзары бачылі ў гэтым нацыяналізм. Але што значыць паняцце нацыяналізм? Калі аўтар стараецца падтрымліваць сваю мову, культуру, гэта станоўчая з'ява. Тут няма нічога скіраванага супраць іншых народаў. Калі ж чалавек прапаведуе нянавісць да нейкіх нацый, гэта ўжо нацызм, ксенафобія. Дзве гэтыя ідэалогіі процістаяць адна адной. І змешваць светапогляд Караткевіча з ідэалогіяй нацызму, шавінізму проста недапушчальна. Таксама некаторыя рэдактары лічылі, што Караткевіч перабольшвае. Як жаўрукі могуць быць «беларускімі»? А пісьменнік такім чынам праслаўляў сваю радзіму! Чаму можна казаць «русская берёза», «русское поле», «русское солнце», але пры гэтым «беларускае поле» ці «беларускае неба» — нельга? Гэта і ёсць нацыянальны патрыятызм аўтара.

**— Якія ёсць асаблівасці падрыхтоўкі найноўшага Збору твораў Караткевіча?**

— Гэта няпоўны, але максімальна вялікі для такога тыпу Збор твораў. Для параўнання згадаю, што існуе і паняцце малы Збор твораў. Вось апошняе на цяперашні момант выданне твораў Якуба Коласа ў 20-ці тамах таксама мае такі ж прынцып вялікага Збору твораў. Але названае выданне твораў Караткевіча яшчэ няскончанае. Паглядзім, наколькі ўвойдуць туды, прыкладам, незавершаныя творы пісьменніка. Магчымасць для гэтага ёсць. Таксама тут назіраюцца некаторыя ўласныя падыходы складальнікаў розных тамоў. Напрыклад, я падаю ўзноўленае ў тэксце, вернутае з рукапісу ў вуглавых дужках. Разумею ў гэтым тэксталагічны прынцып. У тамах, дзе друкуецца раман «Каласы пад сярпом тваім», такія ўзноўленыя фрагменты складальнікам адмыслова вылучаны курсівам. З іншага боку, так сапраўды адразу лепш бачна, што вернута. Нехта ў такім выпадку зусім нічога ў асноўным тэксце не пазначае…

**— З якімі складанасцямі вы сутыкнуліся пры падрыхтоўцы да выдання Збору твораў Караткевіча?**

— Я падрыхтаваў пакуль адзін том. Канешне, трэба было падоўгу працаваць у архіве, параўноўваць тэкст рукапісу рамана з тэкстам надрукаванай кнігі. Частка рукапісу на цяперашні момант у архіве адсутнічае. Пры падрыхтоўцы рамана да друку мне ўдалося высветліць, што яна засталася ў рэдактара — Васіля Сёмухі. Ён зрабіў вялікую карысць, захаваўшы гэты дакумент — сапраўдную каштоўнасць. Варта сказаць яму дзякуй, што не стаў утойваць. Некаторыя ж хаваюць, ці не даюць матэрыял для карыстання, нехта можа ўпотай і гандляваць такімі рэчамі. Гэта адна з прычын таго, што ў нас выходзіць няпоўны Збор твораў Караткевіча…

Часам задумваешся: пакідаць, як было ў рукапісе, ці як у кнізе. Не хочацца і дапусціць, што будзе вернута штосьці відавочна няўдалае, тое, чаго не хацеў сам аўтар. Апроч таго, раман — шмат у чым аўтабіяграфічны. Магчыма, пісьменнік сам нешта мог потым выкрасліць, каб не нашкодзіць намёкам камусьці з вядомых людзей. Цікава, што некаторыя імёны, якія фігуравалі ў рукапісе, былі зменены ў друку. Гэтак, прозвішча персанажа Дружынін — выкладчыка — папраўлена ў друкаваным варыянце на Пружынін. Гаворка ідзе пра час, калі Караткевіч навучаўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве ў 1958—1960 гадах. Калі я вывучаў выпускную калектыўную фатаграфію з подпісамі асоб, дык каля аднаго выкладчыка заўважыў прозвішча *Друзін*. Верагодна, аўтар хацеў пазбегнуць такога відавочнага намёку. У рэканструяваным тэксце рамана ўсё ж пакінуты прозвішчы паводле кніжнага варыянта, але ў зносцы сказана, як было ў рукапісе. Тэкстолагі наогул часта сцвярджаюць, што трэба выдаваць творы паводле варыянта, які быў надрукаваны пры жыцці аўтара. Але тут ёсць такі нюанс, як існаванне на той час палітычнай цэнзуры. Значыць, творы з цэнзурных часоў не трапляюць пад такія тэксталагічныя правілы. Такім чынам, спрэчных пытанняў узнікае багата.

**— Якія крыніцы ўзбагачалі непаўторную мову Караткевіча?**

— Мова ў яго вельмі цікавая, народная. Гэта не проста штучная літаратурная мова, а нешта асаблівае, ледзьве не забытае з даўніх часоў. Штосьці Караткевіч браў з фальклору, былі і наватворы. Нарадзіўся ён у Оршы, гэта ўсходняя Беларусь, што таксама паўплывала на яго мову. Вядома, Караткевіч вывучаў яе па слоўніках, гістарычных летапісах і хроніках… Чытаў класікаў, слухаў беларускае радыё, нешта чэрпаў ад маці і сваякоў, нешта — ад іншых беларускіх пісьменнікаў. Разам гэта сплялося ў асабістую сістэму мовы.

**— Ці можна акрэсліць пэўныя метады Караткевіча ў працы над сюжэтнымі лініямі твораў?**

— У значнай ступені Караткевіч быў аўтарам гістарычных твораў, таму браў рэальныя сюжэты з гісторыі, хаця нешта мог па-свойму перакруціць, па-мастацку дадумаць. Караткевіч быў натхнёны гісторыяй і асабліва тэмай паўстання Кастуся Каліноўскага. Пра Каліноўскага, напрыклад, не ўсе падрабязнасці маглі быць вядомыя з гутарак, дакументальных запісаў, таму ён мог крыху фантазіраваць. Пэўныя тэмы навявала сучаснасць, перыяд культу асобы Сталіна. Недзе на гістарычны і мастацкі кантэкст накладваецца аўтабіяграфічны матэрыял — вось як у рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі». Часам пісьменнік выкарыстоўваў сюжэты з народнага фальклору.

**— У чым жа адметнасць стылю Караткевіча, на вашу думку?**

— Канешне, уражвае яго ўзнёсласць і рамантычнасць. Нават у празаічных творах назіраецца нямала паэтычных элементаў. Недзе Караткевіч ужывае такі мастацкі сродак, як рытмізаваная проза, што раней сустракалася, напрыклад, у Максіма Гарэцкага. Але калі Караткевіч хацеў пасмяяцца, пажартаваць ці перадаць іншы кантэкст, у ход ішла прастамоўная, часам грубая народная лексіка. Ён надаваў вялікае значэнне таму, як пачаць і скончыць твор, часта звяртаўся да лірычных адступленняў. Ад чыстай прозы пераходзіў да сінтэзу прозы і паэзіі. У вершах на Караткевіча, можа, у нечым паўплываў і Кіплінг сваёй рытмікай. Аднак Караткевіч не падобны да іншых паэтаў, ён мае сваю метрычную асаблівасць.

**— Ці меў Уладзімір Сямёнавіч звычку перарабляць, удасканальваць напісанае?**

— Часцей за ўсё ён пісаў начыста, адразу ў белавік. Месцамі ён нешта выкрэсліваў, але такіх фрагментаў няшмат. Караткевіч думаў імкліва, ідэі кіпелі, несліся, і гэтаксама ён пісаў, не вяртаючыся назад. Сёння некаторыя кажуць, што трэба друкаваць творы ў тым жа выглядзе, як яны зафіксаваны ў рукапісах. Але ёсць пытанні моўнай культуры. Пакідаць пэўныя хібы, што трапляліся ў Караткевіча, — значыць, ганьбіць класіка і шкодзіць іміджу беларускай мовы. Пісьменнік падае прыклад чытачу, ён сам бярэ ўдзел у развіцці мовы. Па яго творах таксама навучаюцца школьнікі. Таму рэдактары не маюць права прапускаць такія памылкі ў друк.

**Павел Цюленеў**

# Апошняе паляванне

## Пралог

Часам пад уладай забабонаў
На Палессі разважаў народ
Аб магутнай сіле тых праклёнаў,
Што звялі адзін шляхецкі род.

За злачынства, зробленае продкам,
Каб спыніць прадажніцкі пачын,
Смерць з’явілася страшэнным сродкам
Навучання ў родзе ўсіх мужчын.

Водгукам легенды застаецца
Ўзбуджаных агнёў блакітны рой.
Па балоце прыцемкам ён ўецца
Золкай непагодлівай парой.

## З’ява першая

### Паслугачы цемры

Вось аднойчы вечарам асеннім
За падманнымі агнямі ўслед
Праняслiся конна спехам цені
Скрозь партал у наш сапраўдны свет.

Дваццаць сутнасцяў ці дваццаць зданяў,
Аб’яднаных місіяй адной —
Назаўжды закончыць пакаранне —
Павялі нячутна конны строй.

Смутак лёг на высахлыя твары
Па мінулай радасці жыцця.
Гэтыя забітыя ваяры —
«Госці» з Тагасветнага Быцця

Ў гразкасці імглы пасланцы ночы
Слізгаюць па верасе шчыльней,
Водблiскам чырвоным ззяюць вочы
Іх жахлівых варaных коней.

З надыходам бледнага світання,
Вырваўшы з грудзей душэўны боль,
Забаўляцца Дзікім Паляваннем
Зазывае прывідны кароль.

Стаўшы важаком злавеснай гонкі,
Імем у жывых ўсяляе страх.
Хоць яно гучаннем і не звонкім,
Тым не менш з містычнай жылкай — Стах!

Караля даймаюць успаміны,
Да сваёй асобы душыць жаль.
Спераду Балотныя Яліны,
Маярат  так зваўся, дзе быў баль.

## З’ява другая

### Кароль і здраднік

У маёнтку з лютай злосцю к сану
Пан Яноўскі — лжывы гаспадар,
Стаху аддаваючы пашану,
Ўпотай гатаваў яму удар.

А пакуль — паплечнікі на балі
Ў кубку поўным хлебнага віна
Для братэрства кроў сваю змяшалі,
Выпіўшы увесь напой да дна.

Каралю мужыцкаму па праве,
Пад ражкі спяваючы увысь,
Трэба першым рушыць у аблаве
На балотную начную рысь.

Пры загоне звера ў міг азарта
Драмы распазнаць ніхто не змог,
Крэўніка адбіўшы у лемпарта,
Стах забойцу так свайго збярог.

Потым на працягу балявання,
Слухаючы ў лесе шум бяроз,
Наш герой пранікнуўся жаданнем
Для сваіх сялян палепшыць лёс.

Ён ў задуме будучай падзеі,
Маючы дыпламатычны дар,
Марыў стаць народу дабрадзеем,
Нібы чулы, мудры ўладар.

Ў планах здзейсніць добрыя намеры
Гэты шляхціц быў не адзінок,
Але здраднік для зваротнай меры
Скарыстаў атруту і клінок.

Дваццаць адурманеных ахвяраў
Змовы злых раз'юшаных падлюг
З каралём ад шабельных удараў
Ўсе палеглі у смяротны круг.

## З'ява трэцяя

### Фантомны пераслед

Коннікі з разгалістай дубровы
Хутка паскакалі па траве,
Бо іх плоць на дне халоднай Прорвы
Да адплаты з лямантам заве.

І яны, не бразгаючы зброяй,
Чарнатой праваленых вачніц
Гоняць ў далягляд перад сабою
Мёртвы подых кінутых грабніц.

Ўсіх жа правадыр вядзе упарта —
Не на бітву і не на парад.
Лоўчыя празрыстыя гепарды
Абганяюць зладжаны атрад.

Уцякла патрэбная здабыча,
Не яна — спалоханы алень.
Мо яе змянілася аблічча
З мэтай апярэдзіць Судны Дзень?

Не іржуць нябачаныя коні,
Не грукоча тупатам галоп,
Цьмяныя ўдзельнікі пагоні
Скоку разгарнулі ў ахоп.

«Помста! Помста!» — кліч нямы ірвецца
Над смуроднай жудаснай дрыгвой.
Гэта крык сяброў, адважных сэрцам,
Змучаных, з узнятай галавой.

Прывіды адчулі ля палаца,
Завяршыўшы вызначаны шлях,
Што трафей, які ім мог дастацца,
Знік у Пазамежавых Краях.

## Эпілог

Промні сонца, цёплым дакрананнем
Падарыўшы радасны настрой,
Паляўнічых знакам Даравання
Запрашалі ў Вечны Супакой.

Слугі падсвядомых цёмных жахаў,
Чый прыгнёт святлом яны змялі,
На чале з памілаваным Стахам
Узняліся ў неба ад Зямлі.

Толькі ў поўню, як бажацца сведкі,
Ў той мясціне, дзе туман павіс,
На руінах замка вельмі рэдка
Можна бачыць вершніка абрыс.



**Маргарыта Дзяхцяр**
maladost@zviazda.by

# Пераадоленне

**Маленькай дзяўчынкай я знайшла ў бацькоўскім доме кнігу. Тонкую, без вокладкі. На першай старонцы прыгожым шрыфтам было выведзена: «Дзікае паляванне караля Стаха». Тады я не ведала, хто такі Стах, што за паляванне, таму адразу ўзялася чытаць. Любоў да Караткевіча прыйшла да мяне ў тыя дні.**

Пасля былі «Каласы пад сярпом тваім», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі», «Чазенія», «Ладдзя роспачы» — можна весці пералік ледзь не бясконца. А потым было кіно. Памятаю, як усім патокам ва ўніверсітэце глядзелі «Дзікае паляванне…» замест лекцыі. Тады нам сказалі, быццам папярэдзілі, што экранізацыя гэтай аповесці Караткевіча лічыцца першым беларускім фільмам жахаў. Тады ўсё ўспрымалася літаральна — чакалі пачвар і чагосьці такое, што звычайна бывае ў такіх стужках. Але Валерый Рубінчык зрабіў фільм жахаў без жахаў. Жахі панавалі ўнутры гледачоў.

Андрэй Беларэцкі — этнограф, а такая праца, як вядома, не можа падабацца таму, хто не шукае прыгод. За прыгодамі прыехаў у Балотныя Яліны Беларэцкі. Выпадковасцей не бывае, але бывае лёс. Той самы лёс, згодна з якім Андрэя запрашаюць пасяліцца ў сядзібе Яноўскіх.

— А праўда, што там на вуліцах усю ноч гараць ліхтары? — пытаецца ў Беларэцкага пра вялікія гарады маладая Надзея Яноўская.

— Павінна быць.

Яна — такая безабаронная, наіўная, падобная да парцалянавай лялькі з белай скурай і вялізнымі, нібы ў аляняці, вачыма. Яна можа задаваць такія пытанні, бо ніколі не была нідзе далей сваёй сядзібы. Надзея размаўляе з Беларэцкім, адчуваючы, што гэты чалавек можа яе выратаваць. Напэўна, яна робіць усё правільна, бо кажуць, што дэжавю ўзнікае толькі тады, калі ты робіш штосьці правільна. І Яноўская кажа: «Быццам усё гэта ўжо было».

Гэтыя дыялогі… Іх часам не разумееш. Героі быццам размаўляюць на невядомай мове, зразумелай ім адным. Іх фразы бываюць экзістэнцыяльнымі, прасякнутымі таемным сэнсам, але, нягледзячы на гэта, фільм успрымаецца так лёгка, як быццам гэта пер’е — бязважкае, цёплае і мяккае, у якім Надзея Яноўская ляжыць у адным з эпізодаў.

— Навошта яны вам, нашыя легенды, увесь гэты бруд, народжаны розумам дзікуноў? — зноў пытаецца Яноўская.

А яму, Беларэцкаму, гэта цікава. Гэта — яго жыццё, страсць, калі хочаце. Таму, калі ён даведваецца, што існуе легенда пра дзікае паляванне, пачынае аддаваць гэтай гісторыі ўвесь свой час. Але чалавек з горада, чалавек сучасны, ніколі ў жыцці не паверыць у байкі пра зданяў, пакуль сам іх не ўбачыць:

— Апамятайцеся, зданям няма месца ў стагоддзе пары і электрычнасці.

— Памыляецеся, у нас зданяў больш, чым жывых людзей.

Яноўская бачыць здані. Хутчэй так: здані жывуць унутры гэтага чалавека. Яна запусціла страх так глыбока ў сваю душу, што сама не здольная яго пераадолець: «Адыгралі скрыпкі, складзены ўборы, у свае правы ўступае смерць».

У адрозненне ад яе, Беларэцкі не будзе ўздымаць белы сцяг. Ён — моцная асоба, чалавек, які можа ахвяраваць дзеля іншых, бо жыццё — гэта яго «адзіная ўласнасць».



У гэтым тэксце няма больш ніводнага героя з фільма. І гэта добра, бо з астатнімі трэба знаёміцца ў творы ці ў стужцы. Кожны герой «Дзікага палявання…» — аўтэнтычны, асаблівы. А самае галоўнае тое, што ўсе яны адкрываюцца гледачу не адразу. Кажуць жа, што першае ўражанне зманлівае.

«Дзікае паляванне караля Стаха» Рубінчыка — гэта неверагодна прыгожыя пейзажы, музыка, якая пранікае ў мозг і агортвае яго вэлюмам напружанасці і спакою аднначасова, колеры, якія нагнятаюць абстаноўку, а калі трэба, расслабляюць.

Канешне, гэтая стужка — заслуга цэлай каманды: рэжысёра, аператара, мастака, кампазітара і аўтара сцэнарыя, Уладзіміра Караткевіча. Хтосьці кажа, што яму не спадабаўся гэты фільм, што не ўсё паказана так, як напісана ў творы, што малюнкі не супадаюць. Але ж ці павінен мастацкі фільм цалкам адлюстроўваць кнігу? Ці павінен рэжысёр адступаць ад задумы дзеля дакладнасці? Гэтая стужка геніяльная сваёй няпоўнай адпаведнасцю твору. Яна геніяльная відарысамі, якія зняла Таццяна Логінава, мастацкімі дэталямі Аляксандра Чартовіча, кранальнай музыкай Яўгена Глебава.

Вядомы рэжысёр Кіра Муратава кажа, што «мастацтва дзейнічае вельмі кароткі час. Ты прачынаешся раніцай і паступова адыходзіш ад таго, што на цябе падзейнічала ўчора». Рубінчык жа зрабіў тое, пра што гавораць і цяпер. «Дзікае паляванне караля Стаха» — гэта стужка пра барацьбу са страхамі і тое, як чалавек можа сам абнавіць сябе, змяніць сваё жыццё ўласнымі намаганнямі. І потым гэты чалавек адноўленым пераможцам пойдзе ў новае стагоддзе:

— Спадарства, спадарства! А вы ведаеце, што сёння першы дзень дваццатага стагоддзя? Так, так, спадарства! 1 студзеня 1901 года.

**Ізольда Кавелашвілі, рэдактар «Беларусьфільма»:**

— Карціна цудоўная. Яна і цяпер сучасная. Я бачыла «Сонную лагчыну» Ціма Бёртана, яна падобная да «Дзікага палявання караля Стаха», але я была абурана. Пабудова і мастацкія магчымасці нашага фільма каштоўней тых эфектаў, якія выкарыстоўваюцца цяпер. Наша стужка больш эмпірычная, яна зроблена з пачуццём. У Караткевіча і Рубінчыка — поўная згода. Але ж аўтары заўсёды застаюцца незадаволеныя экранізацыямі. Я лічу, што літаратура — гэта вышэйшае мастацтва, як і музыка, а кіно — гэта нешта больш прымітыўнае. І пры гэтым Валерый Рубінчык — па-сапраўднаму вялікі мастак. Шкада, што прызнанне ён атрымаў у Расіі, нягледзячы на тое, што лепшыя яго карціны зроблены ў Беларусі.

Можа, Рубінчык не паказаў у сваёй стужцы шыкоўных балюванняў, але ён паказаў душы герояў, іх пачуцці і барацьбу. Напэўна, атмасфера — больш важнае

**Людміла Саянкова, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ:**

— Калі экранізуецца класічны літаратурны твор, то заўсёды ёсць прэтэнзія, што пісьменнік пісаў не так, не ўсе сюжэтныя лініі захаваны, не тая ідэя, якой бы добрай экранізацыя ні была. Але калі рэжысёр экранізіруе твор, то ўзнікае пытанне: скапіраваць кнігу ці зрабіць штосьці новае? Рэжысёр мае права на свой твор са сваёй мовай і ідэяй. Ён — творца, які бярэ аснову для фільма. Вось і Рубінчык ствараў нешта новае з містычнай асновай, канвой трылера, якую ён узяў у Караткевіча, але ён ствараў фільм пра тое, як пераадолець страх у сабе. Гэтая карціна не старэе, яе глядзіш з вялікім задавальненнем. Калі нават краем вока бачыш кадры, то чапляешся і абавязкова глядзіш да канца. Ён кранае і зачароўвае. Мне падабаюцца і рытм, і мелодыка, і загадкавасць сумна-лірычнага плана, мне падабаецца малюнак. Там усё вытанчана, тонка, элегантна, з пачуццём меры. Там ёсць атмасфера. Гэта адна з лепшых карцін увогуле.

Пятро Жаўняровіч

# Караткевіч FOREVER

Дваццатае стагоддзе, такое страшэнна крывавае (дзве Сусветныя вайны) і адначасова такое плённае на адкрыцці, ад вынаходніцтва радыёактыўнасці і даследавання космасу да ўкаранення ў жыццё камп'ютараў і распаўсюджання інтэрнэту, разам з тым характарызуецца інтэлектуальным літаратурным выбухам. Тэктанічныя зрухі ў сусветнай супольнасці, якія выклікалі з'яўленне на карце свету новых дзяржаў, спарадзілі небывалую раней разнастайнасць выяўленага праз літаратуру творчага патэнцыялу нацый, узрослую цікавасць кожнай з іх да сваіх вытокаў і імкненне іх прадстаўнікоў дакапацца да каранёў, што жывяць іх менталітэт і дазваляюць кваліфікаваць у якасці адметнага складніка, знітаванага разам з іншымі ў пэўнае адзінства.

На шчасце, лёс (Бог) даў магчымасць на пачатку стагоддзя і беларусам абвясціць сябе роўнымі сярод роўных, што выявілася ў Купалавым воклічы «людзьмі звацца», Коласавым імкненні «прыдбаць свой кут» і Багдановічавым закліку «не давайце чужынцамі быць». Гэтая першая хваля бурлівай плыні, абудзіўшы, здавалася б, прыснулыя душы, у 20-я гады спарадзіла небывалы рост пісьменнасці і разам з ёй прыход у літаратуру соцень таленавітых творцаў, якія, нягледзячы на страшэнныя 30-я і трагічныя 40-я, зрабілі так, што нацыя пачала станавіцца на ногі, а яе прадстаўнікі трывала ўсведамляць сваё месца на зямлі і сваю адметнасць.

Гэтая першая хваля ў 50—60-я гады выклікала да жыцця другую, не менш значную і шматлікую, але ўжо выпеставаную на створаным першым сузор'ем, другую хвалю літаратурнай плыні. Гэтая хваля ўяўляла з сябе кангламерат разнаісных талентаў, які напоўніў беларускае інтэлектуальнае жыццё своеасаблівым — на новым узроўні — настроем і стварыў спрыяльную глебу для развіцця і сённяшняй беларускай літаратуры. І сярод творцаў гэтай плыні адметнае месца, без сумненняў, належыць Уладзіміру Караткевічу.

Ягоны прыход у свет у высокаадукаванай інтэлігентнай аршанскай сям'і, якая заўсёды заахвочвала імкненне дзяцей да адукацыі, творчасці, менавіта 26 лістапада, у дзень памяці Адама Міцкевіча, з сённяшняга пункта гледжання ўяўляецца заканамернай з'явай. Дзіцячыя ўражанні ад кніг, дзедавы расповеды, бацькава і няньчына мова спрыялі далучэнню маленькага хлопчыка да непаўторнага хараства роднай зямлі і яе адмысловасці. Назапашанае ў Оршы было дапоўнена суровай праўдай жыцця падчас Вялікай Айчыннай вайны: беспрытульнасць і блуканне па дзіцячых дамах, паездка ў Арэнбург і толькі што вызвалены Кіеў, халоднае і галоднае вяртанне ў родны горад. Гэта ўсё стала падмуркам, з якім выпускнік школы ў 1949 годзе ўваходзіць у студэнцкае кіеўскае жыццё і за пяць гадоў папаўняе існыя свае веды захаванымі за стагоддзі і тысячагоддзі скарбамі сусветнай, у тым ліку славянскай, культуры (якраз тады, напрыклад, ён знаёміцца з кнігай «Матчын дар» Алеся Гаруна, якую на радзіме трымалі за сямю пячаткамі). Студэнцкі шматнацыянальны асяродак спрыяў пашырэнню кругагляду і ўсведамленню сябе прадстаўніком беларускай нацыі на блізкай, але ўсё ж на іншай Украіне, якая потым на два гады дала працу маладому настаўніку.

Якраз тады, у 1955 годзе, з'яўляюцца ў рэспубліканскім друку першыя па-сапраўднаму значныя творы маладога пісьменніка — балада «Машэка» і эсэ «Вязынка». У першым — інтэрпрэтаваны праз уласнае спасціжэнне фальклор (згадаем «Магілу льва»), у другім — імкненне ўбачыць і паказаць беларускую Мекку, якая нарадзіла генія. Абодва творы нітуе вобраз Янкі Купалы — прадстаўніка першай плыні, «бо і пасля смерці ён застаецца нашым настаўнікам і паплечнікам і сумесна з намі пракладае шлях наперад». Гэтая ўпэўненасць засталася з Караткевічам да апошніх яго зямных гадоў: п'еса 1982 года «Калыска чатырох чараўніц» — гэта таксама Купала, але адлюстраваны на іншым, найвышэйшым, этапе караткевічаўскай творчасці. Мабыць, праца над раманам «Каласы пад сярпом тваім» пераканала аўтара ў немагчымасці спыніць рух чалавецтва да шчаслівага ўладкавання, калі не гнецца «хоць адна ад крыўды спіна».

Лёс (Бог) даў Караткевічу трыццаць гадоў актыўнай творчай працы. Мог бы даць і больш, але... гэта ж не было адарванае ад сучасных праблем жыццё. Тагачасная «цяпершчына» вы-

прабоўвае творцу на трываласць яшчэ ў Кіеве (ледзь не выключылі з універсітэта), потым — у роднай Оршы (у раёнцы з'яўляюцца артыкулы, падобныя на здзек, у якіх учыняецца разнос ягоным вершам), пасля — у Маскве (яна акунула маладога чалавека ў самы вір тагачаснай нефармальнай мастацкай тусоўкі) і, нарэшце, у Мінску, калі ў 60-я гады даводзілася трымаць удары ад папрокаў недасведчанай тупасці і бачыць рассыпаны набор кнігі «Леаніды не вернуцца да Зямлі» (праз гэта і «Дзікае паляванне караля Стаха» даходзіць да чытача асобным выданнем толькі праз дзесяць гадоў).

Але Караткевіч разумее, што «трэба працаваць. Не для сябе, а для маёй роднай краіны, для Беларусі, якой, калі дазволіць лёс, я паслужу, колькі будзе дадзена дзён, — многа або мала, але да канца». У гэтых словах аўтабіяграфіі «Дарога, якую прайшоў» — увесь Караткевіч, які нібы запрашае чытача да суразмовы, да сумоўя (што ж такое ў маім выказванні «для Беларусі»: аднародны член сказа да слоў «для маёй роднай краіны», і тады яна — «вялікі, магутны Савецкі Саюз»; або адасобленае ўдакладненне, і тады Беларусь — «мая родная краіна»). Менавіта краіна, а не рэспубліка ў складзе краіны ад Брэста да Курыл. Пісьменнік такім вось чынам разбураў стэрэатыпы грамадскай свядомасці і набліжаў абвяшчэнне незалежнасці Беларусі.

Ці мала зроблена?

Здавалася б, шмат...

Чатыры паэтычныя кнігі («Матчына душа», «Вячэрнія ветразі», «Мая Іліяда», «Быў. Ёсць. Буду»).

Чатыры раманы («Леаніды не вернуцца да Зямлі», «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі»).

Шэсць п'ес («Млын на Сініх Вірах», «Трошкі далей ад Месяца», «Кастусь Каліноўскі», «Званы Віцебска», «Калыска чатырох чараўніц», «Маці ўрагану»).

Дзясяткі аповесцей, легенд, навел, апавяданняў, казак.

А яшчэ кінасцэнарыі, эсэ, літаратуразнаўчыя артыкулы...

...Здавалася б, шмат.

Але колькі было задум і творчых памкненняў! Ды ўсё тая ж тагачасная «цяпершчына» шкуматала і кроіла сэрца. Падобна таму, як выказаўся Іван Панкееў пра Валянціна Распуціна, які не мог «маўчаць, мірыцца, заставацца спакойным у той час, калі вочы бачаць, вушы чуюць, душа баліць». Разбурылі віцебскае Благавешчанне і сотні іншых храмаў, плануюць знесці Верхні горад у Мінску і зрабіць адкрытую перспектыву з Цэнтральнай плошчы да Свіслачы, спрамляюць маляўнічыя невялічкія рэчкі і робяць з іх простыя, як страла, сцёкавыя канавы, брудзяць гербіцыдамі навакольнае асяроддзе і, урэшце, могуць знішчыць само людства праз ядзерную вайну... І ўзвышаецца голас Караткевіча-Грамадзяніна: «Нельга, каб выбухнула вайна, нельга ацэньваць грашыма жыццё, нельга, каб панавала сытае свінства, нельга, каб дзяўчына з Хірасімы згарэла ад болю, нельга, каб ажыў фашызм, нельга, каб загінула ад вадародных ураганаў нясцерпна родная ў сусвеце калыска жыцця, жамчужына Розуму — Зямля».

І на ўсё трэба час, і на ўсё трэба выдаткоўваць небясконцыя чалавечыя магчымасці.

Караткевіч некалькі разоў у сваіх творах выкарыстоўвае эпітэт «вялікі» датычна геніяльных прадстаўнікоў розных народаў: Гётэ — «вялікі германец», Байран — «вялікі англічанін», Міцкевіч — «вялікі паляк». Уяўляецца, што Караткевіч можа па праве ўвайсці ў гэты шэраг — «вялікі беларус».

Караткевіч forever... Ён трывала ўвайшоў у беларускае жыццё, яго погляды арганічна сталі сучаснасцю, яго зорка — адна з найяскравейшых у другой плыні беларускай літаратуры XX стагоддзя. Прыўкрасная караткевічаўская Беларусь, «зямля пад белымі крыламі», — неаддзельная ад нас.

Жыць у «Беларусі Караткевіча» няпроста... Можа стацца, што ты будзеш адзін, што твае погляды могуць не прымацца большасцю. Але Ён сказаў табе, «што трэба бараніць свой народ, калі яму скрутна, але калі твой народ не мае рацыі — набярыся смеласці і скажы яму аб гэтым, як мелі мужнасць сказаць такое Шаўчэнка і Талстой». Трэба імкнуцца сказаць праўду, і перадусім самому сабе, бо Ён заклікаў яшчэ і да гэтага: «Выносьце з сэрца саркафагі, выносьце саркафагі з душ...»

Але і Беларусь, і яе народ, як і Караткевіч, — forever, назаўсёды, давеку.

**Уладзімір Мажылоўскі**

# Першая перамога Самуіла Пятроўскага

Дзень 20 жніўня 1646 года быў дажджлівым і не па-летняму халодным, аднак гэта не перашкодзіла студэнтам Кіева-Магілянскай калегіі сабрацца ў вялікай зале сваёй навучальнай установы. Вокны залы былі шчыльна занавешаны — нішто свецкае не павінна адцягваць увагу шкаляроў і выкладчыкаў ад сённяшняга дыспуту.

Зала асвятлялася мноствам свечак, таму ў ёй было цёпла і ўтульна. Студэнты размясціліся на лавах, выкладчыкі разам з рэктарам занялі высокія крэслы вакол вялікага стала, засланага чырвоным аксамітавым абрусам.

Самуіл уладкаваўся на лаўцы каля сценкі, прытуліўся спінай да цёплай драўніны, падрыхтаваўся да пачатку дыспуту. Ён любіў такія спрэчкі, лічыў іх лепшай праявай розуму і красамоўства дыспутанта, аднак прымаў у іх удзел рэдка, чаму — і сам не ведаў. Ён агледзеў залу, усмешкай павітаўся са сваім лепшым сябрам Казікам Крышчуком, жадаючы поспеху і ўдачы, махнуў рукой Вацлаву Калю — прызнанаму спрачальніку, перавёў позірк на рэктара калегіі пана Інакенція Гізэля, які ўжо стаяў і, падняўшы ўгору сваю руку, прасіў у залы цішыні і пакорлівасці.

— Паважаныя шкаляры, — рэктар загадкава ўсміхнуўся. — Квадлібетарыем сённяшняга дыспуту выбраны я, таму аб'яўляю вам першае пытанне нашай спрэчкі: «Што ёсць Зло?»

Не паспеў аціхнуць у зале гук звона, як са сваёй лавы падхапіўся Вацлаў Каль. Вочы яго гарэлі ад узрушэння і кіпучага жадання барацьбы, доўгія валасы раскудлаціліся, і ён іх раз за разам адкідваў рукой з твару.

— Зло ёсць Дабро! — задзірыста выгукнуў ён.

— Патлумач сваю думку.

— Усё, што мы бачым навокал сябе, стварыў Бог. Я кажу праўду?

— Так, тут ты праўдзівы.

— А паколькі Зло існуе рэальна, бо кожны з нас неаднойчы з ім сутыкаўся, значыць, і яго стварыў Бог. Я правільна кажу?

— Ну-у, магчыма, табе на гэта сцверджанне адкажа нехта з тваіх сяброў, — пан Інакенцій абвёў позіркам залу. Студэнты маўчалі. Тады рэктар павярнуўся да суразмоўцы: — Працягвай, Вацлаў.

— А паколькі Бог не мог стварыць нічога дрэннага для чалавека, значыць, Зло ёсць Дабро.

Інакенцій Гізэль некалькі разоў задумліва хітнуў галавой і, не спускаючы спагадлівай усмешкі з твару, зноў абвёў позіркам залу:

— Хто з вас дакажа адваротнае свайму сябру? Ці вы ўсе лічыце, што Зло стварыў Бог і яно ёсць Дабро?

Зала прыціхла, бы прытаілася перад бурай. Але ўжо сказаны першыя словы, ужо акрэслена тэма спрэчкі, схоплена і даказана сцверджанне, што белае ёсць чорнае, што хлусня — гэта праўда, а Бог — гэта д'ябал.

І тады, яшчэ не да канца разумеючы свайго парыву, з лавы падхапіўся Самуіл.

— Я не згодны з высновамі Вацэка і, каб даказаць яго няпраўду, хачу задаць яму некалькі пытанняў.

— Рэктар развёў рукі: «Для таго мы тут і сабраліся!»

— Першае маё пытанне будзе такім: ці існуе на гэтым свеце цішыня?

— Што? — не зразумеў пытання Вацэк. Вочы на яго круглым твары пашырыліся ад неразумення. — Цішыня?

— Так, цішыня.

— Ну зразумела, што існуе, — ён не здолеў адразу злавіць накірунак думак свайго суразмоўцы, а таму пачаў злавацца. — Калі рэктар загадае нам замаўчаць, то ў гэтай зале наступіць абсалютная цішыня.

— Ты памыляешся, Вацлаў Каль. Цішыні няма, а ёсць асяроддзе, пазбаўленае гукаў, і твой прыклад яскрава гэта пацвярджае.

Па зале прынёсся смех. Нехта паўжартам выгукнуў: «Трымайся, Вацэк!» — аднак смельчака тут жа пагрозліва супакоілі.

— А скажы яшчэ: ці ёсць цемра?

— Што за дурныя пытанні ты задаеш? — Каль павярнуўся да рэктара, аднак той толькі пацiснуў плячыма: «Адказвай. Узяўся за гуж — не кажы, што нядуж!»

— Ну зразумела, цемра існуе. Мы са свайго жыцця ведаем, што дзень змяняецца ноччу, што калі загасіць у гэтай зале свечкі — у ёй наступіць цемра, што ў дамавіне, калі яе апусціць у магілу і засыпаць зямлёй, будзе магільная цемра.

— А вось і не, — Самуіл стрымана ўсміхнуўся з прыкладу сябра. — Цемры няма, а ёсць нейкая прастора, пазбаўленая святла, і твае прыклады — пацверджанне. І апошняе маё пытанне: як ты думаеш, ці існуе холад?

— А ты лічыш, што холаду няма? — Вацэк вырашыў перайсці ў наступленне і перахапіць ініцыятыву ў свае рукі. — Калі ты так лічыш, то чаму не ходзіш голым, а зімой навошта нацягваеш на сябе футра?

У зале весела зашумелі, і рэктар, патрабуючы цішыні, некалькі разоў ударыў драўляным малаточкам па стальніцы. Аднак Самуілу цішыня была без патрэбы. Доказы склаліся ў яго галаве ў лагічны ланцужок, і ён ужо не чуў ні шуму ў зале, ні асобных воклічаў, ні ўдараў малаточка. Ён глядзеў у зрэнкі свайго суразмоўцы і, бы цвікі ў сырую дошку, убіваў у яго галаву, як і ў галовы іншых, свае думкі.

— Холаду не існуе, бо тое, што мы называем холадам, сведчыць толькі пра адсутнасць цяпла. Так і Зло. Яно падобна і на абсалютную цішыню, і на магільную цемру, і на ледзяны холад — на ўсё тое, чым грэшнік хоча апраўдаць свае злачынствы. Бог не стварыў Зла, яго сваімі справамі і ўчынкамі ствараем мы самі, бо Зло — гэта, у першую чаргу, адсутнасць сапраўднай веры ў Бога. Гэта той ледзяны холад, які выпальвае нашу душу пры адсутнасці чалавечых цяпла і спагады. Гэта тая цемра, калі мы глядзім на свет Божы і не бачым яго хараства і прыгажосці. Гэта тая цішыня, калі мы застаёмся ў адзіноце сам-насам і не чуем ні спеваў птушак, ні шэпту травы, ні слоў блізкіх нам людзей. Таму Зло ёсць стварэнне слабага чалавека і прырода яго хаваецца ва ўсіх нас, узятых як паасобку, так і разам, — Самуіл скончыў. Шырокая шчырая ўсмешка асвятліла яго твар, заззяла смяшынкамі ў блакітных вачах. Сярэдняга росту, хударлявы і стройны, у гэты момант ён нагадваў малады дубок, які набіраўся ўнутранай сілы і ў будучым абяцаў вырасці ў магутнае, разгалістае дрэва. У ім ужо адчуваўся моцны ўнутраны стрыжань, які нельга было ні сагнуць, ні зламаць. І словы яго гучалі ад душы пранікнёна і ўпэўнена, і паводзіны яго былі цвёрдымі і, у той жа час, сціплымі. Ён некалькі імгненняў глядзеў на свайго сябра Вацэка, чакаючы ад яго пярэчанняў, аднак той маўчаў. І тады Самуіл апусціўся на сваю лаву.

І адразу ў зале пачуліся спачатку нясмелыя воплескі, якія хутка перараслі ў сапраўдныя апладысменты. Нават рэктар, Інакенцій Гізель, адклаў убок свой драўляны малаточак і, стоячы ля крэсла, разам з усімі стрымана пляскаў у далоні. Потым ён падняў угору руку і, калі зала супакоілася, аб'явіў:

— Пераможцам дыспуту прызнаны Самуіл Пятроўскі з Полацка.

Зала зноў выбухнула апладысментамі.



Малюнак Алесі Галота.

Іераманах Агапій (Голуб)

# Не баяцца свабоды і «шышак»

Працяг тэмы, распачатай у папярэднім нумары.

Члены суполкі Дарослых Дзяцей Алкаголікаў і іншых Дысфункцыянальных Сямей называюць наступныя ўласцівыя ім характарыстыкі:

Мы замкнуліся ў сабе, баімся людзей і аўтарытэтных асоб.

Мы зрабіліся шукальнікамі адабрэння, страціўшы пры гэтым здольнасць быць сабой.

Нас палохаюць разгневаныя людзі і любыя крытычныя заўвагі ў наш адрас.

Мы або сталі алкаголікамі, або пабраліся шлюбам з алкаголікамі, або і тое, і другое, або знайшлі іншую залежную асобу, напрыклад, працаголіка, каб задаволіць хваравітую патрэбу ў пакінутасці.

Мы пражываем жыццё з пазіцыі ахвяры, а слабасць зацягвае нас у любоўныя і сяброўскія сувязі.

У нас празмерна развіта пачуццё адказнасці, нам прасцей клапаціцца пра іншых, чым пра сябе; гэта дазваляе не заўважаць уласныя недахопы.

Мы адчуваем віну, калі баронім сябе і не саступаем іншым.

Мы сталі залежнымі ад эмацыянальнага ўзбуджэння.

Мы блытаем каханне з жалем і схільныя «кахаць» людзей, якіх можам «шкадаваць» і «ратаваць».

Мы глыбока схавалі ўспаміны нашага дзяцінства і страцілі здольнасць адчуваць або выказваць пачуцці, таму што гэта вельмі балюча.

Мы жорстка асуджаем сябе, у нас не развіта пачуццё ўласнай годнасці.

Мы залежныя асобы — панічна баімся быць пакінутымі і робім усё, каб утрымаць адносіны, абы не перажываць балючае пачуццё пакінутасці, якое засталося ад жыцця з нездаровымі людзьмі, якія ніколі не былі эмацыйна з намі.

Дысфункцыянальнасць мае шмат праяў.

Напэўна, пры чытанні гэтага матэрыялу ў многіх узніклі два пытанні: 1. калі ўсё пералічанае з'яўляецца дысфункцыямі, то ці ёсць увогуле здаровыя сем'і? 2. Што ж рабіць, калі гэтыя і падобныя дысфункцыі ёсць у мяне або членаў маёй сям'і?

На першае пытанне адкажу так. Паверце, ёсць цалкам здаровыя, гарманічныя, шчаслівыя сем'і. Але важней адзначыць іншае. Ёсць сем'і, якія ўсведамляюць свае дысфункцыі і вылечваюцца ад іх. А ёсць сем'і, дзе пануе «замарозка» роляў, і патэрны паводзін перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Там такія дысфункцыі нават лічацца нормай. Дзве асноўныя прычыны адмовы ад працы над сабой: а) адсутнасць у полі зроку інфармацыі, якая дапамагла б зразумець, што адбываецца, і пабудзіла б звярнуцца па адэкватную дапамогу; б) страх перамен, па прынцыпе «балюча, але звыкла».

Дадзеная публікацыя для тых, хто хоча разабрацца ў каранях сваіх праблем і пазбавіцца апошніх. А таксама для тых, каму пашчасціла вырасці ў нармальнай, здаровай сям'і; хто не разумее, што адбываецца ў душах гэтых Дарослых Дзяцей, і чаму гэтым Дзецям не дапамагаюць царкоўныя таінствы і вопыт святых айцоў.

Колькі б я ні прачытаў медыцынскай літаратуры, ніколі не зразумею, што перажывае цяжарная жанчына. Нягледзячы на ўвесь свой стаж працы ў рэабілітацыйным цэнтры для нарказалежных я, спадзяюся, ніколі не зразумею, што такое «сіндром адмены». Растлумачыць магу, зразумець — не. Каб зразумець, трэба самому пражыць. Таму хочацца папрасіць «дарадчыкаў»: калі ў вас няма такога досведу, які ёсць у ДДДС, то лепшае, што можна зрабіць, — не лезці са сваім «разуменнем» і вытрымкамі з пісанняў святых айцоў. Бо члены сямей залежных і іншыя ДДДС таму і замкнёныя ў сабе — нават у храме, нават на споведзі — бо ім балюча ад таго неразумення, непрыняцця, крытыкі, «парад звысоку», якія яны сустракалі, калі імкнуліся падзяліцца з некім сваім болем. ДДДС — гэта людзі «без скуры», з агаленымі нервамі. Не наносьце ім яшчэ большых ран. Паверце, цытаты з Яфрэма Сірына папросту не спрацуюць.

Асобна трэба пагаварыць пра ўплыў псіхалогіі ДДДС на рэлігійную сферу, то бок, на стаўленне да Бога і Царквы.

Бог — гэта Айцец, Бацька. А ў большасці Дарослых Дзяцей бацькі (адзін ці абодва) з дзяцінства былі эмацыянальна недаступныя ці прыносілі пакуты. І Бог для іх — Нехта вельмі далёкі і адначасова вельмі строгі. Дарослыя Дзеці аказваюцца закрытымі знутры для безумоўнай Любові Бога — недаверам, нявер’ем у тое, што іх можна любіць за тое, што яны ёсць, а не таму, што «харошыя». Страхам даверыцца — і атрымаць удар.

З іншага боку, Дарослым Дзецям прывівалася пачуццё віны — праз крытыку і завышаныя патрабаванні. І калі яны ўвацаркаўляюцца, яшчэ не пачаўшы выздараўліваць эмацыянальна, то ўспрымаюць Царкву як прастору, дзе пануюць патрабаванні і забароны, якія трэба старанна выконваць, інакш яны будуць вінаватыя перад Богам. Як гэта было ў іх бацькоўскай сям’і. Іншымі словамі, яны ў Царкву пераносяць свой комплекс віны і вырастаючы з яго перфекцыянізм. Нярэдка яны могуць адрозніваць сапраўды важныя хрысціянскія запаведзі ад другасных правіл паводзін, этыкету, дысцыпліны. Гіпертрафіраванае ўспрыняцце царкоўных правіл і мясцовых «бабуліных паданняў» вядзе да таго, што ДДДС самі заганяюць сябе ў вузкія рамкі рэлігійнага фармалізму, пазбаўляючы сябе ўсялякай свабоды ды магчымасці развіваць свае таленты і здольнасці. Страх нешта парушыць і выклікаць Божы гнеў вядзе да падаўлення ўласнага творчага патэнцыялу. Канчатковы вынік — бунт супраць Царквы і нават супраць Бога ці (што бывае часцей) — неўроз, з якім далей крочыць па жыцці. І такое неўратычнае ўспрыняцце праваслаўя будзе ўяўляцца «новенькімі» ў прыходскай або манастырскай абшчыне як норма.

Страх перад жыццём і перад адказнасцю за ўласнае жыццё, а таксама патрэба быць ахвярай вядуць да: а) пошуку «старцаў» і духоўнікоў, якія будуць вырашаць за іх усё; б) пошуку «ворагаў» — як спосабу рацыяналізацыі сваіх страхаў. Гэта могуць быць «калдуны», «масоны» і іншыя. Адсюль жа вырастаюць страхі перад ідэнтыфікацыйнымі нумарамі, новымі пашпартамі і іншым.

На шчасце, мая практыка паказала, што многія, калі атрымліваюць інфармацыю пра тое, што адбываецца і што выйсце ёсць, — пачынаюць шчыра цікавіцца прапанаваным матэрыялам і, па меншай меры, частка з іх — уключаецца ў працэс рэабілітацыі. Праз год, як правіла, перада мною ўжо іншыя твары.

Чым можа дапамагчы Дарослым Дзецям святар? Выпадковы — нічым. А ўважлівы духоўнік, знаёмы з канцэпцыяй сузалежных адносін, можа дапамагчы цярплівым акармленнем знайсці Дарасламу Дзіцяці Царкву ў якасці сапраўднага Дома Айца. Пры гэтым не замыкаць яго на сябе, а навучыць не баяцца свабоды і «шышак». Запэўніць у ісціне, што няма граху, які нельга было б вылечыць. Дапамагчы навучыцца вылучаць важнае ў духоўным жыцці, аддзяляючы ад другаснага і падманнага. А яшчэ ён можа дапамагчы ўсвядоміць неабходнасць рэабілітацыі. Нават часам указаць канкрэтны кірунак, псіхолага/псіхатэрапеўта, тэрапеўтычную групу.

Чаму гэта важна? Фактычна, каб вылечыцца, чалавеку трэба вучыцца жыць нанава. Нанава адкрыць самога сябе. Цалкам пераўсвядоміць сваё жыццё ў бацькоўскім доме. Вызваліцца ад засвоеных стэрэатыпаў. Гэта працэс не аднаго дня. Упэўнены, што гэта практычна немагчыма сам-насам з сабою. У першую чаргу таму, што давядзецца сутыкнуцца з эмацыянальным болем мінулага, прыняць як факт тое, што так хацелася забыць.

Як ісці, калі дарогі дакладна не ведаеш? Без праваднiка? Успомнім святаайцоўскі афарызм: «Бог дапамагае праз людзей».

Немагчыма атрымаць усю любоў ад аднаго чалавека, бацюшка не разгоніць рукамі ўсе хмары над галавой. Выздараўленне Дарослага Дзіцяці — гэта выйсце з ізаляцыі і навучанне даверу. Вырастаючы, дзіця пашырае сваё кола стасункаў. ДДДС будуць у сваім выздараўленні вучыцца давяраць людзям, а не толькі святару, які іх падтрымлівае.

Працяг тэмы ў наступным нумары.